


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**3** (989)

*САКАВІК*

Выдаецца
са снежня 1922 года



РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Мінск 2012

## *ЗМЕСТ*






ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»



**Зінаіда ДУДЗЮК**

# СЛОДЫЧ І АТРУТА[1]

*Раман*

КНІГА ДРУГАЯ

***Раздзел першы***

## Прымак

### 1

Настаў трывожны 1939 год. У Еўропе ішла вайна. Крачкаўцы непакоіліся, што яна, можа, не абміне іх, бо Германія мае звярыную хватку, тым больш, што палякі з немцамі заўсёды былі на нажах. Праўда, польскі ўрад настойліва пераконваў насельніцтва: айчыннае войска абароніць краіну ад нападу ўсялякага агрэсара, аднак гэта не здымала напружанасці ў грамадстве. Гардзей уважліва сачыў за падзеямі ў свеце ды прыслухоўваўся да чужых меркаванняў. Часам да яго заходзіў Яўсей Пух, і яны звычайна разважалі пра палітыку, але, было, іншы раз спрачаліся да хрыпаты, кожны адстойваючы свае перакананні.

— Нам трэба клікаць на дапамогу Савецкі Саюз, — даводзіў Яўсей. — Там справядлівы лад, няма багацеяў, дзеці маюць магчымасць набываць бясплатна адукацыю. Ды што казаць, такой краіны, як Саветы, няма ва ўсім свеце. Там жа народ кіруе!

— Скажы, калі там усё так добра, як ты кажаш, дык чаму столькі ворагаў народа? Ці народ не так кіруе краінай, ці жыццё не такое ўжо і добрае? — пытаўся Гардзей.

---

*__Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна__ нарадзілася 29 сакавіка 1950 года ў вёсцы Слабодка Браслаўскага раёна. Скончыла Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (1977) і Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце імя Максіма Горкага ў Маскве (1993), працавала інжынерам, загадчыкам літаратурнай часткі ў тэатры.*

*Выдала зборнікі вершаў «Праводзіны птушак» (1983), «Абрысы лета» (1988), «Так і не» (1993), «Табе» (2000), «Падданыя кахання» (2003), кнігу прозы «Палоннікі жыцця» (1997), раманы «Год 1812» (2005), «Кола Сварога» (2006), «Аднарог» (2010), гістарычны нарыс «Леў» (2011). Пераклала на беларускую мову казку П. Яршова «Канёк-гарбунок» (1993), камедыю Яна Ходзькі «Вызваленая Літва, або Пераход цераз Нёман» (2002) і інш.*

[1] Часопісны варыянт. Кніга першая ў № 3—4, 2010 г.

— Ты не разумееш! Ворагі народа — гэта ж недабіткі буржуазіі, што зашыліся ў шэрагі народных мас і шкодзяць маладой краіне.

— Ведаеш, Яўсей, быў час, што і мы з табою варагавалі, аднак жа нарэшце зразумелі, што лепш жыць мірна. Так трэба і дзяржаве жыць мірна са сваімі грамадзянамі.

— А яна іх выхоўвае…

— Так не выхаваеш.

— А як? Народ жа мусіць адчуваць моцную руку.

Гардзей адкінуў з ілба пасму цёмных валасоў і засмяяўся.

— Паглядзеў бы я на цябе, каб над табой вісела такая рука. У якім настроі ты жыў бы?

— Не смейся, я перакананы, што нас Расія выратуе!

— Выратуе! А для чаго? Падумай сам, чаму была зачынена кампартыя Заходняй Беларусі? Выходзіць, што ты са сваімі камуністычнымі ідэямі ўжо непатрэбны! Калі так, ты можаш стаць першым ворагам Савецкай Расіі!

— Гэтага не можа быць! Я рызыкаваў жыццём дзеля перамогі справядлівасці і дабра ва ўсім свеце.

— А свет жыў і не заўважаў тваіх намаганняў, хіба толькі дэфа цікавілася табой, — засмяяўся Гардзей.

— Заўважаць і ацэняць, не сумнявайся!

— А што ты запяеш, калі сюды прыйдуць немцы? Якія знішчаюць камуністаў і яўрэяў.

— Гэта будзе жах, — уздыхнуў Яўсей. — Але я перакананы, што немцы сюды не дойдуць.

Гардзей памаўчаў, усміхнуўся сваім думкам і сказаў:

— Я помню немцаў, якія стаялі у Крачках у Першую сусветную. Вядома, і яны былі розныя. Вунь, узяць тых, што жылі ў маёй хаце ды ахоўвалі чыгунку. Дык адзін, яго звалі Вілі, вучыў мяне нямецкай мове. Пакажа рэч, скажа, як называецца, а я за ім паўтараю. Калі ад’язджалі, мне карову падаравалі. Хвалілі мяне, што адзін вяду гаспадарку. Маіх сясцёр малалетніх кватаранты частавалі чым-небудзь смачным. Карацей, былі яны як і ўсе людзі.

— А карову тую яны ў некага адабралі. Такога ж, як мы з табой. Можа, нечых дзяцей толькі яна і карміла. І яшчэ скажу: не могуць рабаўнікі і забойцы быць людзьмі, — упэўнена адказаў Яўсей.

— А ты ведаеш, здаецца мне, што мяне і цябе вучылі ў войску забіваць. Усе вайскоўцы патэнцыяльныя забойцы. А ўсе мужчыны — вайскоўцы… Але вось што страшна, Яўсей. Нешта ў нашым чалавечым асяродку адбываецца не так…

Гаворка іншы раз канчалася мірна, іншы раз суразмоўцы разыходзіліся расчараваныя і злосныя з-за таго, што не маглі адстаяць сваю думку, абгрунтавана і доказна зрабіць прагноз развіцця палітычных падзей на будучыню. Вядома, кожны гаварыў так, як думаў і лічыў сваё ўспрыняцце і разуменне жыцця ці не адзіна правільным.

Гардзей уважліва чытаў газеты, якія толькі ўдавалася здабыць; калі наведваўся ў Брэст, слухаў у знаёмага яўрэя радыёпрыёмнік «Тэлефункер» і прыходзіў да высновы, што без вайны не абыдзецца, занадта напружанае становішча склалася вакол Польшчы. Немцы толькі шукалі зачэпку, каб рушыць сваё войска на ўсход. Пра гэта сведчылі падзеі ў Гданьску ды і шмат іншых правакацый. Гардзей па-свойму рыхтаваўся да магчымай вайны, якая магла дакаціцца і да Крачак. Ён мала займаўся гаспадаркаю, скупляў у вяскоўцаў бычкоў і перапрадаваў яўрэям, запасаўся соллю, запалкамі, газаю, крупамі,

гарэлкаю. Яўрэі лёгка давалі тавары напавер, прадчуваючы час выпрабаванняў і разумеючы, што са звычайнага пакупніка спагнаць доўг лягчэй, чым з якой улады, якая, калі ёй трэба, можа канфіскаваць усё чыста і дзякуй не скажа.

У пачатку верасня да Крачкаў даляцела вестка пра тое, што Германія напала на Польшчу. З захаду ў Брэст і Жабінку пацягнуліся бежанцы — людзі з разгубленымі і ўстрывожанымі тварамі. Гардзей узіраўся ў іхнія вочы і занепакоена думаў, што, магчыма, і ягонай сям'і давядзецца перажыць нешта падобнае. Трэба быць гатовым да ўсяго, а гэта азначала, сушыць сухары, прыкопваць дзе-якую маёмасць.

Праз тыдзень нямецкі самалёт скінуў некалькі бомбаў на Брэст, загінулі людзі. Тры дні ішлі баі за крэпасць. Неба грукатала і набрыняла чырванню, водгулле яго далятала да Крачкаў, трывожыла і палохала вяскоўцаў невядомасцю. Нехта з крачкаўцаў бачыў немцаў у Берасці, нехта — у Жабінцы, казалі, што паводзілі прыхадні сябе спакойна, нікога не чапалі, пераважна сачылі за працаю чыгункі. Пасля прыйшла навіна, што і Савецкі Саюз уступіў у вайну і рушыў сваім войскам насустрач нямецкаму. Людзі пачалі чакаць добрых перамен: усё ж такі прыйдуць вызваліцелі з краіны, дзе няма прыгнятальнікаў, і прынясуць братэрскую любоў і роўнасць, дадуць сялянам зямлю і волю.

Гардзей пад уплывам агульнага настрою ў Крачках таксама пачаў спеліць надзею на лепшыя зрухі ў сваім жыцці. Якія яны будуць, не ведаў, але спадзяваўся, што спатрэбяцца дзяржаве ягоны розум і жаданне працаваць на агульную карысць.

## 2

Як толькі крачкаўская моладзь даведалася, што Чырвоная Армія ўжо ў Баранавічах, адразу распачала падрыхтоўку да сустрэчы вызваліцеляў: у канцы вёскі з боку Жабінкі хлопцы паставілі трыумфальную браму, дзяўчаты ўпрыгожылі яе дзеразою і познімі восеньскімі кветкамі, вывесілі чырвоныя сцягі. У гэтай справе самы актыўны ўдзел бралі былыя падпольшчыкі Яўсей Пух і Іван Валошчык, да іх далучыліся Серафім Барэйша, Марфа Хвясюк, а таксама цікаўныя падлеткі з Крачкаў ды Сцяблова.

Якраз дні за два да гэтай падзеі ў Паўліны прапаў сувой палатна, які яна бяліла на поплаве. Палатно было памечана асаблівымі меткамі. І калі яна прыйшла да брамы, дык адразу і заўважыла на адным з чырвоных сцягоў літару «П», вытканую чорнымі ніткамі па краі палатна, якую не здолелі зафарбаваць чырвонаю фарбаю. Паўліна захвалявалася, пазнаўшы сваю метку, і спытала:

— А хто ж гэта даў сваё палатно на сцягі? Такое прыгожае!

— Цётка Марфа, — адказала нейкая дзяўчынка.

Паўліна зразумела, хто ўкраў яе сувой, але не адважылася падысці да Марфы і выказаць сваё падазрэнне. Яна з жалем глядзела на сваё палатно, такое тонкае, хоць праз пярсцёнак працягвай, меркавала некалі выкарыстаць яго на хусткі ды фартушкі, а мо Бог пашле якога прымака (гаспадарка ж у яе цяпер заможная), дык і на пасаг можна было адкласці, бо як пойдуць дзеці, тады ўжо будзе не да прадзіва. Паўлініны вочы напоўніліся слязьмі ад крыўды, а сэрца трывожна закалацілася. Колькі працы было ўкладзена ў гэтае палатно, колькі любові! І вось знайшлася на яго гаспадыня-зладзейка, украла, прысвоіла сабе, а цяпер раздае, не сваё — не шкода. Паўліна не ведала, што ёй рабіць, дзе шукаць рады, разгублена пазірала на сцягі.

Раптам пачуўся конскі тупат — людзі ўбачылі, што з боку Жабінкі ляціць да Крачак польская конніца. Што гэта палякі не цяжка было пазнаць па квадратных канфедэратках на галовах коннікаў. Вяскоўцы кінуліся ад брамы хавацца хто куды. Паўліна таксама пабегла праз Марысін двор за хлеў і прытаілася ў жыце, стуль назірала, як польскія ваякі саскочылі з коней, лаючыся, звалілі браму, пасеклі дзеразу і чырвоныя сцягі ды паскакалі ў накірунку Сцяблова.

Вяскоўцы, калі ўпэўніліся, што небяспека мінула, зноў сабраліся каля разбуранай брамы, пабожкалі, шкадуючы змарнаваную працу, але аднаўляць збудаванне не сталі, вырашылі, што зарана пачалі свята сустракаць, так нядоўга і бяду на вёску наклікаць. Марфа сабрала чырвоныя латкі пасечаных сцягоў, мусіць, мела намер яшчэ іх нейкім чынам выкарыстаць.

Паўліна, хаваючы хваляванне, моўчкі назірала за тым, што адбывалася. Яна так і не адважылася сказаць хоць каму-небудзь пра скрадзенае ў яе палатно, палічыла за лепшае паскардзіцца на Марфу Гардзею, адзінаму свайму заступніку. Яна цяпер рэдка бачылася з братам. Ён быў вельмі заняты, часта ездзіў у Брэст, да Паўліны не наведваўся, быццам счужэў. Сястра крыўдавала, аднак выгляду не падавала, бо разумела, што ў яго свая сям'я, хапае іншых турбот.

Паўліна ўважліва агледзела Гардзееў двор, чыста падмецены, гарод пусты, бульбу пакапалі ўжо, толькі каля плота ляжала гара пярэстых гарбузоў, і адзначыла сама сабе: Зося ўсё ж гаспадыня дбайная. Брата яна знайшла ў хаце і парадавалася, што на той час ні старога Барэйшы, ні ягонай дачкі дома не было, не мела асаблівага жадання сустракацца са сваякамі лішні раз.

Гардзей плёў лазовы кош, седзячы на нізенькім услончыку каля печы. Паўліну выслухаў, не спыняючы працу, спытаў:

— Ты хочаш, каб я пайшоў да Марфы адбіраць тваё палатно?

— Не ведаю, але ж нешта трэба рабіць…

— Самаўпраўствам я займацца не буду. Бачыш, цяпер безуладдзе, нават паскардзіцца няма каму, гэтым зладзеі і карыстаюцца. Вайна пачалася, Паўліна. Тут не маёмасць, а душу трэба ратаваць. Не будзь скупою, сёння ты згубіла, а заўтра табе Бог мо ўтрая больш дасць.

— Ага, табе што? Ты не ткаў, не праў! Табе маёй працы не шкада, — з дакорам адказала сястра.

— Шкада, Паўліна. Але, прабач, я нічога не магу зрабіць.

У хату ўбег Ораст, хлопчык гадоў чатырох, жвавы, усмешлівы.

— Вой, хто ж гэта прыйшоў? — сентыментальна прамовіла Паўліна.

— Оласт, — адказаў хлопчык.

— Ах ты мой пляменнічак залаты, — Паўліна падхапіла дзіця, шчасліва заўсміхалася, тулячы яго да сябе і цалуючы ў ружовую шчаку. — Як жа ты на бацьку падобны! Наша кроў! Рахубаў! А я табе яблычкаў смачных прынесла. Хочаш яблычак?

— Я цукелку хацу!

— Бач ты, які пераборлівы!

Паўліна паставіла малога на падлогу, пільна паглядзела зверху ўніз, задаволена сказала:

— А ён і характарам у цябе ўдаўся, Гардзей. Вой будзе табе з ім турботы, як падрасце! Бачыш ты, цукерку ён хоча!

— Які будзе, такі і будзе, што нам з табой варажыць. Бульбу пакапала?

— Пакапала, адна латачка каля хлява засталася.

— Гэта добра. Калі якая дапамога трэба, дык кліч. А з Марфаю сама разбірайся. Я з бабамі не ваюю…

Паўліна зразумела, што на тым гаворка скончылася, і заспяшалася дамоў, не стала распытваць пра Зосю і чакаць яе, не хацела лішні раз сустракацца і прыкідвацца, што вельмі радая сустрэчы.

## 3

Невялікі атрад чырвонаармейцаў усё ж зазірнуў аднойчы ў Крачкі. Камандзір ехаў на кані, астатнія вайскоўцы ішлі пешкі. Крачкаўцы сабраліся вакол гэтых здарожаных людзей, разглядвалі іх, іхнія чубатыя шапкі з чырвонымі зоркамі

Сярод вяскоўцаў былі Гардзей і Марк, да іх падышоў Яўсей Пух, павітаўся.

— Ну, вось і дачакаўся ты, Яўсей, вызваліцеляў, — сказаў Гардзей. — Як яны табе?

— Сокалы!

— Нешта гэтыя сокалы надта здарожаныя, — заўважыў Марк.

— Пераможцы, — адказаў Яўсей. — А ты чуў, што немцы палякаў у Берасці і пад Кобрынам так пабілі, што тыя не ведалі, куды бегчы. Цяпер возьмуць нас у Савецкі Саюз, і зажывём мы ў міры і згодзе роўныя сярод роўных.

— Чаму гэта нас, як дзеўку-векавуху, абы-хто павінен забіраць? — спытаў з усмешкаю Гардзей. — Ці не можам мы самі жыць самастойна? Было ж ужо! Жылі! Ад мора да мора цягнулася наша зямля!

— Савецкі Саюз — такая дзяржава, што кожны палічыць за гонар быць у яе складзе. Толькі дурань можа адмаўляцца ад такой прапановы, — запярэчыў Яўсей.

— Я часам слухаю радыю і дзіўлюся, колькі ў асяродку саветаў ворагаў народа развялося. А ці не можа быць, што яны і ў нас пачнуць ворагаў вышукваць?

— Гародзіш абы-што, — абурыўся Яўсей.

Іхнюю гаворку перарваў гармонік. На вуліцу выйшаў Сымон Чмель, заспяваў прыпеўкі:

Не судзіце, добры людзі,  
Што я абшарпаўся,  
Мой татулька такі быў,  
Я ў яго ўдаўся.

З натоўпу выскачыла Марфа і пусцілася ў скокі. Перад ёю ўзнік чарнавусы чырвонаармеец і пайшоў паўкругам упрысядкі. Танцоры расчырванеліся, усміхаючыся адно аднаму, здаецца, нікога і не бачылі вакол, столькі жарсці, упэўненасці і сілы было ў іхніх рухах. Чырвонаармеец сцягнуў чубатую шапку, агаліў чарнавалосую галаву. У адказ і Марфа сарвала з галавы паркалёвую хустачку і, размахваючы ёю, усё прытупвала ды кружылася вакол смуглявага напарніка. А гарманіст тым часам сыпаў прыпеўкамі, голас ягоны быў моцны, гарэзлівы.

А, мілашачка мая,  
Стаў я разжывацца.  
Прадаў сенцы, купіў дзверы,  
Буду зачыняцца.

— Марфа нідзе не разгубіцца, — заўважыў Марк.

— Ёй няма чаго губляць, акрамя свайго Якуба, які абрыд ёй, як вашывы кажух, — сказаў Гардзей.

— Агонь-баба! — з задаволенаю ўсмешкаю прамовіў Яўсей.

— Зараз рэвалюцыю зробіць з гэтым чарнявым ды кучаравым, — засмяяўся Гардзей.

— Для паляпшэння Якубавай пароды — не шкодзіла б, — азваўся Марк.

Тым часам да гарманіста падышоў чырвонаармеец, нешта сказаў — і гармонік сціх. Камандзір ускочыў на лаўку, дзе сядзеў Чмель, абдымаючы гармонік, звярнуўся да прысутных:

— Таварышы! Непераможная Чырвоная Армія на штыках прынесла вам свабоду! Я віншую вас са святам вызвалення. Цяпер у вас пачнецца новае светлае жыццё! Я жадаю вам плённага і шчаслівага будаўніцтва.

Далей камандзір пачаў хваліць савецкі лад жыцця і расказваць пра поспехі, якіх дасягнуў савецкі народ, пра бязмежныя перспектывы новых здзяйсненняў і перамог. Калі прамоўца скончыў гаварыць, на ягонае месца ўскочыў малады хлопец са Сцяблова Леванюк і пачаў дзякаваць вызваліцелям за тую ласку, якую яны зрабілі.

— Дзе гэта ён навучыўся так спрытна гаварыць? — здзівіўся Гардзей.

— Мая школа! З паўгода быў у мяне камсамольцам, пакуль партыю не распусцілі, — з гонарам адказаў Яўсей.

— Можа былым партыйцам цяпер пасады будуць даваць? — пацікавіўся Марк.

— Не ведаю, — пацікнуў плячамі Яўсей. -— Адзін сябар з Берасця казаў, што да былых капэзэбоўцаў новая ўлада ставіцца з насцярогаю.

— Эх, Яўсей, казаў я табе, што мы нікому не трэба, а нашая ахвярнасць — тым больш, — з усмешкаю заўважыў Гардзей. — Як былі мы нічым, так і застаёмся.

— Ты памыляешся, не можа быць, каб новай уладзе не спатрэбіліся адданыя людзі, — упэўнена адказаў Яўсей.

— Зрэшты, напэўна, палякаў зараз пагоняць з цёплых месцаў, дык мо нам што-небудзь дастанецца. Пайду я, хлопцы, няма ахвоты слухаць гэтага самавука, — грэбліва кіўнуў Гардзей у бок Леванюка.

## 4

Новая ўлада паціху ўсталёўвалася. У Сцяблове адчынілі сельсавет у хаце заможнага чалавека, нядаўна вывезенага невядома куды. Старшынёю прызначылі «васточніка», чалавека пахмурнага, насцярожанага, які прыехаў аднекуль з Расіі. З ранку да вечара гарлала чорная талерка радыё, прымацаваная на слупе; над дахам сельсавета развяваўся чырвоны сцяг; а ў памяшканні вісеў плакат з партрэтам Сталіна, які пільна прыглядаўся са сцяны да кожнага прысутнага. У склад сялянскага камітэта ўвайшлі крыклівая Марфа, безгалосы Серафім, паслужлівы Леванюк і яшчэ некалькі непісьменных сялян. Гардзей назіраў збоку за тым, што адбывалася, і здзіўляўся сваёй наіўнасці. У глыбіні душы ён усё яшчэ спадзяваўся: аднойчы згадаюць пра тых, што сядзелі ў турмах, якія імкнуліся змяніць да лепшага жыццё тутэйшага люду. Аднак таемныя яго спадзяванні былі дарэмныя. Наступіў новы час. Новыя людзі імкнуліся стаць гаспадарамі жыцця. А калі пайшла пагалоска пра тое, што вывезлі ўсіх асаднікаў, леснікоў і таго-сяго з больш багатых сялян, нават Марка збіраюцца раскулачваць за нявыплачаныя падаткі, Гардзей зразумеў, што трэба сыходзіць у горад. Там людзям пры ўсялякай уладзе жывецца лягчэй. Адпрацаваў належныя гадзіны, атрымаў заробак, і жыві сабе, як хочаш. Зрэшты, у хаце Кірылы Гардзей лічыўся толькі прымаком. Гаспадарка ж была даволі вялікая: тры каровы, пара коней, чатыры адкормленыя парсюкі. Усю гэтую жывёлу трэба было тэрмінова збываць і рабіцца бедняком, пра гэта і

сказаў зяць цесцю. Той спачатку заўпарціўся, а потым згадзіўся з Гардзеем і здаў у нарыхтоўчую кантору жыўнасць, пакінуўшы сабе самае неабходнае, дзякуючы чаму разлічыўся з падаткамі і трапіў у лік серадлякоў.

Паколькі гаспадарка паменшылася ўтрая, дык Гардзей палічыў за лепшае пашукаць сабе які заробак у Брэсце, бо дома цесць з Зосяю і самі добра спраўляліся. Летам Гардзею знайшлася добрая, на яго думку, пасада памочніка каморніка на складзе вагоннага дэпо. Паколькі каморнік аказаўся не надта пісьменным «васточнікам», але затое адданым рэвалюцыі камуністам з Ленінграда, які прыехаў дапамагаць братам-беларусам усталёўваць новы лад жыцця, дык Гардзей рабіў за яго справаздачы і ўсялякую цяжкую і чорную работу: насіў скрыні, прыбіраў склад, а каморнік выдаваў рабочым спецвопротку і рознае начынне. З месяц Гардзей штодня пасля працы дабіраўся нанач дадому, а потым знайшоў сабе кватэру. Гаспадыняю аказалася ўдава цырульніка, прыемная гладкая маладзіца гадоў сарака з гакам. Дзяцей яна не мела, таму ўзялася шчыра апекаваць свайго кватаранта.

— Муй каханы! Муй пенькны прыйшоў! — такімі словамі звычайна сустракала яго пані Ванда, замілавана складваючы пульхныя ручкі на грудзях, як перад малітваю, а праз тыдзень-два — дык і гарачымі абдымкамі ды пацалункамі.

Гардзей, уражаны такой нечаканай прыхільнасцю, стаў рэдка наведвацца дадому. Занадта прэсным і стрыманым падалося яму каханне Зосі, якая пры бацьку ніколі нават не абняла мужа. Сам жа ён, як яму здавалася, нікога не кахаў. Праўда, аднойчы, калі яшчэ служыў у войску ў Варшаве, убачыў у двары аднаго багатага асабняка дзяўчыну ў блакітным каптурыку і сінім плашчы. І такая яна была прыгожая і пяшчотная, што, здавалася, за яе і жыццё не пашкадаваў бы. Дзяўчына знікла за цяжкімі дзвярыма, якія перад ёю адчыніў лёкай у ліўрэі, аблямаванай залацістым шлякам. Колькі пасля ні прыходзіў да той агароджы Гардзей, дзяўчыну яму больш убачыць не давялося. Ён быў перакананы, што тую юную палячку ён, напэўна, кахаў бы да канца свайго жыцця. Гэта было б не проста існаванне, а свята. Тое, чым цяпер жывілася яго душа, здавалася шэрым і не цікавым, часовым упрыгожаннем будзённасці стала цырульнікава ўдава.

Праз паўгода Гардзей вырашыў, што з Зосяю больш жыць не будзе, а застанецца з Вандаю. Ён захапляўся сваёю пранырліваю гаспадыняю, якая здолела ўладкавацца прадаўшчыцаю ў новую толькі што адчыненую прадуктовую краму і забяспечвала сябе і кватаранта харчамі, якія ўвогуле цяжка было купіць у горадзе. Прыватныя гандлёвыя кропкі былі зачынены, а ўсё, што мелася ў продажы ў дзяржаўных магазінах, скуплялі тыя, у каго былі савецкія грошы. Злотыя нідзе не прымалі. Тутэйшае насельніцтва, калі і хацела купіць якія тавары, дык не мела чым заплаціць.

Сказаць Зосі пра сваю новую сям'ю Гардзей не адважваўся, хоць зрэдку наведваўся дамоў, каб пабачыцца з сынам і завезці яму якога гасцінца. Але ўсё гэта было не так важна, калі-небудзь яна і сама дазнаецца. Такім чынам, Гардзееў лёс павярнуў у новае рэчышча, аднак здарылася непрадбачанае. Аднойчы, калі ён прыйшоў на працу, загадчык склада сказаў яму, што яго тэрмінова выклікаюць у аддзел кадраў.

У аддзеле кадраў Гардзея чакала непрыемная навіна. Дзябёлая маладзіца, з шэрым невыразным тварам і з дрэнна прамытымі чорнымі валасамі, зачэсанымі на прабор і закручанымі ў куксу на патыліцы, паклала перад ім на стале працоўную кніжку і загад, сказала:

— Пазнаёмся.

Гардзей прабег вачамі напісанае ў загадзе і зразумеў, што ён звольнены з працы як чалавек палітычна ненадзейны і шкодны для савецкай улады.

— Гэта хлусня! Я сядзеў у польскай турме за стварэнне камсамольскай ячэйкі і ўдзел у падпольнай працы! — абурана запярэчыў Гардзей.

— Усе вы цяпер патрыётамі сталі! А сам выбіраўся радным у гміну! Хацеў утаіць гэта ад савецкай улады! Мы ведаем усё пра ўсіх! Скажы дзякуй, што не паслалі туды, куды Макар цялят не ганяў! А мы яшчэ і разлік табе даём! Ідзі ў бухгалтэрыю і атрымай.

Гардзей пакінуў кабінет, трымаючы ў руцэ загад і яшчэ не верачы таму, што з ім здарылася, аднак у касе яго ўжо чакаў поўны разлік. Ён зграб у кішэню грошы, якія яму дала касірка, і выйшаў на вуліцу. Хацелася хутчэй удыхнуць свежага паветра, пабыць аднаму, каб асэнсаваць непрыемную падзею. Ніяк не мог зразумець, чаму так здарылася, што ён быў ненадзейным для палякаў, а цяпер стаў такім і для саветаў, хоць з ахвотаю працаваў і, зрэшты, быў задаволены жыццём.

Гардзей рушыў уздоўж рэек, раздумваючы, што ж яму рабіць далей: заставацца з Вандаю і паспрабаваць пашукаць новую працу, ці… Але з тым запісам, які яму зрабілі ў працоўнай кніжцы, напэўна, яго нікуды не возьмуць. Адразу ўзнікла пытанне: гэта кляймо на ўсё жыццё? За што? Гардзей адчуў нязвыклую стому ў нагах і накіраваўся ў будынак вакзала, каб там пасядзець у зале чакання і ўсё як след абдумаць. Раптам яго нехта паклікаў. Ён азірнуўся і ўбачыў Яўсея Пуха і Івана Валошчыка, пастаяў нерухома, пакуль хлопцы падышлі і павіталіся з ім за руку.

— Ты чаго такі прыгаломшаны? — спытаў Яўсей.

— З працы звольнілі, палічылі, што палітычна ненадзейны, — адказаў Гардзей.

— Знайшоў пра што бедаваць! На наш век працы хопіць, — ляпнуў яго па плячы Валошчык.

— Не, ты не разумееш, што адбываецца. Я ў польскай турме сядзеў, здароўе губляў, жыццё, лепшыя гады кату пад хвост, а яны… — горача запярэчыў Гардзей. — Гэта несправядліва!..

— Знойдзем табе справу, трымайся мяне. І ўсё будзе выдатна, — супакоіў Гардзея Яўсей.

— А што ты ўжо такі вялікі начальнік?

— Працую следчым па асабліва важных справах. Лаўлю бандытаў, жулікаў, спекулянтаў… Ат, рознай набрыдзі наехала ў Брэст, што выдаюць сябе за бежанцаў. Уяўляеце, у аднаго багаценькага аўтамабіль канфіскавалі, дык ён ходзіць да нас, скардзіцца і піша заявы. Думаю, што яго і самога хутка возьмем за каршэнь, каб не надакучваў.

— І ты задаволены такою працаю?

— А чаму ж не? Зарплата добрая, кватэру далі як адказнаму і важнаму работніку. А зрэшты, чаго мы тут стаім? Пайшлі да мяне, адзначым улазіны, — гасцінна запрасіў Яўсей.

— Я дахаты сабраўся, амаль месяц сына не бачыў, — пачаў аднеквацца Гардзей.

— Заўтра ж нядзеля. Паедзеш і пабачыш. Нікуды твой сын не дзенецца. Пайшлі… Пасядзім цёплым мужчынскім гуртам, успомнім маладосць. Калі яшчэ такі выпадак надарыцца?

Гардзей паглядзеў на хлопцаў і згодна махнуў рукою, маўляў, колькі таго жыцця, і тое абы-якое.

— Мо ў складчыну купім якую пляшку? — спытаў Валошчык.

— Нічога не трэба, у мяне ёсць што выпіць і нават на закуску сала знойдзецца, — сказаў Яўсей. — Трымаю недатыкальны запас. Часам вярнуся з задання, у вачах чорныя плямы скачуць ад стомы, дык вазьму стограмовачку — і ад сэрца адляжа.

— А што? Страшна бывае? — спытаў Валошчык.

— Усяляк бывае: і страшна, і паскудна, і агідна… Але не будзем пра дрэннае.

— Мо сярод следчых чуваць што пра Мацея? Як ён там перайшоў мяжу ды ўладкаваўся, — раптам згадаў Гардзей.

— Нічога не чуў, але, хлопцы, паміж намі, кажуць, перабежчыкаў расстрэльвалі, — адказаў Яўсей шэптам.

— За што? — здзівіўся Гардзей.

— Быў бы чалавек, а артыкул для пакарання знойдзецца…

Пачутае збянтэжыла і ўстрывожыла Гардзея: няўжо так? Што ж гэта робіцца на свеце?..

Яўсеева кватэра была недалёка ад вакзала, у тым самым будынку, дзе раней Гардзееў знаёмы яўрэй прадаваў бакалейныя тавары. Маёмасць у гандляра забралі, а яго з сям'ёю некуды выслалі.

Новы гаспадар адамкнуў дзверы невялікага пакоя, у якім стаялі незасланы ложак, абшарпаны стол і пара табурэтак. Пры сцяне мясцілася вялікая скрыня, размаляваная кветкамі. Шырокім жэстам гаспадар запрасіў гасцей:

— Заходзьце ў маю хату, чым багаты тым і рады. Сядайце, каму дзе зручна.

Яўсей дастаў са скрыні пляшку гарэлкі, тры шклянкі, паклаў на стол кавалак сала, бохан хлеба, дзве цыбуліны, ляпнуў у ладкі:

— Балюем!

— Балюем! Яшчэ як! — бадзёра падхапіў Валошчык.

Першы раз паднялі шклянкі за здароўе і сустрэчу. Пасля трэцяга тоста на стале з'явілася яшчэ адна пляшка. Паплылі ўспаміны пра маладосць і маленства. Усе пра нешта гаварылі, і хоць, здавалася, што ніхто нікога не слухаў, ім было добра сядзець разам сярод ночы і згадваць той час, які назаўсёды прамінуў, і была надзея, што наперадзе іх чакае нешта яшчэ больш цікавае і светлае.

## 5

Гардзей прачнуўся ад таго, што яго тузаюць за плячо, але ніяк не мог расплюшчыць вочы. Галава гарэла ў пякельным агні, пад грудзьмі быццам віўся клубок змей.

— Уставай, уставай, Гардзей! Будзем пахмяляцца, — тармасіў яго Яўсей.

Гардзей перасіліў боль, расплюшчыў вочы і ўбачыў над сабою доўгую выцягнутую, як гарбуз, галаву Яўсея. Сцяна за ім калыхалася, столь пераварочвалася.

— Што гэта з табою? Чаму ты такі? — здзіўлена спытаў Гардзей.

— Які?

— Як пачвара.

— Сам ты пачвара! Уставай! Мне на працу трэба!

Гардзей са стогнам сеў, абхапіў галаву рукамі, хістаўся з боку ў бок.

— Што, галава баліць? Трымай шклянку, пахмяліся, — прапанаваў Яўсей.

— Чым ты мяне напаіў?

— Нічым. Што я піў, тое і ты.

— Ты атруціў мяне, — прастагнаў Гардзей.

— Ты абвінавачваеш мяне, савецкага следчага, у злачынстве? Ты ведаеш, што табе за гэта пагражае?

Гардзей падняўся з ложка, няпэўным крокам рушыў да парога, мармычучы сабе пад нос:

— Атруціў і хочаш канцы ў ваду… Не выйдзе, не дамся…

Ён штурхнуў перад сабою дзверы, якія лёгка адчыніліся, лесвіца павяла яго ўніз драўлянымі прыступкамі. У двары Гардзей удыхнуў свежага паветра, ледзь не страціў прытомнасць, прыхінуўся да сцяны, трохі пастаяў з заплюшчанымі вачамі. У галаве гарэла так, быццам там распалілі агонь, нясцерпна пякло ў грудзях. Гардзей няпэўным крокам выйшаў з двара і рушыў у бок Кобрынскага моста. Раптам спахапіўся, што забыўся ў Яўсея партфель з гасцінцамі для сына, але вяртацца не стаў. Думкі блыталіся, адчуваў, што вось-вось страціць прытомнасць ці наогул розум. Раптам згадаўся Валошчык. Узнікла пытанне, куды ён падзеўся? Мо і яго атруціў Яўсей, каб не мець сведкаў? Ці, можа, наадварот, Валошчык падліў атруту Гардзею і схаваўся? Гардзей бег па вуліцы, апантаны жывёльным страхам. Мільганула думка, што цягніком прыехаў бы дамоў хутчэй. Спыніўся на хвіліну, праверыў кішэні, грошай не знайшоў і зноў кінуўся бегчы. Людзі саступалі яму дарогу, глядзелі ўслед. Нехта сказаў:

— Шаленец нейкі. Увесь рот у пене…

Гардзей не зразумеў, што гэта кажуць пра яго. Ён наогул цяпер мала што цяміў, падсвядома імкнуўся схавацца ад жаху, які апанаваў ягоную істоту, ад злоснага свету і жорсткіх людзей. За сваё жыццё ён нямала пахадзіў пешкі і паездзіў на кані з дому ў Берасце і назад, таму ногі самі знаходзілі тую палявую дарогу, якая вяла яго проста на хутар да жонкі і сына. Там было выратаванне. Ён выжыве і здзейсніць тое, што прызначана яму Богам. Не чалавечая сіла абудзілася раптоўна ў ім і несла ўперад ад пагоні страху і жуды.

Ён прыбег задыханы, з мокраю, хоць выкручвай, сарочкаю, з чырвоным потным тварам, убачыў Зосю, і сказаў з парога:

— Я вар'ят. Але ўсё роўна буду вялікім мысліцелем!

— Што з табою? — устрывожылася жонка.

— Мяне атруцілі! Галава мая гарыць! У грудзях пячэ!

Ён набраў кубак вады, прагна выпіў, але палёгкі не адчуў?

— Хто атруціў?

— Пух з Валошчыкам! Я ім зараз! Пачакай!..

Гардзей выскачыў у сенцы схапіў сякеру, пабег у Крачкі. Зося кінулася за ім, прасіла-маліла вярнуцца. Але ўсё было дарэмна. Ахоплены жаданнем помсты, Гардзей ляцеў так хутка, што Зося адстала ад яго, бегла, трымаючыся за правы бок, там раптам пачало калоць. Ужо ў Крачках трапіўся яму насустрач Серафім, здзіўлена спытаў:

— Куды ты, Гардзей?

— Я заб'ю іх!

— Каго?

— Пуха і Валошчыка.

— Дык яны ж у Берасці.

У гэты час да мужчын падбегла Зося, шапнула Серафіму:

— Забяры ў яго сякеру.

— Дай сякеру, навошта яна табе? — папрасіў Серафім.

— І ты, камітэтчык, супраць мяне? Я і цябе знішчу.

На галасы падбеглі гаспадары з бліжэйшых хат, скруцілі Гардзею рукі, забралі сякеру.

— Эх, вы! Я за вас у турме сядзеў! Лепшыя гады згнаіў ні за нюх табакі, а вы — на мяне! — абурыўся Гардзей, адкідаючы ад сябе аднавяскоўцаў.

— Пойдзем, Гардзей, дадому, — папрасіла Зося. — Чаго ты ўзбунтаваўся? Людзі вунь сабраліся! Глядзяць як на вар'ята!

— Я і ёсць вар'ят! Мяне атруцілі! Але я адпомшчу ім усім! Яны атрымаюць за ўсё!

Серафім, які быў ніжэйшы ростам за Гардзея, павіс у яго на спіне і прыгаворваў:

— Ідзі дахаты! Чуеш! Ідзі!

Зося падхапіла Гардзея пад руку і таксама цягнула ў бок хутара, але ён не згаджаўся.

— Дзе гэтыя мярзотнікі? — крычаў Гардзей? У Берасці пахаваліся? Чакайце, я вас і там знайду.

— Знойдзеш, знойдзеш, — абяцала Зося. — Я табе дапамагу. А цяпер пойдзем дадому.

Нехта з мужчын сказаў:

— Няма тваіх крыўдзіцеляў тут, ідзі дахаты, Гардзей.

Гардзей раптам супакоіўся, аціх і пакорна пайшоў у суправаджэнні Зосі і Серафіма, быццам прыступ вар'яцтва адступіў і даў яму магчымасць хоць нядоўга пажыць цвярозым розумам. Аднак гэты спакой вярнуў хвораму адчуванне болю. Ён абхапіў галаву рукамі і закрычаў:

— Трымайце маю галаву! Яна зараз разляціцца на дробныя кавалкі! Трымайце мяне! Трымайце!

Зося з Серафімам падхапілі Гардзея пад пахі і павалаклі ў бок хутара. Ён хістаўся, плёўся, як п'яны, і ўвесь час скардзіўся на боль у галаве.

— Нічога! Нічога! — супакойвала мужа Зося. — Зараз запражом каня і паедзем у Жабінку да доктара. Ён дасць табе ад галавы лекаў, і ты ачуняеш. Ціха! Ціха! Не крычы!

— Ад вар'яцтва няма лекаў! Мяне атруцілі! Я ім адпомшчу! — Гардзей зноў пачаў вырывацца з рук.

— Ціха! Ціха! Не смяшы людзей! Маўчы! Няхай ворагі не радуюцца нашай бядзе. Тых, хто нашкодзіў табе, пакарае Бог. А ты супакойся, пойдзем дахаты, там цябе сынок чакае, — упрошвала мужа Зося, і ён аціх, скарыўся яе цёплым рукам, ласкаваму голасу, яе просьбе не гнявіць Бога і не смяшыць людзей.

## 6

Серафім, не шкадуючы каня, імчаў у Жабінку. За яго спінаю курчыўся на возе Гардзей, абхапіўшы галаву рукамі, побач з якім сядзела Зося і ўгаворвала мужа, як малое дзіця, каб ён не нерваваўся, патрываў боль, хутка яны прыедуць да доктара, і той дасць рады. Гардзей сапраўды аціх, быццам задрамаў. А Зосі згадаўся сон, які прысніў бацька, пасля таго, як яна з Гардзеем пачала жыць разам. Прыснілася бацьку, што перад хатаю вырас дуб з падсохлаю вершалінаю. Сон аказаўся як у руку. Хоць і спачувала Зося Гардзею, аднак не магла дараваць таго, што ён застаўся нанач невядома з кім, замест таго, каб ехаць да сям'і. «Гэта яго Бог пакараў, што зусім ад дому адбіўся, — думала яна. — Затое цяпер ён ужо будзе са мною. Бог усё бачыць і вучыць некаторых разумнікаў, як трэба жыць. А тым, хто не слухаецца Божага голасу, пасылае немач, каб астудзіць гарачую галаву».

Каля амбулаторыі Зося пабудзіла Гардзея і сказала:

— Прыехалі ўжо, пойдзем да доктара.

— Дзе? Дзе той доктар? — закрычаў Гардзей, саскочыў з воза і пабег уздоўж вуліцы, Зося і Серафім кінуліся ўслед за ім.

Наўрад ці ўдалося б ім затрымаць дужага мужчыну, апантанага хваробаю, які не надта разумеў, што з ім робіцца, а кіраваўся логікаю парушанай свядомасці, каб ён не ўбачыў будынак, дзе раней мясціўся пастарунак, а цяпер знаходзілася Жабінкаўскае аддзяленне міліцыі, і не ўбег туды і не пачаў крычаць, што тут знаходзяцца душагубы, якія пры Польшчы яго гнаілі ў турме, а цяпер наогул вырашылі звесці са свету. Тры міліцыянеры накінуліся на Гардзея, ды ён раскідаў іх і пачаў ламацца ў нейкія замкнёныя дзверы. Адзін з міліцыянераў моцна стукнуў яго па паясніцы — Гардзей войкнуў і прысеў, і тады ўсе трое накінуліся на яго, звалілі на падлогу, скруцілі. У гэты момант прыбеглі Зося і Серафім.

— Што вы робіце? Ён жа хворы! Ён вар'ят! Спыніцеся! — закрычала Зося, адцягваючы міліцыянераў.

Міліцыянеры пакінулі Гардзея ў спакоі, цяжка дыхалі. Адзін спытаў:

— Як прозвішча?

Зося хуценька сказала, як завуць мужа, дзе жыве, дзе працуе, расказала пра хваробу, якая ўсчалася нечакана.

— Завядзіце яго да доктара, няхай агледзіць і дасць заключэнне. Калі гэта не вар'ят, вядзіце сюды. Мы з ім хутка разбяромся, хто такі, — сказаў адзін міліцыянер, відаць, старшы.

Зося і Серафім падхапілі Гардзея пад пахі, два міліцыянеры ішлі ззаду, суправаджаючы іх. Хворы хапаўся рукамі то за галаву, то за грудзі, скардзіўся, што душа яго палае, прасіў піць. Зося супакойвала мужа, як магла, маўляў, галоўнае — дайсці да доктара, а там усё вырашыцца.

Доктар пажадаў застацца з хворым сам-насам, а хвілін праз дваццаць выйшаў з пакоя з супакоеным Гардзеем, падаў Зосі нейкія паперы, сказаўшы:

— Гэта накіраванне ў псіхіятрычную бальніцу. Вам трэба везці яго ў Баранавічы.

— Доктар, мы ж не гатовыя… Не думалі… Можа, можна дома… Нейкія там лекі… — з мальбою ў вачах спытала Зося.

— Нельга. Яму патрэбна лячэнне ў стацыянары. Патрэбныя добрыя спецыялісты.

— Дык ён сапраўды вар'ят? — спытаў адзін з міліцыянераў.

— Душэўна хворы, — падкрэслена адказаў доктар. — Дапамажыце, калі ласка, хвораму і ягоным родзічам сесці на цягнік, пра гэта я вас прашу асабіста.

Міліцыянеры ніякавата паціснулі плячыма і пайшлі ўслед за Гардзеем, якога Зося і Серафім павялі пад рукі да выхада.

На вакзале сапраўды спатрэбілася іхняя дапамога. Міліцыянеры загадалі расступіцца чарзе, і Зося купіла білет сабе і Гардзею на цягнік. Серафім бязладна таптаўся каля сястры. Яна сказала яму, каб ехаў дамоў, бо на вакзале столькі набрыдзі, яшчэ, крый божа, хто каня ўкрадзе. Брат уздыхнуў з палёгкай і пайшоў. Пайшлі і міліцыянеры.

Пасля наведвання доктара Гардзей паспакайнеў і драмаў, седзячы на лаўцы. Зося нават падумала, можа дарэмна яго выпраўляюць у псіхбальніцу, можа гэтая хвароба і сама пройдзе? На вакзале было шматлюдна, таўкліся нейкія мужчыны і жанчыны, не тутэйшыя — ці бежанцы, ці тыя, што ехалі з Савецкай Расіі, каб тут знайсці новае месца для працы. Апрануты былі хто ў што, сустракаліся тут і дарагія суконныя апраткі і нешта накшталт рабочай уніформы. Тутэйшых было мала, яны вылучаліся адзеннем з палатна сваёй работы, паводзілі сябе сціпла, бо кожны ў крамным адзенні ім уяўляўся па ранейшай звычцы панам.

Незадоўга да прыходу цягніка людзі заспяшаліся на перон. Зося разбудзіла Гардзея. Ён расплюшчыў вочы, няўцямна зірнуў на жонку, быццам не пазнаючы, потым падняўся і спытаў:

— Што мы тут робім?

— Зараз паедзем у бальніцу.

Твар Гардзея нервова перасмыкнуўся. Ён спытаў:

— Ты захварэла? Чаму мне гэтак блага?..

— Гардзейка, гэта ж ты захварэў. Паедзем цябе лячыць, — пяшчотна і спакойна адказала Зося, каб не вывесці яго з раўнавагі. Пойдзем на перон, зараз будзе наш цягнік.

Муж паглядзеў на яе з недаверам, але пайшоў да выхада. Зося ў напружанні чакала цягніка. Калі людзі стоўпіліся ля ўвахода ў вагон, яна трымаючы Гардзея пад руку, супакойвала сябе і яго:

— Не спяшайся. Без нас цягнік не пойдзе. Усё будзе добра.

Муж слухаўся, стаяў спакойна, пакуль не падняўся ў вагон і раптам кінуўся да акна і пачаў стукаць кулакам.

— Што ты? Што з табою? — закрычала Зося, цягнучы мужа за сарочку!

— Там Пух! Я яго бачыў!

Праваднік накінуўся ззаду на Гардзея, зваліў яго на падлогу.

— Не чапайце яго! — закрычала Зося. — Ён душэўна хворы!

— Ён яшчэ і хворы! — абурыўся праваднік. — Мы яго зараз звяжам, хутка супакоіцца.

Гардзея звязалі і паклалі адпачываць. Знясілены чарговым прыступам хваробы, ён сапраўды хутка заснуў. У Баранавічах увайшлі пагранічнікі і пачалі правяраць білеты. Спачатку Зосю і Гардзея завялі ў аддзяленне міліцыі, трымалі да раніцы ў пакоі, падобным на турэмную камеру з закратаваным акном пад столю, а потым іх разлучылі. Ёй паабяцалі, што хворага ў псіхбальніцу завязуць самі, а яна няхай вяртаецца дамоў.

Выйшла Зося з аддзялення міліцыі, раздумваючы, што ж ёй рабіць далей? Усе грошы, якія мела пры сабе, аддала Гардзею. Выручыла яе тое, што па даўняй бежанскай звычцы надзела на сябе дзве сукенкі. Адну яна зняла ў прыбіральні, пайшла на рынак, што мясціўся побач з вакзалам, і прадала там нейкаму вайскоўцу, прасіла грошай не шмат, толькі пару рублёў, каб хапіла даехаць да Жабінкі, а ён вельмі ўзрадаваўся нечаканай удачы — з радасцю танна набыў яе сукенку.

## 7

Дома Зосю сустрэў устрывожаны бацька і сказаў, што яго памылкова запісалі ў кулакі і наклалі кулацкі падатак.

— Чаму ж яны так зрабілі? Мы ж збылі ўсю жыўнасць, — абурылася Зося.

— У іх, ці бачыш, нейкія старыя звесткі.

— Дык едзь у Жабінку да начальства і скажы ім, няхай прышлюць камісію, праверац, якія мы тут кулакі.

— Баюся я, дачка, начальства. Якая ім справа да простага чалавека? Яны ж, можа, і размаўляць са мною не захочуць.

— Не захочуць і не трэба. Напішам ім заяву, што ты не кулак. Няхай разбіраюцца, але заяву завязеш сам, аддасі ў рукі і чакай, што скажуць.

— Хіба што так, — згадзіўся бацька. — А нешта мне ўсё ж трывожна.

— А калі цябе вышлюць за свет? Тады не будзе не страшна?

— Страшна жыць, дачка, страшна… Усё жыццё перакалоцішся як рыба аб лёд… даруй божа. Адно выратаванне смерць…

— Што ты, бацька, раней часу паміраць сабраўся?

— Я сваё аджыў… Што там з Гардзеем? Серафім расказваў…

— Не ведаю, бацька. Забрала яго міліцыя, абяцалі завезці ў бальніцу самі. Далей Баранавіч нікога не пускаюць. Мяжа, як была, так і стаіць на месцы. Адчуваў ён сябе блага. Не ведаю, што там з ім будзе…

— Усё ў руках Боскіх, будзем спадзявацца на лепшае…

На другі дзень Кірыла павёз заяву ў Жабінку. Пахадзіў па будынку райвыканкама, спыніўся ля дзвярэй старшыні, каля якіх стаяў стол сакратаркі, паклаў перад ёю заяву.

Дзяўчына прабегла паперу вачамі і сказала:

— Вам трэба ў той кабінет, пойдзем, я вас правяду.

Яна падвяла Кірылу да адных дзвярэй, пастукала ў дзверы, ёй ніхто не адказаў, яна адчыніла іх, заглянула ў пакой і спытала:

— Хрол Еўграфавіч, можна да вас?

— Заходзь, Эсфір, заходзь…

— Я не адна…

Сакратарка прапусціла ўперад Кірылу, потым увайшла сама, паклала перад начальнікам заяву і сказала:

— Дапамажыце гэтаму сімпатычнаму дзеду, Хрол Еўграфавіч. Дабро дабром вяртаецца.

Яна выйшла нетаропка. Начальнік узяў Кірылаву заяву, пачытаў, моўчкі ўстаў, пачаў перабіраць папкі з паперамі. Нарэшце разгарнуў адну, пачаў чытаць:

— Значыць так… Барэйша Кірыла Іпатавіч, жыхар вёскі Сцяблова, дом нумар дваццаць пяць… Два кані, чатыры каровы…

— Прозвішча маё, а гаспадарка і адрас чужыя… Я на хутары каля Крачкаў жыву. Адзін у мяне конь і карова адна… Прыязджайце, паглядзіце, калі не верыце… Са мною жывуць яшчэ дачка з мужам і ўнук… Чатыры душы, неяк жа трэба жыць і харчавацца…

Кірыла нават сам здзівіўся, як асмялеў, разгаварыўся з чужым чалавекам, ды яшчэ начальнікам. А зрэшты начальнікамі ж не нараджаюцца, імі становяцца.

— Добра, разбяромся, — спакойна адказаў гаспадар кабінета. — Можа, і ў госці наведаемся, каб гаспадарку агледзець.

— Калі ласка, прыязджайце, буду рады, — гасцінна адказаў Кірыла. — І падатак кулацкі здыміце з мяне. Які ж я кулак? Перажыў эвакуацыю, бежанства. Вярнуўся на голае месца, пачаў з нічога…

— Добра, добра, разгледзім, дзед, тваю заяву, не хвалюйся.

Кірыла падзякаваў, развітаўся і выйшаў з кабінета заспакоены тым, што добра пагаварыў з чалавекам. Едучы з Жабінкі дамоў, ён падганяў свайго рахманага каня і ўсё згадваў гаворку з начальнікам ды раздумваў, хто ж прыпісаў яму чужую гаспадарку? Хто гэты вораг? І што яшчэ ад яго можна чакаць? Каб ведаць, дык пайшоў бы, проста пагутарыў з чалавекам, спытаў, за што той трымае злосць на яго, за што помсціць? А так, можа, і век зжывеш і не даведаешся, хто цябе хоча са свету звесці. Можа, гэта ўсё з-за Гардзея робіцца? Хоць і разумны хлопец, а неасцярожны, лёгка ворагаў нажывае. Сябе самога не ўбярог, хваробу такую страшную знайшоў. Не здарма ж кажуць, як захоча Бог пакараць, дык розум адбярэ.

— Ох, грахі нашы цяжкія! — уздыхнуў Кірыла. — Дня не пражывеш, каб не саграшыць. Я ўжо і ворагаў сабе навыдумляў. А гэта, можа, проста нейкая

памылка атрымалася. Памылка! Але ж магла каштаваць мне жыцця… Хіба ж я выжыву ў той Сібіры?

Стары пакашляў у кулак, паглядзеў навокал і здзівіўся, што так вось, разважаючы сам з сабою, непрыкметна даехаў да Крачкаў. Пачалі сустракацца знаёмыя людзі, і ён вітаўся з кожным ветліва і падкрэслена, але і пільна ўзіраўся ў вочы. Можа, менавіта гэты чалавек за нешта не любіць яго і гатовы адпомсціць намоваю.

Каля свайго двара стаяла Марфа з дзіцем на руках. Кірыла зычліва павітаўся з ёю:

— Добры дзень, Марфачка. Я думаў, ты ўвесь час цяпер у сельсавеце засядаеш. А ты каля сваёй хаты…

— Здароў, дзядзька Кірыла. Засядаю я, калі паклічуць… А так дома ўпраўляюся. Адкуль едзеш?

— Нешта ў сельсавеце наблыталі, мяне кулаком запісалі… Ездзіў скардзіцца.

Марфа здзіўлена ўтаропілася ў старога.

— Чаго маўчыш? Можа, ведаеш, хто мяне падвёў пад дурнога хату?

— У вас свой дурань у хаце завёўся. Як ваш шаленец, ці ачуняў?

— А табе што за клопат?

— Ды нічога… Так сабе… Не ведаю я, хто цябе ў кулакі запісаў, а каб ведала, дык не сказала б. Гэта справа дзяржаўная. Як дзяржава робіць, так і трэба…

— Дзяржава робіць? — абурана перапытаў Кірыла. — А вы што робіце ў сваім сельсавеце? Для чаго вы там? Каб сумленных людзей злачынцамі рабіць? І з якога гэта часу ў гаспадарцы сталі лішнімі карова ды конь?

Ён не стаў чакаць адказу і працягваць гаворку, а сцебануў каня і паехаў дадому. У свядомасці ягонай закралася здагадка, ці не Марфіных гэта рук справа? Казалі ж людзі, што некалі Гардзей да яе заляцаўся. Невядома, што між імі было, а вось чамусьці, мусіць, трымае яна злосць на Гардзея да гэтага, вось і помсціць ягонай сям'і. Цяпер яна ў сялянскім камітэце. Там яны, самахоць, каб за што-небудзь адпомсціць, сябе паказаць, да чаго хочаш могуць дадумацца, якія заўгодна спісы складуць. Эх, людзі, людзі! За ўсё ж давядзецца адказваць перад сваім сумленнем і перад Богам!

Дома Кірылу нецярпліва чакалі дачка і брат, хваляваліся, бо ўжо нямала каго з вяскоўцаў абвясцілі кулакамі і гразіліся вывезці немаведама куды.

— Ну, што табе сказалі? — спытаў Карп.

— Паабяцалі, што разбяруцца, — адказаў Кірыла, стараючыся не паказваць трывогі, і дадаў: — Я ўсё думаю, хто ж гэта мог мяне ўнесці ў спіс? Гэта ж нехта з нашых людзей. Жабінкаўскае начальства мяне не ведае.

— Вядома, нехта з нашых, — пацвердзіў Карп. — Запісалі адзін раз, яшчэ колькі хочаш разоў запішуць.

— А можа, і ўсё будзе добра, — сказала Зося і абурылася, — як людзі граху не баяцца?

— Яны ж бязбожнікі, — адказаў Карп.

— Звычайна людзей арыштоўваюць і забіраюць па начах. Баюся, што прыйдуць па мяне, а заадно і Зосю з малым схопяць, — сумна сказаў Кірыла. — Для мяне гэта будзе двайная пакута. Можа, трэба было б ёй пажыць дзе ў каго? Мо да Паўліны пойдзеш, дачка, га?

— Да Паўліны не пайду, — цвёрда адказала Зося. — Лепш з табою.

— Са мною табе нельга. Вернецца Гардзей, а цябе няма… Сыну бацька трэба, — Кірыла з пяшчотаю зірнуў на ўнука, які бавіўся на запечку.

— Няхай Зося з сынам начуюць у нас, яна ж нам не чужая, — прапанаваў Карп. — Ці згодная, Зося?

— Згодная, але бацьку шкада. Як ён тут адзін?

— Дык ты ж цэлы дзень будзеш дома, толькі начавацьмеш у нас. Што тут такога? Раней жа ты ад усялякіх нягодаў у нас хавалася.

— Было, было, — цёпла ўсміхнулася Зося, згадаўшы далёкае юнацтва і тыя свае мітрэнгі, калі яна шукала смерці, нават хацела ўтапіцца.

— Дык і прыходзь сёння ж, будзем чакаць. Можаце нанач і карову з канём у мяне ставіць.

— А калі і па цябе прыйдуць? — выказаў сумненне Кірыла.

— Пакуль я лічуся серадняком. А на цябе кулацкі падатак усклалі, гэта як першае папярэджанне, — адказаў Карп.

Кірыла цяжка ўздыхнуў, памаўчаў, потым узняў вочы на дачку, сказаў:

— Як ехаў з Жабінкі, сустрэў Марфу. Нейкая яна злосная. Мо ты, Зося, з ёю пасварылася за што?

— Не сварылася я з ёю і не мірылася. Яна, па ўсім відаць, на Гардзея зуб мае.

— Няўжо яна магла? — здзівіўся Карп.

— Чаму б і не? Яна ж цяпер начальства, у сялянскі камітэт уваходзіць.

— Дык і наш Серафім там жа, — нагадала Зося.

— А што той Серафім? Ён як цяля дурное. Трымаюць яго там для прыліку, — сказаў Карп. — Бач якая гадаўка! Нічога, гэта ёй бокам вылезе.

«Вось што надумала Марфа, мяне з бацькам выслаць у Сібір, каб з Гардзеем застацца, — разгневана падумала Зося. — А куды яна свайго Якуба падзене? Ці пры камунізме і мужы будуць агульныя? Не дачакаецца. Гардзей мой! Нікому яго не аддам! Што ад зайздрасці з ёю робіцца! Але Бог усё бачыць!»

## 8

Кірылу забралі цёмнай снежаньскай ноччу. Як гэта здарылася, на Карпавым хутары не чулі і не бачылі. На снезе каля Кірылавай хаты засталіся сляды ад санных палазоў, якія вялі да Крачкаў, напэўна, павезлі яго спярша ў Жабінку. Калі ранічкай Зося, як звычайна, прыйшла дамоў, у хаце ўсё было перавернута дагары нагамі. Канфіскавалі швейную машынку, выграблі ўсё аддзенне са скрыні, а таксама забралі сала з кубла і кумпякі з вышак. Нават курэй пералавілі ўсіх да адной. У куратніку толькі там-сям бялела выскубанае пер’е. Зося аглядала гаспадарку, галасіла і праклінала. Напэўна, рабавалі свае аднавяскоўцы, якія ведалі, дзе што можа ляжаць у сялянскай хаце.

— Каб вы сваёй крыві напіліся! Каб вам век долі не было! Каб вы падавіліся нашым дабром! — Зося крычала на ўвесь голас, выціраючы слёзы, хацела каб увесь свет пачуў яе.

Следам хадзіў маленькі Ораст і з перапалоху таксама паціху румзаў. Зося было ўзялася парадкаваць хату, а потым спахапілася, што, магчыма, бацьку яшчэ можна заспець у Жабінцы, бо ведала: людзей, якіх высылалі, часам па некалькі сутак трымалі на вакзале. Яна пабегла да Карпа, каб расказаць пра страшную навіну ды разам падумаць, што рабіць далей.

Карп, не раздумваючы, запрог каня і пад ціхі плач і божканні жонкі, якая прынесла ў сані вялізную торбу з харчамі для Кірылы, выехаў з Зосяй з двара. Свежы сняжок злёгку прыцерушыў дарогу. Сані беглі лёгка. Пад ранішнім сонцам снег гарэў, іскрыўся дыяментамі. Такое прывіднае хараство, ажно глядзець балюча. Зося жмурыла вочы і думала пра тое, што варта ўзяць у руку зіхоткую сняжынку — адразу растане, застанецца на далоні расінка. Вось так і ў жыцці

зіхціць нешта, грае, свеціцца, а толькі дацягнешся рукою — і гэта хараство знікае, раствараецца, працякае праз пальцы, як вада. Выходзіла замуж за Гардзея, думала, што век будзе шчаслівая, але злыя людзі ўкралі шчасце…

Хоць перон быў чорны і затаптаны мноствам слядоў, на вакзале было нязвыкла пуста, не так, як тады, калі Зося ехала з Гардзеем у Баранавічы. «Напэўна, ужо з усімі разабраліся, каго ў Сібір, каго ў турму, — змрочна падумала Зося. — Было дрэнна, і цяпер не лепш».

— Напэўна, спазніліся мы, — сказаў дзядзька Карп. — Пасядзі ў санях, а я пайду спытаю на вакзале ў начальства, ці вывозілі сёння каго.

Зося засталася адна ў санях, ямчэй села, ухутала ногі сенам, каб не мерзлі, назірала за зграяй вераб'ёў, якія са звонкім шчабятаннем нешта знаходзілі і дзяўблі на брудным снезе перона.

«Добра птушкам, — падумала Зося, — няма ў іх маёмасці, няма крыўды, лётай і радуйся жыццю. Адзіныя ўладары ў іх — ноч ды дзень, дождж ды вецер. Людзям бы ў іх павучыцца жыць».

Раптам два вераб'і не падзялілі нешта, пачалі голасна ціўкаць, налятаць адзін на аднаго, дзяўбціся. Іншыя вераб'і таксама ўстурбавана заціўкалі, чародка ўзнялася і пераляцела на дрэва. Але і тут два задзірыстыя вераб'і ўсё працягвалі нешта даводзіць адзін аднаму. Зноў заціўкала ўся чарада і паляцела некуды за вакзал.

«У птушак таксама няма ладу, — расчаравана падумала Зося. — Што ім дзяліць? Нейкую крошку? Дык чаго чакаць ад людзей, калі вочы ў іх сквапныя, душы пажадлівыя, здаецца, праглынулі б увесь свет. А ці шмат трэба чалавеку для шчасця? Толькі была б родная душа побач, якую ты любіш, кахаеш, без якой і жыцця свайго не ўяўляеш. Бедны мой бацька, як ён пераможа дарогу? Як наогул выжыве? Стары ўжо чалавек, стомлены жыццём, не надта здаровы… Як там мой Гардзей? Хоць бы з ім чаго дрэннага не здарылася. Ён часам бывае такі адкрыты. Што думае, тое і скажа, а людзі гэтага не любяць, не разумеюць».

Вярнуўся Карп, агледзеў вупраж, падаткнуў сена, што выбілася праз драбіны.

— Ну што, дзядзька? — спытала Зося.

— Спазніліся мы. І зусім на мала. Начальнік вакзала сказаў, што эшалон адправіўся паўгадзіны таму.

Зося роспачна заплакала, размазваючы слёзы па твары.

— Годзе, годзе плакаць. Будзем спадзявацца, што Кірыла вернецца. Без веры жыць нельга. А будзеш плакаць, у яго толькі душа будзе балець…

— Добра, я не буду плакаць. Сёння ж вярнуся дамоў. Няхай прыходзяць і забіраюць мяне. Усё з хаты згрэблі! Ні сумлення, ні сэрца ў іх няма! Не разбагацеюць яны, нават калі душу маю забяруць. Пачвары, гіцлі, нелюдзі!

— Што ж, вяртайся. Думаю, што цябе пакуль чапаць не будуць. Кірыла за ўсіх адпакутуе. Не плач, не бядуй. Можа, бацька хутка ліст прышле.

— Адна я засталася! Муж у псіхушцы. Невядома, што і як там ён. Ці выжыве? Бацьку таксама вывезлі на катаргу. Што ж мне цяпер…

— Табе трэба сына гадаваць ды сябе шанаваць, — спакойна адказаў Карп, усаджваючыся на сані і паганяючы каня. — Бог на тое нам і пасылае выпрабаванні, каб мы не толькі іх перамагалі, але і гартавалі сваю душу.

У той жа дзень Зося вярнулася ў бацькаву хату, прыбрала раскіданыя рэчы, вымыла, адшаравала дзеркачом падлогу, каб і духу злых прыхадняў не засталося. Ораст быў на дзіва паслухмяны, стараўся дапамагаць маці. Калі ўсё было зроблена, яна прытуліла да сябе сына, пацалавала ў лоб і падумала: «Будзем неяк жыць далей…»

## 9

Зося прала кудзелю. Не надта тонкія ніткі ў яе атрымліваліся, але спатрэбяцца хоць на якую посцілку. Кожная рэч, якая выкарыстоўваецца ў хатнім пажытку, каштуе грошай. А дзе іх набрацца? Побач гартаў Каціну кніжку Ораст. Чытаць ён яшчэ не ўмеў, але ведаў асобныя літары, называў іх час ад часу ды разглядваў малюнкі, нешта тлумачыў маці, а яна нічога не чула. Думала пра бацьку ды пра мужа. Як яны? Дзе? Ці здаровыя? Ці жывыя? Да Гардзея яна не магла паехаць, бо ведала, што далей Баранавіч яе не пусцяць. Для таго, каб паехаць у Савецкую Беларусь патрэбен быў нейкі асаблівы дазвол.

У пачатку восені з псіхбальніцы за подпісам галоўнага ўрача прыйшоў кароткі ліст, у якім паведамлялася, што яе муж знаходзіцца на лячэнні, а таксама прасілі выслаць для яго цёплае адзенне. Тады Зося і паслала пасылку. Колькі яшчэ збіраліся яго лячыць, заставалася невядомым. Суцяшала тое, што жывы і на сваіх нагах, напэўна, выходзіць на вуліцу, калі спатрэбілася цёплае адзенне…

Хоць Зося была занятая справай, але краем вока заўважыла, што за акном мільгануў цень і падумала, што прыйшоў дзядзька Карп.

Чалавек патупаў на ганку, атрасаючы снег, увайшоў у сенцы, пашкрабаў па сцяне ў цемры, знайшоў клямку, дзверы адчыніліся, і на парозе ўзнік… Гардзей.

— Ораст, наш татка прыехаў! — радасна ўскрыкнула Зося і кінулася да мужа.

Ён, нібы чужы, адступіў ад яе, захінаючыся рукою, угледзеўся ў твар, быццам спрабуючы згадаць, хто такая, нарэшце зняў шапку, агаліў астрыжаную нагола галаву, стала бачна, як змарнеў ягоны твар, сказаў:

— Добрага здароўя.

— Божа мой, добра, што хоць ты вярнуўся. Я ўжо не ведала, што і думаць. Бацьку некуды звезлі, ад цябе ніякіх вестак, — разгублена сказала Зося.

— Хто звёз?

— Тыя, што раскулачваюць. Я з Орастам у тую ноч начавала ў дзядзькі, прыйшла раніцаю, а тут такі вэрхал, што за галаву схапілася. Усё лепшае вынеслі гэтыя сельсаветчыкі. Добра, што карову ды каня ў Карпа схавалі…

— Ты думаеш, што гэта яны?

— А хто ж яшчэ? Каб іх яма пазавальвала! Каб яны нашым дабром падавіліся!

— І хто ж там, у сельсавеце?

— Хапае навалачы рознай. Наш Серафім нават туды прабіўся… Марфа, гэтая лярва паскудная, каб ёй дабра не было… Хіба ты не помніш?

— Мала што помню… Прабач… Я яшчэ не вельмі здаровы. А каня таксама забралі?

— Не, каня мы схавалі ў Карпа. Ай што ж гэта я? Ты ж здарожыўся. Распранайся, зараз пакармлю цябе, — спахапілася Зося.

Гардзей павесіў паліто на крук каля парога, сеў каля стала, паглядзеў на Ораста, прыгладзіў рукою грыўку сыну, спытаў:

— Ты ўжо кніжкі чытаеш?

— Не, я цытаць не ўмею.

— Нічога, я цябе навучу, — упершыню за ўвесь час Гардзей усміхнуўся.

Зося пачала бразгаць посудам ля печы. Гардзей нервова скрывіўся, быццам кожны гук працінаў яго болем. Ён папрасіў:

— Дай мне піць.

Зося зачэрпнула кубак вады з вядра, што стаяла на лаве каля парога, паднесла мужу. Ён панюхаў, паспытаў ваду і адставіў убок. Зося здагадалася: усё яшчэ баіцца атруты. Каб разупэўніць мужа, сказала:

— Вада ў нас смачная, табе заўсёды падабалася.

— А ты можаш быць упэўненая, што яе не атруцілі? Дарэчы, дзе Пух з Валошчыкам?

— У Берасці, мусіць. Прынамсі, мне ў Крачках на вочы яны не трапляліся.

— Нічога, яшчэ трапяцца…

Зося наліла ў міску капусты, паставіла перад мужам. У другую міску паклала прасяную кашу.

— Прабач за сціплы абед, хоць заўсёды чакала цябе, але не адчула той дзень, калі ты можаш з’явіцца, — сказала яна, сапраўды шкадуючы, што не зварыла чаго смачнейшага.

Гардзей нічога не адказаў, доўга прынюхваўся да капусты і кашы, з’еў зусім мала. Потым сядзеў за сталом і доўга маўчаў.

— Хоць раскажы што-небудзь, як табе там былося? — папрасіла Зося. — Ты вельмі схуднеў. Дрэнна кармілі?

— Не пытайся, я нічога не помню, а што і помню згадваць не жадаю. Прыбяры са стала…

— Можа, табе сальца прынесці салёненькага?

— Не кажы больш пра ежу…

Зося хоць і бачыла, што Гардзею цяжка, але не магла маўчаць, душа яе поўнілася радасцю. Хацелася прытуліцца да мужа, абняць яго моцна, але не адважвалася першаю выявіць пяшчоту ды і сына саромелася. Ужо ж вялікі хлопчык, усё разумее.

— Гардзейка, табе ж абмыцца трэба з дарогі. Я дастану чыгун гарачай вады, налью ў балею.

— Налі, — азваўся муж.

Зося замітусілася, рыхтуючы яму чыстую бялізну і ручнік, ставячы балею пасярод хаты. Ораст з цікавасцю назіраў за тым, што адбывалася. Гардзей распрануўся, улез у балею ў споднiх нагавіцах, сеў, плёхнуў сабе на грудзі вады. Было відно, што яму не хочацца нават рукамі варушыць.

«Зусім знясілеў чалавек, — падумала Зося, пазіраючы на ягоную схуднелую спіну, на якой рэзка вымалёўваўся хрыбет. — Такі спраўны быў мужчына. Нічога, адкармлю яго, абы здароўе трохі наладзілася».

— Давай я табе спіну пашарую, — прапанавала Зося.

— Ну, пашаруй, — адказаў ён вяла.

— Ах ты мой вандроўнічак, зараз мы змыем з цябе стому і нягоды, — сказала Зося закасваючы рукавы.

Яна пяшчотна правяла рукою па Гардзеевай спіне і адчула як маладая колішняя жарсць напоўніла яе цела, забруілася, запульсавала ў жылах. Яна нахілілася да мужа і прашаптала яму на вуха:

— Як жа я засумавала па табе!

Ён нічога не адказаў, сядзеў абыякавы і стомлены, на твары чыталася незадаволенасць, быццам ён хацеў, каб гэтае мыццё хутчэй скончылася.

— Нічога, Гардзейка, нічога! Усе няшчасці і хваробы аднойчы мінаюць. Адкармлю я цябе — падужэеш, дык і жыццё да лепшага пераменіцца.

— Годзе мыцца. Затулі мяне якою посцілкаю, я апрануся ў чыстую бялізну.

«Бач які сарамлівы стаў! А мо ён і не здагадваецца, хто я такая? Халера яго ведае, што з ім зрабілася. Быццам падмянілі мужыка», — з крыўдаю падумала Зося і сказала, хаваючы сваё расчараванне:

— Можа, адпачнеш з дарогі? Вунь ужо і змяркаецца. Я пайду карову падаю, пакармлю свінчо і курэй, ды і ляжам спаць раней. Чаго нам дарма газу паліць?

Гардзей паглядзеў у акно і кіўнуў галавою ў знак згоды. Зося падышла да запечка, пачала слаць пасцель, Гардзей спыніў яе:

— Мне пасцялі на лаве.

— Чаму? — здзівілася Зося.

— Хлопец ужо вялікі… І мне нельга хвалявацца… Гэтак доктар сказаў…

— Добра, — з гатоўнасцю адказала Зося.

Яна паслала мужу на лаве, сыну сказала, каб лез на печ, бавіўся там і не замінаў бацьку адпачываць. Гардзей лёг на лаве. Зося накрыла яго посцілкаю, а зверху яшчэ і кажухом, сказала ласкава:

— Адпачывай, сонца маё, яшчэ нагаворымся. У нас цэлае жыццё наперадзе.

Ён заплюшчыў вочы. Потым Зося, калі ўпраўлялася па гаспадарцы і па справе забягала ў хату, усё кідала хуткія позіркі ў бок мужа, але ён адвярнуўся да сцяны і ягонага твару яна не бачыла. Душа Зосіна спявала, цвіла, радавалася вяртанню Гардзея, спадзявалася на шчаслівы працяг. Цяпер і сын будзе пры бацьку. Напэўна, ж Гардзей не паедзе больш у Берасце да той палячкі, якая так прыгрэлася каля яго, што ледзь назусім не прывязала. Зося ўявіла, як яны будуць разам сядзець доўгімі піліпаўскімі вечарамі, размаўляць, цешыцца сынам і проста па-чалавечы жыць. Каб яшчэ бацька вярнуўся ды ад Каці атрымаць хоць які ліст. Дзе яна, небарачка? Няўжо паехала ў Індыю? Ды не варта журыцца, аплакваць жывых людзей. Няхай Бог беражэ бацьку і сястру, дзе б яны ні былі. Трэба жывіцца і той радасці, якая здарылася сёння.

## 10

Неўзабаве Зося атрымала ліст ад незнаёмага чалавека. Нейкі Панас Халімонавіч Дзямчук пісаў, што Барэйша Кірыла Іпатавіч памёр па дарозе на Калыму. Рукі яе затрэсліся ад хвалявання, сэрца закалацілася, вусны скрывіліся ад плачу. Яна кінулася да Гардзей з пытаннем:

— Ці можна гэтаму верыць?

Муж прабег вачамі кароткі тэкст напісаны непісьменна і сказаў:

— Мусіць, трэба верыць. Дзякуй гэтаму чалавеку, што здагадаўся напісаць, а то б мы і не ведалі нічога.

— Божа, дзе ж ён пахаваны? Гэта ж і на магілку не сходзіш, — сказала Зося і загаласіла: — Татачка мой родненькі, навошта ж ты ад нас пайшоў, навошта пакінуў нас?

— Не плач, не палохай сына, — спыніў яе Гардзей.

— А што мне рабіць? Якой рады шукаць?

— Няма праўды на свеце. Нічога ты не знойдзеш. Не рві дарма сэрца.

— Пайду да Серафіма. Можа, ён што ведае, камітэтчык жа…

— А ты не падумала, што, можа, гэта Серафім і дапамог свайму роднаму дзядзьку Кірылу выправіцца ў свой апошні шлях?

— Серафім? За што? Мой бацька ставіўся да яго як да роднага сына!

— Гэта табе так здаецца, а ён, можа, адчуваў і разумеў усё па-іншаму. Хто ведае? Можа, яму здавалася, што абдзялілі яго, абышлі ласкаю… Адсюль крыўды і жаданне адпомсціць…

— Вось пра гэта я ў яго і спытаю…

Зося ішла да Серафіма і згадвала бацьку. То ён прыходзіў ёй на памяць лагодны за святочным сталом, то самаадданы ў працы, то разважлівы ў асяродку мужчын. Непрыемны сустрэчны вецер холадам калоў твар, забіваў дыханне. Яна размахвала рукамі, час ад часу папраўляючы хустку, ішла памужчынску шырокім крокам. Снег рыпеў пад нагамі, нібы просячы патолі. А яна думала пра тое, што жыццё раструшчыла яе сям'ю, разнесла па свеце. І тут жа папракнула сябе, што таемна радавалася, калі Каця ад'язджала ў Амерыку, а цяпер сэрца баліць за сястру і грызе дакор за сваю несправядлівасць.

Серафім і Надзя былі дома. Сустрэлі яны Зосю не надта ветліва. Серафім ніколі не выказваў да Зосі асаблівай прыязнасці, ён наогул быў чалавекам занадта замкнёным. Надзя трымала даўнюю крыўду на Кірылавых дачок за тое, што яны дрэнна ставіліся да яе, калі яна маладзенькая выйшла замуж за Серафіма, жыла ў іхняй хаце і баялася нават слова сказаць ім супраць. Цяпер яна пасталела і паразумнела і, напэўна, змагла б сябе абараніць.

Зося павіталася і спытала Серафіма:

— Скажы мне, брат, хто гэта залічыў майго бацьку ў кулакі?

— Адкуль мне ведаць? — напускаючы на сябе абыякавасць, адказаў Серафім.

— Ты ж камітэтчык.

— Там ёсць каму без мяне займацца гэтаю справаю.

— Чаму ж ты не папярэдзіў нас, што яго чакае?

— Я нічога не ведаў…

— Нявіннага чалавека паслаць на смерць! Гэта ж вялікі грэх, Серафім. Якое там у нас багацце?

— Якое багацце, пытаеш? Маю ўрадлівую зямлю дзядзькі сабе прысвоілі, а мне прыкупілі пясок! Гэта ж была мая спадчына, што ад бацькоў мне засталася! Пакрыўдзіць сірату — ці не грэх? Родныя дзядзькі Кірыла і Карп майго бацьку на катаргу адправілі, а самі трымалі мяне, як сабаку, на хлебе і вадзе, адно толькі падганялі: зрабі тое, зрабі гэта…

— Як ты можаш такое казаць? Усе ж мы працуем на гаспадарцы ад рання да змяркання! Ніхто цябе не крыўдзіў! Грэх табе!

— А з мяне колькі здзекаваліся! І спадніцу не туды павесіла, і міску не так паставіла, і не тое зварыла, і зашмат з'ела! А я ж цяжарная была, мне есці за трох хацелася! — з крыўдаю ў голасе сказала Надзя, ажно слёзы на вочы навярнуліся.

Зося паглядзела на Серафіма і Надзю, сустрэлася з іх варожымі позіркамі і сказала:

— Няўжо ты, Серафім, помсціў роднаму дзядзьку за тое, што жыў у ягонай сям'і, з адной міскі еў, разам працаваў на полі? Няўжо ж ты такі дурны?

— Гэта яшчэ трэба паглядзець, хто з нас дурнейшы, — злосна адказаў Серафім.

— Радуйся, брат, твой дзядзька памёр па дарозе на катаргу. Радуйся! Але помні, што і цябе аднойчы можа напаткаць такая ж ганьба і такая ж смерць!

Зося адчула, што вочы яе набрыняюць слязамі і рынулася да дзвярэй. Яна выйшла на мароз, на вецер, акінула позіркам белую прастору, акрэсленую чорнай сцяною лесу, што падступаў да самага агарода, выцерла слёзы і рушыла ў зваротны шлях, гнеўна думаючы пра няўдзячнасць Серафіма: «Як ён не разумее, што ў той час, калі яны вярнуліся з бежанцаў, усім было цяжка. Не было ні грошай, ні ежы, ніякага жытла. Першую зіму перабіваліся аўсом ды гарохам, што даў дзядзька Карп, вясну і лета да першага ўмалоту пратрымаліся лебядою ды шчаўем. А колькі сілы каштавала бацьку аднавіць хату,

абжыцца гаспадаркаю? І такая смерць! У дарозе, недзе пахавалі пад першым карчом! Доля мая, доля! Не ведаю, дзе магіла мамы, дзе магіла таты! Хоць бы пайшла параілася з імі, памаўчала, даравання папрасіла, магілку прыбрала б, прывяла б да яе сына, каб ведаў, дзе ляжаць ягоныя дзед з бабаю. Разнесла, развеяла нас па свеце, як насенне дзьмухаўца!»

Зося вырашыла не расказваць Гардзею пра тое, як яе сустрэў дваюрадны брат, каб не хваляваць дарма мужа. Ён і так дзень пры дні ходзіць нейкі ўнураны. Усё валіцца з ягоных з рук. Чытае Біблію, нешта запісвае, думае. Зосі і карціць пачытаць, што ён там піша, але без акуляраў яна дрэнна бачыць, а набыць іх і насіць саромеецца, нязвыкла гэта ў вёсцы. Будуць казаць, што сляпая.

На жаль, усё атрымалася не так, як таго жадала Зося.

— Што сказаў Серафім? — спытаў Гардзей, як толькі Зося пераступіла парог сваёй хаты.

— Ён нічога не ведае.

— Дзіўна… А як ён наогул паставіўся да цябе?

Зося хоць і не хацела нічога расказваць, аднак жа вырвалася ў яе, што крыўдуе брат на дзядзьку.

— Вось у гэтым уся прычына. Вырашыў адпомсціць дзядзьку! — зрабіў выснову Гардзей. — Што ж будзе і яму аднойчы адплата.

— Пра што ты, Гардзей? — устрывожана спытала Зося.

— Ні пра што. За грахі, кажу, кожнаму давядзецца адказваць.

Да Зосі падышоў Ораст, папрасіў:

— Мама, я малака хачу.

— Ах ты мой маленькі, чаму ж ты ў таты не папрасіў?

— Баяўся.

— Тата добры. Ён цябе любіць.

— Не, не любіць. Абяцаў навучыць цытаць, а ніцога не паказвае, толькі сам усё цытае і цытае.

Гардзей падхапіў сына на рукі, усміхнуўся і сказаў:

— Прабач, я зусім забыўся пра сваё абяцанне. Зараз жа будзем займацца тваёй адукацыяй.

— Цым? — перапытаў малы.

— Чым трэба. Ідзі, папі малачка, падмацуйся, і пачнём займацца, — адказаў Гардзей і правёў сына цёплым позіркам.

## 11

Гардзей адчуваў сябе блага, галава была цяжкая, звон у вушах не даваў спакою. Хоць кладліся спаць рана, ён паўночы пакутаваў ад таго, што не мог заснуць, а пасля абуджэння доўга нерухома ляжаў з заплюшчанымі вачамі. Не хацелася варушыцца, уставаць, што-небудзь рабіць па гаспадарцы. Зося ля печы з ранку грымела кухонным прычындаллем, але мужа не турбавала. Гардзеева душа хвалявалася, нечага чакала, на нешта спадзявалася, прасіла нейкага зруху і аднойчы ён наважыўся паехаць у Берасце, паглядзець, як жыве горад, як пачуваюць сябе людзі і такім чынам паспрабаваць вярнуць сябе да жыцця. Не пакідала жаданне сустрэцца з Пухам і Валошчыкам, каб спытаць у іх, за што яны яго ледзь не адправілі на той свет.

Марозным ранкам Гардзей прачнуўся яшчэ да ўзыходу сонца, пагаліўся, паснедаў, апрануў святочны гарнітур, пайшоў запрагаць каня. Зося выйшла за ім, занепакоена спытала:

— Куды ты сабраўся?

— У Берасце.

— Вазьмі мяне з сынам.

— Прастудзім малога. Бачыш, які мароз.

— А ты са сваім здароўем як паедзеш? Можа, лепш цягніком?

— Нічога, у сена закапаюся і праедуся, развеюся трохі. Заседзеўся я дома…

Зося пастаяла, паназірала за ім, спытала:

— Нанач чакаць?

— Збіраюся вярнуцца. Хіба толькі што…

— Не шукай Пуха, малю цябе, ён пры ўладзе…

— Не вучы мяне, сам ведаю, што рабіць, — раздражнёна адказаў Гардзей.

— На табе пару рублёў. Без грошай у горадзе няма чаго рабіць, а польскія грошы не бяруць.

Гардзей узяў каляровыя паперкі, разгледзеў герб з сярпом і молатам, прачытаў «Казначейский билет СССР», схаваў грошы ў кішэню, спытаў у жонкі:

— Савецкія грошы… Дзе ты іх узяла?

— Вазіла на рынак у Жабінку яйкі, масла і сыр, прадала, і вось… Едзь з Богам. Мы будзем цябе чакаць.

Яна яшчэ хацела папрасіць Гардзея, каб ён не наведваў гаспадыню, у якой жыў на кватэры, але стрымалася, баялася ўгнявіць мужа. Ён накінуў на плечы паверх паліто кажух, ухутаў ногі ў сена, тузануў за лейцы і выехаў з двара. Рахманы конь, які застаяўся ў стайні, бадзёра рушыў з месца. Ад хуткай язды Гардзей расчырванеўся, адчуў прыліў сілы, быццам да яго вярнуўся далёкі паўзабыты час маладосці. Старыя ліпы каля шляху, дзе звычайна збіралася летам моладзь на вячоркі, заінелі, стаялі, дзівосна аздобленыя белымі карункамі.

Насустрач ішла маладзіца ў квяцістай хустцы, у абшарпаным кажушку. Гардзей пазнаў Марфу, яна нешта крыкнула яму ўслед. Але ён не спыніўся, каб перакінуцца словам. Не хацелася псаваць такі прыгожы дзень. За Крачкамі пацягнуўся стары лес. Заінелыя елкі і сосны стаялі нерухома, быццам баяліся разбурыць свае дзівосныя строі са снегу і інею. Даўно Гардзей не бачыў гэтае прыгажосці, якая ачышчае душу, наталяе сэрца хараством, дае адхланне вачам. На галіне сасны заўважыў цікаўную і спрытную вавёрку. Заўсміхаўся, ціха прысвіснуў па-птушынаму, каб не напалохаць звярка, а толькі прымусіць насцярожыцца. Вавёрка ў імгненне скокнула на іншую сасну і знікла з вачэй. На снезе было мноства слядоў, птушыных і звярыных. Ды і дарога была добра ўбітая, адшліфаваная палазамі. Людзі варушацца, некуды ездзяць, нешта робяць, турбуюцца, жыццё цячэ сваёю плынню, а Гардзей быццам сышоў са шляху, разгубіўся, не ведаў, чым і як жыць. Зараз ён падумаў, як было б добра перасяліцца ў якую-небудзь пушчанскую мясцовасць, дзе тыднямі чалавека не пабачыш, і пажыць там сам-насам з лесам, з птушкамі і звярамі, завесці пасеку, вялікую гаспадарку і раптам спахапіўся, што цяпер не той час, каб працаваць на сябе, цяпер іншая дзяржава, якая вымагае працы найперш на яе.

Мінуўшы яшчэ дзве вёскі Косічы і Вычулкі, выехаў Гардзей на шырокі шлях, абапал якога цягнулася балота, дзе нават і цяпер з-пад снегу тырчалі няўклюдныя пні ад гнілых дрэў і купіны, парослыя шорсткаю асакою. Аднак і на гэтую заснежаную прастору было прыемна глядзець. Нешта ёсць у нашай прыродзе гаючае, свежае, што супакойвае і дае сілу, акрыляе душу добрымі спадзяваннямі….

Калі Гардзей пад’ехаў на кані да гарадскога рынку, каб наведаць старога знаёмага яўрэя з бойні, аказалася, што бойня замкнёна. Гардзей прывязаў каня каля чайной, а сам вырашыў прайсціся да бліжэйшай аптэкі, каб купіць валяр’янкі. Сярод гараджан часта сустракаліся вайскоўцы, нават шмат хто з цывільных людзей былі апрануты ў шынялі. Сімпатычная паненка ў пухнатым футры спынілася перад Гардзеем, усмешліва павіталася.

— Панна Эвеліна! Вачам сваім не веру! — усклікнуў ён узрадавана, пазнаўшы Мікуліну Антольку, зямлячку, якая раней працавала ў публічным доме. — Толькі цябе і згадваю з найбольшаю асалодаю, калі вяртаюся думкамі ў мінулае.

— Цяпер не Эвеліна, а таварыш Антаніна, — загадкава прашаптала яна.

— Цябе хоць як назаві, ты ўсё роўна аднолькава прыгожая, — пачаў па звычцы асыпаць яе камплiментамі Гардзей. — Дзе ты, як ты?

— Добра. Муж працуе ў аблвыканкаме, нядаўна атрымалі новую кватэру, прыемны такі дамок у раёне парку. Я таксама працую ў ціхай канцылярыі. Адно дрэнна: муж занадта раўнівы. Зверам рыкае, як на мяне хто паглядзіць, баіцца, каб які прайдзісвет не спакусіў мяне, цнатлівую, — яна звонка засмяялася, агаліўшы роўны рад белых зубоў з двума залатымі каронкамі.

— А дзе ж ты зубы згубіла?

— Гэта ж цяпер мода такая, — патлумачыла яна. — Пайду, мне на працу трэба. Выйшла трохі падыхаць. Ці ведаеш, цяжкавата мне даецца гэтая служба, паперы, пыл… Не звыкла я да гэтага…

— А што ў горадзе чуваць і наогул… Ты ж каля начальства блізка…

Антолька пацягнулася да яго вуха і прашаптала:

— Кажуць, што вайна будзе. Але калі, невядома. Некаторыя ўжо цяпер запасаюцца соллю ды запалкамі…

— А твой што кажа? — зацікаўлена спытаў Гардзей.

— Мой такі дуб! Ён нікому не верыць, толькі Сталіну. Кажа, калі і будзе вайна, дык гэта мы першыя пойдзем рабіць сусветную рэвалюцыю! Ну і няхай кажа, што хоча! Якая мне розніца, у што ён верыць, абы зарплату аддаваў! — яна зноў засмяялася.

— Малайчына, таварыш Антаніна. Шчаслівы быў бачыць, — Гардзей узмахнуў на развітанне рукою і пайшоў у аптэку.

Аптэка з прыгожымі вокнамі ў выглядзе арак, пафарбаваная ў жоўты колер, стаяла на рагу вуліцы. Псавалі фасад толькі выбоіны. У пачатку верасня трыццаць дзявятага года тут упала бомба і пасекла асколкамі сцены. Раней тут пакупнікоў абслугоўвала старая лагодная яўрэйка, цяпер працавала маладая дзяўчына з тоўстаю чорнаю касою, у белым халаце, сур’ёзная і нешматслоўная. Яна падала Гардзею маленькую пляшачку валяр’янкі. Ён павярнуўся, каб ісці, і тут яму на вочы трапіў партрэт Сталіна. Вочы правадыра падазрона глядзелі на наведвальнікаў аптэкі, быццам пыталіся: «Хто такі? Ці не вораг народа?»

Вестка пра вайну ўстрывожыла Гардзея. Калі пра яе гаворыць начальства, пэўна, яна не за гарамі. Немцы побач, за Бугам! Ён падумаў, што трэба купіць якіх газет. Пачытаць, хоць хто там праўду напіша?

З гэтымі думкамі ён забег да гаспадыні, дзе да хваробы кватараваў. Пані Ванда кінулася да яго ў абдымкі з вільготнымі пацалункамі, прыгаворваючы:

— Муй каханы! Муй каханы пшыехаў!

Ён пагладзеў у яе прыкметна пастарэлы твар, развёў пульхныя рукі, якія абшчаперылі ягоную шыю, і сказаў:

— Я прыйшоў забраць рэчы.

— Застанься нанач, — папрасіла яна. — Мне столькі трэба табе расказаць!

Ягоны позірк прабег па яе зморшчанай шыі. Ён з агідай і здзіўлена падумаў, ці не праз чараўніцтва раней прываблівала яго гэтая кабета. Узяў пад паху некалькі сваіх кніг, нешта з адзення, кіўнуў на развітанне і хутка выйшаў за дзверы. І толькі на вуліцы ўздыхнуў з палёгкай. Кінуў рэчы ў сані, сцебануў каня, праехаў па вуліцы, шукаючы дзе-якую краму, каб купіць сыну гасцінца за тых пару савецкіх рублёў, што дала Зося. Раней крамаў было процьма, цяпер ледзьве адшукаў абшарпаны будынак, на якім напісана «Магазін №3». Увайшоў у памяшканне і адразу адчуў смярдзючы пах гнілых селядцоў, гаспадарчага мыла і яшчэ нечага непрыемнага. Трое мужчын стаялі ля бочкі з іржавымі абадамі і пілі разліўное піва. Гардзей убачыў прадаўшчыцу ў брудным халаце, прабег вачамі па беднай вітрыне, дзе роўнымі шэрагамі стаялі пляшкі з гарэлкай. З цукерак убачыў толькі падушачкі, папрасіў прадаўшчыцу:

— Зважце калі-ласка дзвесце грамаў цукерак.

Жанчына неўразумела паглядзела на яго, нездаволена перапытала:

— Чаво?

— Падушачак, — Гардзей паказаў пальцам на фанерную скрынку, у якой стаялі падушачкі.

Яна кіўнула галавою, згарнула папяровы пакуначак, усыпала жменю цукерак, паклала на вагі, аддала Гардзею. Ён разлічыўся, атрымаўшы рэшту капейкамі, хацеў ужо выйсці, але заўважыў мужчынскія гарнітуры, падышоў бліжэй, агледзеў іх, неахайна пашытыя, з нейкай вузлаватай, няроўна пафарбаванай тканіны, дрэннай якасці.

— Далучайся да нас. Што ты там мацаеш? — сказаў адзін з мужчын Гардзею.

— Дзякую, другім разам, — адказаў Гардзей і выйшаў.

Пасля таго, як яго атруцілі, Гардзей быў у гэтым упэўнены, цяпер ён асцерагаўся што-небудзь піць з незнаёмымі людзьмі. Ужо сядаючы ў сані, горка падумаў: «Дарма сюды прыязджаў, толькі расчараваўся. І тых, каго хацеў пабачыць, не пабачыў. Нічога, яшчэ сустрэнемся. Бог усё бачыць і разумее. Ды і я буду за сваімі ворагамі сачыць, можа, і прыдумаю, як адпомсціць. Каб даведацца, чым мяне атруцілі, дык, мабыць, прасцей было б знайсці лекі. Ды ці ж яны прызнаюцца…»

## 12

Настала вясна з заўсёднымі хлебаробскімі клопатамі. Паступова Гардзей уцягнуўся ў працу і, здавалася, што нават хвароба адступіла, часова пакінула яго ў спакоі. Праўда, калі вельмі стамляўся, дык у вушах пачынала звінець, а сэрца ледзь не вылятала з грудзей. І яшчэ турбавала яго тое, што жывучы побач з маладою прыгожаю жонкаю, ён не адчуваў да яе цягі. Блізкасць з ёю палохала яго, як і тая атрута, якую ён, выпіўшы аднойчы, усё баяўся незнарок спажыць зноў і атруціцца насмерць. Яго наогул перасталі цікавіць жанчыны. Згадвалася толькі адна, тая, якую ён некалі бачыў у Варшаве праз агароджу. Яму здавалася, калі б яна была на месцы Зосі, напэўна, ён быў бы шчаслівы. Жонка не разумела ні яго стану, ні болю, ні думак, ні нават слоў. Яна толькі спраўна варочала чыгуны каля печы, завіхалася па гаспадарцы і ў полі і кахала яго па-свойму, але яе пачуцці яго зусім не цікавілі і не хвалявалі. Усё, што ён раней адчуваў да яе, назаўсёды засталося ў незваротным мінулым. Ён пакутаваў ад гэтага, не ведаючы, як растлумачыць такі дзіўны свой стан. Раней жа мог за ўсялякай спадніцай увівацца, карыстацца згаворлівасцю і падатлівасцю маладзіц, перажываў сапраўдную асалоду, а цяпер душа быццам здранцвела.

Калі адсеяліся, наважыўся ён з Зосяю паехаць да доктара і параіцца, як яму жыць далей. Зося засталася ў калідоры, а Гардзей пайшоў у кабінет да псіхіятра. Саромеючыся, блытаючыся, Гардзей расказаў сівому доктару пра сваё атручэнне і праблемы, якія ўзніклі ў выніку яго. Той уважліва выслухаў і сказаў:

— Атручэння магло і не быць. Нешта здарылася з вашаю псіхікаю, якая адключыла пэўны сектар мозгу, таму ў вас адпалі ўсе сексуальныя захапленні і патрэбы.

— Што ж мне рабіць?

Доктар весела пацёр далонь аб далонь, дробна засмяяўся і сказаў:

— Вы ведаеце, а мяне таксама ўжо даўнавата не цягне да жанчын. І я цалкам задаволены. Як гаворыцца, імпатэнцыя — гара з плячэй!

— Жонка ў мяне яшчэ маладая… Зрэшты, яна мне цяпер без патрэбы, думаю, што мог  бы з ёю разысціся, але ж сын расце…

— Прывядзіце да мяне сваю жонку, я ёй усё растлумачу.

— Яна тут, у калідоры чакае, — Гардзей узрадавана памкнуўся да дзвярэй.

— Паклічце, паклічце яе, — сказаў доктар. — А гэта вам рэцэпт, папіце мікстурку для супакаення нервовай сістэмы.

Гардзей узяў рэцэпт, адчыніў дзверы, паклікаў Зосю, прапусціў яе ў кабінет, а сам выйшаў у калідор. Хваляванне, сорам, дакука — усе гэтыя пачуцці змяшаліся ў ягонай душы. Аднак сяк-так супакоіўшыся, ён сеў на крэсла, якое стаяла каля дзвярэй, утаропіўся ў акно і напружана чакаў, што скажа яна, Зося, калі выйдзе з кабінета доктара. Цяпер яму згадалася тая першая сустрэча з ёю, калі ён падпаіў яе маладзенькую і наіўную. Бадай, ні адной перамогаю над жанчынамі ён не ганарыўся так, як тою! Бо і сам тады яшчэ быў зусім зялёны! Можа, за тое цяпер нясе пакаранне, што тады сарваў недаспелы яблык? Колькі гэтых яблыкаў было ім сарвана! Ды ці можа быць пакаранне за каханне? А ці было каханне? Хутчэй толькі полымя жарсці бяздумна ахоплівала душу — і тады шукаў, з кім наталіць тую невыносную прагу. Не так важна было, якая будзе дзяўчына — свая вясковая ці з публічнага дома. Ён так жыў, яму гэтае жыццё падабалася, бо забяспечвала незалежнасць, тым больш, што дома яго даглядала старэйшая сястра. Не маючы ўласнай сям’і, яна замяняла яму клапатлівую і чуйную маці. Калі б Зося не нарадзіла сына, напэўна, ён так і халасцякаваў бы да гэтага часу. Але ж, як кажуць, ад лёсу не ўцячэш.

Зося выйшла ад доктара паружавелая, ласкава і прысаромлена зірнула на Гардзея і сказала:

— Паедзем дахаты.

Яна накіравалася да выхада, Гардзей пайшоў следам. Моўчкі селі на воз. Гардзей тузануў за лейцы, развярнуўся, выехаў на правы бок вуліцы. Недзе непадалёку гарлала радыё песню пра тое, што «от избы и до избы зашагали телеграфные столбы». Рэзкія гукі раздражнялі, Гардзей злосна плюнуў у бок і пагнаў каня на Кобрынскі мост. Доўгі і няўклюдны будынак бальніцы застаўся ззаду. Толькі калі ўехалі ў Трышын, назойлівая музыка сціхла, зрабілася спакайней на душы, Гардзей насцярожана азірнуўся на Зосю. Вельмі ж карцела даведацца, што ёй сказаў доктар, і як яна паставілася да таго тлумачэння. Жонка прыглядалася да хат, міма якіх праязджалі, да кветак, што раслі ў гародчыках. Заўважыўшы на сабе Гардзееў позірк, сказала:

— Паглядзі, якія кветкі! Я такія хачу таксама завесці. Мусіць, у нашым сяле ні ў адной гаспадыні такіх няма. Якое хараство!

Гардзей адвярнуўся. Жонка пазбягала гаварыць з ім пра ягонае здароўе. Чаму? Не паверыла доктару? Ці наадварот праніклася праблемаю настолькі,

што гатова быць для мужа за маці і сястру? Быць замужам і жыць па-манаску? Гардзей уявіў тую процьму гадоў, якія яму належыць пражыць побач з гэтаю жанчынаю і раптам яму зрабілася страшна той будучыні, якая яго чакала. Ён стаў супакойваць сябе, што не трэба думаць пра благое, інакш хвароба можа вярнуцца, а ён ізноў апынецца ў псіхлячэбніцы, дзе яго будуць прывязваць да ложка і даваць уколы, ад якіх свет робіцца пачварным, а людзі выродлівымі… Хоць навокал красавала лета, была самая яго макаўка, дзень здаваўся Гардзею змрочным і бясколерным. Ягоныя думкі раптам перакрыў Зосін голас, яна ўсё яшчэ нешта казала пра кветкі:

— Каб ведаць, дзе пахаваны бацька, я на ягонай магілцы пасадзіла б розныя кветкі, каб цвілі яны з ранняй вясны да позняй восені. Гэта была б самая прыгожая магілка…

«Вось так жывём разам, спажываем разам хлеб, а мары і беды ў кожнага свае, — горка пасміхнуўся ў думках Гардзей. — Што ж нас зводзіць разам, такіх розных? Няўжо толькі інстынкты? Ці нешта высокае і неспасціжнае? Нейкая вышэйшая сіла надзяляе нас радасцямі і прымушае дорага плаціць за памылкі і грахі? Ці мо ніякай звышнатуральнасці і няма, а ёсць толькі наша сумленне, якое судзіць нас у горкую часіну. Бо пакуль усё добра, дык і жывеш, як набяжыць. А здарыцца бяда — міжвольна разважаеш: чаму гэта са мною здарылася? Чаму я такі няшчасны? Чаму лёс такі несправядлівы да мяне? А ці не сваімі ўласнымі рукамі мы ствараем гэтае няшчасце? Самі ж выбіраем сабе сяброў, якія потым ператвараюцца ў ворагаў, якія жадаюць нам смерці. Самі жэнімся Бог ведае з кім і невядома дзеля чаго. Маючы адно дзіця, ужо не хочаш мець з ёю іншых дзяцей. Ды і нічога не хочаш мець. А яна прагне прызнання ў каханні, захаплення, шчасця. Як навучыцца захапляцца жанчынай, якая з ранку і да позняга вечара ходзіць у атопках, у замызганай спадніцы ад печы ў хлеў і назад? І толькі ў свята на якую гадзінку апране чыстую сукню. А ў тваіх вачах яна па-ранейшаму не больш, чым свінарка, даярка, кухарка…» Адначасова Гардзей разумеў, што Зося ні ў чым не вінаватая, калі б ён стварыў ёй адпаведныя ўмовы жыцця, яна таксама хадзіла б, як пані ў капялюшыку з сумачкаю пад пахаю. Але ўся прычына ў тым, што і святы свае, і будні мы ствараем уласнымі рукамі. А душа яго быццам і не прагнула ніякае ўрачыстасці, бо ніяк не магла выбавіцца з хваробы.

## *Раздзел другі*

# Ліхалецце

### 1

Гардзей прачнуўся ад невыразнага гулу, падумаў, што недзе далёка разгулялася навальніца. Расплюшчыў вочы, зірнуў у акно. Было ўжо даволі светла. Ночы чэрвеньскія кароткія. Ён паляжаў, услухоўваючыся ў далёкія грымоты, потым падняўся, выйшаў у двор, паглядзеў на захад, скуль далятаў гул, убачыў, што неба там падсвечанае чырванню. «Здаецца, за ноч свет дагары нагамі перавярнуўся, — падумаў Гардзей. — Сёння сонца ўзыдзе на захадзе». Ён павярнуў галаву на ўсход, але ўбачыў, што неба і там заружовілася. Гардзей яшчэ раз паўзіраўся ў бок Берасця і раптам зразумеў: «Гэта б’е артылерыя! І занадта моцна для вучэнняў. Гэта вайна? — спытаў сам у сябе і тут убачыў, што на ўсход рухаецца ромбам зграя цяжкіх самалётаў з крыжамі на крылах. — Вайна з немцамі!»

Ад гэтай здагадкі сэрца Гардзея трывожна захвалявалася, але яму адразу згадаліся тыя вясёлыя немцы, што жылі ў папярэднюю вайну ў ягонай хаце, а на развітанне падаравалі карову. Гэта яго адразу супакоіла. Ён падумаў, што, можа, яшчэ сустрэне каго з тых ваякаў, але прыкінуўшы, што ўжо з таго часу мінула чвэрць веку, зразумеў: цяпер прыйдуць дзеці тых, хто ў пятнаццатым прыходзіў на Беларусь.

З хаты выйшла Зося, спытала, хаваючы трывогу:

— Чаго ты ўсхапіўся, яшчэ рана?

— Слухаю, што гэта гудзе.

— Ну і няхай гудзе. Мо на чыгунцы што…

— Гэта вайна, Зося.

— Вайна? — спалохана перапытала Зося. — І што ж нам рабіць? Трэба выязджаць?

— Няма куды. Самалёты з крыжамі толькі што паляцелі на ўсход. Не тая гэта вайна, ад якой можна схавацца.

— Божа, Божа, што цяпер будзе, — заламала рукі Зося, гатовая загаласіць.

— Цішэй, сына напалохаеш. Што будзе — пабачым.

Раніцай на хутар забеглі два маладзенькія салдаты, астрыжаныя нагала, без гімнасцёрак, апранутыя толькі ў сподні белыя сарочкі і кальсоны, босыя. Яны папрасілі піць і хлеба.

— Пакармі, — загадаў Гардзей Зосі. — Заходзьце, хлопцы, у хату.

— Не, дайце нам хлеба і мы пойдзем, — сказаў адзін з вадзяністымі напалоханымі вачамі.

Гардзей са спачуваннем паглядзеў у мурзатыя юныя твары і прапанаваў:

— Можа, умыецеся з дарогі?

Салдаты адмоўна пакруцілі галовамі.

— Што ў Брэсце? — спытаў Гардзей.

— Немцы занялі горад.

— Выходзіць, вайна? — спытаў Гардзей.

— Вайна…

Зося прынесла бохан хлеба і гладышку малака. Хлопцы выпілі малако нагбом, хлеб адзін узяў пад паху. І яны подбегам рушылі далей.

— Бедныя дзеці, — сказала Зося са шкадаваннем, праводзячы позіркам хлопцаў.

— Усе мы бедныя. Няма нам ні радасці, ні спакою на гэтай зямлі.

У гэты час выбухі пачуліся і на ўсходзе, мусіць, бамбілі чыгуначную станцыю ў Жабінцы.

— Ужо з усіх бакоў грыміць. Божа літасцівы, уратуй, — уздыхнула Зося, перахрысцілася і пайшла ў хату, бо ў гаспадыні заўсёды адна турбота, пакуль ёсць сям'я, трэба дбаць пра яе, каб была накормленая і дагледжаная.

У тую нядзелю Гардзей амаль цэлы дзень праседзеў на лаўцы каля весніц. Лічыў крыжастыя самалёты, што хмарамі ляцелі на ўсход, а потым вярталіся назад. Прабягалі міма чырвонаармейцы, але ўжо не спыняліся каля Гардзея, а кіраваліся ў лес, каб не быць навідавоку. Толькі адзін малады мужчына, што быў апрануты ў камандзірскую гімнасцёрку з ромбамі, папрасіў цывільную вопратку. Зося вынесла яму бацькаву даматканую сарочку і такія ж нагавіцы. Вайсковец падзякаваў, тут жа пераапрануўся, і хацеў аддаць гаспадыні вайсковую форму, але Зося адмовілася, замахала рукою, маўляў, не трэба, насіце на здароўе і сваё, і наша.

Ужо ў самым канцы дня да Гардзея падышла маладая жанчына, адразу было відно, што з гарадскіх, з падплоенымі валасамі, у светлай сукенцы з

бэзавымі кветкамі. Было з ёю двое дзетак: дзяўчынка гадоў пяці ішла, трымаючыся за прыпол маці, на руках жанчына несла немаўля. Ніякіх рэчаў у яе з сабою не было, толькі маленькая сумачка.

— Добры дзень вам. Наш цягнік разбамбілі, засталіся мы ні з чым. Дайце, калі ласка, дзецям паесці, — папрасіла яна.

— Заходзьце ў двор, — запрасіў Гардзей. — Зося, пакармі дзяцей і жанчыну, — крыкнуў ён жонцы, якая корпалася ў гародзе.

Зося выбегла насустрач гасцям, прывіталася, і павяла іх у хату, а Гардзей вярнуўся на свой назіральны пункт, як па-вайсковаму ён называў лаўку каля весніц. У Берасці ўсё яшчэ то гуло, то глуха вухкала, быццам хто малаціў молатам у дно пустой бочкі. «Напэўна, крэпасць дабіваюць», — падумаў Гардзей.

Зося, накарміўшы, правяла да весніц жанчыну з дзецьмі. Тая падзякавала гаспадыні і гаспадару за гасціннасць і спытала, ці можна спыніцца ў каго-небудзь у вёсцы на кватэры:

— Можа, якая самотная бабулька жыве? Вы не глядзіце, што я гарадская. Сама з вёскі, толькі вучылася ў горадзе, а потым замужам…

Яна недагаварыла, мусіць, баючыся, што падрабязнасці могуць нашкодзіць ёй.

— Самі бачылі, хатка ў нас маленькая, — сказала Зося. — Ідзіце ў вёску, папытайце там.

Жанчына яшчэ раз пакланілася на развітанне і пашыбавала па палявой сцежцы праз поле да Крачкаў.

— Божа, Божа, дзе ж гэтая бедная жанчына галоўку прыхіліць? — уздыхнула Зося.

— Трэба было ў сябе пакінуць, — сказаў Гардзей.

— Пакінула б, каб не была яна такая прыгожая…

Зося хітравата ўсміхнулася.

— А мне цяпер усё роўна, — абыякава адказаў Гардзей. — Табе ж доктар усё растлумачыў.

— Растлумачыў? Што ён мне мог растлумачыць, — як бы здзівілася Зося. — Ён мне толькі сказаў, што табе нельга хвалявацца, бо хвароба можа назад вярнуцца.

— Ну?

— Я даўно заўважаю, што не хвалюю цябе. Ты мне ніколі нават «кахаю» не сказаў.

— А хіба пра гэта трэба абавязкова казаць?

— Пажадана, — усміхнулася Зося.

— Вам, бабам, абы языкамі ляскаць, — незадаволена буркнуў Гардзей.

— Ты толькі не злуй і не хвалюйся. Усё ў нас будзе добра.

З двара выбег Ораст, несучы ў рукаў адламаную галіну, падсеў да бацькі, папрасіў:

— Тата, зрабі мне дудку.

— Нашто яна табе?

— Хачу граць.

— Падрасцеш, я табе гармонік куплю. Будзеш ты гарманістам на ўсю вёску.

— Не, я дудку хачу, — заўпарціўся сын, на чорныя, як у Гардзея вочы, навярнуліся слёзы.

— Добра, не плач. Які ты слязлівы, увесь у маму.

Гардзей выцягнуў з кішэні сцізорык, пачаў выразаць дудку. Зося таксама села на лаўку побач, з любасцю паглядвала на сына і мужа. Гэта была рэдкая хвіліна шчаслівага спакою, і трэба было радавацца ёй, бо ніколі не ведаеш, што прынясе заўтрашні дзень.

## 2

Зося нервавалася, чакала мужа з Крачкаў. Раніцаю прыбег солтысаў унук і загадаў гаспадару ісці на сход. Яна шкадавала, што не пайшла замест яго. Праўда, Гардзей, які апошнім часам пазбягаў розных сходаў, раптам упарта сказаў, што пойдзе ў Крачкі сам. Зося баялася, каб, крый божа, не вярнулася да яго зноў вар’яцтва, бо хто цяпер будзе яго лячыць па ваенным часе? Ужо гатовая была пакінуць гаспадарку і пайсці на пошукі мужа, як, нарэшце, ён з’явіўся сам, увайшоў у хату ўзрушана вясёлы, усмешлівы.

— Што там табе сказалі? — спытала Зося.

— Шмат чаго.

— А чаго ты такі вясёлы?

— Сказалі, што будуць такіх, як Пух, лавіць і адстрэльваць як шалёных сабак. Адплача ён крывавымі слязамі за тое, што атруціў мяне.

— Ай, Гардзей, не радуйся чужой бядзе, дык і свая, можа, не кране.

— Ты мяне не ведаеш, я яму гэтага ніколі не дарую! Ён жа мяне калекам зрабіў! Хто я такі цяпер па-твойму? Вар’ят! Дурань! Шызафрэнік! Памыляешся, галубка! Людзі ведаюць, хто пустазвон, а хто разумны чалавек! Мяне аграномам абралі!

— Аграномам? — як рэха паўтарыла Зося.

— Аграномам. Немцы мне будуць грошы плаціць. А я буду працаваць!

— Нашто табе тое аграномства з хвораю галавою? — усхвалявана спытала Зося.

— Так Бог даў. Усялякая ўлада ад Бога. І гэтая таксама. Спрабаваў я аднойчы паўстаць супраць польскай улады, ды апынуўся ў турме, пакаштаваў гумавых палак, памарнеў у цямніцы і зразумеў, што супраць сілы толькі сілаю можна ваяваць. А з голымі рукамі нічога не дасягнеш, толькі раней часу ў магілу ляжаш. Супраць саветаў, здаецца, нічога не меў, а сябры, якія ім служылі, атруцілі. А немцам паспрабую паслужыць, мо хоць яны мяне зразумеюць. А калі што, дык хто нашых людзей абароніць, калі не я?

— Здаецца мне, што ты зашмат на сябе бярэш. І што ж ты будзеш рабіць?

— Планаваць пасевы, кантраляваць пастаўкі, а, зрэшты, усё, што скажуць…

— Паабедай, адпачні ды падумай, мо табе варта адмовіцца.

— Не, не буду абедаць, няма калі, — адказаў Гардзей, трымаючыся за клямку дзвярэй.

— Куды ты?

— Павяду карову і здам немцам.

— Карову? — жахнулася Зося. — А чым жа мы дзіця будзем карміць?

— Цялушка ацеліцца.

— Дык і здай цялушку! Дадумаўся! Карову здаваць!

— Я вяртаю немцам карову, якую яны мне далі некалі! Як ты не можаш зразумець? — злосна сказаў Гардзей. — А малако для сына будзем браць у Паўліны.

— У тваёй Паўліны снегу зімою не дапросішся.

Гардзей грукнуў дзвярыма і выйшаў у сенцы. Зося спахапілася, што расхвалявалася сама і прымусіла мужа злавацца, але ж яна не ўяўляла, як можна жыць па цяперашнім часе без каровы. Яна пайшла ўслед за Гардзеем, з двара прасачыла, як ён пашыбаваў на поплаў, дзе Ораст пасвіў невялікі хутарскі статак, запыніў карову і пагнаў у Крачкі.

Зося заплакала і сказала ўголас:

— Што зробіш з гэтым вар’ятам? Давядзецца трываць. Няхай робіць, што хоча, толькі б зноў не захварэў.

Не паспела Зося аплакаць карову, як вярнуўся Гардзей, выгнаў з хлява свінню.

— Куды ты яе? — насцярожана спытала Зося.

— Я аграном, таму павінен паказаць асабісты прыклад. Здаў карову, здам свінню, няхай людзі бачаць і робяць, як я, — спакойна адказваў Гардзей.

— Ад цябе ж ніхто гэтага не патрабуе, — паспрабавала разважыць мужа Зося, — чым я цябе буду карміць зімою? Нішчымніцаю будзем давіцца?

— Мне не прывыкаць. Ведаю я і пост, і голад. Усяго пакаштаваў. Ты думаеш, калі мы сіротамі засталіся, дык раскашавалі? Тыднямі галадалі. Пакуль жыць навучыліся!

Зося стала ў весніцах і катэгарычна сказала:

— Свінню не дам! Не дам і ўсё тут!

— Зося, ты лепш мне не пярэч! Будзе па-мойму! Ты ведаеш, я за цябе дужэйшы.

Гардзей узяў жонку за плячо, зазірнуў у вочы і спытаў:

— Што табе доктар сказаў? Каб ты мяне не хвалявала. А ты што робіш?

Зося саступіла, апусціла галаву і пайшла ў хату. «Каб ты ведаў, што ў сапраўднасці мне сказаў доктар, дык так сябе не паводзіў бы, — горка падумала яна. — Як я буду жыць? Што мяне чакае наперадзе? Як гадаваць сына? Каб хоць быў жывы мой бацька, можа, Ораст браў бы прыклад з дзеда. Які сын вырасце побач з бацькам-вар’ятам? Божа літасцівы, пакараў ты мяне за мае вялікія грахі. Я вытручвала сваіх ненароджаных дзяцей, а цяпер мой атручаны муж атруціць мне ўсё маё астатняе жыццё».

Зося ўвайшла ў хату, стала на калені перад іконаю Божай Маці, якая вісела ў кутку, і доўга малілася, пакуль на душу не прыйшла палёгка.

## 3

Солтыс Баранчык вельмі здзівіўся, калі ўбачыў Гардзееў унёсак у справу ўмацавання Германіі, і спытаў узрушана:

— Што ты робіш, чалавеча?

— Тое, што патрабуе дзяржава, якой я наважыўся служыць.

— Яна ж можа падавіцца тваёю кароваю, — грэбліва пасміхнуўся солтыс, які ва ўсім ведаў меру, бо яшчэ пры Польшчы нязменна выбіраўся на гэтую пасаду і добра разумеў, колькі дзяржаве ні давай, заўсёды будзе мала.

Баранчык быў сярэдняга росту, хударлявы, з вострым позіркам глыбока пасаджаных вачэй, якія выблісквалі з-пад калматых броваў і казырка вылінялай шапкі-васьміклінкі. Ён пазіраў на Гардзея, як на неразумнае дзіця, і чакаў, што дадатковыя тлумачэнні не спатрэбяцца. Аднак было відно, што да новаспечанага агранома нічога не даходзіла, таму давялося выказвацца прамым тэкстам.

— Забірай, Гардзей, сваю карову і гані дахаты. Не смяшы людзей, — сказаў Баранчык.

— Я ж ад шчырага сэрца.

Солтыс згадаў, што ў Гардзея ад вялікага розуму нешта здарылася з галавою, таму вырашыў больш не настойваць, бо дурня вучыць — дарэмна час траціць, толькі сказаў з горкаю ўсмешкаю:

— Калі табе сваёй каровы не шкада, дык я па ёй таксама плакаць не буду.

— Дальбог, не шкада мне нічога. Я толькі хачу, каб пакаралі тых, хто атруціў мяне.

— Не хвалюйся, калі яны сапраўды цябе атруцілі, іх Бог пакарае. Паслухай, якая ў мяне праблема. Немцы ахоўваюць чыгунку і наогул раскідваюць па вёсках для парадку групы вайскоўцаў. Трэба іх рассяліць на хатах. Там такі афіцэр памаўзлівы, яму б маладзічку цёплую… Як ты думаеш, куды яго лепш падсяліць? Можа, да Марфы? Яна баба згаворлівая…

Гардзей хвіліну падумаў і адказаў:

— Думаю можна было б да Серафіма…

— Ён жа твой сваяк!

— Жонка ў яго прыемная, спакойная, пакорлівая, — патлумачыў Гардзей.

— Нешта ты недагаворваеш, хлопец, — заўважыў Баранчык.

— Калі па праўдзе сказаць табе, дзядзька Пракоп, дык Серафім быў камітэтчыкам і заслугоўвае кары як бальшавіцкі прыслужнік.

Вочы солтыса спахмурнелі, бровы ссунуліся да пераносся, і ён ціха сказаў:

— Ніколі не бяры на сябе ролю суддзі. Помніш, як у Бібліі сказана: не судзі і несудзімы будзеш. Кожны за свае грахі адкажа сам.

— Але ж Германія патрабуе, каб мы змагаліся з яўрэямі і камуністамі! — запярэчыў Гардзей.

— Серафім — не яўрэй і не камуніст. А каб і быў такі, дык хіба мы з табою маем права судзіць яго? Ты ж, помніцца мне, некалі таксама вадзіў хаўрус з камсамольцамі, у польскай турме за гэта сядзеў. Дык што з табою цяпер рабіць?

Гардзей апусціў галаву, абдумваючы пачутае, потым сказаў, нібы апраўдваючыся:

— З-за таго, што быў я камсамольцам, нікому дрэнна не стала. А з-за такіх, як Серафім, Леванюк, Марфа майго цесця вывезлі, старога, нямоглага чалавека, які нават да Сібіры не даехаў і сканаў у цягніку.

— Нікому, кажаш, не было дрэнна? А за што Маркевіча застрэлілі? Ці не з-за тых чырвоных сцягоў, што ты развешваў? Дурныя яны, Марфа, Леванюк, Серафім і іншыя, не ведалі, што рабілі. А ты не павінен у сваіх паводзінах паўтараць іх. Брудную сарочку можна памыць. Запаскуджаную душу нічым не адмыеш! Ідзі і падумай пра тое, што я табе сказаў.

Гардзей выйшаў ад Баранчыка і адчуў страшэнны боль у галаве. Падалося, што хвароба вяртаецца, ён устрывожана прыслухаўся да звону ў вушах. «Нічога, трымайся, трымайся, — падбадзёрыў ён сябе. Галоўнае — не з’ехаць з глузду. Галоўнае — трымацца за рэчаіснасць. Ён зірнуў у яснае неба, на залатыя дрэвы і на душы пасвятлела. Убачыў, як купаюцца ў дарожным пыле вераб’і і ўсміхнуўся, аднак птушынае цвыркатанне ледзьве пачуў з-за шуму ў вушах. Зноў яму згадаліся тыя, хто быў вінаваты ў ягонай хваробе, і ўзнікла жаданне адпомсціць крыўдзіцелям, але ўспомніў наказ солтыса і прыцішыў свой гнеў. Унурыўшы галаву, няспешна пайшоў дахаты, змагаючыся з тымі думкамі, якія з’яўляліся і клікалі дзейнічаць у абарону сваёй

годнасці, здароўя, аўтарытэту. Ён вымушаны быў душыць у сабе гэтыя парыванні. Яму згадалася біблейскае выслоўе: «Палюбі ворагаў сваіх». І ён вырашыў нікому не помсціць, усім даравацць і жыць у міры і ладзе з уласнай душою.

Гардзей вельмі здзівіўся, калі ўбачыў каля сваёй хаты нямецкі матацыкл. На двары, седзячы на прызбе, галасіла Зося, абдымаючы сына. Над ёю стаялі немец і паліцыянт, хлопец з суседняй вёскі, Гардзей імя яго не помніў, толькі ведаў, што гэта сын Паўлюся Ткачука.

— Што тут адбываецца? — усхвалявана спытаў Гардзей.

— Данеслі немцам, што твая жонка была камуністкаю. Прыйшлі яе арыштоўваць, — адказаў паліцыянт.

— Зося камуністка? — уражана спытаў Гардзей. — Ды гэта бессаромная хлусня!

— Напісалі, што яна збірала грошы на падтрымку камуністаў!

— Гэта мая жонка! Я працую аграномам! Спытайце ў солтыса! Толькі што я завёў карову і свінню для падтрымкі нямецкага войска!

— У нас загад, — у нерашучасці заўважыў паліцыянт.

Гардзей сам пачаў тлумачыць немцу, як мог, выкарыстоўваючы тую сотню слоў, якую вынес з маленства, што ягоная сям'я гатовая верай і праўдай служыць Германіі. Зося ўсхліпвала і туліла да сябе Ораста.

Немец згодна паківаў галавою:

— Гут, гут!

— У такім разе прашу ў хату, госці дарагія, — Гардзей гасцінна расчыніў дзверы ў сенцы. — Зося, збяры нам што-небудзь паесці.

Немец і паліцыянт адразу селі за стол. Зося мітусілася каля печы. Гардзей, наразаючы хлеб, сказаў паліцыянту:

— Ведаю, што ты Паўлюсеў сын, а як завуць не помню.

— Антон, а гэта пан Фогель.

— Рады пазнаёміцца. Скажы, Антон, хто ж гэта на Зосю такое напісаў?

— Ды ёсць тут у вас адна баба, — ухіліўся ад адказу паліцыянт.

Гардзей прынёс з каморы пляшку самагонкі, паставіў на стол. Вочы паліцыянта і немца адразу палагаднелі. Зося паднесла талеркі з нарэзанымі гуркамі і салам. У печы ўжо смажылася яечня са шкваркамі, і смачны дух разносіўся па хаце.

— Дык што за баба такая? — зноў спытаў Гардзей.

— Марфа.

— Марфа? — перапытаў Гардзей. — Што ж ёй трэба ад нас?

— А хто гэтых макрахвостых разбярэ, што ім трэба? Грызуцца як сабакі, самі не ведаюць за што, — адказаў паліцыянт, наліваючы чаркі. — Будзьма здаровыя.

Немец і Гардзей таксама паднялі свае чаркі і выпілі.

— Закусвайце, госці дарагія, — запрасіў гаспадар.

Немец падчапіў відэльцам сала, пачаў са смакам есці. Паліцыянт сквапна жаваў на дзве шчакі, а Гардзей пакутліва думаў: «Вось і жыві тут у міры і згодзе! Як можна даравацць такое? Спазніся я на хоць трохі — і звезлі б маю жонку разам з сынам. Не ведаў бы, дзе шукаць? Іх жа маглі расстраляць! Гэтага Марфе не дарую! Яна мне крывавымі слязьмі адплача за сваю подласць. Няўжо разлічвае, што вазьму яе замуж, калі нешта з Зосяю здарыцца? Ці ёй на радасць — мая бяда? Паскуда! Пачакай! Ты ў мяне атрымаеш…»

У душы Гардзея закіпаў гнеў, ён і не спрабаваў яго тушыць. Не, ён не святы, каб даравацць такое. Забралі здароўе, а цяпер да сям'і падбіраюцца.

## 4

Прамінула колькі тыдняў, і Гардзей быццам забыўся на сваю крыўду на Марфу. У ваганнях — помсціць ці даравацъ, ён схіляўся да думкі, што, можа, не варта браць грэх на душу. Няхай тая Марфа задушыцца ад злосці, пэўна, яна сама сябе пакарала, калі носіць у душы столькі злосці, што гатовая знішчыць ягоную жонку і дзіця. Але жыццё як бы знарок выштурхоўвала яго на шлях помсты. Аднойчы Зося прыйшла з Крачкаў і сказала, што Марк вярнуўся. Гэтая навіна шчыра парадавала Гардзея. Чалавек вярнуўся з Поўначы, лічы, з таго свету. Ён неадкладна сабраўся і пайшоў наведаць былога суседа. Марка ён застаў дома і не адразу пазнаў. За два гады той ператварыўся ў старога дзеда, высах на трэску, запалыя вочы глядзелі насцярожана.

— Здароў, Марк, — Гардзей радасна пацiснуў руку гаспадара.

— Здароў, — вяла азваўся Марк. -— Сядай, расказвай. Ты, кажуць, у начальства выбіўся.

— Ды якое там начальства? Аграном і толькі… Ніхто не хацеў ісці на гэтую пасаду, баяліся адказнасці…

Марк скруціў самакрутку, закурыў, закашляўся, раздражнёна прабурчаў:

— Каб цябе халера…

— Кідаў бы гэтае курыва.

— Прывык, не магу кінуць.

— Раскажы, як табе ўдалося ўцячы. Зосін бацька памёр у дарозе, не даехаў нават да месца прызначэння.

Марк уздыхнуў, памаўчаў, пазіраючы на чырвоны агеньчык цыгарэты, потым сказаў:

— Хіба раскажаш? Гэта трэба пережыць, адчуць. Спаць у снезе, галадаць і працаваць пад дажджом на паўночным ветры, калі, здаецца, і душа ў цябе вымерзла… Не, браце, лепш не згадваць… Мінула, і дзякаваць богу…

— Як жа ты ўцёк?

— Як пачалася эвакуацыя, зэкаў таксама вывозілі. Удалося нам выдраць дошку ў падлозе вагона. І ноччу ў час стаянкі збегла нас чалавек дванаццаць. Прайшоў пешкі мо кіламетраў тысячу. Думаў не дайду, але ёсць Бог на свеце…

— Малайчына ты, Марк. Галоўнае, што дайшоў.

— А што тут у нас?

— Нічога пакуль, жыць можна. Але трэба плаціць падаткі. Так што рыхтуй свінню або карову. Нямецкі салдат не можа галадаць.

Марк злосна зірнуў на Гардзея:

— Нічога не дам!

— Тады цябе расстраляюць!

— Вось трапілі ў нерат… — сказаў Марк. — Напэўна, хутка анямечваць пачнуць?

— Прызнаюся табе шчыра, хоць немцы і прыйшлі надоўга, але наўрад ці прынясуць яны нам шчасце, — вось над чым я думаю. — Ды што немцы? Свае душу дастануць…

— Ды ўжо ж… Саветы проста вывозілі. А гэтыя знішчаюць без лішніх размоў.

— Ведаеш, каб дзе сустрэў Пуха, задушыў бы, і рука не здрыганулася б! За што ён мяне атруціў? Я малады і здаровы мужчына штодня адчуваю сябе старым і нямоглым. І ўсё праз яго!

Марк насцярожана зірнуў на Гардзея, як бы нешта ўзважваючы.

— Ты разумееш мяне? Я ўжо не мужчына, душою я стары дзед! Душэўна хворы чалавек! Разумееш? — гарачыўся Гардзей.

— Ты сапраўды хочаш яму адпомсціць?

— А як бы ты адчуваў сябе на маім месцы? Уяві, што прыходзіць нейкі злыдзень, дае табе выпіць атруту — і ты ператвараешся ў жывёлу, няздатную самастойна ні жыць, ні разважаць. Свет навокал напаўняецца пачварамі, якія нараджае твой мозг, а ты бачыш іх, быццам у сапраўднасці!

— Няўжо ён мог гэта зрабіць?

— Зрабіў, зрабіў…

— А Пух таксама вярнуўся, — раптам нечакана для сябе самога сказаў Марк.

Гардзей ажно падскочыў з лавы.

— Вярнуўся? А дзе ж ён?

— Кажуць, хаваецца. Спрабаваў збегчы разам з саветамі, але недзе пад Магілёвам трапіў у акружэнне і мусіў вяртацца дамоў.

— Адкуль ты ведаеш? — узбуджана спытаў Гардзей.

— Яго баба маёй пахвалілася. Не ўтрымала язык за зубамі.

«Пух вярнуўся, Пух вярнуўся!» — білася ў скронях. — Галоўны вораг, які падкасіў здароўе, які знішчыў ува мне мужчыну, жыве побач не адпомшчаны. А ў мяне ёсць магчымасць знішчыць яго нават не сваімі рукамі, а з дапамогаю немцаў. Знішчыць… Ці хачу я ягонай смерці? Проста мне трэба напалохаць яго, каб ён перажыў тыя ж пакуты, што і я, атруціць яго існаванне, як ён атруціў маё жыццё».

Марк яшчэ нешта казаў, але Гардзей ужо няздатны быў яго слухаць, жаданне помсты апанавала ягоную душу. На паўслове ён спыніў гаспадара, развітаўся і заспяшаўся дахаты. Дома сеў за стол і склаў спіс на савецкіх работнікаў і актывістаў, у які трапілі ў першую чаргу: Яўсей Пух, Марфа Хвясюк, Серафім Барэйша, тыя, хто непасрэдна прыносілі зло ягонай сям'і. Гардзея апанавала жаданне дзейнічаць, і ён вырашыў неадкладна завезці спіс у Жабінку і здаць у паліцыю.

Зося падсела да стала і спытала:

— Што ты ўсё пішаш ды пішаш?

— А табе што?

Гардзей хоць і ведаў, што жонка блізарукая, але на ўсялякі выпадак прыкрыў паперу рукою.

— Разумееш, Гардзей, не дае мне спакою тое, што аднойчы наш сын вырасце і прачытае ў дакументах, што нарадзіўся ён раней, чым мы з табою пажаніліся.

— Ну і што?

— Нядобра гэта. Зараз можна атрымаць новыя дакументы. Давай зробім Арасту новае пасведчанне аб нараджэнні. Зробім яго трошкі маладзейшым. Што тыя некалькі месяцаў азначаюць? А для нас гэта важна. Мы распісаліся ў лістападзе, а дзень нараджэння давай зробім яму хоць бы праз сем месяцаў, быццам ён сямімесячны нарадзіўся.

— Ад каго ты хочаш схаваць праўду? Ад сябе? Людзі ўсё ведаюць…

— У людзей кароткая памяць. Я хачу, каб у нас была прыстойная сям'я ва ўсіх адносінах. Каб ні дзеці, ні ўнукі не сумняваліся ў нашым каханні, — з запалам сказала Зося.

— Добра, — паабяцаў Гардзей. — Трэба з'ездзіць у Гэбітскамісарыят, а можа, і ў Жабінкаўскі пастарунак. Сёння ж і паеду.

— Гардзей, калі ты гэта зробіш, я буду проста шчаслівая.

— Не думаў я, што ты такая ганарліўка. Цяпер разумею, чаму тапіцца бегала…

У той жа дзень Гардзей паехаў у пастарунак. Першы паліцай, якога сустрэў Гардзей, быў той самы Антон, які прыязджаў арыштоўваць Зосю.

— Паглядзі, я тут склаў спіс актывістаў, — сказаў Гардзей, разгортваючы перад хлопцам паперу.

Антон прабег вачамі прозвішчы і сказаў:

— Ты разумееш, што робіш? Іх жа ўсіх расстраляюць.

Гардзея нібы абдалі варам, ён адчуў, як твар пачаў гарэць, усё цела абліла гарачая хваля. У галаве ўсчаўся страшэнны шум. Яму падалося, што зноў хвароба бярэ над ім верх. Ён выхапіў з рук Антона паперу, скамечыў яе, павярнуўся і подбегам кінуўся да выхада, уваліўся ў вазок, сцебануў без жалю каня. Трэба было хутчэй дабіцца дамоў, каб там супакоіцца і прыйсці да розуму. Калі хвароба завалодае ім у дарозе, дык гэта будзе азначаць самагубства, яна пакіруе як захоча, адключыць свядомасць. У такім стане, крый божа, нарвешся на якога немца, дык без ваганняў расстраляе, як шалёнага сабаку. Гардзей не хацеў бязглузда паміраць, ён быў перакананы, што заслугоўвае добрага і доўгага жыцця.

## 5

Тыдні два Гардзей адлежваўся пасля ўзрушэння, перажытага ў Жабінцы. Ва ўсім целе пасялілася млявасць і слабасць, балела галава. Удзень хіліла да сну, а ўначы ён пакутаваў ад бяссоння, згадваў мінулае, даўно пражытае і перажытае, думаў пра наступнае. У начны час сілы быццам вярталіся да яго, ён гатовы быў устаць і ісці шукаць Пуха ў пуні, на вышках, ці дзе ён там хаваецца, трэсці яго за грудкі і патрабаваць прызнання, чым ён яго атруціў, мо дактары знайшлі б супрацьяддзе. Зрэшты, Гардзей і разлічваў на тое, што Пуха будуць судзіць толькі за спробу атручвання чалавека. Гэта ж справа крымінальная. Добра было б даведацца, з якою мэтаю ён гэта зрабіў? Што кіравала ім? Гардзей уяўляў суд, дзе за кратамі сядзіць паніклы Пух у сваім міліцэйскім фрэнчы, а суддзя пытаецца ў яго: «Ці прызнаеш ты сябе вінаватым у атручэнні Гардзея Рахубы?» — І Пух адказвае: «Так, вінаваты. І вельмі шкадую, што так здарылася». «Шкадаваць мала, трэба адказваць за сваю віну, — кажа суддзя. — Давядзецца табе пасядзець у турме дзесяць гадоў». Менавіта дзесяць гадоў прызначаў Гардзей Пуху за ягонае злачынства, падсвядома спадзеючыся, што за такі тэрмін прыцішацца і ягоная хвароба, і ягоная нянавісць да злачынцы. Аднойчы ён узяў свой спіс і насупраць кожнага прозвішча напісаў віну чалавека, хто быў сельсаветчыкам, хто хаваў параненага чырвонаармейца і зброю. А насупраць Пуха пазначыў, што той працаваў следчым і атруціў яго, Рахубу Гардзея, невядомым рэчывам. Гэта прывяло апошняга да цяжкай псіхічнай хваробы. Аднак псіхічную хваробу ён выкрасліў, каб немцы не прынялі заяўніка за вар’ята.

Як толькі Гардзей адчуў сябе трохі лепш, адразу ж зноў паехаў у Жабінку. На гэты раз ён паспрабаваў аддаць свой спіс немцу, але той грэбліва зірнуў на просьбіта і нават не стаў браць пакамечаную паперу ў рукі, буркнуў нешта неўразумелае і выставіў Гардзея з кабінета кароткім: «Вэк!»

Ды на гэты раз Гардзей вырашыў дзейнічаць больш рашуча. Бо адчуваў, што яшчэ раз не адважыцца на гэтую рызыкоўную справу. Гардзей пайшоў проста да начальніка паліцыі, які сядзеў у пракураным кабінеце, смаліў цыгарку, рэдкія валасы прыліплі да потнага лба. У пакоі было душна і смуродна. Гардзей павітаўся, працягнуў спіс і сказаў:

— Гэта спіс савецкіх актывістаў Сцяблоўскай воласці.

— Ага! Добра! Давай сюды! Хутка мы з імі разбяромся! А ты хто такі і адкуль?

— З Крачкаў, працую аграномам.

— Малайчына! Адзначым за службу! Германія высока цэніць адданых людзей.

— Вы ж разумееце, яны мае аднавяскоўцы. Я не хачу, каб з імі нешта здарылася благое. Проста трэба заняцца іхнім перавыхаваннем.

— Не хвалюйся, немцы ўмеюць перавыхоўваць выдатна!

— А ты мяне не ведаў раней? — спытаў начальнік паліцыі з самазадаволенай усмешкай. Я ж быў асаднікам…

— Асаднікаў было шмат…

— Шмат, шмат! Я адзін такі! Дольскі! — раздражнёна сказаў гаспадар кабінета.

— Вельмі прыемна пазнаёміцца, — стрымана адказаў Гардзей, баючыся нарвацца на нечаканую непрыемнасць і адступаючы да парога. — Я пайду з вашага дазволу. Бывайце здаровы…

Гардзей выслізнуў за дзверы, не чакаючы адказу, адчуваючы палёгку на душы, быццам цяжар зваліўся з плячэй. Ён адпомсціць сваім крыўдзіцелям. Спі спакойна, Кірыла Іпацьевіч Барэйша, ты адпомшчаны. Серафім, Марфа і іншыя сельсаветчыкі, якія ўнеслі цябе ў спіс кулакоў, адкажуць за тваю заўчасную смерць перад справядліваю нямецкаю ўладаю. Трымайся і ты, Пух. Цябе знойдуць, дзе б ты ні хаваўся! Ты ўжо цяпер жывеш у страху, ці тое яшчэ будзе, калі цябе схопяць і кінуць у турму, а потым будуць справядліва судзіць! Напэўна, ты атруціў не аднаго мяне…

Воз паволі цягнуўся па мокрай дарозе. Позняя восень размотвала сувоі хмар, засцілала неба, як бы ратуючы зямлю ад холаду, але сама гэты холад і нараджала. Так і людзі, як бы ратуючы душу ад гвалту, самі чыняць гэты гвалт і не разумеюць, што робяць. Дзе ж набрацца мудрасці, разважлівасці, розуму, а можа, трэба слухацца свайго сэрца і толькі яму падпарадкоўвацца. У глыбокім задуменні Гардзей і не заўважыў, што конь ягоны, які да гэтага ледзьве сунуўся, зусім спыніўся, а перад ім узнік патруль з аўтаматам наперавес і запатрабаваў:

— Аўсвайс!

Гардзей дастаў з нагруднай кішэні пасведчанне агранома з гербавай нямецкай пячаткаю. Патруль пачытаў, сказаўшы: «Гут! Гут!» — загадаў Гардзею ехаць управа, у процілеглы бок ад Крачкаў.

«Што гэтаму немцу растлумачыш? — злосна падумаў Гардзей, разварочваючы каня. — Прыйшлі на нашу галаву новыя гаспадары!» І раптам ён убачыў краем вока, што ўдалечыні на краі насыпу ў радочак стаялі людзі. А насупраць іх некалькі нямецкіх аўтаматчыкаў. На дарозе чакалі дзве грузавыя машыны і легкавік. Заўважыўшы Гардзееву цікаўнасць, патруль злосна крыкнуў:

— Шнэль!

Гардзей сцебануў каня. Той ад нечаканасці тузануўся ўперад, пайшоў подбегам. У гэты час прагучалі аўтаматныя чэргі. Гардзей азірнуўся. Людзей, што стаялі на краёчку ямы, ужо не было. Засталіся толькі аўтаматчыкі. Па спіне Гардзея прабеглі дрыжыкі, быццам гэта яго самога кінулі ў яму, прашытага аўтаматнаю чаргой. Ён нават адчуў пах халоднай настылай восеньскай зямлі. Раптам выплылі ў памяці словы паліцая Антона: «Іх расстраляюць». І ўявілася, што ў яме ўжо ляжаць Пух, Серафім, Марфа. Зрабілася жудасна. Ён сказаў сабе: «Гэтага не можа быць. Я ж толькі аддаў спіс. Хацеў, каб толькі

пастрашылі… Гэта пабілі яўрэяў». Нейкі чужы голас раптам спытаў: «А іх забіваць можна?» — «Нікога не трэба забіваць, Госпадзі!» — закрычаў Гардзей, як бы апраўдваючыся. — «Тады ідзі і забяры назад свой спіс», — сказаў той жа голас. — «Я не магу, яны вінаватыя! Вінаватыя! Вінаватыя! Яны грэшнікі!» — «А ты?»

Гардзей узняў угору вочы, адкуль прылятаў голас, убачыў над сабою калматыя хмары і раптам зразумеў, што хвароба зноў бярэ яго ў абцугі. Шум у вушах, няпэўнасць, знясіленасць апанавалі ягонае цела. Яшчэ імгненне — і, здавалася, ён страціць прытомнасць, а далей невядома што чакае яго, мо тая самая яма, якая толькі што праглынула радочак бязвольных людзей, якія так пакорліва і маўкліва стаялі і чакалі сваёй смерці. Гардзей раз'юшана пачаў біць каня і крычаць:

— Хутчэй! Хутчэй! Дамоў! Чаго валачэшся, як нежывы? Воўчае мяса…

Конь тузануў вазок і шпарка пабег па няроўнай падмерзлай дарозе.

## 6

Прамінула два месяцы. Гардзей зусім супакоіўся, бо нікога з тых людзей, каго ён унёс у свой спіс, не арыштавалі, хоць часам і мільгала з'едлівая думка: святыя яны, ці што? Напэўна, начальнік паліцыі некуды закінуў той спіс. І хай! Ці ж Гардзей жадае смерці сваім аднавяскоўцам? Ён толькі хацеў, каб іх трохі настрашылі немцы. Гэта ж трэба было так здзічэць, каб сваіх людзей без жалю запісваць у кулакі і па сутнасці асуджаць іх на пагібель разам з дзецьмі і ўнукамі!.. А як тут можна спакойна жыць? Пакуль ён здатны нешта помніць, будзе жыць крыўда на таго, хто забраў у яго здароўе, хоць Гардзей і Біблію чытаў, і супакойваў сябе, і пераконваў, што трэба дараваць людзям іхнюю подласць. Здаралася, што і забываўся пра ўсё, заняты аграномскімі справамі і разлікамі, колькі жыта і жывёлы павінна здаць вёска. Як сабраць падаткі з людзей, каб нікога не пакрыўдзіць, бо ёсць сем'і шматдзетныя, дзе па ваенным часе людзі галадаюць. Забіраць у іх апошняе не падымаецца рука. Глыбокую Гардзееву задуменнасць парушыла Серафімава Надзя. Яна ўбегла ў хату ў расшпіленым кажушку, задыханая, загаласіла:

— Ратуй, Гардзей, Серафіма забралі!

— Хто забраў? — спытаў, быццам нічога не разумеючы, Гардзей.

— Паліцаі і немцы з бляхамі на грудзях… Жандармерыя ці што…

— Шкода… Але што я магу зрабіць?

— Як што? Ты ж у немцаў служыш! Ідзі і скажы ім, што Серафім ніколі мухі не пакрыўдзіў.

— Уяві сабе, Надзя, я пайду і скажу, выпусціце майго сваяка. Ён добры чалавек. А заўтра прыйдзе нехта іншы і скажа, што Серафім быў камітэтчыкам. І мяне за хлусню да сцяны паставяць разам з тваім мужыком.

Прыгожы Надзін тварык пакутліва скрывіўся, вялікія сінія вочы напоўніліся слязьмі, яна прашаптала:

— Божачкі, што ж мне рабіць? І Эрых паехаў некуды на цэлы тыдзень…

— Які Эрых? — зацікаўлена спытаў Гардзей.

— Афіцэр нямецкі, што ў нас кватаруе…

— Вось яго і папрасі, як вернецца, — параіў Гардзей.

Зося, якая да гэтага моўчкі сядзела на запечку, раптам саскочыла, як курыца з седала, замахала доўгімі рукамі, крычучы:

— Бач ты на яе! Прыйшла дапамогі шукаць! А ты помніш, што сказаў Серафім, калі я хадзіла пытацца, хто майго бацьку ў кулакі запісаў? Помніш?

Роднага дзядзьку, старога чалавека са свету зжылі, што я не магу нават на ягоную магілу пайсці! Ён вас у сваёй хаце прытуліў, хлебам карміў, дапамог сваё жытло здабыць А вы яго — на смерць!

— Серафім сапраўды нічога не ведаў! — слаба баранілася Надзя.

— Ты ведаеш, што Гардзей хварэе? Яму нельга нервавацца! Самі награшылі, самі і замольвайце свае грахі! Прэч з хаты!

Надзя спалохана і бездапаможна адступіла да парога, коратка ўсхліпнула і выбегла з хаты.

Вусны Гардзея нервова тузануліся, ён прайшоўся да парога, паглядзеў у акно, праводзячы позіркам зграбную Надзіну постаць, якая спяшалася дамоў па вузкай сцежцы, пракладзенай паміж гурбаў снегу.

— Чаго ты на яе напусцілася? — упікнуў ён жонку.

— Чаго? Чаго? Няхай не ходзіць тут лярва бальшавіцкая і не псуе настрой добрым людзям.

— Трэба ж ёй некуды ісці. Без мужыка сялянцы не выжыць, сама ведаеш. Вось і бяжыць яна, каб якой рады пашукаць. Да таго ж там таксама сын расце. І не чужая яна нам…

— Табе ўсялякая баба амаль родзічка, — пасмейваючыся адказала Зося, каб не пакрыўдзіць мужа.

— Зрэшты, так яно і ёсць. Ніколі не ведаеш, з якою наканавана век векаваць.

Зося насцярожана зірнула на сына, які бавіўся на запечку клубкамі нітак, і ціха спытала:

— Гардзей, ці ты адчуваеш што-небудзь яшчэ да мяне?

— Адчуваю. Яшчэ і як…

— Чаму ж ніколі не кажаш пра гэта…

— А навошта? Само сабой усё зразумела…

— Ты памыляешся. У каханне, як у вогнішча, увесь час трэба падкладваць паленцы шчырых і захопленых слоў, каб не патухла…

Гардзею падалося, што Зося мае на ўвазе не толькі словы, а і тое галоўнае, чаго не хапае ў іхнім сямейным жыцці. Ад бяссілля і крыўды на ўвесь свет ён закрычаў:

— Пакінь мяне! Знайдзі сабе іншага, хто будзе табе плесці лапці слоў і спаць з табою на запечку! Я стары і хворы! Пакінь мяне! Я не хачу жыць!

Ораст напружана заглядваў у твары бацькоў, хныкаў з перапуду. Зося кінулася да мужа абняла, стала супакойваць:

— Не трэба нервавацца! Я прашу цябе! Мне нічога і нікога не трэба! У нас жа сын! Мы цудоўна жывём! Усё ў нас будзе выдатна!

Гардзей скінуў з плячэй жончыны рукі. Сеў за стол, звесіў галаву, думаючы пра тое, што вось і пачаліся арышты. Што цяпер чакае Серафіма і іншых? Захавай ім, Божа, жыцці…

## 7

Надзя з нецярплівасцю чакала Эрыха. І калі яго легкавушка спынілася ля весніц, яна радасна кінулася да акна, каб упэўніцца, што гэта ён. Убачыла яго, высокага, стройнага, маладога, і радасна замітусілася каля печы. Да ягонага прыезду яна падрыхтавалася добра: засмажыла вялікі кавалак мяса, згатавала наварысты суп з грыбамі, напякла naліснікаў, склала ў гаршчочак, заліла смятанай і паставіла ў печ, каб былі цёплыя, зварыла густую прасяную кашу, а таксама журавінавы кісель, які так любіў Эрых. Нават сына завяла да брата, каб не замінаў.

Кватарант з усмешкаю увайшоў у хату, павітаўся па-нямецку. Надзя адказала яму і адразу пачала ставіць ежу на стол. Пакуль Эрых здымаў шынель і мыў рукі, абед ужо чакаў яго на стале, вылучаючы апетытныя пахі. Ён удзячна ўсміхнуўся, сеў за стол і пачаў няспешна есці. Надзя выйшла з хаты, каб не замінаць яму, падалася ў пуню, падгрэбла салому і занесла абярэмак, падаслала пад карову, са скрухаю думаючы пра тое, як папрасіць Эрыха заступіцца за Серафіма. Кватарант жа нічога не разумее па-нашаму. Яна шчыра шкадавала мужа. Казала ж яму: «Не прыся ў начальства. Які з цябе начальнік?» А ён, мяккацелы, апраўдваўся: «Людзі выбралі, не мог адмовіцца». А яшчэ яна вельмі баялася застацца ўдавою, бо ведала — не пацягне сама мужчынскую працу. А як сына гадаваць без бацькі? Бяда! Кругом адна бяда! Ад гэтых думак першая скрушная зморшчынка легла ўпоперак яе лба.

Калі яна вярнулася ў хату, каб прыбраць посуд, Эрых усё яшчэ сядзеў за сталом, але не еў, а курыў тоненькую духмяную цыгарэту.

— Можна прыбраць са стала? — спытала Надзя.

— Найн, — адказаў Эрых. — Зітцен зі біттэ!

Ён запрасіў Надзю сесці да стала, і яна паслухмяна прымасцілася на ўскрайку ўслона.

— Эссэн, біттэ, — прапанаваў ён.

— Дзякую, пан афіцэр, мне не хочацца, — адказала Надзя.

Яна не магла сабе нават уявіць, што адважыцца есці пры гэтым далікатным і прыгожым маладым чалавеку. Эрых устаў з-за стала, дастаў са свайго партфеля, у якім трымаў нейкія паперы, маленькую пляскатую пляшку з каньяком, паставіў на стол. Надзя дастала з судніка чарку. Працерла чыстым ручніком, паднесла Эрыху.

— Цвай, біттэ, — Эрых паказаў два пальцы, патрабуючы дзве чаркі.

Надзя паставіла на стол яшчэ адну чарку. Эрых напоўніў іх, адну падняў, абвясціў тост:

— Цум воле!

Надзя ў нерашучасці глядзела на чарку.

— Біттэ, біттэ! — прыспешваў кватарант.

«Ну і вып'ю, смялей буду, — адчайна падумала Надзя. — І раскажу яму пра сваю бяду. Можа, зразумее і дапаможа?»

Сарамліва, дрыготкаю ад хвалявання рукою яна ўзяла чарку і выпіла пітво адным глытком. Скрывілася, выцерла рот даланёю і ўтаропілася ў кватаранта пакутлівым позіркам. А ён разглядваў яе, быццам вывучаў твар. Надзя адчула, як ад выпітага каньяку прыемнае цяпло разлілося па целе, а разам з ім прыйшла ўпэўненасць.

— Пан афіцэр, бяда ў мяне, — сказала яна. — Серафіма арыштавалі. — Дапамажыце, пан афіцэр, на вас адна надзея.

Надзя са здзіўленнем убачыла разуменне ў ягоных вачах. «Ён жа не разумеў па-нашаму! — падумала яна. — А тут ківае галавою, здаецца, нават спачувае».

— Серафім — чалавек бяскрыўдны. Нікому нічога благога не зрабіў. Выбралі людзі ў сялянскі камітэт, а ён не здолеў адмовіцца. Вы разумееце мяне? Якая ж тут віна? Дапамажыце, пан афіцэр. Прападу я адна! Прападу, — Надзя ціха заплакала.

— Не трэба плакаць, — раптам сказаў афіцэр па-руску.

— Вы разумееце па-нашаму? — узрадавана спытала Надзя.

— Мае бацькі з тых абруселых немцаў, якія вымушаны былі ўцякаць з Расіі на сваю гістарычную радзіму пасля перавароту тысяча дзевяцьсот сямнаццатага года. Хто забраў твайго мужа?

— Два чалавекі з паліцыі і адзін быў з жандараў…

— Я абслугоўваю чыгунку, далёкі ад паліцыі і жандармерыі, але ёсць у мяне адзін добры знаёмы афіцэр. Давай вып'ем за поспех нашай справы.

— Дзякую, пан афіцэр. Не п'ю я, выпіла для смеласці. З мяне і той чаркі хапіла, п'яная ўжо. Піце, закусвайце, на здароўе. Сам Бог вас паслаў сюды…

— Бадай, — згодна кіўнуў галавою Эрых.

Ён усміхнуўся так шчыра, што ў Надзі ажно сэрца закалацілася ад хвалявання і захаплення. Які ж прыгожы ў яго твар, чысты, паружавелы з марозу, і валасы светлыя, хвалістыя. Адна пасмачка гарэзліва ўпала на лоб.

— Я вось усё думаю, як у такой глухамані, у сялянскай сям'і магла нарадзіцца жанчына з аблíччам сікстынскай мадонны? Неверагодна! Табе б хадзіць у багатых строях, красавацца на балях! Чаму ж такое несправядлівае жыццё! Давай вып'ем за цябе, за тваё хараство. Ніколі я не сустракаў жанчыны прыгажэйшай, чым ты, мілая сялянка!

Эрых разглядваў яе твар у захапленні, дакрануўся рукою да шчакі. Надзя не адважылася адвесці яе.

— Гатовы памерці за адзін твой пацалунак, — сказаў Эрых, хілячыся да яе.

— Што вы, пан афіцэр, — спалохалася Надзя. — Вы такі адукаваны, прыгожы. — А я цёмная, забітая баба. Да таго ж замужняя… Грэх гэта…

— Палюбі бліжняга, як самога сябе — заклікае Біблія. — Чаму ж ты не любіш мяне?

Эрых напоўніў чаркі і сказаў:

— Вып'ем за нас, за нашу нечаканую сустрэчу. Страшна падумаць, што я мог бы не ведаць, што ты ёсць на свеце. У нас такое кароткае жыццё, якое можа абарвацца ва ўсялякі момант. Забудзем пра мінулае, будзем жыць толькі ў цяперашнім часе.

Надзя выпіла і адчула лёгкі хмель. Хутка на стале з'явілася яшчэ адна пляшачка, потым яшчэ адна. Яны цэлы вечар размаўлялі. Эрых распытваў пра яе жыццё. І Надзя расказала, як пасвіла статак, як спадабалася дваюраднай Серафімавай сястры і тая пасватала яе за свайго брата. Хлопец Надзі не спадабаўся, але яна не хацела далей жыць пад адным дахам з братавой і згадзілася пайсці замуж. А ў выніку трапіла яшчэ ў большае пекла. Бо давялося пакутаваць пад назіркам вечна незадаволеных Серафімавых дваюрадных сясцёр.

Эрых слухаў, усміхаўся, часам смяяўся. Калі заўважыў, што яна зусім захмялелая хіліцца да сну, падняў яе на рукі і, цалуючы, панёс да сябе на ложак:

— Ах ты мая цудоўная пастушка! Я люблю цябе! Люблю!

Упершыню мужчына прызнаваўся Надзі ў каханні. Ніколі такіх слоў не чула яна ад Серафіма. Ёй і ў галаву не прыходзіла размаўляць з мужам пра каханне, проста жылі разам, вялі гаспадарку, гадавалі сына. Яна раптам адчула да гэтага маладога немца неверагодную пяшчоту, прыгладзіла яго хвалістыя светлыя валасы. Ён пацалаваў яе далонь і прытуліў да грудзей, потым знайшоў вусны і доўга не мог адарвацца, п'ючы з іх асалоду. Ягоная любасць прымусіла Надзю забыцца на ўсе ўмоўнасці і забабоны свету.

## 8

Серафім вярнуўся дамоў праз месяц. Напрадвесні. Увайшоў у хату раздражнёны, не вітаючыся, спытаў у Надзі:

— Пра што гэта мне немец намякаў? Што я табе і яму абавязаны жыццём?

— Ты не зразумеў, што цябе вызваліў Эрых?

— Ён казаў, што палюбіў цябе, — муж паглядзеў так, быццам хацеў прачытаць усе яе думкі.

— Гэта яго справа.

— Прызнавайся, ты спала з ім, пакуль мяне не было? — закрычаў Серафім па-жаночы высокім голасам, ягоны няголены падбародак задрыжэў ад крыўды і абурэння.

Надзя сама здзівілася спакою, які апанаваў яе істоту. Зрэшты, хіба яна вінаватая, што і сама закахалася ў Эрыха. Што зробіш, калі каханне раптам напаткала яе? Ніколі раней яна не перажывала такіх пачуццяў і, можа, ніколі не зведала б іх, каб не гэтае ліхалецце, якое закінула ў забыты Богам куток адукаванага еўрапейца.

— Пакінь мяне, і жыві шчаслівa, — адказала яна. — Я нічога да цябе не маю.

— Затое я маю! І табе не сорамна сына, людзей…

— Можа, і сорамна, можа, і балюча, можа, і горка, але ні пра што не шкадую… Ты жывы, здаровы — і дзякаваць богу. Невядома, дзе б ты быў, каб не я… Помні пра гэта. Тут гаспадараць немцы, і твая смерць зноў будзе выцікоўваць цябе, калі ты забудзеш пра гэта.

Серафім хацеў нешта сказаць яшчэ, але тут расчыніліся дзверы — і на парозе з’явіўся Эрых.

— Мая цудоўная пастушка! — усклікнуў ён па-руску і працягнуў Надзі пакунак, загорнуты ў каляровую паперу.

Жанчына з удзячнаю ўсмешкаю ўзяла падарунак і сказала:

— Навошта вы, пан афіцэр?

— У гонар вяртання святога Серафіма, — з усмешкаю адказаў кватарант. — Гэта наша агульная перамога. П’ём чырвонае віно!

Ён дастаў з партфеля цёмную бутэльку, паставіў на стол. Серафім скрывіўся. Гатовы завыць ад роспачы, ён выскачыў з хаты, забег у пуню, схапіў касу, гатовы зарэзаць і жонку, і ненавіснага немца. Рынуўся ў двор, але толькі цяпер убачыў салдата з аўтаматам, які стаяў ля весніц, і спыніўся, разумеючы, што тут з касою не паваюеш. «Бачыш, які хітры, сабе ахову прывёз! Нічога. Я падпільную вас, калі вы будзеце адны. Я прыкончу вас у пасцелі. А сам пайду ў свет, — гняўліва падумаў Серафім, — але не варта гарачыцца, зручны момант абавязкова надарыцца. Трэба знішчыць немца, чаго б гэта ні каштавала…»

Надзя была тою адзінаю шчодраю душою, у якой Серафім знайшоў спагаду і разуменне, яна была добраю жонкаю, клапатліваю маці для іхняга сына. Чаму ж прадалася немцу за нейкія каляровыя пакуначкі? Чаму здрадзіла? Гэтага ён, Серафім, не мог ні зразумець, ні дараваць. Серафім паспрабаваў разважаць спакойна. Так, немец малады і прыгожы, разумны і адукаваны, напэўна, наплёў ёй сорак карабоў рознай лухты, а яна і развесіла вушы. Ці, можа, падпаіў дурную? А мо прымусіў? Халера іх ведае, гэтых жанчын? Ім пакажы якую бразготку, дык і душу прададуць! І зноў апанавала Серафімам злосць і нянавісць, ён пачаў праклінаць і называць рознымі брыдкімі словамі жонку, але ні палёгка, ні раўнавага не прыходзілі.

З вуліцы прыбег сын, убачыў Серафіма, кінуўся ў абдымкі:

— Татка, татка вярнуўся! А мама галасіла, казала, што цябе забралі ў турму.

— Галасіла-такі?

— І я плакаў. І маліліся мы кожны вечар, каб табе Бог дапамог вярнуцца.

— Ах ты маё гора, — уздыхнуў Серафім і чмокнуў сына ў шчаку, а сам

падумаў: «Дзеля яго і буду жыць на свеце. Толькі свайму сыну я і патрэбны. Няхай яна хоць задушыцца!» — Пойдзем, сынку, паглядзім нашу гаспадарку. Мы ж тут гаспадары ці як?

— Гаспадары, — упэўнена адказаў сын.

Серафім увайшоў у хлеў, пабачыў, што назбіралася шмат гною — карова хутка дастане да столі і сказаў:

— Бачыш, трэба гной выкідваць. Вясна на носе, хутка будзем араць ды сеяць… Трымай вілы. Табе меншыя, мне большыя, будзем працаваць.

Серафім усю злосць укладваў у працу, рваў утаптаны гной віламі, выносіў і кідаў у кучу пад дзічкаю, што вырасла каля самага хлява. Сын браў прыклад з бацькі, праўда, на вілы набіраў гною трошкі, бо не шмат яшчэ мог падняць шасцігадовы хлопчык.

«Што там можна рабіць так доўга ў хаце? Чаму яны сядзяць там удваіх?» — час ад часу ў галаве ўзнікалі пытанні. Кроў шалёна пульсавала ў жылах ці ад працы, ці ад нянавісці, а мо ад усяго разам.

«Пачакайце! Вы ў мяне даседзіцеся! Пачакайце! Будзеце ведаць Серафіма!» — мармытаў ён сам сабе пад нос.

— Што ты кажаш? — спытаў сын.

— Нічога. Гэта я так, сам з сабою… Кажу, добры гной, дык і добры ўраджай будзе. А ты ў мяне працавіты ўдаўся, малайчына…

У чарговы раз выходзячы з хлява, Серафім убачыў Эрыха і Надзю, яны ішлі да весніц. Немец нёс у адной руцэ партфель з паперамі, у другой — чамадан.

«Няўжо з’язджае? — радасна мільганула думка ў галаве Серафіма. — Далікатны. Адчуў, што ён тут трэці лішні! Сабака! Валацуга! А гэтай сучцы я хваста прышчамлю!»

У двор Надзя вярнулася адна, устрывожаная, засмучаная.

— Правяла палюбоўніка? — з’едліва спытаў Серафім.

— Сына пасаромеўся б, — спыніла яго Надзя.

— Хто б казаў! На сябе паглядзі!

— Эрых будзе наведваць нас, а ты не забывайся, чыя тут улада…

Яна павярнулася і пайшла да ганка. Серафім кінуў вілы ёй услед, але міма, каб толькі напалохаць. Вілы са свістам уткнуліся ў снегавую гурбу. Надзя нават не азірнулася, быццам была гатовая прыняць смерць. Яна ўвайшла ў сенцы, зачыніла за сабою дзверы, нібы разам з імі зачыніла перад Серафімам і сваё жыццё.

## 9

Серафім загадзя рыхтаваўся да чарговага прыезду Эрыха. У сенцах прыхаваў сякеру. Вілы знарок увесь час пакідаў навідавоку ля хлява. Ён часта ўяўляў, як у сенцах сякераю будзе забіваць ненавіснага Надзінага палюбоўніка, як з ягонай пасечанай шыі будзе ліцца кроў, а Серафім, наталяючы сваю нянавісць, будзе назіраць за тым, як памірае ягоны вораг. Іншы раз Серафім уяўляў, як віламі праткне немца ў пасцелі, калі ён будзе ляжаць побач з Надзяю, і тая будзе крычаць ад страху, а Серафім рассмяецца ёй проста ў твар.

Аднак усё адбылося зусім не так, як ён сабе ўяўляў. Эрых прыехаў у суботу з двума салдатамі-аўтаматчыкамі, калі Серафім у двары аглядаў воз, бо з панядзелка збіраўся вывозіць гной на поле. Гаспадар паглядзеў на чорныя аўтаматы і адчуў, як халадок прабег па спіне, быццам смерць на момант кранула яго крысом сваёй чорнай апраткі. Эрых прывітаў Серафіма ўзмахам рукі і ўвайшоў у хату, а два аўтаматчыкі застылі каля ганка.

Серафім гняўліва плюнуў сабе пад ногі і агародамі падаўся з двара, разумеючы ўсю недарэчнасць сваёй прысутнасці тут. Кроў у жылах пульсавала так, што, здавалася, сэрца вылеціць з грудзей і разарвецца на частачкі. Ён успамінаў самыя брыдкія словы, якія яму калі-небудзь даводзілася чуць і няславіў жонку, якая, як яму ўяўлялася, зараз мілавалася з немцам! З фашыстам! Як яму хацелася спаліць уласную хату, зруйнаваць, зраўняць з зямлёй! Ён прасіў Перуна ляснуць у страху і спапяліць нахабных палюбоўнікаў, прасіў зямлю расступіцца і пахаваць пад сабою яго і яе. Але ні праклёны, ні абразы — нішто не дапамагала.

Серафім упаў на дол, рваў рукамі леташнюю сухую траву, якая толькі што выбавілася з-пад снегу, біўся галавою аб зямлю, потым ускочыў, пачаў тузаць лазовы куст, але той не паддаваўся, толькі ледзь-ледзь агаліў карэнне. Калі ж Серафім зусім знясілеў у марнай барацьбе сам з сабою, зваліўся на дол і на нейкі час быццам страціў прытомнасць ці заснуў. Ачомаўся ён ад таго, што пачуў над сабой нечыя галасы. Расплюшчыў вочы, падняў галаву, убачыў некалькі ўзброеных мужчын, якія разглядвалі яго. Аднаго з іх ён адразу пазнаў. Гэта быў Леванюк, з якім яны разам былі камітэтчыкамі ў Сцяблоўскім сельсавеце. Серафім сеў, паклаўшы рукі на калені, павітаўся з мужчынамі, здагадаўся: партызаны. Ведаў, што Леванюк з самага пачатку вайны хаваўся ў лесе.

— Ты п’яны, Серафім, ці якая трасца з табою? — весела спытаў Леванюк.

— Цверазей не бываю, — з уздыхам адказаў Серафім.

— Дык што, захварэў?

— Душа баліць…

— Чаго? З такою жонкаю, як у цябе, усялякую хваробу за ноч можна выгнаць.

— Ідзі паглядзі, на тую сучку! Яна ж з немцам спуталася! — злосна адказаў Серафім.

Хлопцы заўсміхаліся, такога прызнання ніхто не чакаў. Серафім раптам ускочыў з зямлі, схапіў за рукаў Леванюка і стаў прасіць:

— Ідзі, забі іх! Яны там у хаце! Мая сучка і гэты фрыц!

— Няўжо праўда? — з недаверам спытаў Леванюк.

— Ён яшчэ пытае!

— Няўжо злюбілася з адным з тых, што ў цябе ў хаце стаялі?

— А з кім жа!

— Вось, хлопцы, што дзеецца! Ужо фашысты нашых баб разбіраюць. А ці важная птушка гэты фрыц?

— Ахоўвае чыгунку, толькі і ўсяго…

Серафім насуплена пазіраў на Леванюка, чакаючы ад яго дапамогі, спачування ці хоць бы абяцання, якое б абнадзеіла, супакоіла, дало магчымасць спадзявацца, што аднойчы вораг будзе знішчаны.

— Шкада, што такі нікудышны немец трапіўся. Аднак не бядуй, Серафім, мы падумаем, як адпомсціць твайму крыўдзіцелю.

— Ага, вы будзеце думаць, а ён будзе ездзіць у маю хату і спаць з маёю жонкаю, — не хаваючы крыўду, сказаў Серафім. — Вас чацвёра. А ля ганка стаяць толькі два аўтаматчыкі. Пойдзем і расправімся з імі!

— У нас цяпер іншае заданне. Да таго ж, у атрадзе моцная дысцыпліна, мы не маем права дзейнічаць без дазволу камандзіра. Патрывай трохі, мы з тваім крыўдзіцелем расправімся. Скажы лепш, у якія дні немец наведвае тваю жонку?

— Калі хоча, тады і наведвае, але найчасцей па суботах або нядзелях.

— Патрывай, брат! Не доўга твайму немцу засталося наталяць свой юр! — паабяцаў Леванюк, клікнуў хлопцаў, і яны пайшлі ў глыб лесу.

З тае сустрэчы ў лесе прамінула болей за два месяцы. Ужо май закрасаваў на зямлі, расквеціў сады, птушыным гоманам напоўніў лес і прысады, а Эрых усё працягваў наведваць Надзю. Серафім хадзіў злосны, кожную хвіліну зрываўся на крык, накідваўся з кулакамі на жонку. А яна быццам і не заўважала яго, маўкліва зносіла праклёны, абразы і пабоі, толькі атуляла жывот рукамі. Употай назіраючы за ёю, ён часам заўважаў, як яна нечаму ўсміхаецца. Твар яе робіцца светлы і такі прыгожы, што хочацца счарніць яго на вугаль, каб ніводнае рысы не было відно. Серафіму здавалася, што не будзе канца ягоным пакутам, аднак у самым пачатку чэрвеня прагрымеў выбух паміж вёскамі Сцяблова і Крачкі. Казалі, што нейкі немец-матацыкліст падарваўся на міне. Гэтая вестка супакоіла Серафіма. Нарэшце Надзін палюбоўнік загінуў, можна было жыць спакойна, аднак крыўда не давала жыцця, грызла, падточвала душу.

На другі дзень пасля таго, як загінуў нямецкі матацыкліст, з Жабінкі прыехалі немцы і паліцаі, падпалілі Крачкі і Сцяблова з тых канцоў, якія злучала дарога, дзе была падкладзена міна. Абедзве вёскі згарэлі напалову. Аднак на гэты раз Серафіму пашанцавала, бо ягоная хата стаяла ў другім канцы Сцяблова.

## 10

Ноччу нехта пастукаў у шыбіну. Серафім падхапіўся з запечка, падбег да акна, у святле поўні ўбачыў некалькі постацяў, спытаў:

— Хто там?

— Свае, — адказалі з надворку.

Серафім пазнаў голас Леванюка, хуценька патупаў у сенцы, адчыніў дзверы і ўпусціў начных гасцей, распаліў газнічку.

— З цябе магарыч, Серафім, — зычна сказаў Леванюк, ставячы ў куток вінтоўку. -— Забіў я твайго немца.

Надзя ажно сцялася, слухаючы партызана. «Няўжо забілі Эрыха? За што? Навошта? Ён жа нікому нічога дрэннага не зрабіў, не ваяваў, толькі сачыў за чыгункаю. Ах, Эрых, Эрых, лепш бы ты пабяргогся і не ездзіў да мяне. Такі малады, разумны, прыгожы… Няма ў мяне сілы ўявіць цябе мёртвым! Не веру, не веру, што ты мог загінуць… А як жа я? Як жа наша дзіцятка, якое я нашу пад сэрцам? Як мне жыць без цябе, Эрых?»

Серафім падышоў да Надзі, штурхнуў яе ў бок, злосна сказаў:

— Уставай, сучка, пачастуй гасцей! Разлеглася як карова…

Ён знарок паводзіў сябе так, хацеў пры людзях падкрэсліць, як ганьбіць жонку, грэбуе ёю. Надзя моўчкі паднялася, акрыла сябе паверх сарочкі вялікай шэрай канаплянкай, пайшла ў камору, нарэзала сала, наклала ў міску квашанай капусты і гуркоў, у думках праклінаючы забойцаў Эрыха: «Каб вам гэтая ежа ўпоперак горла стала! Каб вы белага свету не бачылі, калі вы знішчылі такога чалавека! Каб вас яма пазавальвала! Каб вам век дабра не было!»

Калі вярнулася ў хату, убачыла, што муж ужо налівае кілішкі. Самагонку ён далёка не хаваў, звычайна трымаў у судніку, разам з посудам.

— Серафім, а каўбасы ў цябе не знойдзецца? — спытаў адзін з трох партызанаў, якія сядзелі за сталом.

— Каўбасы няма, а сцягно на вышках вісіць. Зараз прынясу.

Серафім з нажом пайшоў у сенцы. Надзя паставіла талеркі на стол, нарэзала тоўстымі лустамі хлеб. Леванюк паляпаў яе ніжэй спіны рукою. Яна злосна зірнула на яго і адышла да запечка.

— Бач, якая наравістая! — злосна сказаў Леванюк. — Як з фашыстам, дык яна — вась-вась, а з партызанам — кусь-кусь! Ты тут не вельмі… Аб’ездзім! Га, хлопцы!

Мужчыны за сталом засмяяліся. Надзя нічога не адказала, толькі падумала: «Хутчэй бы Серафім вярнуўся! А хіба ён за мяне заступіцца? Ён жа сам сябе абараніць не можа, цяльпук гэты!»

Серафім узрушана-вясёлы ўвайшоў у пакой, паклаў на стол ладны кавалак мяса.

— Вось гэта ежа! — пацёр далоні Леванюк. — Каб пасля такой вячэры ды бабу цёплую пад бок! Зусім райскае жыццё было б.

— Дык у цябе ж ёсць жонка, — сказаў Серафім. — Зайдзі, яшчэ ўся ноч наперадзе.

— Развёўся я з ёю за тое, што дзяцей не ўпільнавала.

— Гэтыя бабы — адна распуста. Ні на што не вартыя, — сказаў Серафім, падсаджваючыся да стала. — Ну вып’ем, хлопцы, за ўсё добрае ў нашым жыцці. Будзьце здаровыя!

Мужчыны выпілі, пачалі закусваць. Было відно, што яны вельмі галодныя, бо елі моўчкі і хутка. Праз колькі хвілін міскі апусцелі, і Надзя зноў пайшла набіраць капусту, гуркі і наразаць сала. Са злосцю яна думала пра Леванюка, што пакараў ужо яго Бог страшнаю караю, забраў дзяцей, а ён не пакаяўся, а працягвае жыць, быццам нічога не здарылася. Леванюк хаваўся ў лесе з самага пачатку вайны. Нехта яго выдаў. Прыехалі немцы арыштоўваць, а гаспадара з гаспадыняю няма, толькі дзеці дома. Немцы хату падпалілі. Дзве Леванюковы дачкі-блізняткі згарэлі зажыва. Вось і вінаваціць ён жонку, што схавалася, а дзяцей пакінула. А сам жа ва ўсім вінаваты. Не хоча прызнаць, што дзеці праз яго загінулі.

Надзя паставіла закуску на стол, а сама палезла на печ, дзе стаілася і ціхенька аплаквала Эрыха. З таго часу, як дазналася пра ягоную смерць, яна пачала насіць чорную хустку ды ўсё прыслухоўвалася да штуршкоў у жываце, гэта падавала знакі Эрыхава дзіця. Часам яна хадзіла на дарогу і доўга стаяла на тым месцы, дзе загінуў Эрых, размаўляла з ім, расказвала пра ўсё, што адбывалася з ёю.

Аднойчы якраз там, на дарозе, і сустрэў яе солтыс Баранчык, павітаўся, спытаў:

— Чаго ты, Надзя, тут стаіш?

— Хацела святаянніку назбіраць, — зманіла жанчына.

— Добра, што я цябе сустрэў. Табе ліст прыйшоў. Трымай…

Надзя з недаверам узяла белы канверт, і сэрца яе закалацілася ад радасці. Ліст прыслаў Эрых. Ён быў жывы!

— Дзякую, пане солтыс, — разгублена падзякавала яна.

— Чым ты прычаравала таго афіцэра, што нават лісты табе піша?

— Якое тут чараванне, пане солтыс? Вайна. Цяжка ўсім. Вось і цягнуцца людзі адно да аднаго… Маладзенькі ён… Я яму была за сястру і за маці…

— Яно ў жыцці ўсяляк бывае, — згадзіўся солтыс. — Бывай здаровая.

Ён сцебануў каня і паехаў далей. А Надзя дрыготкімі рукамі разадрала канверт і ўпілася вачамі ў паперу, да якой дакраналіся Эрыхавы рукі. Яна чытала, плакала, перачытвала зноў і зноў. Эрых пісаў: «Добры дзень, мая цудоўна пастушка! Мяне так нечакана выслалі на фронт, што я не паспеў ні папярэдзіць цябе, ні развітацца з табою. Германіі патрэбны не інжынеры-чыгуначнікі, а салдаты, здатныя сядзець у акопах, страляць і забіваць… Што б ні здарылася са мной, ведай, што я кахаю цябе. І калі мая душа заўчасна

адляціць на неба, я буду чакаць цябе там, мая дзівосная пастушка. Я ведаю, што ты чакаеш наша дзіця. Калі народзіцца ў нас сын, назаві яго Георгіем, калі дзяўчынка — няхай будзе яшчэ адна Надзея. Надзея на нашу будучую сустрэчу. Горача цалую і абдымаю цябе. Застаюся кахаць і сумаваць. Твой Эрых».

З гэтым лістом Надзя не разлучалася. Удзень яна насіла яго пад сарочкаю на грудзях, нанач клала пад падушку і жыла надзеяю, што аднойчы вернецца яе Эрых, каб ніколі-ніколі не разлучацца.

## 11

Аднойчы, сустрэўшыся з паліцыянтам са Сцяблова, які прыязджаў арыштоўваць Зосю, Гардзей даведаўся, што Пуха расстралялі.

— Сабаку — сабачая смерць, — сказаў Антону, так звалі паліцыянта, Гардзей. Хоць я не жадаў яму такога канца, спадзяваўся, што з ім разбярэцца суд, і я даведаюся, чым быў атручаны. На жаль, цяпер ужо… А што з астатнімі? З Марфаю?

— Марфу і іншых выслалі ў Германію. Толькі твайму сваяку Серафіму пашанцавала, выпусцілі яго, дзякуючы жонцы і яе немцу-палюбоўніку, — сказаў паліцай…

## 12

Непрыкметна за справамі ды турботамі настала слотная восень. Завяршыліся ўсе палявыя работы, і цяпер сям'я Рахубаў звычайна знаходзіла сабе які занятак у хаце. Зося з Паўлінай, зрэдку перакідваючыся словам, пралі кудзелю. Сядзелі яны на розных лавах, слінявілі пальцы, скручвалі ніткі. Паўліна прала тонецька-тонецька, у Зосі нітка атрымлівалася тоўстая з-за таго, што жанчына дрэнна бачыла. Ораст прымасціўся на ўслончыку і плёў лазовы кошык. Справа ў яго ішла не надта хутка, лаза ўпарта не хацела класціся так, як трэба. Гардзей тым часам рабіў справаздачу, колькі зерня сабралі, колькі здалі на падтрымку нямецкага войска і не прыслухоўваўся да размоў жанчын, але Зося аклікнула яго:

— Гардзей, ты чуеш? Серафіміха сына нарадзіла.

Гардзей, не адрываючы галавы ад справаздачы, адказаў:

— Ну і дзякаваць Богу. Няхай расце здаровы.

— Гэта ж дзіця ад таго немца, што ў іх кватараваў, — удакладніла Паўліна.

— А хто гэта ведае, ад немца ці ад Серафіма?

— Дык сам Серафім і казаў, што нарадзіўся немец. Але, кажуць, вельмі прыгожае дзіцятка, як лялька. Такія толькі ад сапраўднага кахання нараджаюцца, — адказала сястра.

— Можа, Зося, трэба было б схадзіць у адведкі? Ён жа табе брат, — прапанаваў Гардзей.

— Ага, ён майго бацьку на той свет паслаў, а я пайду ягонага вылюдка падарункамі адорваць. Не дачакаюцца! — абурылася Зося. — Як табе хочацца, дык сам ідзі і праведвай.

— Яшчэ не хапала мне турботы!

Паўліне падабалася, калі брат сварыўся з нявесткаю, тады яна душыла ў сабе незразумелы смех. Гэта не была радасць, а хутчэй горкі сарказм. Яна была перакананая, што ніякая жонка не можа быць лепшаю за сястру, бо па сутнасці жонка — чужы чалавек. Калі Гардзей і Зося аціхлі, Паўліна пра-

доўжыла апавядаць пра жыццё Серафіма і Надзі. Пра гэта яна даведалася ад маладзіц, калі хадзіла ў вёску:

— Кажуць, што той немец прыслаў Надзі ліст і загадаў назваць сына Георгіем. Так немаўля і ахрысцілі. А Серафім спачатку нічога і не ведаў. Але аднойчы знайшоў той ліст у Надзі пад падушкаю. Як прачытаў, дык давай яе малаціць! Па двары за косы валачыў! А яна маўчала, ні слова, ні слязінкі! Пакуль прытомнасць не страціла!

— Мала ён ёй даў. Трэба было насмерць забіць! — злосна сказала Зося.

— За каханне забіваць нельга. Палюбі бліжняга свайго, — вучыць Біблія, — з блудліваю ўсмешкаю адказаў Гардзей.

— Якое гэта каханне? Гэта распуста. З Серафімам венчаная, а жыла з немцам, — злосна сказала Зося.

— Гэты немец Серафіму жыццё выратаваў, — нагадала Паўліна. — Можа, Надзя сабою ахвяравала, каб выратаваць твайго брата.

— Ага, ратавала яна! Толькі Серафіма забралі, дык яна і пачала жыць з немцам. І пасля ён да яе ездзіў. Людзі казалі, што немец прыедзе, з Надзяю балюе ў хаце ды цешыцца, а Серафім жоўты ад гневу ходзіць па ваколіцы, месца сабе не знаходзіць.

— Сам вінаваты, такі слізняк. Я б таго немца сваімі рукамі задушыў бы, — сказаў Гардзей з пагардаю.

— І сам загінуў бы. А Серафім усё-ткі выжыў, — разважліва дадала сястра. — Дзіця, ад каго б яно ні было, нічым не вінаватае. Яму Бог даў жыццё, дык няхай жыве.

— Такая сучка будзе нараджаць без шлюбу ад першых сустрэчных, а мы будзем апраўдваць і хваліць? Ніколі гэтага не будзе! — злосна сказала Зося.

Паўліна хмыкнула, падцяла ніжнюю трохі абвіслую губу і з дакорам сказала:

— Ты ж сама без шлюбу нарадзіла.

Зося падскочыла з лавы, кінула верацяно, схапілася рукамі за галаву і загаласіла:

— Людзі добрыя, ды што ж гэта робіцца? У маёй уласнай хаце мяне зневажаюць! Ды як жа мне жыць, сіраціне? Хто ж мяне абароніць ад няславы? Хто заступіцца? Колькі ж я буду трываць гэты здзек? Паспачувала я ёй, гэтай гадзіне, пусціла да сябе ў дом, падзялілася хлебам і дахам, а яна мяне пры маім сыне і мужы брудам аблівае! Ці ж я па чужых руках хадзіла? Ці ж я распусьнічала? Ці ж я…

— Сціхні! Здурэла ці што? — галосіш, як па нябожчыку! — крыкнуў Гардзей, ніжняя губа ў яго адвісла, як у Паўліны, і задрыжэла ад гневу.

— Вы абое зневажаеце мяне! Абое здзекуецеся, а я павінна трываць! Пайду, пайду ў свет ад вас!

Зося, не апранаючыся, выскачыла з хаты, яе постаць мільганула за акном.

— Навошта ты чапала гэтую вар’ятку? — упікнуў сястру Гардзей.

— Я сказала праўду. Толькі і ўсяго. Нічога. Пасядзіць у свайго дзядзькі Карпа, супакоіцца і вернецца.

Ораст адклаў убок недаплецены кошык, падняўся, атрос нагавіцы і сказаў:

— Пайду ўгавару маму.

— Ідзі, ідзі, сынок, занясі ёй якую адзежыну. Прастудзіцца можа…

Ораст няспешна апрануўся, зняў з цвіка матчыну світку і хустку. Выйшаў за дзверы.

— Не чапай яе больш, — папрасіў Паўліну Гардзей.

— Я не вінаватая, што яна праўды не любіць.

— Ты трымай сваю праўду пры сабе, і тады нікому не будзе шкоды.

— Пайду я ад вас. Пайду да Адаркі.

— Якраз там цябе і чакаюць, дзе чацвёра дзяцей. Хоць яна нам і сястра, але ж свая сям'я ёй даражэй.

Паўліна затуліла твар рукамі і заплакала, прамаўляючы:

— Нікому я не трэба. Няма мне да каго і галавы прытуліць! Ва ўсім ты вінаваты. Не пусціў замуж. Зараз бы ў мяне быў муж і дзеці… А я…

Гардзей падняўся з-за стала сеў побач з сястрою. Пагладзіў яе па галаве, як малую, пачаў супакойваць.

— Не плач. Я нікому цябе ў крыўду не дам. Усё будзе добра. Не звяртай увагі на Зосю. Я тут гаспадар. Як скажу, так і будзе. Ціха! Годзе!

Словы спагады выклікалі ў Паўліны новы прыліў істэрыкі. Яна прыпала да Гардзеевых грудзей і заплакала наўзрыд.

## 13

Солтыс пацягваў самакрутку, з задавальненнем жмурыў вочы ад едкага дыму, так што зрэнкі амаль хаваліся ў складках між павек. Гардзей адсунуўся на край стала, каб не ўдыхаць атрутны пах, але дым доўгімі шэрымі пасмамі абвіваў яго, здавалася, з усіх бакоў, ад чаго дзерла ў горле.

— Што ты ў гэтым курыве знаходзіш? — спытаў Гардзей. — Такі смурод, няма чым дыхаць…

— Па звычцы, браце. Уцягнуўся неяк сам сабою па дурноце, па маладосці, а цяпер кінуць не магу. Карціць… Што тут зробіш? Пачытай вось новы Дэкрэт аб утварэнні самаахоўных вёсак ды давай падумаем, што будзем рабіць, — адказаў солтыс.

Гардзей узяў газету, у якой на першай старонцы быў надрукаваны дэкрэт, хутка прачытаў, устрывожана зірнуў на Баранчыка:

— Дык што, немцы скапыціліся?

— Ты ж бачыш…

— Выходзіць, яны са сваім магутным войскам не змаглі адбіцца ад бальшавікоў, а мы выйдзем сялом і абаронімся ад Чырвонай Арміі. Ці ад каго нам бараніцца?

— Гардзей, не прыкідвайся дурнем. Загадана ствараць самаахову, будзем ствараць. Па ваенным часе загады не абмяркоўваюцца.

Гардзей памаўчаў, спрабуючы ўявіць тую самаахову, але зноў раздражнёна спытаў:

— І хто па-твойму пойдзе ў самаахову?

— Ты ды я, а яшчэ падлеткі за вайну падраслі…

— Ты хочаш гэтых дзяцей бязвусых накіраваць супраць рэгулярнага войска? Ці, можа, баб збіраешся мабілізаваць?

— Калі не хочаш загінуць сам і прывесці да пагібелі сям'ю, рабі, што загадана. Стварай самаахову, накіроўвай моладзь у Беларускую службу «Бацькаўшчына», у Беларускую Краёвую Армію, чорту лысаму ў пашчу… Усё гэта само сабою разваліцца, калі немцы адступяць. Раскруцілася, пакацілася назад кола вайны. Яго ўжо не стрымаць. А нас цісн уць з двух бакоў. Немцы сабе трымаюць пад прыцэлам, партызаны — сабе, а прыйдуць саветы — дадуць дык дадуць. Ці чуў? Антона, паліцая са Сцяблова, пасеклі на кавалкі і пакінулі пад сасною.

— Хто?

— Адкуль я ведаю. Напэўна ж, партызаны…

— А што з намі будзе? — устрывожана спытаў Гардзей.

— Дрэнна нам будзе. Але, калі добра падумаць, дык можна неяк прыстасавацца да новай улады, калі адразу не расстраляюць.

— Ты збіраешся сядзець і чакаць смерці?

— Не ведаю, — адказаў солтыс. — Стары я ўжо, як-ніяк пад семдзесят валіць. Немцам такі ваяка не трэба. З сабою не возьмуць. Што будзе, тое і прыму. Ты яшчэ малады, можаш адступіць з немцамі, выехаць за мяжу, а там, куды хочаш. Безумоўна, табе лепш у Амерыку махнуць, тым больш што ёсць на першым часе ў каго спыніцца. Там жа Зосіна сястра ўжо абжылася… Зрэшты, у Амерыцы шмат людзей з Берасцейшчыны. Не прападзеш…

— Не ўяўляю свайго жыцця без гэтай зямлі…

— Ляжаш у гэтую зямлю навечна ў свае сорак гадоў з хвосцікам. Такая будучыня цябе грэе?

— Ты лічыш, што мне трэба ўцякаць?

— У цябе, Гардзей, свая галава на плячах. Думай сам. Спіс насельніцтва вёскі маеш? Ты ў нас чалавек пісьменны, складзі спіс людзей, прыдатных служыць у самаахове, а далей пабачым, што будзе.

— Добра, зраблю, — вяла адказаў Гардзей. — Я пайшоў.

— Ідзі.

Гардзей выйшаў з хаты, зажмурыўся ад сляпучага красавіцкага святла. Была самая пара думаць пра сяўбу, а тут, аказваецца, трэба рыхтавацца да бою з Чырвонай Арміяй. Вось табе і непераможная Германія, якая скарыла ўсю Еўропу, а тут скрышыла зубы! Але якая яму справа да чужой краіны? Трэба ратаваць сваю галаву. «Што будзе з Зосяю і сынам? Няўжо ім будуць помсціць за мяне? — з трывогаю падумаў Гардзей. — Недзе ж я чытаў, што ў саветаў прынята, што сын за бацьку не адказвае…»

Па дарозе ён вырашыў наведаць Марка. Пасля доўгага маўчання, яны зноў пачалі размаўляць, і гэта цешыла абодвух. Марк сядзеў на лаве, падшываў дратваю старыя боты.

— Заходзь, Гардзей, пасядзі, — запрасіў гаспадар.

Гардзей сеў побач з Маркам, спытаў:

— Як жывеш?

— Сам бачыш як. Апошнія боты даношваю. З гэтымі вызваліцелямі з Усходу ды з Захаду хутка без штаноў застануся. Добра, што лапці ўмею плесці, а так бы…

— Дзе твае сямейнікі?

— Халера іх ведае. Швэндаюцца недзе гэтыя лайдакі: і жонка, і дзеці. А што чуваць? Ці хутка вайна скончыцца?

— Мусіць, хутка, — няпэўна адказаў Гардзей.

— Што, далі рускія немцам па храпе?

— Даюць да гэтага часу, — крыва пасміхнуўся госць.

— Цябе чырвоныя, відаць, распнуць.

Апошняя фраза, сказаная Маркам, балюча ўразіла і нават пакрыўдзіла Гардзея, але ён стрымаўся і спытаў:

— Як лічыш, што мне трэба рабіць?

— Не ведаю, мабыць, трэба ўцякаць, як мага далей і як мага хутчэй.

— Мабыць, трэба, — сказаў Гардзей і дадаў, — бывай, Марк, рады быў пабачыць. Жыві шчасліва.

— Бывай, — адказаў Марк, абразаючы дратву і аглядаючы вынікі свайго шытва. — А няблага атрымалася.

Калі ён падняў вочы, Гардзей ужо зачыніў за сабою дзверы ў сенцы. Марк нават пашкадаваў, што сусед не ацаніў ягонае штукарства.

Некалькі дзён Гардзей абдумваў становішча, у якое трапіў, прыкідваў то так, то гэтак, але нарэшце вызначыўся канчаткова, праўда, пра сваё рашэнне ні жонцы, ні сястры нічога не сказаў. Аднойчы ён паехаў у Берасце да доктара і дамоў больш не вярнуўся.

Зося з Паўлінаю хадзілі шукаць яго ў Берасце, але Гардзея нідзе не было. Ні ў турме, ні ў пастарунку, ні ў доктара. Солтыс Баранчык таксама нічога пэўнага пра яго не мог сказаць. Паўліна пачала аплакваць брата, галасіла, заломвала рукі.

— Сціхні! — абарвала яе Зося. — Пакуль я не бачыла яго мёртвым, для мяне ён застанецца жывы. Грэх — аплакваць жывога.

— Ён жа хворы на галаву. Мо найшло на яго што, дык і пайшоў немаведама куды. А немцы разбірацца не будуць. Пальнуць — і гатова!

— Гэта толькі твая выдумка. Гардзей не дурань, каб падстаўляць грудзі пад нямецкія кулі. Ён нават калі быў моцна хворы, памяці не губляў, толькі рваўся адпомсціць тым, хто яго атруціў.

— Апошнія дні перад тым, як знікнуць, ён хадзіў нейкі насуплены. А, можа, і партызаны забілі!

— Гардзей лепш за нас ведае, што і як рабіць. Набярыся цярпення. Будзем чакаць…

З таго дня Паўліна хоць і бедавала па браце, але моўчкі. З Зосяй яны больш не сварыліся, часам толькі раіліся, што і як лепш зрабіць па гаспадарцы. Кожная цягнула сялянскую працу, мужчынскую і жаночую, без скаргаў і нараканняў, прымаючы той лёс, які ім выпаў.

Праз месяц немцаў выгналі з Брэстчыны, пачала ўсталёўвацца савецкая ўлада. Праўда, змена рэжыму амаль не закранула жыццё хутаранцаў. Пакутліва і доўга цягнуўся першы год вызвалення, галодны і цяжкі. Партызана Леванюка, які быў паранены ў нагу і прыкметна прыкульгваў, абралі старшынёю сельсавета. Цяпер ён з камітэтчыкамі збіраў людзей на сходы, патрабаваў плаціць падаткі. Зайшоў аднойчы пад восень на хутар да Зосі, сказаў, што хутка хутаранцаў будуць перасяляць у вёску.

— Перасяляйце, калі маеце куды, — здзекліва пасміхнулася Зося. — Мо і Паўліне хату дасце замест той, якую немцы спалілі?

— Маўчы, не чапай яго, — Паўліна тузанула Зосю за рукаў.

— Ты, баба, у мяне яшчэ заробіш на баранкі!.. Сядзіце тут, свету не бачыце! А ты ведаеш, што твой брат памёр? — раптам спытаў Леванюк.

— Няма ў мяне ніякага брата.

— А Серафім табе хіба не брат?

Зося не адказала, павярнулася і пайшла ў хату. Паўліна засталася гутарыць з Леванюком, жадаючы згладзіць дзёрзкасць нявесткі, якая неабачліва магла сказаць усё, што ў галаву ўзбрыдзе. Леванюк жа — старшыня сельсавета, начальнік. Яшчэ напіша каму трэба — мала не будзе: муж жа — вораг. Вунь солтыса Баранчыка, як ворага, узялі разам з жонкаю. Дзе яны зараз — нават дачка не ведае. Так што трэба маўчаць.

## 14

Зося злавала на Серафіма і ягоную жонку. Лічыла іх вінаватымі ў смерці бацькі, нават вестка пра смерць брата не змякчыла яе сэрца, напоўненае трывогаю за мужа. Вайна скончылася, той-сёй з мужчын, хто быў на фронце, вярнуўся дамоў. Але ж на большасць прыходзілі пахавальныя, маўляў, загінуў смерцю храбрых... Пра Гардзея яна нічога не ведала. Было такое адчуванне,

быццам спыніўся час. Зося нешта рабіла на полі ці ў хаце, а ўсё думала пра Гардзея, шкадавала, што не паспела ні нагледзецца на яго, ні нажыцца з ім.

— Зося, Серафіма заўтра будуць хаваць, — сказала Паўліна, заходзячы ў хату. — Леванюк кажа, што там такая галеча, няма нават з чаго труну зрабіць. У нас ёсць некалькі дошак… Можа б…

Зося павярнула да Паўліны злосны твар і сказала:

— Гэта мае дошкі! А яму няхай сельсавет дасць!

— Нядобра гэтак, Зося…

— Майго бацьку таксама без труны недзе закапалі па дарозе ў Сібір, а Серафім і пальцам не паварушыў, каб яго выратаваць. Вырас жа на нашым хлебе. На гэтай лаве спаў!

— Бог з табою, рабі, як хочаш. А я пайду на пахаванне.

— Бульбу трэба капаць, а не шукаць прыгод.

— Бульба пачакае, а чалавека трэба ў апошні шлях правесці. Няма ў мяне ніякае маёмасці, дык хоць паплачу. Можа ад маіх слёз яму лягчэй на тым свеце будзе…

На другі дзень Зося з сынам капала бульбу. Не пусціла яго ў школу, няхай памагае. Хлопчык з задавальненнем гробся ў зямлі. Школу ён не любіў. Неяк піянерважатая ўпікнула Ораста, што ягоны бацька служыў у немцаў. Хлопчык адчуў у яе словах варожасць да сябе, стаў пазбягаць сустрэч з ёю. У піянеры яго не прынялі.

Ораст не вылучаўся сярод вучняў, але словы піянерважатай запалі ў душу. І ён спытаў у маці:

— Чаму кажуць, што мой бацька — вораг народа?

Зося выпрасталася, ласкава паглядзела на сына  і адказала:

— Толькі дурань можа такое казаць. Не слухай нікога. Ніякі ён не вораг.

Яна абняла сына, прытуліла да сябе і сказала:

— Аднойчы ён вернецца, і ты ўбачыш, што твой бацька самы разумны, добры і прыгожы чалавек на свеце.

— Але ж ён працаваў на немцаў.

— Ён працаваў, каб мы з табою не памерлі з голаду, хоць сам быў хворы. Часта ў яго балела галава. А ён не думаў пра сваю хваробу, а клапаціўся, каб ты быў здаровы. У цябе ёсць адзін бацька, іншага не будзе, любі яго, які ёсць. Няхай яны на сваіх бацькоў глядзяць і іх судзяць. А ты свайго любі! — паўтарыла Зося. — А цяпер давай працаваць, бо нас тут з табою і зіма напаткае.

Ораст задумаўся, пачаў моўчкі выбіраць бульбу, дапамагаць маці.

Па абедзе да іх далучылася Паўліна, якая прыйшла з пахавання Серафіма.

— А чаму ты на памінкі не засталася? — здзівілася Зося, — убачыўшы яе.

— Якія там памінкі? Можа, Надзя і паставіць якую пляшку самагонкі ды міску гуркоў на закуску тым хлопцам, што магілу выкапалі… Пахавалі Серафіма ў скрынцы. Астанкі нейкага немца выкінулі, а туды яго паклалі. Палатном накрылі ды апусцілі ў магілу. А Леванюк яшчэ і прамову нейкую сказаў. Не сорамна яму! — Паўліна ўсхліпнула, выцерла вочы, села на зямлю, стала разграбаць корч бульбы.

— Ад чаго ён памер?

— Счарнеў увесь. Кажуць, жоўць разышлася. Увесь год хварэў.

У Зосінай душы варухнулася жаласць да брата, бо не салодкае жыццё выпала яму, сіраце. Усялякі саб’ецца з тропу без падтрымкі і нагляду. Рос, як трава пад плотам, хто наступіць, хто прытопча, хто плюне.

— А Надзя засталася з двума дзецьмі на руках. Той немчык яшчэ зусім малы. А такі прыгожанькі, як лялька.

— Праз гэтую лярву ён і загінуў. Як пераժыць было мужыку, што ягоная жонка з немцам любіцца, а ён тым часам вымушаны як сабака пад плотам туляцца!

— Кажуць жа, што той немец яго выратаваў…

— Не доўга ён пражыў пасля таго выратавання. Замест хуткай смерці атрымаў марудную. Невядома, што лепш…

— Не наша гэта справа, Зося, хто як жыў. Царства нябеснае Серафіму, зямля яму пухам.

Жанчыны моўчкі ўзяліся за працу, думаючы кожная пра нешта сваё. Паўліна ўспомніла, як Надзя на пахаванні, трымаючы немаўля на руках, стаяла зажураная і ціха ўсхліпвала, як там усім распараджаўся Леванюк, як шкадавалі вясковыя бабы такога маладога нябожчыка: усяго толькі сорак тры гады!.. Але, ці ж гэта той узрост, калі трэба паміраць чалавеку, асабліва цяпер, калі усіх маладзейшых мужчын пабралі на вайну?

Думала яна і пра тое, што ёй цяпер, напэўна, ужо не выйсці замуж, бо мужчын свабодных няма, а за ўдаўцоў маладыя дзеўкі б'юцца.

— Ты казала, што Леванюк камандаваў на пахаванні? — раптам спытала Зося.

— А што?

— Нешта тут не так. Помніш, як зімою дзядзька Карп памёр, дык Леванюк і не заявіўся.

— Дык у твайго дзядзькі радні поўна, а Серафім адзін, сірата. Леванюк прадстаўнік улады… Хваліў нябожчыка, што быў добры чалавек. Працаваў у сялянскім камітэце…

— Не, нешта тут не так.

— Вядома, не так. Дзядзька ж Карп, як мы, на хутары жыў. Леванюк хутаранцаў не любіць…

— Няхай ён сваёй сарочкі не любіць. П'янюга гэты! — злосна адказала Зося, зноў унурваючыся ў працу.

Вярталіся дамоў позна. Паўліна паганяла каня, запрэжанага ў воз, на які былі нагружаны мяхі з бульбаю. Зося з сынам трохі адсталі, стомлена ішлі ўслед. На скрыжаванні сутыкнуліся з Марфаю, яна таксама ішла з поля.

— Ну што, збег твой Гардзей, а цябе адну пакінуў? — здзекліва спытала яна.

— Табе няма справы да майго мужыка. Ты сваіх байструкоў лепш даглядай, бо ім вошы хутка вушы паад'ядаюць.

— Ты маіх дзяцей не чапай! А я табе казала, што не будзеш ты з Гардзеем. Так па-мойму выйшла!

— А ты таксама ні з кім не будзеш! Няма твайго Якуба. Ён, кажуць, прапаў без вестак. Можа, да якой немкі ці полькі прыстаў, каб цябе, валацугу, не бачыць. Цьфу на цябе, выдра ты, што коням дуплі выдзірае.

— Каб ты пасчэзла! Сучка сухарэбрая! Каб табе век дабра не было! — закрычала Марфа.

— Ідзі прэч, быдла бязрогая, — агрызнулася Зося і пайшла ўперад.

— Навошта ты яе чапаеш, гэтую караўку брудную? — паўсчувала Паўліна нявестку.

— Хіба ж я яе чапала, яна сама так і лезе ў вочы як слата. Прывезла байстручку з Германіі, невядома з кім нажыла і яшчэ нос дзярэ!

Паўліна толькі ўздыхнула, думаючы, што, можа, і ёй трэба было б прыжыць якое дзіцятка, забыцца на сорам. Дзіця вырасце — будзе на старасць каму вады падаць. Але ж засталася без хаты, без гаспадаркі, няма дзе самой галавы прытуліць, а то яшчэ з дзіцем. Ніхто на парог не пусціць, што ўвесь род зганьбіла…

## 15

Людзі памянулі Серафіма за бедным сталом, дзе ўсяго і страў было, што куцця, бульба, смажаная капуста з грыбамі ды гуркі, і пачалі паступова разыходзіцца. Надзя паслала старэйшага сына сустрэць карову са статка, а малога пасадзіла на запечку, прыбірала са стала посуд, зносіла на прыпечак. У хаце ўсё яшчэ сядзеў за сталом Леванюк, нешта жаваў, з-пад ілба назіраў за жанчынаю.

«Сядзіць і сядзіць, быццам на лаўцы смаляной, — нязлосна падумала Надзя. — Што яму тут трэба? Няхай бы ішоў з Богам. І так на душы цяжка, а ён вісне над сталом, як крук над падлай. Напэўна, яшчэ выпіць хоча. А дзе я яму вазьму? І так у людзей пазычыла пяць пляшак. Гэта ж не вяселле, а памінкі. Ах, Серафім, Серафім. Лепш бы я цябе не ведала. Як жыць? Як дзяцей гадаваць?»

— Не бядуй, Надзька, — раптам азваўся Леванюк, быццам пачуў яе думкі. — Савецкая ўлада цябе ў бядзе не пакіне. Дзяцей выгадуем. І ты ў мяне будзеш першая прыгажуня на сяле.

— Ай, ахвота табе, Сцяпан, казаць абы-што. Якая мне трэба прыгажосць? Тут хоць бы выжыць ды дзяцей на ногі паставіць.

— Надзя, ведай, ты не адна. Я з табою.

— Добра, Сцяпан, дзякую за падтрымку, але ідзі ўжо дахаты. Мне трэба ўпраўляцца.

Леванюк прыўстаў з-за стала, схапіў Надзю за руку, пасадзіў побач з сабою:

— Не мітусіся, пагутарыць трэба.

Надзя паглядзела ў п’яныя вадзяністыя вочкі Леванюка і сказала:

— Ішоў бы ты, Сцяпанка, адпачываць. Такі цяжкі дзень выдаўся.

Леванюк заскрыгатаў зубамі. Грымнуў кулаком па стале і крыкнуў:

— Маўчы! Я застаюся ў цябе.

— А Божачкі! Ты што гэта прыдумаў на п’яную галаву? Людзей пасаромеўся б! Што ты тут будзеш рабіць? Навошта мне гэта?

— Што буду рабіць, пытаеш? Спаць з табою! — ён моцна сціснуў Надзю за плечы.

Жанчына адштурхнула яго, ускочыла з-за стала, абурана закрычала:

— Звар’яцеў зусім! Апошні розум прапіў. Я ў жалобе мушу год хадзіць пасля пахавання! Людзі засмяюць!

— Забабоны гэта ўсё. Няхай толькі паспрабуюць! Я ім хутка раты пазатыкаю.

— Госпадзі, што ты такое кажаш! — жахнулася Надзя. — Жыві, як чалавек. У цябе ёсць жонка, вяртайся да яе. Пакінь мяне ў спакоі.

Надзя села на лаву і ціха заплакала, выціраючы куточкі вачэй ражкамі чорнай хусткі. У чорным адзенні яна здавалася Сцяпану яшчэ больш прывабнай. На бледным твары свяціліся вялізныя сінія вочы. Нават слёзы не маглі замуціць іхняй чысціні і хараства. Уся Надзіна пастава была такая вабная, што яму хацелася хутчэй садраць з яе ўсё адзенне і ўбачыць, нарэшце, яе аголеную.

— Жонкі ў мяне няма, — сказаў ён. — Яна не ўпільнавала дзяцей, значыць, загінула разам з імі… А ты, між іншым, галубка мая, з немцам спала, шчанюка з ім прыжыла. Ты, атрымліваецца, класавы вораг! Вораг вялікага савецкага народа! Ты падумала пра гэта?

— Мне ўжо ўсё роўна. Я нічога не чакаю ад жыцця. Абы толькі дзяцей падгадаваць.

Сцяпан шмыгнуў носам, выцерся даланёю і здзекліва пасміхнуўся:

— А ты ведаеш, што чакае цябе і тваіх дзетак, калі нехта з нашых вяскоўцаў напіша куды трэба, хто ты ёсць, як жыла ў вайну? Не здагадваешся? Дык я табе скажу! Дарога дальняя ў казённы дом! А дзяцей у лепшым выпадку — у прытулак! А старэйшага могуць таксама — на катаргу. І ты ніколі больш не пабачыш іх, ні жывых, ні мёртвых.

— Ну, у чым жа я вінаватая? Хіба я каму зрабіла зло? Жыла, як магла. Серафіма ратавала… А тое, што дзіця нарадзіла… Мой грэх, за яго перад Богам буду адказваць…

Надзя зноў заплакала, затуліўшы твар рукамі. Увайшоў старэйшы сын, даўганосенькі, цыбаты, вельмі падобны да Серафіма, ціха сказаў:

— Я прыгнаў карову, яна ў хляве.

— Ідзі і падаі яе, — прыкрыкнуў на хлопца Сцяпан. — Бачыш, маці спакутавалася зусім.

Хлопец узяў вядро і выйшаў.

— Ён жа не ўмее, — заступілася за сына Надзя.

— Няхай вучыцца. Ну, хадзі да мяне, чаго ты ўцякла? Будзем жыць адной сям'ёй. Пакуль ты будзеш са мной, ніхто цябе не кране. Са мной ты жонка баявога чырвонага партызана, узнагароджанага ордэнам і медалямі, старшыні сельсавета, а без мяне ты хто, падумай? Нямецкая падсцілка! Якую трэба садзіць у турму.

Надзя цяжка ўздыхнула, падышла да стала і сказала, гледзячы Сцяпану проста ў вочы:

— Прабач, Сцяпан, я ніколі не здолею цябе пакахаць…

— Мне тваё каханне і не трэба. Адно мне трэба, каб ты спала са мною і нараджала мне дзяцей! Я хачу, каб да мяне вярнуліся мае страчаныя дзеці.

— Ах, Сцяпан, Сцяпан, у вёсцы столькі ўдоў, маладых, прыгожых…

— А я цябе прыгледзеў, калі яшчэ з лесу прыходзіў… Такая ты была салодкая ягадка-малінка…

— Дай мне падумаць… Хоць месяц, два…

Сцяпан грымнуў кулаком па стале і крыкнуў:

— У гэтым доме думаць і вырашаць буду я! Калі ты хочаш выжыць і выгадаваць дзяцей, дык рабі тое, што я сказаў.

Дзіця, якое да гэтага ціха сядзела на запечку, спалоханае крыкам, заплакала. Надзя кінулася да яго, узяла на рукі, стала суцяшаць. Сцяпан падняўся з-за стала, падышоў да запечка, лёг на пасцель, не разуваючыся.

«Госпадзі, за што ты мяне караеш? Грэшная я, вінаватая перад Серафімам. Адкуль мне было ведаць у юнацтве, што аднойчы сустрэну Эрыха і аднаго яго пакахаю? Няўжо маё каханне — вялікі грэх? Шчаслівай я была толькі з Эрыхам. Даруй, Божа, не ведаю, што ў цябе прасіць, жыцця ці смерці. Каб не дзеці, засілілася б зараз у клуні. Але ж на каго дзяцей пакіну? Загінуць яны сярод чужых, — горка падумала Надзя. — Госпадзі, воля твая, што ты мне пасылаеш, тое і мушу прыняць. Дай мне мудрасці зразумець, дзе кара твая, а дзе ўзнагарода…»

***Працяг будзе.***



## Юрка ГОЛУБ

### НА КУРГАНЕ

У бездань падаў цень груганны
І нанач сонца замыкаў,
Каб дуб застаўся на кургане,
Бадай, апошнім з магікан.

Жарства апальвала падэшвы:
Пад сподам гневаўся  вулкан.
І лёс нябёс сабой завершваць
Жадаў жытнёвы акіян.

Як ледавік на першапутак,
Сюды спаўзаў груваcткі змрок.
Курган раздзерці — шалапутаў
Аднекуль знесла назнарок.

Ды ён паўстаў, калі світала:
Апёкі. Подых. Знакі. Звыш.
Ды толькі дуба не хапала
Між ім і воблакам. Паміж!

Кургане, бачым: вечнасць долю
Тваю захутала ў шынель.
І дуба, што на подзвіг здольны,
Ізноў пакліча зашумець.

### НАСКАЛЬНАЕ

Ведалі князь і смерд:
Чыншу чакай ад ліха.
Абодвух скруціла смерць,
Як круціць мароз адлігу.

Хавае наскальны знак,
Як дзёр ён прыгонным пальцы.
У пальцах граніт размяк:
Лёзам не роўня — пяльцы.

Прагне натоўп злічыць
Даўніх прыкмет даніну.
Шлях, бы страла, злучыў
Воблака і даліну.

Красу ашчаперыў час.
Кнот ледзь ліпіць келейны.
Над безданямі імчаць
Скроўленыя алені.

Знік апошні бандыт?
Бойкам сканаць свядома?
Раіць яго не будзіць
Разьбяр адсюль невідомы.

---

***Голуб Юрый Уладзіміравіч*** *нарадзіўся 20 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Горна Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1970). Працаваў на Гродзенскім абласным тэлерадыёаб'яднанні, у газеце «Гродзенская праўда».*

*Аўтар паэтычных кніг «Гром на зялёнае голле» (1969), «Дрэва навальніцы» (1973), «Векапомнае поле» (1976), «Помню пра цябе» (1983), «Сын небасхілу» (1989), «Поруч з дажджом» (2001), «Зажураны камень» (2002), «Брама зімы» (2004), «Багра» (2006) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (2000).*

## СНЕЖЫЦЦА…

На ходніку ўраздроб
Абцасікі гучалі.
А побач гурбы гроб
Завеі круг ганчарны.

Пад дахам вераб’і
Спынілі сойм картавы.
Замерз агонь рабін —
Заложніцаў квартала.

Спацелі навылёт
І ў пасталах пасталі
Байцы, што нішчаць лёд,
Ажно хрумсцяць суставы!

Закутак і куток
Названы паімённа.
Вунь служыць за каток
Балея стадыёна.

У вока — шусь — запаў,
Бы ў ясным леце спіца,
Дамок з адных забаў
Запешчанай сініцы.

Відаць, з птушыных мэт
Цярушыць дрэва іней.
І тлее той умэнт,
Распараны, на спінах.

Выгнанніца выгод,
У сквер загляне поўнач,
А з ёй дзеля прыгод
Мароз дружбісты поруч.

Завулак. Снегапад
Ідзе сюды, нядрэмны.
Вярнуць яго назад
Ці заступіць — дарэмна!

## ЗГУБА

**1**

Кіраваўся адзін. Змяркала.
Злева хмара на дуб апала.
Праваруч вунь трава паўстала,
Як нашчадніца ледавіка.

І чаму вось цяпер прыпала
Сведкам стаць, як травы не стала,
Нібы згубленага чарнавіка…

**2**

Прачынаецца ліст. Світае
Над ракой, дзе вада святая.
Дзе знікала трава — атава
Сыпле росы, бы з рушніка.
На нябеснай лаве актавы
Спіць салоўка. І ёсць падставы:
На падушцы чарнавіка.

## АДВОЛЬНАЕ АБ КОЛАХ

Варушыць губамі дождж —
Пагоды свядомы здрайца.
Дажджу непадлеглы «додж»:
На «доджы» вайне здарацца.

…знаўца забытых меж…
…творца скразных барознаў…
Трактар! Яму найперш
Выльецца помнік з бронзы.

…заручанае рулём…
…аблашчана кола полем…
…не скрадзенае над раллёй…
(Па водгуках «Інтэрпола».)

…узніклі зусім няўзнак
Былога калгаса колы.
На колах сядзіць вазак,
З табою аднакі кольвек.

...драбіны, дзе сноп у сноп…
Ды зіркае слоўнік коса:
Спыніся, мілосны! Стоп!
Не колы — а ўсё ж! — калёсы.

…заўвагу здаю ў набор…
Кіруе народ на колах
Туды, дзе ў званах сабор,
Дзе ў квет увабрана школа.

…прымроіўся млын: завоз…
З гняздом развітаўся жораў.
Схапіўся ячмень за вось.
На кола падобны жорны.

…раскручваўся з-пад калёс
Пыл пад наглядам глогу.
А рух пераняў, нябось,
Круглы, як кола, глобус.

…прываблівае аспект
(Магчыма, не ўсім вядомы):
Каб вынайсці веласіпед,
Звярнуўся да кола homo.

## МАЗАІКА З АКНА

…а падалося: уваскрос,
Каб да абсягу прычыніцца.
А тут, прамоклая наскрозь,
Вітае сонца аканіца.

…у квет ступіў камлісты сад,
Квачом пабелены па пояс.
(Нібы зайшоў на новы сайт,
Калі шукаць з сучасным повязь.)

…шпакі шліфуюць пёркі ў рад:
Аблюбавалі доўгі провад.
А хто пустой шпакоўні рад,
Калі прымерзне на Пакровы?

…згінае шыю журавель
(Ён цудам выжыў. Дажывае…)
І быдла з раніцы раве:
Калі раве — дык плоць жывая.

…ахвяру сочыць дрэмны кот —
Сабакі невыносны вораг.
Калі было б наадварот,
Дык хто застаўся б у фаворы?

…спыніўся нанач грузавік,
Гразёй заляпаны па кузаў.
Прылашчыць шапку поўні
цвік
На вушаку нябеснай кузні.

…збіраць даніну выйдзе змрок:
Абдымкі вольніцы пазычыць.
Іржавы вечнасці замок
Не замыкаецца па звычцы.

## ПАСТАРАЛЬ

На лапці лыка дралі,
І дзёрся кнот да столі.
На дольнай пастаралі,
Бадай, найболей волі.

Ляцелі кветак стужкі
Абвіць у гаю постаць.
Пастух гарнуў пастушку,
А воблакі — апостал.

Няма дакладных звестак,
Калі біблейскі статак
Агледзеў тут палетак
І скуб траву ў дастатак.

У свеце з шалам-ровам
Не ўразіць вестка тая,
Што ў Індыі карова
Пасецца як святая.

Жанкі мясцінаў наскіх
Дый цалкам люд тутэйшы
Трымаюць браму насцеж
Кароўкам сама лепшым.

У росным звоне словы:
Няма ад прагных спасу.
Пастух пастушцы мовіць,
А статак — самапасам.

Заўжды замова — нова.
Прыняць гатова зноўку
Пярэстую карову
За божую кароўку.

Аперлася на локаць
Пастушка на мятліцы.
Мятліцы павалока
Не супраць паваліцца.

Разбежыста пасталі:
Трымаюць посах просты.
Пастух — на пастаралі.
На воблаках — апостал.



**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# ЗАЦЬМЕННЕ

*Аповесць*

Працоўны дзень заканчваўся... Як звычайна, у гэтыя хвіліны мне ўжо хацелася есці, і я звыкла думаў, што вось сёння, нарэшце, пайду з працы як належыць. Праўда, так ніколі не атрымоўвалася, але сёння, здавалася, нічога не замінала таму, каб пакінуць кабінет не ў восем, палове на дзявятую, а хаця б у сем.

Тэлефон зазваніў як заўсёды нечакана.

— Выбачайце за турботы, маё прозвішча Кулінковіч. Я тут знаходжуся ў вас у бюро прапускоў. Хацелася б убачыцца. Ёсць важная размова. — Голас быў прыемны, крыху хрыплаваты.

— Прабачце, а вы хто?

— Я адзін з прыхільнікаў вашага таленту. Я даўно чытаю ўсе вашыя кнігі і мне ёсць, што вам сказаць.

Гэта было крыху неспадзявана. На працы я не асабліва каб гаварыў аб сваім пісьменніцтве, хоць калегі і ведалі, што пішу кнігі, ды і наогул, у адрозненне ад сучасных папулярных аўтараў тыпу Марынінай або Акуніна, чытацкай увагай спешчаны не быў. Зрабілася цікава.

— Ну, калі ненадоўга, то калі ласка, зараз вам выпішуць пропуск.

І вось перада мною сярэдняга росту, з лёгкай сівізной мужчына. Апрануты някідка, але з густам. Кароткая стрыжка прыхоўвала лысіну, чыста выгаленыя шчокі і падбародак, пах дарагой парфумы дапаўнялі ўражанне дагледжанасці і нават пэўнай імпазантнасці незнаёмца.

Толькі вочы глядзелі неяк журботна і бездапаможна.

Незнаёмец дастаў з партфеля папачку і маю новую кнігу, якая выйшла зусім нядаўна. Выглядала на тое, што яе чыталі, былі відаць закладкі.

---

*__Гальпяровіч Навум Якаўлевіч__ нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў горадзе Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання навапалацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008) і інш.*

— Я, канечне ж, спачатку папрашу ў вас аўтограф, — прамовіў ён сваім мяккім барытонам, — але найперш, як ваш уважлівы чытач, хацеў бы пра тое-сёе запытацца.

— Калі ласка, што вас цікавіць?

— Вы шмат пішаце пра каханне. Але ў мяне ствараецца ўражанне, што вы або не зусім шчыры, або знаходзіцеся ў палоне наіўных для вашага веку юнацкіх уяўленняў.

— Якіх жа?

— Жанчына ў вас — нешта светлае, незямное, высокае, але ж гэта не зусім так, дакладней, зусім не так!

— Адкуль такая перакананасць?

— Паверце, я шмат бачыў, шмат, перажыў. Наогул, усё жыццё, а мне далёка за пяцьдзясят, правёў у чаканні кахання…

— І?..

— Вы ўсё зразумееце, прачытаўшы гэта, — і ён паказаў позіркам на папку.

«Яшчэ адзін графаман», — скрушна падумаў я, — «трэба завязваць з гутаркай».

— Вы ведаеце, я параіў бы вам звярнуцца ў часопіс або ў выдавецтва. На жаль, я нічым дапамагчы не змагу, хіба што парэкамендаваць, да каго менавіта звярнуцца.

— Вы мяне не зразумелі. Гэта не літаратурны твор, ды і на лаўры літаратара я зусім не прэтэндую. Хутчэй тое, што ў душы накапілася, хочацца камунебудзь выказаць, ды і вас ад вашых ружовых... прабачце… крыху адарваць.

— А ці трэба гэта мне? Я ж таксама далёка не хлопчык.

— Думаю, трэба. А раптам вы ўсё ж такі нешта праўдзівае напішаце.

— Што ж, пакідайце, але хуткага прачытання не абяцаю.

— А гэта мы паглядзім. Тут лісты. Іх я пісаў адной асобе, але... Словам, для вас будзе цікава.

— Добра, — згадзіўся я. Прачытаю... І што мне з усім гэтым рабіць?

— А што жадаеце! Можаце выкінуць у сметніцу, можаце спаліць, толькі спачатку прачытайце.

— А як мне вас потым знайсці?

— А навошта? Калі застануся жывы, я вам сам патэлефаную.

Гутарка мне ўсё больш пераставала падабацца.

— Выбачайце, у мяне яшчэ шмат спраў сёння.

— Так, так, не буду затрымліваць, ды вы ўсё ж такі прачытайце.

Ён паспешліва падняўся і буркнуўшы «Да пабачэння», знік за дзвярыма.

На стале ў мяне засталася так і не падпісаная мною кніга і папка з лістамі, скрэмзанымі няроўным нервовым почыркам.

Чытаць гэта ўсё я, вядома, не стаў. У душы застаўся чамусьці нейкі непрыемны асадак, і я вырашыў хутчэй выкінуць з галавы тую размову.

Не ведаю, колькі б праляжала папка ў мяне ў стале непрачытанай, але неўзабаве адбыўся выпадак, які нагадаў мне і пра папку, і пра дзіўнага незнаёмца.

У адзін з панядзелкаў раніцой літаральна ўварваўся да мяне ў кабінет загадчык аддзела інфармацыі Аляксей.

— У нас тут ЧП! Валянцін у рэанімацыі, лекары наогул баяцца, што не выжыве

— А што здарылася? — Валянцін быў малады здаровы хлопец, адзін з самых актыўных супрацоўнікаў.

— Кажуць, ад рэўнасці жонка нажом пырнула. Каханне ў іх такое.

Я ўспомніў жонку Валянціна і яе візіт да мяне пару месяцаў назад.

— Вы мяне не пазнаяце? — спытала далікатная мілавідная жанчына, якая чакала ў прыёмнай. — Я жонка Валянціна. Ён мяне неяк знаёміў з вамі.

— Так, так, прыгадваю, праходзьце, калі ласка, слухаю.

Жанчына села ў крэсла, дастала з сумачкі хусцінку і, як мне падалося, дужа акуратна, каб не папсаваць парфуму, заплакала.

— Дапамажыце захаваць сям'ю, — прамовіла скрозь слёзы.

— Я не разумею…

— А што тут разумець? Ужо ўсе ведаюць, што вашая новая супрацоўніца Анжэліка адбівае яго ў мяне. Я спачатку не верыла, але потым сама высачыла, як ён выходзіў з яе інтэрната.

Я не ведаў, што адказаць. Анжэліка была маладзенькім кірпатым дзяўчом, учарашняй студэнткай, працавала ў нас усяго два месяцы.

— Вы ведаеце, гэта пытанне далікатнае. Асабістыя справы супрацоўнікаў мяне не вельмі цікавяць. Ды і я тут неяк нічога такога не заўважаў.

— Гэта вы не заўважалі. А пра гэта ўжо на кожным кутку шэпчуцца. Або вы з ім пагаварыце, або я гэтай справы так не пакіну!

— Ну, я, шчыра кажучы, не ведаю, якая тут можа быць мая роля.

— Перадайце яму, што я яго кахаю і жыць без яго не буду. І гэтую вашую шалахвостку ўціхамірце.

З Валянцінам я тады так і не пагаварыў, думаў, што ўсё само ўтрасецца, а вось, аказваецца, як выйшла...

Неўзабаве падзея абрасла новымі падрабязнасцямі. Аказваецца, жанчына чакала парачку каля інтэрната, нанесла міламу ўдар нажом амаль пад самае сэрца, затым спрабавала пакончыць з сабой, але набеглі людзі, скруцілі рукі і здалі яе падаспеламу міліцэйскаму патрулю.

«Вось гэта каханне!.. — шапталіся ў кабінетах супрацоўніцы, — зусім як у кіно».

Усе з цікавасцю пазіралі на Анжэліку.

— Не такая ўжо яна і ціхоня, — абуралася Тамара Фёдараўна, загадчыца аддзела пісем. — Адразу двух зайцоў хацела забіць: і прапіску сталічную з кватэрай атрымаць, і мужыка, гатовага, непітушчага і багатага…

Аказваецца, Валянцін падаваў ужо на развод і рыхтаваўся да вяселля. — Якое ўжо тут каханне? Ён гадоў на пятнаццаць старэйшы, тоўсты, лысы, ладны бацька, а не жаніх. А вось глядзі ж ты!..

— А што такое каханне? — падтаквала ёй карэктар Любачка, — гэта ўсё пісьменнікі ды кіношнікі прыдумалі. — Ажаніўся, жыві, дзяцей выхоўвай. А яны  к а х а н н е.  Кабялі яны ўсе. Ім аднаго толькі трэба!

— Ну, не скажыце, Любачка, — млявым голасам адгукалася сакратарка Алёна. — Калі добры мужчына, не «блакітны», то чаму б і не пакахацца...

— Няма яго, ніякага кахання, — падводзіла вынікі спрэчкі мажная вярстальшчыца Наталля, — ад уласнай хцівасці Валянціна жонка пырнула. А мне яго і не шкада. Думаць трэба было, з кім шлюбам брацца.

«І тут пра каханне, — падумаў я, — так гэта ўсіх хвалюе».

Вярнуўшыся ў кабінет, я знайшоў у скрыні стала папку, і, дачакаўшыся канца дня, стаў разбіраць незнаёмы почырк. Лісты былі датаваныя, але адлік падзей у іх быў нейкі дзіўны — з канца. Ні звароту, ні подпісу ў іх не было. Гэта быў хутчэй своеасаблівы дзённік, і я не змог адарвацца, не дачытаўшы яго да канца.

7.09. Учора мы з табой вячэралі ў нашым улюбёным украінскім рэстаранчыку. Табе падабаліся там галушкі з вішняй, боршч з пампушкамі, відаць, гэта ў нечым табе нагадвала нашую колішнюю вандроўку ў Кіеў. Перад гэтым я, як звычайна, чакаў цябе з букетам ружаў. У апошні час я табе дарыў толькі ружы. Хіба што ўвесну змяняў іх на твае любімыя ландышы. Але толькі на пэўны час. Ружы, і толькі ружы! Яны павінны былі заўсёды свежыя стаяць на маленькім століку побач з тваім ложкам і нагадваць табе аб тым, што я заўсёды з табой, што думаю толькі пра цябе.

І сёння яны ззялі сваім яркім палымяным святлом, гарачым, як пачуццё, якое заўсёды выклікала ўва мне ты. Гэта так адпавядала радкам аднаго паэта, якія я вычытаў нядаўна:

Чырвоную ружу табе я прынёс,
Як споведзь, як згадку, як здзейснены лёс.
Пялёсткаў пяшчотных заззяла святло.
І ціхае свята над намі ўзышло.

Мой сябар, які ведаў пра гэту маю таямніцу, нават жартаўліва называў мяне «ружаносец». Дарэчы, маё гэта шалёнае не па гадах каханне выклікала ў яго спачатку іронію, а потым і пэўную зайздрасць. «Ты шчаслівы чалавек, — казаў ён, — але глядзі, каб потым не пакутаваць, бо дабром гэта ўсё не скончыцца».

Але пра дрэннае я думаць не хацеў. Кветкі, твая ўсмешка, лёгкі дотык рукі, здаецца, вярталі мне паўзабытую маладосць і юначую сілу.

У той вечар ты была заклапочаная. Апошнім часам у цябе нешта не ладзіліся адносіны з начальствам, і я, як мог, стараўся суцешыць цябе, падбадзёрыць. І цяпер я трымаў у руках тваю далонь, асцярожна перабіраючы тонкія пальцы, стараючыся перадаць табе ўсю маю бясконцую цеплыню і спагаду.

На твае вочы навярнуліся слёзы. Раптам ты загаварыла пра сына, пра яго поспехі ў інстытуце. І далей я пачуў такое, што прывяло мяне літаральна ў шок:

— Мусіць, табе непрыемна будзе гэта слухаць, але я скажу. Я ўпэўненая, што ў Віктара будзе ўсё добра, бо ён нарадзіўся ў любові і ад кахання. І гэтае каханне да гэтага часу, напэўна, яшчэ не прайшло.

Нешта падобнае я ўжо чуў, хоць з бацькам Віктара ты рассталася даўно, а нашым адносінам ішоў ужо сёмы год.

Убачыўшы, што я зніякавеў, ты крыху памаўчала, а потым працягвала:

— Я вельмі ўдзячная табе за падтрымку, за ўсё, што ты робіш для мяне, для Віктара, для маёй сям'і. Але я ведаю, што такое каханне. Цябе я не кахаю.

Ты разумееш, што мяне ўразіла? Нават не словы, ты ўжо некалькі разоў намёкамі гаварыла пра свае пачуцці да былога мужа, маўляў, ты не ўпэўненая, ці зможаш каго-небудзь гэтак жа пакахаць… Тое, у які момант ты вымавіла гэта. Быццам я пацягнуўся да тваіх вуснаў з пацалункам, а ты мне плюнула ў твар. Я далей амаль не чуў, як ты гаварыла, што мы з табой вельмі падобныя, што ты шмат чаму ў мяне навучылася, што я сапраўдны сябра…

Павер, мне каштавала нямала намаганняў, каб не падняцца і не пайсці, пакінуўшы цябе адну... Не сказаць табе нешта абразлівае, злое. Я ўжо не памятаю, што адказваў, што прамаўляла ты, памятаю, што стараўся гаварыць роўна, спакойна, хоць душу перапаўнялі крыўда, горыч, пачуццё несправядлівасці.

Мне хапіла сіл, не паказваючы выгляду, што абражаны і ўзрушаны, заказаць яшчэ табе марожанае, разлічыцца з афіцыянткай, выйсці разам, каб праводзіць цябе дадому. Ты глядзела на мяне і неяк разгублена вінавата ўсміхалася, нешта спрабавала гаварыць, але я нічога не чуў.

Каля пад’езда ты, як і раней пры развітанні, пацалавала мяне ў губы і сказала звычайнае:

— Да заўтра. Стэлефануемся.

Выбачай, але я тэлефанаваць табе не стану. Не змагу. Мне нават гэтыя радкі невыносна цяжка пісаць. Не ведаю, ці змагу паслаць табе гэты ліст. Не ведаю, як жыць далей… Усе гэтыя гады я жыў табой, нашым пачуццём. Нашым, бо нельга ж так хлусіць, ды і ты сама казала, што не прытваралася, калі дарыла мне сваю пяшчоту. Праўда, ты аднойчы прамовіла, што не можаш адказаць мне такім гарачым пачуццём, як у мяне, але з удзячнасцю прымаеш маё. Я сказаў тады, што ўсё добра, што мне дастаткова і гэтага, што галоўнае тое, што мы разам, што я бачу тваю ўсмешку. Памятаю, як ты з захапленнем прамовіла, што такіх мужчын, напэўна, на свеце не бывае, што я — самы лепшы, самы, самы...

Я не хачу быць самым. Я проста прасіў цябе прымаць усё, што ёсць, або не прымаць зусім. Ты казала, што прымаеш. І раптам... І дзеля чаго гэта было гаварыць, калі мы не развіталіся з табой і нашым каханнем назаўсёды?..

8.09. Сёння твой дзень народзін. Паслаў табе SMS з віншаваннем і адключыў тэлефон. Твой нумар з «кантактаў» я выдаліў. Звычайна ў гэты дзень я дарыў табе падарункі. Памятаеш, летась гэта былі залатыя завушніцы? Як у песні на вершы Максіма Танка, з намёкам. Бо мы не раз слухалі разам песняроўскія «Завушніцы», дзе Мулявін сваім дзівосным голасам выводзіў» «звіняць ёй завушніцы... усё пра маё каханне»...

У пакойчыку на маім сёмым паверсе нам было горача, хоць тэрмометр на сцяне паказваў усяго васямнаццаць градусаў. Горача ад нашых гарачых целаў, ад пацалункаў, ад дотыкаў, ад апантанага рытму нашых танцаў кахання. Ты была такой летуценнай, такой маладой... Стаміўшыся, ты ляжала, загарнуўшыся ў коўдру, а я ўсё глядзеў на цябе і не мог адарвацца... Я так жадаў, каб гэты цуд працягваўся заўсёды, але надыходзіў час, ты пачынала збірацца дадому, дзе цябе чакалі сын, бацькі...

Калі мы пазнаёміліся, я нават і не марыў пра такія цудоўныя хвіліны блізкасці, хаця жадаў іх пры першым жа дотыку да тваіх халаднаватых танклявых пальцаў. Але амаль год мы былі як рамантычныя закаханыя, і на грубаватае пытанне сябра «ты хоць пераспаў з ёй?» я нешта няўцямна мармытаў. Затое потым я спазнаў, напэўна, усе таямніцы размаітага і салодкага шчасця яднання целаў і душ, якое мне дагэтуль адчуваць у такой меры не даводзілася.

Увогуле, спачатку акрамя лёгкага флірту ні пра што іншае не думалася. Былі паходы ў тэатр, на выставы, гутаркі, праз якія мы выявілі шмат агульных поглядаў на розныя бакі жыцця... І было хараша ад сустрэч, як у маладыя гады, ад усяго гэтага рамантычнага веснавога адчування агульнага прыцягнення асоб...

Ты неяк сказала, што душы хочацца свята. І свята было. Я нават паспрабаваў тады накрэмзаць некалькі радкоў, хоць да гэтага вершы пісаў толькі ў школьныя гады.

Ты свята жадаеш? Ты — свята само,  
Таму, што ты лепшая ў свеце.  
Я свет падарыў бы табе, каб я мог!  
Ты — сонца, Ты — неба, Ты — вецер.

Аднойчы, калі мы гулялі па Батанічным садзе, дзе раскошна цвіў бэз, ты папрасіла пачытаць гэтыя радкі, і я, пачырванеўшы як школьнік, прамармытаў іх, заікаючыся, а ты пяшчотна пацалавала мяне ў вусны гарачым жаночым пацалункам.

9.09. А памятаеш нашую паездку ў Кіеў? Тыя цудоўныя сем дзён я не забуду ніколі!.. Мы жылі ў невялікай прыватнай гасцініцы непадалёк ад Крашчаціка. З пакоя адкрываўся цудоўны краявід, у якім былі высокія пагоркі, дзе сярод зеляніны віднеліся купалы цэркваў, помнікі... Наогул, Кіеў — дзівосны горад! Мы каталіся па Дняпры на цеплаходзе, затым па манарэйкавай дарозе насупраць рачнога вакзала, падымаліся па крутым схіле ў цэнтр горада, хадзілі па пешаходным Крашчаціку, спыняючыся каля вулічных музыкаў і фантанаў, у якіх купаліся дзеці, елі марожанае, і было так добра, што нават не верылася, што так можа быць.

Часам на твой твар набягала нейкая лёгкая хмарка, і мне станавілася страшна, што раптам усё скончыцца і ты знікнеш назаўжды. Я заўсёды баяўся гэтага, бо памятаў твае выпадковыя фразы і аб маім узросце, і маім невысокім росце... І яшчэ, калі ты парой успамінала свайго былога мужа. Я дзесьці чытаў, што ўзгадваць свайго былога мужчыну перад новым — найвышэйшая бестактоўнасць, але сказаць табе аб гэтым не адважваўся.

Дарэчы, мяне заўсёды цікавіла, чаму вы развяліся. Неяк ты намякнула, што ён здраджваў табе. Другі раз прамільгнула, што нібыта ён любіў заглядваць у чарку. Але я адчуваў, што табе не хочацца гаварыць пра гэта, і не задаваў ніякіх пытанняў.

А памятаеш, калі мы заставаліся адны, вярнуўшыся пасля шпацыру па горадзе? Я ніколі не ўяўляў у сабе гэтулькі пяшчоты, гэтулькі мужчынскай сілы!.. Усё, не магу больш пісаць, а то што-небудзь разаб'ю або сам разаб'юся...

10.09. Дарэчы, калі памятаеш, ты першай прапанавала тое, што зрабіла нас сапраўднымі каханкамі.

Заканчваўся навучальны год, надыходзіла лета, і ты неяк сказала:

— Давай паедзем з табой куды-небудзь. Ты выберы месца, каб было не так далёка, а я скажу дома, што еду ў камандзіроўку.

Я выбраў ціхі палескі гарадок Лунінец, у якім бываў не раз. Нас чакала трохпакаёвая кватэра, якую расстараўся на час у сваіх знаёмых мой былы аднакласнік, які працаваў у абласной газеце.

Ён і сустрэў нас на мяжы раёна. Памятаю яго ацэньваючы позірк і ўзняты вялікі палец за тваёю спіной, які красамоўна сведчыў пра яго рэакцыю на мой выбар.

Вулачка, на якой мы жылі, выходзіла на бераг Прыпяці. Шырокая і велічная, яна заварожвала сваім спакоем. Няспешна праплывалі баржы з пяском, праносіліся хуткія маторкі. Пахла разнатраўем, і гэты салодкі пах кружыў галаў. Вакол нібыта веяла таямнічай неразгаданай казкаю, і ўзгадвалася Караткевічава «Дзікае паляванне...», і здавалася, што зараз разарве сонную цішыню цоканне старажытных дрыкгантаў і трубны голас залямантуе «Раман у дваццатым калене, выходзь!..»

А памятаеш бакеншчыка «рыжага Петрыка»? Так звалі яго аднавяскоўцы. Нас на маторцы па шырокай Прыпяці вазіў да яго ўсё той жа мой аднакласнік Саша. Гарэла вогнішча, у вялікім кацялку варылася юшка, а мы сядзелі, цесна прыхінуўшыся адно да аднаго, і было нам цёпла і ўтульна. Праўда, Петрык неяк дзіўнавата паглядаў на нас, і ты потым сказала, што табе было ніякавата, бо ён, як ты адчувала, здагадваўся, што мы не муж і жонка.

А потым мы збіралі суніцы. Я ўпершыню бачыў такое: буйныя суніцы ў зарасніках травы на лясной паляне. Ты шчыра радавалася кожнай ягадзе, клікала мяне, і мы цалаваліся, як школьнікі.

І была нашая ноч, салодкая і шчаслівая. Раптам, нечакана для мяне, ты сказала:

— Ты ведаеш, мой былы муж быў выдатным каханкам. Я яму ўдзячная, што ён дазволіў мне з першай жа нашай ночы адчуць сябе сапраўднай жанчынай.

Мяне тады гэта моцна ўразіла. Дарэчы, не разумею чаму, але гэты твой Уладзіслаў узнікаў у тваіх гутарках досыць часта, хоць ты гаварыла, што больш не кахаеш яго, што ніколі да яго не вернешся...

Расчулены пасля першай ночы, я сказаў, што вось мы маглі б зрабіць хлопчыка ці дзяўчынку. Раптам твой твар стаў халодны і злосны, і ты вымавіла: «Вось ужо не! І болей пра гэта ніколі не будзем!»

Аднойчы мы зайшлі ў царкву. Там быў паўзмрок, пахла ладанам, строгія лікі святых пазіралі са счарнелых абразоў і нібыта пыталіся: «Хто вы, адкуль?»

Калі мы выйшлі на сонца, ты раптам заплакала, горка, па-дзіцячы.

«Мы грэшнікі, нас трэба караць страшнай карай!»

Я, як мог, суцяшаў цябе, казаў, што я не венчаны, што гатовы быць з табой усё жыццё, гатовы ўсё кінуць дзеля цябе, што ніколі не пакрыўджу цябе ні словам, ні думкай...

Раніцай, калі мы збіраліся ўжо дахаты, зайшла гаспадыня. Яна прынесла нам вядзерца трускалак. Я выйшаў з ёй у вітальню, каб разлічыцца. «За трускалкі нічога не трэба, — сказала яна, — гэта мой падарунак. Хай вам Бог дае ўсяго, хай будзе ўсё па-людску!» І ў гэтых яе словах я чуў і спагаду, і прыхаваны папрок. Відаць, гэта адчувала і ты, бо была ціхай і строгай.

11.09. Не прыводжу тэкст па этычных меркаваннях.

12.09. ...Я чакаў цябе, як заўсёды з кветкамі, унізе, на спуску ад плошчы, дзе ты звычайна вярталася з працы. Мы дамовіліся сустрэцца ў холе фотаатэльe, але там было гэтулькі людзей, а на вуліцы так добра, што я вырашыў выйсці табе насустрач.

Ты ішла і аб чымсьці гутарыла з жанчынай сярэдніх гадоў. Я пацягнуўся насустрач з усмешкай, але ты раптам... прайшла міма, зрабіўшы выгляд, што мы не знаёмыя.

Мне нават стала горача ад нечаканасці. Я стаяў, не ведаючы, што рабіць: ісці далей або павярнуць за табой. Я азірнуўся. Вы падыходзілі да тралейбуснага прыпынку, ты зірнула ў мой бок і падміргнула мне правым вокам. Ты ведала, як мне падабаецца гэта тваё змоўніцкае падміргванне.

Твая суразмоўца ўскочыла ў тралейбус, а ты пайшла мне насустрач.

— Ты пакрыўдзіўся? Прабач, калі ласка. Я думала, мы сустрэнемся ў атэльe. А ты — на вуліцы Я разгубілася. Ты ведаеш, як я не люблю пляткарства гэтых нашых цётак.

«Цёткамі» ты называла сваіх каляжанак па працы. Мяркуючы па тваіх словах, яны заводзілі пастаянныя гутаркі аб палюбоўніках і палюбоўніцах, разбітых сем’ях, няўдзячных дзецях.

У гэты вечар ты была асабліва пяшчотная са мною. Нават дазволіла сабе тое, што для строгай настаўніцы, завуча школы лічылася б вельмі непрыстойным…

2.11. Гэтулькі табе не пісаў! Накаціла такая нуда, такая крыўда, што не ведаў, як выжыць. Але вось жыву. І нават пішу табе, не ведаючы, навошта.

Памятаеш, якія бурштынавыя пацеркі я табе прывёз з Таліна?

Ты радавалася як дзіця, як раней радавалася маленькаму пярсцёнку з тваім любімым каменем, як радавалася залатому ланцужку ці прыгожаму бурштынаваму бранзалету...

— Мне ніякавата, я не заслужыла яшчэ такіх падарункаў, — сказала тады ты.

— Не гавары так! Падарункі не заслугоўваюць, іх прымаюць, калі яны падораныя ад душы, ад сэрца. Самая галоўная падзяка для мяне — гэта твая радасць, твая ўсмешка…

Я быў шчаслівы адчуваць сябе побач з табой чараўніком. Свежую архідэю сярод зімы, квіток на канцэрт заезджай зоркі… Мне хацелася зрабіць цябе самай шчаслівай на свеце. Мне здавалася, што некаторы час гэта атрымоўвалася. Ва ўсякім разе ты мне так гаварыла, і твае вочы свяціліся ад радасці. Гэта нагадвала чароўную казку, дзе я быў нібыта магутны шчодры прынц, а ты — шчаслівая Папялушка. І хацелася, каб так было вечна.

5.11. «Прабачыць можна, але забыць нельга». Нядаўна адшукаў у кнізе гэты выраз старажытнага мудраца. Як ты мяне пакрыўдзіла аднойчы, сказаўшы, што табе падабаюцца высокія, стройныя, бялявыя мужчыны, як твой бацька, выразна змераўшы мяне позіркам: я быў не такі ўжо высокі, не бялявы, з ледзь прыкметным жывоцікам, які пастаянна стараўся прыхаваць, але гэта не вельмі ўдавалася.

Іншым разам ты прынялася разважаць аб тым, што станоўчы мужчына менш цікавы для жанчыны, чым «няправільны», хай ён нават будзе п’яніца, хуліган, ці ўвогуле бандыт-рэцэдывіст. Паколькі ты мяне лічыла станоўчым, пра што не раз гаварыла, слухаць гэта мне было не вельмі прыемна.

Часам, мне здавалася, што ты знарок жадаеш зрабіць мне балюча. Асабліва, калі ты пачынала са слоў: «Ты ведаеш, больш за ўсё я не хачу цябе пакрыўдзіць, або «Можа, табе гэта слухаць будзе непрыемна…»

Аднойчы мы зайшлі ў краму будаўнічых тавараў. Ты хацела выбраць плітку для ваннага пакоя. Я паказаў на ўзор, які мне спадабаўся, і раптам у цябе вырвалася:

— З жонкай сваёй выбірай! — І бачачы маю разгубленасць, працягнула: — А што, я нешта кажу не так?

Я даводзіў, што жонку паважаю і зла ёй рабіць не хачу, але хіба я вінаваты, што прыйшло да мяне такое запозненае шчасце… Я гатовы быў пакінуць ёй усё, застацца для яе надзейным сябрам, але каб яна не стала паміж намі, не парушыла гэтых цудоўных маладых імгненняў. Я разумеў, што ўсё гэта не вельмі добра ў дачыненні да яе з майго боку, але таемна спадзяваўся, што яна ўсё зразумее і даруе. Тым больш, што дзеці даўно выраслі, мелі свае сем’і і жылі сваім самастойным жыццём.

Ты прамаўчала, а я потым доўга пакутна думаў пра нашу сітуацыю, пра сваю жонку, ціхую, рахманую, пра яе каханне да мяне і пра сваю здраду, шукаючы апраўдання і спадзеючыся, што неяк абыдзецца, што ўсё закончыцца добра і справядліва, і я буду разам са сваёй каханай, з маім новым шчасцем…

Я кожны дзень стараўся зрабіць табе нешта прыемнае. То любімы гатунак кавы куплю, то нейкую плюшавую цацку, то прыгожую карціну ці арыгінальную вазу... З адной толькі думкай, каб табе было хораша.

Адзінае, пра што прасіў заўсёды, каб ты не лічыла сябе абавязанай, каб я не адчуваў, што тое шчасце, якое маю, не ёсць падзякай за мае высілкі, не ёсць своеасаблівай платай за маю дабрыню.

Таму аднойчы пасля тваіх слоў «так я з табой не разлічуся да канца жыцця» я нават пакрыўдзіўся і табе два дні не тэлефанаваў. Ты адгукнулася першай, і я зноў усё прабачыў. Цяпер я думаю, што ты як бы правакавала мяне на выбух, раз’юшанасць, крыўду. Але я ўсё моўчкі трываў, каб пачуць аднойчы зноў: «Божухна, такіх мужчын, як ты, проста не бывае». І хоць нібыта сказана гэта было з захапленнем, але мне зноў пачулася нейкае раздражненне, нейкая незадаволенасць…

Далей ішлі лісты з вельмі неразборлівым тэкстам, не раз перакрэсленыя, з асобнымі замазанымі словамі. Нарэшце, тэкст стаў чытацца лепш.

13.11. «Гэта сапраўднае віно, — гаварыла ты, — ты яшчэ не піў такога». Віно ты прывезла з Крыма, куды ездзіла адпачываць з сяброўкай і Віктарам, якому было тады чатырнаццаць. У той год мы пазнаёміліся. Я, памятаю, лічыў дні да твайго прыезду: адзін, два, дзесяць… Парой мне было страшна: а што, калі ты там знойдзеш маладога, прыгожага, а не такога, як я… Калі ж пачуў у тэлефоннай трубцы твой такі знаёмы мілы голас, сэрца раптам загрукатала так, што нават стала цяжка дыхаць.

І вось мы сустрэліся ля станцыі метро. Ты была такая прыгожая, загарэлая! Лёгка, быццам птушка, ты пацалавала мяне ў шчаку і дакранулася да маёй рукі сваімі тонкімі халаднаватымі пальцамі.

— Я табе прывезла падарунак, — сказала ты. — Можа, гэта нясціпла, але — гэта віно. Я падумала, што яно табе спадабаецца.

Мы пілі гэта віно ў адкрытай альтанцы прыватнага рэстаранчыка. Афіцыянтка не дазволіла ставіць бутэльку на стол, і мы, як сапраўдныя змоўшчыкі, хавалі яе ў пакеце пад сталом.

— Давай свой фужэр сюды, — шэптам загадвала ты, і спрытным рухам даставала поўны. Віно ў промнях заходзячага сонца зіхацела і пералівалася зялёным смарагдам.

— Пра што ты думаеш? — спытала ты.

— Пра цябе, — адказаў я.

— А я пра цябе. Давай вып’ем за тое, каб ніколі не шкадаваць аб нашай сустрэчы, што б ні чакала нас наперадзе!

Толькі цяпер я, здаецца, стаў разумець, што ты ўкладвала ў гэтыя словы.

А тады… На вуліцы запальваліся ліхтары. Пахла жнівеньскай цёплай ноччу, надыходзячай восенню, чымсьці няўлоўным і таямнічым.

Я глядзеў у твае вочы, трымаў у далонях твае тонкія пальцы і літаральна задыхаўся ад пяшчоты. Здаецца, усё цёплае, шчырае, запаветнае, што назапасілася ўва мне за ўсе папярэднія гады, перапаўняла мяне.

— Я адчуваю тваю дабрыню, — быццам адгадаўшы мае думкі, сказала ты, — я жыла раней з вельмі жорсткім чалавекам, а з табой мне вельмі добра і ўтульна.

Я ўдзячна прытуліў цябе да сябе. Потым мы ішлі па праспекце быццам закаханая маладая пара. І мне было ўсё роўна, што падумаюць пра нас людзі, ці ўбачаць знаёмыя. Быў жнівень, была ноч, у Сусвеце плыла планета Зямля. А на ёй былі толькі Ты і я…

І вось ізноў жнівень. Няма цябе, у вечнасці засталіся нашыя шчаслівыя хвіліны. Хто тады быў няшчыры? Толькі не я. Можа, і ты не падманвала. Дык што ж перашкодзіла нам быць шчаслівымі?

29.11. Увосень я дарыў табе спелыя каштаны. Сёння ішоў па парку, іх там столькі параскідана, але збіраць іх мне ўжо няма для каго. Я часта ўзгадваю, як сустрэўся з табой...

На той ваш банкет у рэстаране я трапіў досыць выпадкова. Сябра адзначаў абарону доктарскай. Было тлумна і не дужа весела. За суседнім столікам балявала кампанія, у пераважнай большасці жаночая.

Раптам высокі сівы мужчына на чале стала замахаў мне рукой. Я пазнаў свайго былога аднакласніка Славу Матушэўскага. Як потым аказалася, яны святкавалі юбілей школы, дзе Слава быў дырэктарам, а заадно і сыход яго на новую працу ў гарана.

Мужчын за сталом яўна не хапала, жанчыны хацелі танчыць, і я неўзабаве апынуўся за сталом паміж дзвюма, як потым высветлілася, сяброўкамі —

высокай мажной брунеткай і танклявай стройнай бяляначкай, якая мне падалася амаль дзяўчынкай. Яе я і запрасіў на танец. Гэта была ты.

Ты тады так даверліва і пяшчотна прыхінулася да мяне, што я адчуў такі прыліў маладой сілы і жадання, якога не было ў мяне з юнацтва. Ты была ў барвовай сукенцы з кароткімі рукавамі, якая падрэслівала белізну тваіх рук, колер тваіх ільняных валасоў, якія, як мне здалося, пахлі ветрам, свежымі магноліямі...

Гаворка склалася сама сабой, хоць я ніколі не заўважаў у сабе вялікага красамоўства. Быў яшчэ адзін танец, яшчэ...

Госці патроху пачалі разыходзіцца. Выйшлі на вуліцу і ты з сяброўкай. Быў май. Востра пахла бэзам, свежай лістотай, спелай вясной.

— Вы куды? — спытаў я.

— Мне тут побач, — адказала першай сяброўка, а Рыту Вітальеўну, думаю, вы праводзіце дадому, бо ёй дабірацца далекавата.

— Так, відаць, і муж чакае, — закінуў вудачку я.

— Муж аб'еўся груш, — зарагатала брунетка.

Ты маўчала і неяк сарамліва ўсміхалася. Увогуле я быў п'яны ад твайго вобліку, ад тваёй маладой прыгажосці.

Мы ехалі на апошнім тралейбусе ў нейкі незнаёмы мне раён. Ты расказвала пра работу, пра сына, бацькоў, сціпла сказала пра мужа, што ён працуе вадзіцелем аўтобуса. Потым, праз гады, ты сказала мне, што думала тады, што наша сустрэча выпадковая і апошняя.

Прызнацца, гэтак думаў і я.

Але тая сустрэча не давала спакою ні праз месяц, ні праз два. Кожны дзень я ўспамінаў пах тваіх валасоў, свежы водар маладога крамянага цела.

Я стараўся забыцца на тую сустрэчу, але маленькая паперка з запісанымі тваёй рукой нумарамі тэлефона не давала спакою.

Я патэлефанаваў табе ў навагоднюю ноч. З дзяцінства лічу яе чароўнай і заўсёды загадваю жаданні. Ты адгукнулася крыху разгубленым голасам, пажадала ў адказ на мае віншаванні ўсяго найлепшага мне і маёй сям'і. Твой голас, такі прыемны, такі сакавіты, нібы нейкімі магутнымі імпульсамі запаўняў маю істоту, абуджаў запаветныя патаемныя жаданні.

Прайшло яшчэ амаль паўгода, калі мы нарэшце сустрэліся. Была вясна, пахла першай клейкай лістотай, ты была ў лёгкім плашчыку, такая маладая, зграбная, бы гэтая вясна, яркая, жаданая...

Перад гэтым ты патэлефанавала і прапанавала пайсці ў тэатр. Пра такое шчасце я нават марыць не мог. Былі раней некалькі тэлефанаванняў ад цябе, якія, на першы погляд, ні да чаго не абавязвалі. Але, відаць, уся прастора ў час нашых кароткіх размоў была прасякнута такім маім няўрымслівым жаданнем убачыцца, што ты пайшла яму насустрач.

Я слаба памятаю спектакль, бо ўвесь час глядзеў толькі на цябе. Мы ішлі па вячэрняй вуліцы, ты дзялілася ўражаннямі ад убачанага, а я чуў толькі твой голас, удыхаў пах тваіх валасоў, жыў адным пачуццём замілаванасці і шчасця. І хацелася, каб так было вечна. І я зразумеў, што гэта прыйшло тое, сапраўднае, высокае і светлае, пра што раней толькі марыў... І нават цяпер пра тое, што было потым, не шкадую...

30.11. Учора напісаў табе, што ні пра што не шкадую. Ізноў я ўзгадаў, як ты некалі сказала:

— Давай вып'ем за тое, каб што б ні было з намі далей, мы ні пра што не шкадавалі.

Я тады не зразумеў, што ўжо тады ты рыхтавала шляхі да таго, што адбылося. Але нешта трывожна кальнула пад сэрцам. Я заўсёды ведаў, што паміж намі розніца ва ўзросце, мая сям'я, і хоць да таго часу ты ўжо была вольнай, ты мела права думаць пра новы свой лёс, дзе мне магло не быць месца.

Ведаеш, а кветкі, якія ты мне дарыла штогод, вянуць і сохнуць. Яны пазбавіліся тваёй пяшчоты, як і я. Я не ведаю, як яны называюцца, але я іх называю па-свойму. Практычна ва ўсіх іх адно, тваё імя. Пушыстую, разгалістую, з белымі прыгожымі бутонамі, якая зацвітае некалькі разоў на год, я называў памяншальна-ласкава. Другую, экзатычную, з доўгімі зялёнымі лістамі, на якіх карункамі перапляліся бялявыя пражылкі, я прамаўляў тваім поўным імем. Трэцюю, высокую, стройную, строгую, як школьная настаўніца, я называў па тваім дзявочым прозвішчы, а чацвёртай, самай маладой, самай вясёлай, я заўсёды пяшчотна шаптаў «сонейка».

Усе гэтыя кветкі ты дарыла мне на мой дзень народзін па адной у год. Памятаеш, калі першы раз прынесла пакет, у якім быў пакунак, акуратна загорнуты ў паперу, пад якім толькі ўгадваліся тонкая сцяблінка і пяшчотныя галінкі, ты распавяла рамантычную гісторыю пра юнака і дзяўчыну, якая, падарыўшы яму вазон з кволай кветачкай, замовіла, што калі кветка выжыве праз год, выжыве і іх каханне. Я адразу спалохаўся, бо на вуліцы быў люты, мароз, і кветка магла проста замерзнуць. Мы зайшлі тады ў бліжэйшую кавярню, пілі гарачую каву, я глядзеў на твой малады мілы твар і думаў, а што, калі кветка завяне, як жа мне жыць далей?

Ты ведаеш, што я размаўляў з табой, гаворачы з кветкамі. Яны ведаюць пра нас усё. Я навучыўся кожны дзень адчуваць па іх стане, які ў цябе настрой, ці не пакрыўдзіў цябе хто, калі мы сустрэнемся ў наступны раз... Пасля кожнай з нашых сустрэч я запытальна паглядаў на расліны: як ты пачуваешся без мяне, ці ўзгадваеш з удзячнасцю і пяшчотай... Гэтыя кветкі сталі вехамі былога і вяршынямі наступнага, выратаваннем ад пакутнай панылай тугі і адзіноты.

Цяпер яны вянуць і пакутуюць.

У жыцці цяжка стварыць казку, яшчэ цяжэй яе захаваць.

Мы пражылі з табой, як у цудоўным сне. Ты не раз гаварыла мне, што я лётаю ў аблоках, што ты звычайная жанчына, але я бачыў, што табе таксама радасна і светла ў гэтай вышыні, сярод аблок. Што ж цяпер, цемра, халоднае поле, панылы вецер?.. Чаму ты разбурыла казку?

...Я адклаў чытанне. За акном ужо было цёмна. Чамусьці хацелася плакаць. Быццам я дакрануўся да аголенай раны, якая крывавіла на маіх вачах, і я нічым не мог дапамагчы...

Я стаў успамінаць сваё жыццё, мары і крушэнне надзей, гаркоту расстанняў і слёзы адчаю. Дадому ісці не хацелася. «У чаканні кахання», — успомніў я радкі ў адным з лістоў. «Дык вось у чаканні і ўсё жыццё праходзіць», — падумаў я. «Шчаслівы той, хто дачакаецца». І стаў збірацца дадому.

## Эпілог

Праляталі дні. На папку, пакінутую Кулінковічам, я стаў патроху забывацца. Толькі часам находзіў нейкі сум, і я хацеў тады ўявіць сабе гэтага пажылога чалавека, амаль майго аднагодка, з такой ранімай маладой душой. Мне было цікава, як склаўся яго лёс.

Аднойчы ў кабінеце пачуўся тэлефонны званок і жаночы голас вымавіў: «Я ад Кулінковіча. Хачу забраць яго паперы».

«Няўжо гэта Яна?», — мільганула ў думках.

— Так, так, заходзьце!

Жанчына аказалася невысокай брунеткай, у веку, апранутай не то што безгустоўна, але неяк невыразна. У яе быў адкрыты славянскі твар, няўлоўна чымсьці сімпатычны, нягледзячы на даволі-такі кірпаты нос і шчыльна сціснутыя вузкія вусны.

— Я жонка Кулінковіча. Ён цяпер далёка. Ён прасіў забраць яго паперы.

— Але, — я злёгку разгубіўся.

— Ды я ведаю аб лістах і каму яны прызначаліся, — спакойна сказала жанчына. — Так што не хвалюйцеся.

— А дзе ж ён сам?

— Ён далёка. Спачатку хварэў, потым, дзякуй богу, паправіўся і з’ехаў у далёкую экспедыцыю. Бо ён па першай прафесіі тапограф, першапраходца, так сказаць.

— А навошта вам яго лісты?

— Ён баіцца, што вы іх надрукуеце. Або выкарыстаеце ў сваіх творах. Ён не жадае гэтага. Ён раздумаў.

— Але…

— Так, я ведаю аб яго каханні, і жанчыну гэтую асуджаю.

— Не яго?

— Не, менавіта яе. І не за тое, што яна спрабавала выкрасці яго ў мяне. Ды яна нават не спрабавала. Яна карысталася ім, яго каханнем…

Я не ведаў, што сказаць. Сітуацыя, па праўдзе кажучы, была далікатная. А жанчына працягвала:

— Я ведала аб ёй заўсёды. Жаночае сэрца востра адчувае здраду. Але ён быў шчаслівы, шчаслівы кахаць, а я ведаю, што гэта такое. Бо я кахаю яго.

— І нават пасля ўсяго?…

— Нават. Мы пражылі трыццаць гадоў. Калі б не я, ён прапаў бы. У яго было вялікае гора, і ён прыняў маё каханне, як паратунак і быў удзячны мне.

— Проста прыняў?

— Не, не проста.Спачатку ён быў толькі ўдзячны. Ведаеце, яго прывезлі да нас у бальніцу, дзе я працавала медсястрой, у непрытомнасці. Ён трызніў. У яго ў аўтакатастрофе, калі ён быў за рулём, загінулі маці, бацька, сястра. Выжыў толькі ён. У самога была зламана сківіца, пашкоджаны рэбры... Ён доўга ачуньваў, я заўсёды была побач. Я пакахала яго ўсёй душой. А потым ён з’ехаў у экспедыцыю і адтуль напісаў мне пісьмо, што будзе заўсёды памятаць маю цеплыню, маю спагаду, але сустрэў дзяўчыну, якая яму падабаецца і не хоча мне хлусіць. Я тое пісьмо і зараз захоўваю, хаця яму потым сказала, што нічога не атрымала, маўляў, на пошце хутчэй за ўсё згубілася.

Прайшоў год. Ён вярнуўся ў горад. Відаць, з той жанчынай у яго не атрымалася. Мы пачалі ізноў сустракацца. А потым я сама трапіла пад хірургічны нож. Перытаніт, ледзь выхадзілі. І ён быў побач. Ведаеце, я сірата, з дзіцячага дома. У чужым горадзе... Калі выпісалася з бальніцы, ён і прапанаваў мне пабрацца шлюбам. Выгадавалі дваіх дзяцей, старэйшы — кандыдат біялагічных навук, выкладае ва ўніверсітэце, дачка — бібліятэкар, таксама мае вышэйшую адукацыю. Нядаўна нарадзіўся ўнучак.

— І вы ведалі, што ён вас не кахае?

А я ўвесь час чакала і верыла, што прыйдзе пачуццё ў адказ. А мне свайго хапала.

— Што ж цяпер?

— Цяпер ізноў надзея. Выбачайце, я спяшаюся.

Папку я, вядома, аддаў. Але доўга потым сядзеў у кабінеце, спрабуючы ўсвядоміць пачутае. Што гэта? Такое самаадрачэнне ў імя кахання? Што ж гэта за таямніца жаночай душы? Я ўспомніў сваю першую каханую дзяўчыну, як яна, плачучы, гаварыла мне, што выходзіць замуж за другога, але кахаць будзе толькі мяне… Я ніяк не мог зразумець, чаму ж тады мы павінны расстацца. Не разумею і па сённяшні дзень.

Потым было як ва ўсіх. Каханне гэта ці не, але мая будучая жонка мне спадабалася з першага разу. Была ноч у студэнцкім інтэрнаце, потым праз два месяцы вяселле. Праца, новая кватэра, дзеці. Пара прыгод у час паездак у санаторый. І ўсё спакойна, без узрушэнняў. А тут проста нейкія шэкспіраўскія жарсці. І раптам я міжволі злавіў сябе на думцы, што нават зайздрошчу гэтаму Кулінковічу. Бо ён спазнаў нешта такое, што я не магу зразумець, што ён на нейкі час вярнуў сабе маладосць, адчуў, што такое кахаць...

Вядома, яго можна асуджаць. Але ён жа і пацярпеў. Ды і як расставіць усё па палічках, калі жыццё дорыць такія неспадзяванкі?..

Я быў узрушаны. Не хапала паветра. Я падышоў да акна, расчыніў яго насцеж. На дварэ была восень. Цёплая, сухая, лагодная. Яна клікала выйсці з душнага пакоя, удыхнуць п’янкі водар на поўныя грудзі. Я зачыніў акно, накінуў плашч і рушыў на вуліцу.

Вецер раскідаў жоўтае лісце па дарозе. Яно шалахцела пад нагамі. У святле ліхтароў дрэвы здаваліся нейкімі чароўнымі істотамі, прыгожымі і зграбнымі. Іх залаты ўбор нагадваў каштоўныя строі. Я ішоў па парку, падбіраючы спелыя каштаны.

Насустрач мне ішла пара. Яны, маладыя і прыгожыя, нібыта плылі павольна і горда, не бачачы мяне, занятыя толькі сабой. І было журботна, і было светла, і быццам увесь свет заціх у салодкім чаканні.

У чаканні кахання.



## Валеры МАКСІМОВІЧ

### ЗАПАВЕТНАЕ

У зямлі, мне роднае адвеку,
У вячыстых пушчанскіх лясоў
Цудадзейныя, святыя лекі
Для душы сваёй бяру я зноў.

Не забыць мне першую сцяжынку,
Бэзу куст ля самага акна,
Яблыні у квецені галінку,
Перазвон вясёлы раўчука.

Усміхаўся ранак мне ружовы,
Гаманіў стозвонна белы свет,
І п’яніў дурманліва-хмялёвы
У садах вясенніх яркі цвет.

Тое ўсё за мройнай павалокай
Дзён былых не знікла, не сплыло —
Песняю чароўнаю далёкай
Зноў у сэрцы ўзнікла, ажыло.

І стаю я, быццам счараваны,
Слухаю жывы, дзівосны спеў:
«Ой, як рана, рана на Івана!..» —
Знекуль водгук зычны даляцеў.

---

***Максімовіч Валерый Аляксандравіч*** *нарадзіўся 21 сакавіка 1962 года ў вёсцы Траянец Лагойскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1989). Доктар філалагічных навук. Быў дацэнтам кафедры беларускай літаратуры БДУ, першым прарэктарам Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Цяпер — у Інстытуце філасофіі НАН Беларусі.*

*Вершы друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Маладосць», «Роднае слова», «Нёман», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».*

Слухаць бы і слухаць голас родны,
Наталяць бы музыкай душу —
Толькі аб адным я малітоўна
У зямлі і у жыцця прашу.

І найдаражэйшаю пярлінкай,
Што мне свеціць зманліва здаля,
Падаецца яблыні галінка
Ля майго адкрытага акна.

## ПЕРАДСВІТАЛЬНАЕ

***Віктару Мясніковічу***

Ночы сутонне схлыне —
Зазіхаціць світанак.
Вахты чарговай тыдзень
Скончыцца нечакана.

Зноўку ў цішы світальнай
Мроівам роднай песні
Перад вачыма стане
Вёсачка на Палессі.

Лю́бы пакліча бераг,
Чыстай бруі крыніца, —
Ўспыхне жаданне верай
Светлаю прычасціцца.

Там, ля святых вытокаў,
Каля свайго парога
Зможаш адчуць глыбока
Подых жыцця жывога.

Здолееш даастатку
Скінуць цяжкую стому…
Вось чаму я, мой братка,
Птушкай лячу дадому!

## У ВІЛЬНІ

Стагоддзяў няўмерлых абуджаны голас
Чуваць ля старых заімшэлых муроў,
І вечнасці дух раскашуе наўкола,
Не зведаўшы тлен прамінулых вякоў.

Стаяць, як і калісь, паважна званіцы,
Свой голас ад часаў былых падаюць,

І людзі святыням ідуць пакланіцца,
Ідуць пракаветную праўду пачуць,

Што тут не здранцвела, не знікла, не ўмёрла, —
Паўстала відочна — як скарб дарагі —
У постацях тых ваяроў непакорных
З Літоўскай Пагоні, што мчыць праз вякі.

Няма ёй супыну — бо нельга іначай, —
І кліча наперад выбоісты шлях…
І ўжо каля Брамы, здаецца мне, бачу
Ваякаў нястрымных на грозных канях.

Харугвы над шыхтамі горда лунаюць,
Даспехі на сонцы, бы срэбра, зіхцяць,
І чырвань агністая пляц залівае,
І сурмы паўсюль баявыя гучаць.

Прывеціўшы гэта ваярскае брацтва,
Усцешнай здагадкаю сэрца спаўю:
Няйнакш у Літву — у Вялікае Княства —
Я зараз — скрозь замець стагоддзяў — ступлю.

## АДЧАЙНАЕ

Я — нявольнік самотны з забытага краю.
Я — пакутнік, закуты людзьмі ў кайданы, —
Ані волі святой, ані ласкі не маю,
Ды асуджаны без аніякай віны.

Грудзі боль невыносны пячэ-раздзірае,
Сэрца б’ецца, нібыта ў шаленстве сляпым.
І не знаю, за што мяне Бог так карае,
Шле мне выпрабаванні адно за адным.

З дня у дзень, з году ў год насланнё чорнай хмарай,
Як каршун той, кружляе-вісіць нада мной.
Не адважуся — бо адвучыў сябе — марыць,
Не здабуду ў душы сваёй лад і спакой.

Рвуся ў спуднай трывозе, ў зняможаным гоне —
Ні адхлання няма мне і ні забыцця…
Неадкупны прыгонны я, вечны прыгонны
Не ў чужога — свайго, што ад Бога — жыцця.

Ці то дождж секане, нібы шротам, па твары,
Ці то спёка абпаліць знарок усяго, —
Я цярплю, я трымаю, трымаю удары,
Не растраціўшы духу зямнога свайго.

І калі давядзецца ўсё ж легчы на сечы
Пад напорам звыродных атар дзікуноў,
Не сцярплю, не зміруся і там, і не ўкленчу —
Папрашуся на бітву святую наноў.

## НА САМОЦЕ

Кажуць, галасы і словы, якія чуў, адгучаць,
Кажуць, нішто з мінулага больш не вернецца.
І тое, што змог сваёй маці і любай сказаць, —
У халодны бурштын аднойчы абернецца.

Нічога нельга спыніць — на момант адзін,
на імгненне, —
Кола часу зямнога ўсё далей і далей бяжыць.
І не хопіць ні духу, ні моцы, і проста цярпення,
Каб былое наноў кожнай дробачкай уваскрасіць.

А шкада… Як не хочацца, дальбог жа, не хочацца
Назаўжды развітацца з тым, чым дыхаў і жыў!..
Вось чаму незабыўны ўспамін слёзіць прысмеркам вочы мне
І вярэдзіць мне сэрца, нібы на апошняй мяжы.

Не хачу я мірыцца ні з конам, ні з лёсам асуджана,
Не хачу адпускаць, нібы ў вырай, чародку гадоў…
Мне б глядзець і глядзець, як купаецца сонца
у лужыне
І як ветрык-гарэза здзімае пушок дзьмухаўцоў.

Галаву падымаю высока да неба вячыстага, —
Быццам у забыцці, не стамляюся шчыра прасіць:
Дай мне простага шчасця зямнога,
струменіста-чыстага,
Не, не жменяй — адной даланёй —
засіліць.

Дзень да вечара хіліцца.
Хутка настане змярканне.
Толькі ў прыцемку шэрым нікому, здаецца, няўцям,
Што пара вечаровая — гэта зусім не згасанне,
Не канец, а пачатак — таемны пачатак — жыцця.

І не будзе ніколі — бо ведаю добра, бо знаю —
Цішыні, ад якой можа вусцішна стаць на душы.
Вось чаму я жыццё, не збаяўшыся, зноў прывітаю
На апошняй як першай —
як самай шчаслівай —
мяжы.

## БАЛАДА ПРА ЛІСТОК

Кажуць, ад нецярпення, тугі і знямогі,
Па прысудзе раз’ятранай волі чужой,
Не счакаўшы сабе аніякай падмогі,
Адарваўся лісток ад галінкі сваёй.

І па вольным прасторы, шырокім прасторы
Яго ветрык свавольны загушкаў, панёс
Цераз рэкі вірлівыя і цераз моры, —
То бліжэй да зямлі, то мкнучы да нябёс.

Дзіваваўся сусвет, спазіраючы ўсцешна
На бязважкі, на лёгкі лісцёвы палёт,
І — няўзнак пазайздросціў лісцінцы бязгрэшнай,
Што пазбылася ўрэшце зямных перашкод.

І куды б немаўля ні адносіў вятрыска,
Адусюль было толькі адное чуваць:
— Хто дазволіў лятаць над зямлёй гэтак нізка?
Парушальніка трэба як след пакараць!

І ад крыўды слязіліся вочы ў нябогі:
«Ці ж я вінен, што змушаны быць над зямлёй?..
Я ж ніяк не прасіў гэткай «ласкі» ні ў кога…
Аказаўся я тут не па волі сваёй…»

Сіратліва зірнуў ён на травы буйныя,
Кінуў позірк збянтэжаны на сенажаць
І на твары… Суровыя твары людскія…
Ды ніхто не схацеў яму паспагадаць.

Папрасіў ён вятрыску у жальбе глыбокай,
Каб яго, не прынятага роднай зямлёй,
Той падняў над абшарам высока-высока
Парадніцца з паднебнай стыхіяй чужой.

Ды пачуўшы крамольнае гэта жаданне,
І нябёсы не сталі пачціва чакаць
І па змове далі — як адзін — абяцанне
Самазванца лістка да сябе не пускаць.

З таго часу — пакуль душа цепліцца ў целе —
Небарака лісток не знаходзіць спакой
І кружляе-вісіць пад халодным прыцэлам
Паміж небам знібелым і грэшнай зямлёй.

## ПАСТСКРЫПТУМ

Час спякотны, час паўдзённы схлынуў —
І крыху на сэрцы адлягло.
На сувой гадоў свой позірк кіну:
А былога — як і не было.

І згадаў бы тонкі ласкуточак
Залатога шчасця, ды ўспамін
Павалокай шэрай засціць вочы,
Слёзіць іх, бы гаркатлівы дым.

І няўзнак паўстане, бы наяве,
Тое, што я часта бачу ў сне:
Воўча зграя зганьбіць і зняславіць
З усіх сіл спрабуе зноў мяне.

Кідае шалёна бруд і смецце
І наскрозь пранізвае выццём,
Маючы адзін намер на мэце —
Паквітацца ўраз з самім жыццём.

Не кляну сваю зямную долю:
Гэты свет — як ёсць — люблю здавён.
Нават калі б меў дазвол — ніколі
Не прыму ваўчыны той закон.

Цёмнай сіле век я не скаруся
І ў хаўрус злачынны не ўступлю, —
Кожнай зёлцы ў полі — пакланюся,
Кожны міг пражыты — ухвалю.

І перад расстайнаю дарогай
Папрасіў бы шчыра, калі б змог:
— Дай, жыццё, мне шчасцейка зямнога
Паспытаць яшчэ хаця б разок.



**Георгій МАРЧУК**

# УРСУЛА

*Навелы пра каханне*

## Свята пачуццяў

О, чулая, уважлівая мая Урсула, ужо які раз ты просіш расказаць словамі пра пачуцці, якія абуджае ў душы каханне? І які раз я намагаюся адказаць на тваё такое простае і такое складанае пытанне, і разгубленасць агортвае ад немажлівасці выказаць нешта новае, сваё, таму што пачуцці гэтыя добра знаёмыя амаль усім і ў той жа час таямнічыя, таму што для кожнага яны — крыніца прасвятлення, пераўвасаблення, якое мае свой сэнс. Робішся нясмелым і збянтэжаным, нібыта перад спробай асэнсаваць стыхіі прыроды: агню, вады, неба. Выказаць іх сутнасць амаль немагчыма. Каханне нараджае не толькі ўчынкі, але і словы. Аднак, нават калі ўжывеш усе магчымыя воклічы і ўзнёслыя словы, не пакідае адчуванне невыказанасці.

О, любая мая Урсула, лілея, ландыш, ружа на снезе. Згадваючы пачуцці пражытага ў каханні дня, ахопліваюць душу хваляванне, пяшчота і сум па тым, што мінула, што праглынуў час, адзіны і сур'ёзны вораг кахання. Бо ўсё астатняе альбо няправільна зразумеюць, альбо даруюць, альбо пакпяць лёгка-іранічна. Радасць, азарэнне, пяшчота, спакой, упэўненасць, сентыментальнасць, натхненне, асалода, цуд жыцця. Да чагосьці прыдатны адзіны эпітэт, адно параўнанне. Каханне ж лёгка і свабодна ўбірае ўсе эпітэты і параўнанні свету і космасу. Першае прызначэнне чалавека — кахаць і быць каханым. Часам вымавіш адно трапнае параўнанне, але і тады не пакідае ўпэўненасць,

---

***Марчук Георгій Васільевіч*** *нарадзіўся 1 студзеня 1947 года ў Давыд-Гарадку. Пасля заканчэння школы № 2 у Давыд-Гарадку працаваў ва ўстановах культуры. З 1969 года ў Мінску — адміністратар кінастудыі «Беларусьфільм», асістэнт рэжысёра аб'яднання тэлефільмаў той жа кінастудыі. Скончыў аддзяленне тэатразнаўства Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (1973), Вышэйшыя курсы сцэнарыстаў і рэжысёраў у Маскве (1975). Загадваў літаратурнай часткай тэатра-студыі кінаакцёра, працаваў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм». Цяпер — сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг прозы «Крык на хутары» (1983), «Кветкі правінцыі» (1986), «Вочы і сон» (1990), «Сава Дым і яго палюбоўніцы» (1990) і іншых, шэрагу п'ес, кіна- і тэлефільмаў.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь (1996).*

што гэтага недастаткова, замала, каб выказаць усю паўнату пачуццяў. Без кахання няма шчасця. Зварот да стылю візантыйцаў мне дыктуе прадмет пісьма, прабач. На жаль, суровы час адвучыў нас звяртацца да жанчыны ўзнёсла.

О, мая ганарліва-лагодная, як Волга, сціплая, як Прыпяць, непрадказальная, як Гарынь Урсула! Якая ж гэта адмысловая задача — выказаць на паперы песню душы! Пачуццё кахання адкрывае нам вочы на свет фарбаў і гукаў. У шуме дажджу чуюцца твае крокі, у ласкавых промнях сонца адчуваеш цяпло тваіх далоняў, у першых сняжынках на твары — халадок тваіх вуснаў, у лістападзе — пошум тваёй сукенкі, у водары кветак — пах тваіх кос. Дапамажы мне, о непараўнальная Урсула, у гэтым жорсткім свеце кулака, кулі і грошай гутаркай з табой ачысціць душу ад ледзянога эгаізму і зайздрасці. Хачу гаварыць з табой пра ўсё. Таму што няма пустога і дробнага. Усё вакол істотна, усё цікава для закаханых душ. Ты ціхім голасам пытаеш: «А якое слова можа быць мацней за слова — каханне? Ці ёсць такое слова ў людзей?» Сапраўды, што ж мацней? Бадай, адна смерць. Так, яна, праклятая. Але калі ўдумацца, дык і яна бяссільная. Паміраюць ад суму па каханай, якая рана пайшла, ходзяць на магілкі, плачуць і просяць пахаваць сябе побач. Не знаходжу нічога, што магло б параўнацца з гэтым дзівосным словам. Дыханне? Само жыццё? Але ж жыццё — наступства і вынік кахання. У разлуцы мы не паміраем, жывём надзеяй на сустрэчу, якая заўсёды будзе новай, як заўсёды здзіўляе сваёй навізной новы дзень, у якога старыя атрыбуты: сонца, месяц, неба, дрэвы, машыны, людзі… Я губляюся ў здагадках: што напраўду нясе ў сабе такую ж магутную і жыццясцвярджальную сілу, як каханне? Паслухай усё: трывога, горыч, смутак, журба, сум, адчай, рэўнасць, замкнёнасць, неабачлівасць, маўклівасць і ў той жа час захапленне, аптымізм, радасць, прага творчасці, міласэрнасць, усёдараванне, спагада да ўсяго жывога, неабходнасць рабіць дабро, чуласць, духоўнасць — усё гэта народжана каханнем жанчыны і мужчыны. Сапраўды, і ў маланкі, і ў вясёлкі адна маці — навальніца. Каханне нібы першы веснавы лісток, які распускаецца ў свой час, якія б перашкоды не былі на яго шляху. Пра няшчасці і нягоды і думаць не хочацца. Новыя сілы мацуюць дух. Часам дотык да рукі каханай больш красамоўны, чым словы. О, мая добрая Урсула, папера чырванее ад сораму, чарніла блякне, рука дрыжыць, розум іранізуе над памкненнем сэрца выпісаць неапісальнае. Не, гэта няпраўда, што ў кроплі вады бачаць мора. Каб убачыць і адчуць мора, трэба ў яго акунуцца. Няма сціплых пачуццяў. Каханне — гэта шаленства жадання, вулкан сумненняў, адначасовае цвіценне ўсіх садоў на планеце. Гэта стан душы і цела, калі нават мільёна пацалункаў не хапае, каб наталіць прагу, народжаную пачуццём. О, мая загадкавая Урсула, бадай, толькі адзінае слова мацнейшае за слова каханне, і слова гэта — Бог, у якім мы, грэшныя, шукаем абарону і надзею на ўратаванне ад нашай часовасці на зямлі. Да болю крыўдна, што і каханне мусіць памерці, і, відаць, памірае разам з намі. Найперш чысціня кахання грунтуецца на адказнасці адно аднаго перад Усявышнім. Бог ёсць пачатак, ад якога бярэ выток самае моцнае, самае дзівоснае, самае пяшчотнае, самае вечнае слова — каханне. На пытанне, як ставіцца да дрэва, якое першым скінула лісце, — спачуваць, таму што яно хутка звяла, альбо радавацца, бо яно загадзя падрыхтавалася да зімы — душа, што поўніцца каханнем адкажа: у сухмень дрэва трэба паліць, а ў холад — захутаць. Шкадуй усё і ўсіх. Хто не зведаў пачуцця кахання, «аслеплены дробязямі». О, увасабленне маіх патаемных фантазій, гармонія духоўнага і цялеснага! Ведай, ад паўторнай ласкі,

мілых сэрцу слоў прызнання — каханне не старэе. О, мая Урсула, пачуццё кахання — гэта безабароннасць матылька і сіла львіцы. Каханне адкрывае нам адзінства, веліч і мудрасць прыроды, робіць нас дабрэйшымі і мудрэйшымі, таму што мы пачынаем цаніць кожны пражыты дзень. О, крыніца мая пашанотная Урсула. Я пісаў табе гэты ліст доўга, вельмі доўга, усё жыццё… сілы мае вычарпаны, але ж я ўсё адно кожны дзень адкрываю новыя і новыя таямніцы заўсёднага краявіду перад маім акном. Мне багата гадоў, можа сто… але гэта не мае значэння. Нехта абавязкова прыйдзе да мяне, бо святая душа, яна ж жыве ў людзях, яна вечная, як само каханне, што нарадзіла яе. Нехта прыйдзе і я перадам канверт, які пакіну незапячатаным, і не таму, што не маю сіл, а для таго, каб і чалавек, які панясе табе ліст, прачытаў яго. Каханне сарамлівае, але не да такой ступені, каб яго хаваць. Закаханым шкада нават зорак, бо яны так далёка адна ад адной. Як жа не радавацца, не дзякаваць лёсу за тое, што ён паслаў нам неацэнны дар кахаць, і што гэты дар, і толькі ён, ахоўвае нас ад бессэнсоўнасці і гібення на зямлі. О, каханне маё, Урсула!

## Рэўнасць

О, строгая і ўраўнаважаная мая Урсула! Гэта толькі на першы погляд здаецца, што пісаць пра рэўнасць лягчэй, як распавесці пра каханне. І гэта пры тым, што рэўнасць — дачка кахання, але дачка непаслухмяная, рэзкая, шчырая, капрызлівая, з норавам, нават небяспечная ў сваёй непрадказальнасці. Гэта знешнія праявы, а сутнасць трэба шукаць у глыбіні сэрца, якое заўсёды ў сумненнях. Раўнівы чалавек больш за астатніх ранімы, слабы, пануры. Цяжкія думкі аб блізкай страце «неацэннага сябра» не пакідаюць яго ні на імгненне. Думкі гнятуць хворую падазронасцю душу. Падазронасць гэта ўзнікае выключна ад пачуцця немажлівасці сузіраць, а можа, нават і кантраляваць усю свабоду любімага чалавека. О, мая свабодалюбівая, тэмпераментная Урсула! Філасофію рэўнасці рэгулярна жывіць глабальнае ўяўленне аб зменлівасці жанчыны наогул, што расплылося па ўсім няўстойлівым у маральным плане свеце. Дапамажы мне супакоіць душу, Урсула, дапамажы! Ты разумееш, што бессэнсоўна кантраляваць ці трымаць у аброці волю не толькі каханага чалавека, але і чалавека ўвогуле. Нават свецкія і рэлігійныя законы не могуць з гэтым саўладаць. Спакусы, спакусы інфіцыруюць слабую прыроду чалавека. Кажуць, калі пасля ложка кахання, цёплых пацалункаў, гарачай страсці жанчына прыхарошваецца, асабліва старанна падмалёўвае кідкай памадай губы, падводзіць тушшу вочы, дык робіць гэта яна не для цябе, а для іншых. Каханне ахвярнае, рэўнасць — ніколі. І гэта непакоіць душу палка закаханага. Здаецца, калі каханне ўсёабдымнае, дык і жанчына мусіць належаць яму ўся, усюды і заўсёды. О, як пакутліва разумець, што гэта немажліва. Твой цікаўны позірк, кінуты мімаходзь маладому прыгожаму чужому мужчыну ў тралейбусе, метро, тэатры, у натоўпе на вуліцы хавае небяспеку спакусы. Раўнівец не прызнае кагось лепшым за сябе. Падазронасць, расшыфроўка, спроба здагадацца пра патаемныя думкі каханай жанчыны паглынаюць каханне, атручваюць яго і ўжо не каханне, а рэўнасць кіруе ўчынкамі. І калі тэлефон каханай заняты дзесяць—пятнаццаць хвілін, хочацца кінуць трубку і бегчы да яе са строгім пытаннем: «Хто званіў?» І нават калі з мяккай усмешкай адкажа: «Гавэнды гавэндзіла з сяб-

роўкай», — няма супакою. Асабліва цяжка гартаць старонкі мінулага жыцця каханай. І нават ратавальнае: «Усё ў мінулым. Цябе, мілы, у той час і ў тым горадзе не было побач», — не ратуе.

О, мая лёгкаранімая, ласкавая Урсула! Мне цяжка ўявіць побач з табой чужыя губы, чужыя рукі, чужы погляд. Рэўнасць не точыць сэрца, яна імпульсіўна, рыўкамі адрывае ад яго кавалачкі. Рэўнасць у наш буржуазна-базарны час камп'ютарнага буму выступае пасрэднікам паміж каханнем і нянавісцю. Таму і распаўсюджана меркаванне, што яна асляпляе і даводзіць да дурноты. Яна не ўмацоўвае каханне, яна павышае градус кахання і часцяком тэмпература зашкальвае, як пры цяжкой хваробе. О, мая чулая Урсула! Рэўнасць ідзе ад розуму, а не ад сэрца. Пастаяннае параўнанне з іншымі атупляе. Няўжо нехта лепшы, лепшы, лепшы? Рэўнасць ахалоджвае запал і прыўносіць у пачуцці сканцэнтраванасць і аналіз учынкаў. Ад пастаяннага аналізу, здагадак, фантазіі пачуцці касцянеюць у рацыяналізме і абрываеццасладастрасны палёт у вольнай прасторы, як кажуць касманаўты, у бязважкасці. О, мая ўраўнаважаная Урсула! Рэўнасць намагаецца ўвесь час вырваць пачуцці з вольнага лунання і апусціць іх у грубую рэальнасць побытавых адносін, у кола сям'і, работы, сяброў, якія аўтаматычна робяцца сапернікамі. Я ведаю, ты не любіш гэтае слова — рэўнасць. Але ж, на жаль, ад гэтага яно не знікае. Гэта агонь, ля якога часам саграваюцца пачуцці, але гэты ж агонь можа іх і спапяліць. Рэўнасць не ведае правілаў прыстойнасці, законаў гонару. Яна прымушае мужчыну патаемна распячатваць кожны ліст, адрасаваны каханай, высочваць яе, разумеючы, што гэта гідка, зневажальна. Але ж, на жаль, на жаль, на жаль… Некаторым нават падабаецца мучыцца ад рэўнасці. Ім здаецца, што так яны пазбаўляюцца комплексаў. Лечаць рэўнасць ласкаю, клопатам, словамі пяшчоты, праўдай. І хоць рэўнасць пануе над сілай волі, падпарадкоўвае яе сабе, у праўдзе, даверы, веры, у шчырасці пачуццяў яна растае, як соль у вадзе, і губляе сваю агрэсіўнасць. Каханню ўласцівы лёгкасць, гумар, усмешка, гульня, дасціпнасць, жарты, рэўнасць жа заўсёды насцярожаная, засяроджаная, сур'ёзная і фундаментальная. Няма цяжэйшай ношы для закаханай душы. Як рэўнасць. Але ж без яе знікае нерв кахання і ад гэтай страты пачуцці пераходзяць да аднастайнасці і атупення. О, як цяжка, Урсула, чалавеку з буйнай фантазіяй, дастатковай для ўнушэння трацілу падазронасці, раўнаваць. Рэўнасць не штурхае да пагібельных учынкаў, да іх штурхае здрада. Хіба яе можна абвінаваціць у саўдзеле. Рэўнасць не стварае кахання, не мацуе яго, не цэментуе, яна, о мая капрызлівая Урсула, ахоўвае каханне. Яна падобна на званочак над дзвярыма ў старых аптэках, які рэгулярна нагадвае: «Асцярожна. Побач з вашым пачуццём з'явіўся нехта трэці. Увага!» Не сумуй і не асуджай за хваробу такую — рэўнасць. Не кажы мне пра мінулае. Яго нельга вярнуць, нельга змяніць. Сапраўднае і каштоўнае толькі сёння, мінулае хіба што перасцерагае нас ад памылак. І самае дзіўнае: няма беспадстаўнай рэўнасці на пустым месцы. У яе заўсёды знойдзецца падстава і дай божа, каб падстава заўжды і ў мужчыны, і ў жанчыны была памылковай. Ты пытаеш, ці асуджаць чалавека раўнівага, караць яго, абвінавачваць у эгаізме, абурацца, дакараць? Ні тое, ні другое. Кожнаму чалавеку трэба павага, спачуванне, разуменне. А раўніваму тым больш. Мудрыя гаварылі: «Пакуль дыхаю — жыву». О, мая яргіня восеньская Урсула, пакуль раўнуем — мы кахаем. Не ведаю, ці вядзе рэўнасць да ўзлётаў, хутчэй да падзення. Раўнівага не праклінаюць, як і не бласлаўляюць. Ён адначасова і святы, і грэшны.

## Адзінота

О, мая Урсула, ты аднойчы паспачувала адзінокай дзікай грушы ў полі. І я задумаўся. Чалавек жа перажывае адзіноту не з-за таго, што ён мусіць абавязкова застацца адзін у гарах ці ў лясной хацінцы. Нават па сваёй волі сядаючы ў стоўб, у келлю, мніх не адзінокі, бо праз малітвы заўсёды застаецца ў кантакце з Творцам. Адзінота — гэта стан душы. Адзінокі чалавек, а ён часцей за ўсё засяроджана-задуменны, часам робіць уражанне чалавека пахмурнага, але гэта не так. Пахмурны — уласцівасць характару. Аднак, свядома не імкніся да адзіноты, пад старасць яна цябе і сама знойдзе. Сам-насам з сабой чалавек ніколі не застаецца. Ён толькі часова адасабляецца, адгароджваецца ад знешняга свету. Побач з ім заўсёды прысутнічае матухна-прырода, сваёй разнастайнасцю, шалам веснавых і восеньскіх фарбаў, мелодыяй ветру, ціхім спевам дажджу і снегу яна акампаніруе тваёй адзіноце, падкрэслівае яе асаблівасць і настройвае душу на пэўны лад, звычайна сентыментальны. Прастора напаўняецца паэзіяй, о, мая светлая Урсула. У адзіноце ёсць свая асалода. Мігціць агонь у печы, тлее вугалле, і свячэнне ягонае надзвычай яскравае, таямнічае, як на заходзе сонца. І спакойныя думкі пра сэнс жыцця, пра Бога, пра недасканаласць светабудовы, пра таямніцу смерці і нараджэння, пра дзяцінства напаўняюць душу. Гэтак утульна, цёпла. Светлая журба адзіноты. Ранняй вясной падае са страхі капеж проста ў далонь. О, якая гэта радасць успрымання свету, Урсула! Мая адзінота заспакойвае мітуслівую душу развsituaжаннямі. Мары кудысьці знікаюць. Павольна каціцца трамвай і дарозе няма канца, не хочацца выходзіць. Ніштo не турбуе: ні думкі пра работу, пра грошы, ні мары, ні надзеі. Хай вязе, кружыць трамвай, хай кружацца ўспаміны пад грукат колаў. Так хораша. А пасля… луста жытняга хлеба, шклянка малака, а за акном насцярожана-ўважлівыя вочкі вераб'я і сінічкі. Вольна. Плыве дымок ад цыгарэты, глыток кавы, плед на каленях, маўклівы тэлефон: нарэшце ён наўмысна адключаны. Хораша. Светлы сум. Рэчка, возера — адвечныя спадарожнікі адзіноты. Вада ціхая, цякучая, спакойная, яна лечыць стомленую сумненнямі, расчараваннямі, крыўдамі і дакорамі душу. Яшчэ далёка да вялікай скрухі па няспраўджаным і цяжкі груз пражытых гадоў яшчэ не палохае жахлівымі расчараваннямі. Бо пражыта зусім мала: усяго сорак з хвосцікам. Вось і першая трывога: адзінота можа перарасці ў адчай. Восеньская лістота, што яшчэ не паспела пацьмянець пад нагамі, — адзіная сведка тваёй адзіноты. О, якія ж п'янкія самота і спакой! Здаецца, чуеш дыханне дрэваў, апошніх красак восені. Сэрца замірае. Душы соладка ад пачуцця адвечнай роднасці з тым, што бачаць вочы. Чаму, чаму старыя мудрацы засцерагаюць, што адзіноту выносіць цяжка? Кажуць, што тады нават спрытная зязюля ў насценным гадзінніку не радуе, а раздражняе. А столькі ж гадоў выклікала дзіцячае захапленне і замілаванне. Чаму? На душы няма трывогі. Хораша на душы. Адзінокі — значыць вольны. Вярнуўся да зносін са знешнім светам і адразу абмежаваў свабоду да мінімуму. Далібог, лёгка пачувацца адзінокім. Нават цікава: ці можна так увесь час жыць без абавязкаў перад іншымі? Святасць і грэх разам зніклі, о мая прыгожая Урсула. Самазаспакоенасць недаўгавечная. Прывідны спакой і раўнавага ілюзорныя. Дражніць і дражніць аднастайным карканнем у соснах варона. Гэты дзіўны, незразумелы, таямнічы покліч жураўоў над возерам. Ластаўка над акном другі раз за лета вывела птушанят. Сціснула сэрца: а

ці здолее, ці зможа ўзгадаваць? Нечакана заплакала ўначы дзіця на двары, і пякучая трывога ўжо не пакідае, не дае заснуць да раніцы. Усё, разам знікаюць усе думкі пра нябожчыкаў родных і сваякоў, сяброў і знаёмых. Скруха, накшталт вялікай скрухі Дон-Кіхота, падступае да горла. Надзея, нават слабая, на тое, што ты сам яшчэ патрэбны хоць бы аднаму чалавеку на зямлі, умацоўвае ўпэўненасць у шчасці. Так хораша, лёгка, вольна, светлая журба, панаванне адзіноты, лунанне ў прасторы, імкненне гаварыць вершаванымі радкамі!.. Але ж не… нешта не тое… а як жа ты недзе там, адна? Божа, тэлефон адключаны! Забяры, забяры мяне з віра царства адзіноты, мая Урсула, гэта ў тваёй уладзе, забяры, бо надта ж хутка абрыдла мне яна, забяры, мая ўсемагутная Урсула.

## У пошуках сэнсу

О, няўрымслівая мая Урсула, хай не палохаюць цябе завоблачныя глыбіні ў назве мойго ліста, бо ўсё складанае часам адмыкаецца звычайным ключом, а мудрасць не бывае двухсэнсоўнай, алегарычнай, хітрай — яна ясная, зразумелая для ўсіх і празрыстая ў сваёй прастаце і прыгажосці, як хмарка на небе. Мы ўзмацняем нашу жыццёвую актыўнасць неабходнасцю пошукаў сэнсу, але не думаем звычайна пра пачатак, пра вытокі. Бо калі занадта разважаць пра таямнічае, непадуладнае ні тваім пачуццям, ні твайму розуму, дык бадай што і жыццё не будзе мець сэнсу. А калі яшчэ трапіш у палон памылковых каштоўнасцей, штучна навязаных табе сіламі спакусы і заганаў, дык разуменне сэнсу не прыйдзе і ўвогуле. І ў той жа час варта калі-нікалі ўзгадваць пра яго. О, мая самотная Урсула, вярнуць тых, хто паў духам ад усведамлення заўсёднай прысутнасці смерці за плячыма, на шлях дабрадзейнасці і прагі жыцця — таксама сэнс існавання. Расчыні акно ў восень. Для сэнсу дастаткова аднаго прыметніка. Восень… Дададзім да яе слова «залатая», і вокамгненна ўсё знойдзе сэнс. Аднаго чалавека, на жаль, не хапае для сэнсу. Яму патрэбны яшчэ хтосьці: Бог, маці, бацька, жанчына, дзіця. Хто жыве з думкамі пра апраўданне свайго прызначэння перад Богам, той жыве асэнсавана. Яно шматаблічнае, гэта прызначэнне. Мы ўсцешымся, як пасадзім дрэва, узгадуем дзяцей, адчуем задавальненне ад жыццёвых клопатаў і турботаў, калі здабудзем пашану і павагу людзей. Так, так і яшчэ раз так. Сэнс жыцця — зведаць усё пры жыцці, шчасліва пазбягаючы грэшных, жахлівых разбурэннем душы спакусаў, бо няма сэнсу ў турме, торбе, куле. Кожны дзень, о мая працавітая Урсула, дадзены для радасці, а каб асэнсаваць яе, насылаецца часам і гора. Сутнасць жыцця — адчуваць сябе вольным, калі ад тваёй волі другім карысць, а не шкода. Наколькі чалавек моцны, настолькі ён і слабы. Часам і слова забівае. Іншы раз і дотык да тваёй рукі чужога чалавека ставіць пад сумненне сэнс слоў пра «жаданне дотыку толькі рукі каханага». Бо ў закаханага свае, чараўнічыя, асаблівыя і пяшчота, і ласка, і дакрананне. Закаханы мусіць бачыць ва ўсім сэнс. Гэта няпраўда, што ён сляпы. Гэта толькі для дзіцяці няма сэнсу жыцця, ён яго яшчэ не ўсведамляе з-за таго, што не ведае і не думае пра канец шляху, ён шчыра і з замілаванасцю радуецца самому жыццю. О, якія мы шчаслівыя, Урсула, што гэта дзіцяча-наіўна-ўзнёслая радасць быцця не пакідае і нашы сэрцы, што настаўленне, скруха, напышлівая важнасць, фанабэрыя, злосць,

помста адгукаюцца ў нашых душах толькі пустым гукам, які нават і не палохае. Адчыні акно ў зіму, не стамляйся ўхваляць жыццё… гэта ж толькі цела злёгку мерзне, а на душы цёпла, цёпла… Ад таго, што ёсць ты, ад таго, што ёсць я, ад таго, што ёсць свет боскі. Хай не палохае цябе аднастайнасць, падобнасць, будзённасць. Кожны пражыты дзень папаўняе скарбонку сэнсу жыцця. Шлях сонца аднастайны і заўсёдны, але мы не задумваемся над гэтым. Таму, каго агарнуў адчай з-за невырашальнасці сумненняў і жаху безвыходнасці, нагадваюць: «Напоўні жыццё сэнсам». Ад раба Божага перайдзі да чалавека Божага. Не бойся зла, што ідзе ад прыроды, бойся зла, што ідзе ад людзей. Напоўніць сэнсам? Навучыцца бачыць прыгажосць свету і шанаваць яе. Ведаць, што і ты сам з'яўляешся крыніцай радасці і гора для іншых. Хай, хай перадаецца ад нас іншым толькі радасць, о, мая Урсула! Напоўніць сэнсам? Значыць адчуваць шчасце ад кожнага дня, што ты пражыў. Адчыні дзверы ў вясну, Урсула. І ты пераканаешся, як усё вітае цябе, радуецца, сустракае цябе, разумную, адданую, добрую, прыгожую. Вазьмі хоць які з гэтых прыметнікаў і дадай да свайго імя, і ўсё набудзе сэнс, ты вартая гэтых слоў. Не бядуй праз страчаныя плады спакусаў. Ад дабра дабра не шукаюць. О, радасць жыцця майго Урсула! І я, як чалавек боскі, хачу таксама адамкнуць сваім ключом гэту таямніцу, каб зазірнуць у прыадчыненыя дзверы сутнасці. Я пакахаў, я кахаю, значыць, я знайшоў сэнс жыцця. Але чалавеку, каханая, дадзена, на жаль, надзвычай мала часу, каб паспець назапасіць і асвоіць філасофію сэнсу. Будучыня мудра схаваная, і дзякуй творцу за тое. Таму і чуваць з усіх бакоў (як пажаданне і абавязак) «шукайце сэнс жыцця», «шукаем сэнс жыцця», «шукаю сэнс жыцця». Але скажы, як і навошта мне шукаць і знаходзіцца ў гэтым сэнсе жыцця без цябе, о, лета маё салаўінае, каханне маё Урсула! Навошта?

## Сяргей ПАТАРАНСКІ



### ПЕСНЯ ПРА ПЕСНЮ

***Памяці Уладзіміра Марука***

Арфей замоўк,
ды не замоўкла песня,
што з сэрца рвалася ў жыцця прастор, —
яна, як птах,
што свет сабою весніць
і век імкне да багадайных зор,

дзе б'еццa Бога залатое сэрца
і дзе Арфея вечна дух жыве...
Пасля паэта песня застаецца,
а ў ёй жыццё —
цяпер,
заўжды,
спрадвек!

* * *

Ты мая сініца,
я твой журавель.
Да цябе туліцца б —
толькі ты павер!

---

***Патаранскі Сяргей Сяргеевіч*** *нарадзіўся 6 студзеня 1976 года ў Мінску. Скончыў Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа (1993), тэатральны факультэт Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў (2003). Працуе акцёрам і рэжысёрам у беларускіх тэатрах і кіно. Сябра Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі.*

*Аўтар паэтычных кніг «Залаты вецер» (1998), «І сэрца Бога — Беларусь» (2006). Выступае ў рэспубліканскім друку як празаік, драматург, публіцыст.*

Доўгімі начамі
сніцца неба нам, —
з залатымі снамі
наш надзорны храм.

О, мая сініца,
вось маё крыло...
Зможаш затуліцца
ад віхуры злой.

Там за небакраем
наш чакае Рай.
Стань жа маім Раем, —
я твой небакрай!

Нам вякоў крыніцы,
зорная купель...
Ты мая сініца,
я твой журавель.

## СОНЕЧНАЯ ПЕСНЯ

Ненаглядная панна мая,
ты — як сонца між сонцаў нябёсных!
У якіх ні блукаў бы краях, —
ты — мой край, што адвеку дзівосны.

Жыццядайны палётны твой крок,
бо нясе гэты крок свету радасць!
Быццам сонца,
ты цешыш зрок,
Ты натхненне маё і спагада.

Не пакінь жа душы маёй,
як Сусвет векавечнае сонца,
ў адзіноце, як страх, пустой, —
стань мне зоркай прачыстаю сёння!

* * *

Валасы твае пахнуць ракой,
тваё цела навільжана мёдам,
мёдам зорным — дзе жарсць і спакой,
ды кунегі купальскай лагода.

Я, напэўна, дзівак ці вар'ят,
але воку цяпер падаецца:
твае вочы — паўночны агат,
сонца-зорка — празорнае сэрца.

Напаўняючы небам душу,
захапляе душа твая.
Пэўна,
мы пяшчотай звязаныя крэўна, —
і аб іншым жыццё не прашу.

## ТВОЙ ПАЎНОЧНЫ СХОЎ

Сярод халодных, восеньскіх дажджоў
мяне сагрэе сэрца твайго схоў
і пад гарбату ціхая размова
душы адкрые мову.

Пачуе восень, і пачую я,
як скрыпкай загучыць душа твая,
і поўня ўспыхне сонцам між дажджовай
імглы,
дзе песня — словы
твае між шэрых, восеньскіх дажджоў,
дзе дух сагрэе твой паўночны схоў.

## КАХАННЕ

Мне толькі жыць табой — маім каханнем.
А чым яшчэ на гэтым свеце жыць?
Бо нат расстанне — роспаччу не стане,
калі ты ёсць — ці ў спёку, ці ў дажджы.

Цябе любіць, туліць — адное шчасце...
Дзеля чаго ж народжаны я быў?!.
Калі ты ёсць — мне доля шчасцем шчасціць.
Ты ёсць — як лёс,
о, колькі б я ні жыў!

Напэўна, сэнс у гэтым існавання,
што існае відочна праз любоў...
Маё к табе, тваё ка мне каханне:
адвечна —
ў сэрцы дух,
а ў плоці кроў.



## Лізавета ПАЛЕЕС

* * *

Як душу ахіне горкі боль трапяткі,
Ад людской гаманы мітуслівай
Уцякаю да вершаў, шукаю радкі
Ачышчальнай, нязломнае сілы.

Уцякаю да вершаў ад моташных драм
І старонкі гартаю балесна,
І яны для мяне як лячэбны бальзам,
Як вясны неўтаймоўная песня.

І, нібы падарожнік між сыпкіх пяскоў
Прыпадае ўзахлёб да біклагі,
Прыпадаю душой да гаючых радкоў,
Каб жыццёвай пазбавіцца смагі.

* * *

Гучы, паэзія, гучы,
Гучы нязмушана і нова.
Як зорка ясная ўначы —
Паэта велічнае слова.

Не бойся, сэрца, не маўчы.
Радкоў святых хай будзе многа!
Для перамог дабра людскога
Гучы, паэзія, гучы!

---

***Палеес Лізавета Давыдаўна*** *нарадзілася 24 лістапада 1947 года ў Магілёве. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1979). Працавала ў літаратурна-выдавецкім аддзеле «Крыніца», у выдавецтве «Палёт душы».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Я земная и грешная» (1994), «Быль» (1998), «Не приучай меня к себе» (2011). Перакладае вершы беларускіх паэтаў на рускую мову.*

* * *

Зноў нада мной скуголіць вецер,
Мае кудлаціць валасы.
І я адна на белым свеце,
І птушак позніх галасы —

Былых каханых сны-малебны —
Ка мне ўтрапёна цягнуць ніць.
Ім — аклікаць мяне з паднеб'я,
Мне — прабачэння ў іх прасіць...

* * *

Шэрым бытам не забіта —
Абдымаю далячынь.
Ночка ў сноп звязала жыта,
Серп закінуўшы ў вышынь.

Зор калючая ігліца
Мільгаціць, аж не суняць!
Неба — казка-небыліца,
Што чытаць не прачытаць.

Сэрца просіцца на волю
Ад гуллівай песні верб,
І падміргвае свавольна
У захмар'і жоўты серп.

Што было, таго не вернеш.
І, прайграўшы, трэба ўмець
Па вясне пасеяць зерне —
Зор астуджаную медзь,

Каб пад шляхам зорна-млечным
Над табой і нада мной
Разлілася спевам вечным
Песня радасці зямной.

* * *

Без музыкі? Баюся, не змагу.
Без музыкі? Нібыта дні без сонца.
Я перад ёй нявыплатна ў даўгу,
Яна ўва мне — да клетачкі, да донца.

Без музыкі — які пануры свет!
Без музыкі — куды адной мне дзецца?
Без музыкі — ўжо колькі зім і лет —
Як ні хачу, а не магу сагрэцца...

Я выйду ноччу жнівеньскай пад дождж,
Пад зорны дождж, што з полымя і пылу.
Злаўлю ў далонь, нібыта медны грош,
Начную зорку-знічку з небасхілу.

Яе да сэрца блізка прыгарну —
І ўраз святло пральецца нечувана
І прынясе не даўнюю віну,
А спеў нябёс, які залечыць рану.

## НАРАДЖЭННЕ

Мне без музыкі цяжка да змогі,
Без таемнай сімфоніі слоў...
Значыць, праўда, што слова ад Бога
І што гукі ўліваюцца ў кроў?

Значыць, праўда: душа не хацела
Ні зманіць, ні прапасці ізноў?
Значыць, праўда: душа, а не цела
Уладарыць над музыкай слоў?

Б’ецца сэрца пад музыку страсці,
І яго не спаволіш ніяк.
Значыць, так нараджаецца шчасце
І жыццё нараджаецца так?

Льецца музыка радасна-смела,
Новы дзень прачынаецца ледзь.
Як балела душа! Як балела!
Як яна яшчэ будзе балець!

* * *

Не ўчора я на гэты свет прыйшла —
Я сто вякоў блукаю па планеце.
Прыйшла я ў свет, каб Боскага святла
Паболела на гэтым белым свеце.

Прыйшла я ў свет з расхрыстаных вятроў,
З ружовых сноў і зоркавага пылу.
Калі па жылах забруіла кроў,
Спявала ліра велічна і міла.

І колішняй маўклівасці пячаць
Ужо злятае з паўзаснулай песні.
Прыйшла я ў свет мелодыяй гучаць,
Памерці з ёй. І з ёю — уваскрэснуць.

## СКАЖЫ МНЕ ЯШЧЭ РАЗ

Скажы мне яшчэ раз: «Да заўтра! Да стрэчы! Пакуль!»
Не варта мяняць анічога ў душы і ў прыродзе.
Па небе аблокі плывуць невядома адкуль
І крояць нябёсы па самай капрызлівай модзе.

Скажы мне яшчэ раз — і больш не надарыцца страт,
І зноўку растануць суровыя вечныя льдзіны.
Разнасцежу сэрца, як весніцы ў выстылы сад,
І з твару змахну недаверу смугу-павуціну.

Даверыўшы лёсу дарогу сваю на ўсе «сто»,
Я зноўку падслухаю ночы таемныя гукі.
На гэтай вайне, бачыць Бог, не забіты ніхто,
Падмануты толькі сляпым прадчуваннем разлукі.

* * *

Усяго за душой —
Нейкіх пару радочкаў,
Неба выцвілы шоўк,
Пасівелыя ночы.

Песень некалькі нот —
Невялікі набытак.
Шчэ аловак, блакнот
Ды сцяжынка праз жыта,

Па каторай пайду
Я ў сінеч векавую...
А пакуль што я тут —
З адзінотай ваюю.

## НА ПАРОЗЕ

Дождж заімжыў, надакучны і часты,
І растварыў безнадзейнае шчасце,
І растапіў несуцешнае гора.
Мы на прасторы з табой, на прасторы.

Мы ў безбярэжжы, дзе слёз акіяны.
Дзесьці на дне пачуццё пахавана.
Нас працінаюць норд-осты, норд-весты
На скрыжаванні маланак і жэстаў.

Мы ў цеснаце між дабром і абразай,
Дзе на пытанне не знойдзеш адказу.

Мы ў сутарэннях пакоры і страсці,
Там, дзе ў мане абрываецца шчасце.

Мы ў тупіку, на краі, на бяссіллі,
А за спіной — цішыня і бяскрылле.
Зноў перад намі — парогі, парогі...
Трэба ісці. Падгінаюцца ногі.

* * *

Пра каханне гавары хоць да раніцы,
Толькі ложак не сцялі, не пара яшчэ.
Не ўзышло яно яшчэ, ясна сонейка,
І не выпіта пакуль я да донейка.

У кудзелісты туман, ранне шумнае
Ад цябе не пабягу, неразумная.
Толькі ў цёмнае акно кіну моўчкі я
І нягоду, і адчай дзён ссамочаных.

І няхай на золку боль не спатоліцца,
Быць тваёй хачу заўжды я нявольніцай.
Што каханне не навек — я й не ведала.
Знаць, не спалена яшчэ сэрца бедамі.

Ад змяркання да відна — ноч гуллівая.
Не будзі мяне, зара, праўдай лжываю.

* * *

Жоўтую песню тужліва пяюць ліхтары,
Ды ўсё адно пра любоў гавары, гавары.
Болей не будзе на свеце ні стрэч, ні разлук.
Зводніца-ноч зачыніла ўсе дзверы на крук.

Ты гавары, як чакаеш мяне да цямна.
Хай не закончыцца гэта святая мана.
Хай ні на міг — хоць зліваюцца слёзы з мальбой —
Не абарвецца апошняя стрэча з табой.

Цьмяна-бязвольна паўночныя зоркі гараць
Горкім пытаннем: «Ці варта каму давяраць?»
Я ж безнадзейна, адкінуўшы прывіднасць мар,
П’ю тваіх вуснаў атрутна-салодкі нектар.

## КАХАННЕ

Цяпельца! Вуголля! Да ночы! Да рання!
Хай сэрца заходзіцца ў чадзе кахання!
Хай б’ецца аб бераг юрлівасці лодка!
Як гэта балюча! Як гэта салодка!

Як гэта зіхотка! І як гэта міла,
Калі за спіной уздымаюцца крылы!
Як гэта пяшчотна, як гэта чароўна
З табой аказацца так блізка раптоўна!
Як душы маглі мы сплясці ў гэты вечар,
Калі ліставея затульвала плечы,
Калі мільгацелі вячэрнія цені,
А зоркі ў цямнечы тануць не хацелі?
Ды гэта нясмела. Ды гэта ціхутка,
Нібыта за ноч расцвілі незабудкі,
Нібыта зімою чароўныя феі
Над намі рассыпалі кветкавы веер.
Нібыта шляхі адшукалі з табою
У край, дзе жывуць светлавейныя мроі,
У край, дзе ўсё лёгка, празрыста і свята,
Куды за бязмернасць не прыйдзе расплата.

* * *

Навошта аповедаў даўніх сакрэты?
Нашто мне прастораў бясконцых цунамі?
Яшчэ я тваёю любоўю сагрэта,
Яшчэ цішыня не лягла паміж намі.

Яшчэ ўсё так проста, яшчэ ўсё так блізка,
Яшчэ ўсё на свеце, здаецца, магчыма,
Яшчэ так трапеча зрадзелае лісце,
Яшчэ цішыня не стаіць за плячыма.

Яшчэ прахалода атульвае скроні,
Яшчэ так пяшчоцяць спакусныя ночы,
Яшчэ я ў паглядаў тваіх у палоне,
Яшчэ цішыня за спіной не грукоча.

* * *

У сэрцы холад больш не растане,
Асенні вецер звініць журбою.
Напэўна лепей, што мы ў расстанні.
Што ж, Бог з табою!

Нам абяцалі такія страты,
Нам неслі беды
жыцця арэлі.
А мы з табою не вінаваты.
Мы пасталелі.

Нам лёс падносіў адны напасці,
Рукою гладзіў неасцярожна.
— Дапамажыце! Падайце шчасце!
— Бог дапаможа!

## ПРАБАЧЭННЕ

Пакуль мы смяёмся, пакуль мы сумуем,
Пакуль шчэ мелодыю космасу чуем,
Пакуль для людзей хоць што-небудзь, ды значым,
Пакуль яшчэ верым, смяёмся і плачам,

Пакуль яшчэ ў душах не згасла здзіўленне, —
Папросім за ўсё і ва ўсіх прабачэння.
Папросім нягучна — у клёнаў, у сосен,
У промня, што з лета так просіцца ў восень,

У белай сняжынкі, пылінкі гарачай,
У лёгкай, што ў даль адляцела, удачы,
У песні, якую мы так і не спелі
Над ціхай калыскай, ля снежнай купелі,

У кожнай дарэмна пратоптанай сцежкі,
У кожнай чамусь не раскрытай усмешкі,
У кожнай адрынутай намі пяшчоты,
Што счэзла паволі, без крыл, без палёту,

У горычы позняй пары прадзыходняй,
У сноў, што сутонь асвяцілі паходняй,
У ночы тужлівай, насуплена-грознай,
У неба… Калі шчэ, канечне, не позна.

***Пераклад з рускай Міколы ШАБОВІЧА.***



**Янка СІПАКОЎ**

# МАЯ БІБЛІЯТЭКА

*Кніга пра кнігі*[1]
*Паліца другая. Аўтографы*

## 3

Штогадовыя семінары маладых літаратараў у Каралішчавічах. Куды толькі не запрашалі старшыню па рабоце з маладымі пісьменнікамі! Я выступаў са справаздачамі і ў Мінгарвыканкаме, і нават у Вярхоўным Савеце БССР — бачыце, і Вярхоўны Савет цікавіўся, як Саюз пісьменнікаў працуе з маладымі талентамі. Ды і ў самім саюзе, як толькі што якое, як складаюць планы працы прэзідыума, так абавязкова нехта ўспомніць: «А давайце мы паслухаем камісію па рабоце з маладымі».

Як бы яно ні было, але я ганаруся, што праз камісію, праз Каралішчавічы, праз нашы штогадовыя семінары прайшлі ўсе — я паўтаруся: усе! — маладыя пісьменнікі, якія неўзабаве стануць гонарам беларускай літаратуры: Яўгенія Янішчыц і Раіса Баравікова, Генрых Далідовіч і Леанід Дайнека, Валянціна Коўтун і Вольга Іпатава, Алесь Разанаў і Віктар Ярац, Уладзіслаў Рубанаў і Віктар Гардзей, Алесь Пісьмянкоў і Леанід Дранько-Майсюк...

«Снежань 1981 года. Дом творчасці «Каралішчавічы»… — Той час успамінае Віктар Шніп, віншуючы ў 2010 годзе Леаніда Галубовіча з шасцідзесяцігоддзем. — За вокнамі цёмна, марозна, завейна. У светлай ад паэзіі зале гучыць:

Шукаю чытача,
Хаўрусніка душы,
Які б з майго пляча
Цяжар пералажыў
І на сваё плячо...
Лягчэй дайшлі б да мэты.
Так мала чытачоў,
І тыя ўсе — паэты.
І ўсё ж жыве, аднак,
Надзея, і здаецца,
На слова хоць адна
Душа ды адзавецца...

Гэта Леанід Галубовіч чытае свае вершы. І яго слухаем мы, маладыя — А. Сыс, А. Мінкін, У. Арлоў, В. Сахарчук, А. Шушко, С. Вераціла, А. Наварыч, У. Мазго, У. Ягоўдзік, Л. Паўлікава, А. Канапелька, А. Жыгуноў, У. Саламаха, М. Мятліцкі, В. Спрынчан... У Лёні ад хвалявання дрыжаць рукі і здаецца, што ён не трымае аркушы з вершамі, а сам трымаецца за іх».

---

[1] Працяг. Пачатак у № 2, 2012 г.

Каралішчавічы! Штогадовы семінар! Штогадовае свята маладой беларускай паэзіі! Сустрэчы, размовы, знаёмствы. А ў некаторых гэтыя знаёмствы заканчваюцца нават вяселлямі. Як, да прыкладу, у маладых крытыкаў Тамары Чабан і Яўгена Гарадніцкага.

Семінар скончыўся, аднак ён нібіта яшчэ і прадаўжаецца. «У мяне з сённяшняга дня пачаліся вясковыя працоўныя будні. А душа яшчэ там, у Каралішчавічах!» — піша Шніпу Лёня Галубовіч, электрык з вёскі Вароніна. «Здаецца, яшчэ колькі дзён таму маглі пра многае гаварыць, аб многім спрачацца... А сёння ўсё гэта памяць. Я як нанова нарадзіўся. Такі быў дзіўны, цікавы народ!» — прызнаецца ён у іншым лісце да Шніпа.

Прыемна гэта чытаць і мне, тагачаснаму старшыні камісіі па рабоце з маладымі. Бо радасць маладых была, зразумела ж, і маёю шчыраю радасцю.

А спіс удзельнікаў таго семінара, пра які расказвае Шніп, таксама ўнушальны — ніводзін малады не згубіўся ў нашай роднай беларускай літаратуры. Усе сталі асобамі.

Вось перада мною першыя кнігі ўдзельнікаў таго семінару.

Анатоля Сыса некаторыя сур'ёзныя крытыкі ўжо называюць класікам. У яго і напраўду было нешта такое, што ўздымае паэта над роўнымі яму.

Вось яго першая кніга. «Пан лес». «Маналог Апанаса Філіповіча». Святога з сабору беларускіх святых.

У гэтай краіне не маю я песні,
якая б народнай была і маёй,
якую б сябрына запела ў Бярэсці,
а рэха ўзышло за Дняпром, за Дзвіной...

У гэтай краіне не маю я дому,
вось воблака — сяду і ў свет палячу
над гэтай гаморай, над гэтым садомам,
ні грошай, ні славы — я волі хачу…

Не, так пачаткоўцы не пішуць. А калі і пішуць — то рэдкія. Адзінкі.

Без мяне будуць жаць
і губляць з пераспелых калоссяў
залатыя зярняты
на Белую нашу зямлю,

птушкі іх падбяруць
як падзяку за жніўныя песні,
хто ў крыле, а хто ў дзюбе
у гнёзды свае панясуць.

Без мяне прарастуць
у зямлі жаўруковыя гнёзды,
і, шануючы звычай,
іх жнеі сярпом абнімуць.

Цішыня, спакой і адначасова нейкая вусціш...

І гэта пачатковец? І гэта першая кніга?

Я любіў хадзіць не толькі і не столькі як старшыня па рабоце з маладымі на паседжанні папулярнага ў свой час літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя», якія праводзіў Сыс: дзелавітасць, сабранасць, засяроджанасць, пакладзены перад сабою гадзіннік...

А на сваім, падараваным мне, фотаздымку — з чорнага фону праяўляецца толькі галава з няголенаю барадою ды вусамі —Толя напісаў: «Спадару Сіпакову сьціпла ад пана Сыса з сімпатыяй. Шкада, што мы не равеснікі, а так бы... 11 сакавіка 1990 г. г. Менск».

Што «так бы» — не ведаю.

Алег Мінкін. Сваю першую кнігу «Сурма» падпісаў мне: «Івану Данілавічу Сіпакову з удзячнасцю за падтрымку і дапамогу. Алег Мінкін. 14.08.85 г.».

На зборніку пазначана: «Вершы адрэдагаваны на грамадскіх асновах Янкам Сіпаковым».

Я тады, рэдагуючы, бачыў, што гэтая кніга напісана нібыта навырост, яна пачынала ўжо новыя вершы і новыя кнігі. Вось як Мінкін пісаў пра Белабога:

Тут ва ўсім неўміручае цела яго:
Пад травою, пад скурай, пад цёплай карою,
Ён жывы і пад тоўшчаю льдоў і снягоў,
Тут крыніцы крынічаць ягонай крывёю...

Тут ва ўсім прысмак слова і духа яго:
У прыглушанай песні, у цьмяным мінулым...
У вачах тваіх сініх, замглённых тугой,
Яго белая постаць, як цень, мільганула.

Ад яго хацелася чакаць новых вершаў! І, шчыра кажучы, мне вельмі шкада, што паэт, здаецца, згубіўся недзе ў свеце бізнесу і прадпрымальніцтва...

А вось «Гронкі святла» — першая кніга Віктара Шніпа, які, як гаворыцца ў біяграфічнай даведцы, працаваў тады «цесляром на будоўлях Мінска».

«Дарагому Івану Данілавічу — цудоўнаму паэту і празаіку, аўтару векавечнага веча балад са шчырай павагай і ўдзячнасцю. Віктар Шніп. 6.VI.84 г.»

І вось «Першая баразна». Першы верш у першай кнізе:

Скібу чорнай глебы —
цяжка мне —
Абкладаю даланёю плуга.
Конь ідзе па свежай баразне —
Над спіной яго ўладарыць пуга.
Па раллі за мной бягуць шпакі,
Між сабой гамонячы шумліва.
Сёння, нібы мама з-пад рукі,
Раніца глядзіць шчаслівa.
Адчуваю, што іду раўней.
Баразна мае цалуе ногі.
І цяжэйшай не было ў мяне
Вось за гэту баразну дарогі.

О, дык ён жа не толькі цясляр, але і ратай, гэты паэт. Зрэшты, так яно і павінна быць: любая прафесія павінна растварацца ў агромністым паняцці Паэт.

Мікола Мятліцкі таксама быў сціслы. На першай сваёй кнізе «Абеліск у жыце» напісаў: «Івану Данілавічу ад вучня і прыхільніка таленту».

Людміла Паўлікава, удзельніца гэтай жа нарады маладых пісьменнікаў, дорачы мне сваю першую кнігу «Адведзіны рамонкавай паляны», была шчодрай на пажаданні: «Дарагому, паважанаму Івану Данілавічу, натхніцелю і арганізатару ўсіх перамог літаратурнай моладзі з пажаданнем усіх зямных і незямных радасцей».

Уладзімір Саламаха яшчэ студэнтам, як кажуць, «пагарэў» на Янку Сіпакову — яго выгналі з-за мяне з аўдыторыі. Пра гэта ён расказвае ў кнізе «Сусвет дабрыні» ў дарагім мне эсэ «Закон раўнавагі Янкі Сіпакова».

Даю яму слова:

«1972 год. Амаль зіма. (Во, калі глядзець з дня сённяшняга, адмежак часу: з'явілася некалькі пакаленняў чытачоў, змяніліся адносіны да літаратуры ў грамадстве...) Студэнцкая аўдыторыя журфака БДУ імя У. І. Леніна. Змрочна. Але раптам цуд уваходзіць у яе, аўдыторыю гэту. Праз роднае слова...

«Зімнымі студзеньскімі начамі, калі настылая поўня скочваецца на самыя гарадскія камяніцы і калі яе ўжо нельга адрозніць ад круглабокіх вулічных ліхтароў; калі ў снежных тунелях астываюць машыны, якія так спяшаліся вывезці мяцелістую зіму за горад; калі заснежаны па самую шапку студзень, як стомлены чалавек, з крэктам укладваецца спаць на мяккія, узбітыя завеямі сумёты, — такімі зімнымі начамі (я ў гэта веру) у многіх гарадскіх кватэрах самі па сабе, нячутна, расчыняюцца вокны, і ў цёплых пакоях неяк па-новаму запахне халодны снег — ці то крохкімі ледзяшамі, ці то зябкім бярозавікам».

Выкладчык, прафесар, у мінулым знаны журналіст-практык на хвіліну змаўкае, мусіць, каб мы ў гэтай паўцёмнай, прапахлай пылам аўдыторыі ўявілі «заснежаны па самую шапку студзень» (снегу тады яшчэ не было), каб адчулі яго пах, каб убачылі, уявілі, як «расчыняюцца вокны» ноччу, працягвае: «Тады доўга варочаюцца на сваіх канапах і раскладушках вясковыя бабулькі, якія на зіму прыехалі ў горад, каб дагледзець сваіх унукаў (на лета яны забяруць іх з сабою), варочаюцца доўга, аж пакуль нейкі абноўлены сон не выведзе іх праз гэтае акно, расчыненае ў зіму».

— Вось як трэба пісаць нарысы, — настаўляе нас, будучых «геніяў» журналістыкі, выкладчык.

— А то — «слаўна папрацавалі...» і «вывезлі сем вазоў гною», — выскокваю я, як Пiлiп з канапель. — Але ж гэта не нарыс — проза, — кажу далей, — літаратура.

У таго выкладчыка такое свавольства студэнта, між іншым, выклікае адпаведную рэакцыю. Вось наказ яго: ну дык ідзі з аўдыторыі, калі такі разумны, бяры ў кнігарні кнігу Янкі Сіпакова «Па зялёную маланку», прачытай, вызначы жанр, тады і пагаворым.

Такім чынам, першы раз гэтую кнігу нарысаў Янкі Сіпакова я набыў менавіта тады, у 1972 годзе. Менавіта тады, у далёкім юнацтве, прачытаўшы ў ёй «Там, дзе Сібір», «Ціхая Акіянія», «Па зялёную маланку», а найперш «Акно, расчыненае ў зіму», упершыню быў літаральна ашаломлены магіяй сіпакоўскага слова».

Падпісваючы «Сусвет дабрыні», Саламаха пакінуў мне назаўсёды шчырае пажаданне: «Івану Данілавічу Сіпакову — Валодзя Саламаха. На ўсё добрае ў жыцці. 14.04.05 г.»

Дзякуй, Валодзя! Ты, Уладзімір Пятровіч, можа і не ведаеш, як гэта многа — «на ўсё добрае ў жыцці»...

Уражанне ад першай кніжкі Вадзіма Спрынчана, якую ён назваў «Земля и звёзды» і якой даў падзагаловак «Кніга лірыкі», нейкае чыстае-чыстае, пранізлівае-пранізлівае, класічнае-класічнае. І за ненавязлівай, здавалася б, прастатой — такая глыбіня...

На плоскость озера лесного,
Уже слепой,
слетает свет…
Ночь.
Душная.
Без звёзд.
Я скован.
Мне не до сна…
А душу снова
Влечет воды чуть видный след…

И я ныряю.
Глубина
Пронзительна и холодна.

И, чёрной влагою охвачен,
Секунды долгие плыву.
Вдруг —
свет сознанья:
я живу! —
Я вновь увижу наяву
И луч дневной, и синеву…
Но только чуточку иначе.

Вадзім Браніслававіч у сваю невялічкую, вельмі таненечкую кніжачку — усяго на 46 старонак! — уключыў, не выдзяляючы асобна, а як свае вершы, пераклады на рускую мову з паэзіі Аляксея Пысіна і Рыгора Барадуліна, а таксама вялікую нізку з дваццаці вершаў Міхася Стральцова «И боль как вечный дар прозренья». Ён не раздзяляў тое, што пісаў сам, і тое, што перакладаў.

На «Земле и звёздах» я атрымаў ад яго добры аўтограф: «Дорогому Ивану Даниловичу Сипакову — от всего сердца, с благодарностью. Вадим Спринчан. 24 мая 1982 г.». І я таксама з удзячнасцю і пашанаю адношуся да яго, сціплага чалавека.

Неяк набыў я выдатную кнігу «Я знайду для цябе запаветнае слова». Літаратура Вавілоніі і Асірыі. Паэзія, якой ужо чатыры тысячы гадоў. Амаль падрадковы пераклад тэкстаў. Напісаных клінапісам. На гліняных таблічках. Гліняная культура Двухрэчча. У даліне паміж Тыграм і Еўфратам.

Тады гліняныя кнігі, гліняныя бібліятэкі захоўваліся не толькі ў палацах асірыйскіх цароў, але і ў правінцыйных бібліятэках. Асабліва славутай была бібліятэка цара Атурбанапала (669—639 гг. да н. э) у Ніневіі, сталіцы Асірыі, у якой было сабрана больш за 700 такіх гліняных кніг.

Шмат якія тэксты дайшлі да нас, як кажуць, у абломках. Шмат дзе пазначана: «астатняе разбіта», «далей — разбураны тэкст», «сорак два радкі захаваліся дрэнна», «далей не хапае сто дваццаць вершаваных радкоў» і г. д.

І так захацелася, каб іх на сваёй роднай мове пачулі мае родныя беларусы — аж рукі засвярбеліся. Я пераклаў вавіланян! Зрабіў вялікую публікацыю ў «Полымі» — «Гліняныя кнігі»!

Потым была іншая падборка. У маіх перакладах. Усё ў тым жа «Полымі». «Хай пачуе мяне і зямля і неба». Ведычнай паэзіі. Гімны, малітвы, замовы арыяў. З самых старэйшых кніг у свеце — з «Рагведы» і «Атхарваведы».

А паміж імі — «Пяшчота Элады» і «Закаханыя гекзаметры». У вершах пра тое, як кахалі старажытныя грэкі і рымляне.

Дык вось усе гэтыя падборкі ў «Полымі» выйшлі ў рэдакцыі Вадзіма Спрынчана! Уедлівы, сумленны, пунктуальны, ён вывяраў і яшчэ раз дапраўвяраў кожную лічбу, кожны радок, і мне ад гэтага было толькі радасна — мы ж абодва вельмі хацелі, каб творы, якія з'яўляліся на беларускай мове ўпершыню за ўсю гісторыю іх існавання, гучалі па-нашаму і дакладна, і правільна: каб яны, не нашы, гучалі як нашы.

Вадзім Спрынчан — сярэдні з дынастыі паэтаў Спрынчанаў. Яго бацька рускамоўны паэт Браніслаў Спрынчан, былы каваль «Гомсельмаша», шмат перакладаў з беларускай паэзіі. Пераклаў ён і мой верш «Падарожжа вакол цябе». Кнігу «Стожары», дзе змешчаны гэты верш, ён падпісаў коратка, але прыемна: «Дорогому Янке Сипакову с дружеской симпатией. 18 мая 1984».

Я таксама перакладаў яго вершы на беларускую мову. Мне асабліва падабаўся ягоны «Алень».

Аксана Спрынчан, унучка Браніслава, над сваёй падборкаю вершаў «Лісты ад А.», змешчанай у зборніку «Літаратурны квартал», напісала мне: «Хай восень Вам варожыць на сініх астрах!».

А ўсю кніжку «літаратурнакварталаўцы» падпісалі мне так: «Шаноўнаму Івану Данілавічу з вялікай павагай і ўдзячнасцю на памяць пра сустрэчу. 24.11.2004 г.».

Так, я добра памятаю тую сустрэчу. Людміла Рублеўская, кіраўнік суполкі маладых творцаў «Літаратурны квартал», запрасіла мяне на сустрэчу ў «Советскую Белоруссию», дзе моладзь мела цэлы пакой. Я ведаў, што там збіраюцца цікавыя і перспектыўныя пачаткоўцы — Янка Лайкоў, Рагнед Малахоўскі, Наталля Капа, Наталля Кучмель, Ігар Клепікаў, Аксана Спрынчан, Віка Трэнас (адзінаццацікласніца), Адарка — Дар'я Лосева... Быў на той час відным членам суполкі і Сяргей Патаранскі. Па тым, як ён імкліва ўвайшоў у пакой, як абыякава кінуў паліто, як адразу ж пачаў задзірацца, было відаць, што ён у суполцы «праблемнае» дзіця. Людміла Іванаўна нават пачала мяне бараніць ад яго. Аднак з Сяргеем мы хутка паразумеліся і пад сваёй публікацыяй у «квартале» ён напісаў:

«Аднаму з маіх любых пісьменнікаў маю гонар падпісаць свае сціплыя творы».

На сустрэчы ён чытаў сваю славутую «Клеапатру». Якую ў суполцы ўсе, акрамя мяне, ведалі, здаецца, на памяць. Я ж чуў верш упершыню. Ён мяне вельмі уразіў:

Падаруй сваю ноч, Клеапатра,
Падаруй мне пяшчоту сваю.
Як білет на ўваходзе тэатра,
Я свабоду тваю куплю.

І на белым і шчасным ложы,
Быццам змей ашалелых клубок,
Нашы целы ў гульні прыгожай,
Сувязь прагная рук і ног...

Падары гэту ноч, Клеапатра!
Як шалёна цябе я хачу.
За білет на ўваходзе тэатра
Я свабодай табе заплачу.

Гэтага верша ў «Літаратурным квартале» няма. Як і цудоўнага верша Наталлі Кучмель, які мне таксама спадабаўся:

— Здурнела! Сорам на вачах губляеш!
Пагардліва зірнуўшы з пад ілба,
Ўсясветнаму цару ты адмаўляеш
І да грудзей штомоцы прыхінаеш
Нахабнага і брыдкага раба!
І цар, адрынуты, абагаўляе
Тваю між смецця знойдзеную рэч,
А раб каравы твар свой прыкрывае
Ад пацалункаў і цябе піхае,
Нібы брыду: «Пайшла, пачвара, прэч!»
О той, хто загаворвае сурокі,
Дапамажы, бо звяну, як трава:
Самаадданы, юны, яснавокі,
Мне цар не мілы, нічые папрокі
Не дапамогуць: чую толькі крокі
Карослівага чорнага раба.

Цудоўны верш! Але чамусьці Кучмель таксама не дала яго ў «Літаратурны квартал». Але я, складаючы «Анталогію любоўнай лірыкі», уключыў яго, як і «Клеапатру» Патаранскага ў беларускі томік. Анталогіі. «Свет на дваіх».

Пра ўсіх іх, «літаратурнакварталаўцаў», Людміла напісала ў прадмове:

«Вы яшчэ сустрэнецеся з многімі аўтарамі гэтай кнігі, шаноўныя чытачы. Некаторыя, як Янка Лайкоў, ужо маюць імя і месца ў літаратуры. Некаторым яшчэ належыць займець яго. Але ўяўленне пра тое, як выглядае літаратурнае пакаленне пачатку дваццаць першага стагоддзя, вы будзеце мець.

Гэта не горшае літаратурнае пакаленне з тых, што стваралі айчынную літаратуру».

Першаю кнігаю майго пакалення стаў сціплы зборнічак у прыемнай зялёнай вокладцы, з залацістаю назваю «Падарунак». Ён выйшаў у 1958 годзе ў выдавецтве БДУ пад рэдакцыяй М. Р. Ларчанкі, тагачаснага нашага дэкана, а ў маладосці — пачынаючага паэта, які выступаў пад псеўданімам Міхась Вісатар.

У «Падарунку» — вершы крыху старэйшых за нас, але яшчэ маладых і перспектыўных паэтаў: Уладзіміра Нядзведскага, Генадзя Кляўко, Валянціна Тараса, Алега Лойкі, Ніла Гілевіча, Давіда Сімановіча, Міколы Арочкі, Анатоля Вярцінскага. А таксама ўжо нашы. Нашы — гэта Г. Бураўкін, Р. Барадулін, В. Зуёнак, Ю. Свірка, С. Блатун...

Раптам нейк, без залётных сняжын-вестуноў,
Паваліў, нібы хтось яго кідаў ахапкі;
Не ўтрымаўся і выпаў з абдымкаў кляноў,
Пераняў на праспекце студэнта без шапкі...

Першы снег!
Першы снег!
Быццам школьнік, бягу
Падзяліцца з табой гэтай радасцю светлай,
Бо я з ёю адзін саўладаць не магу,
Мабыць, звычка такая прыйшла непрыкметна... —

усхвалявана радуецца першаму снегу Ніл Гілевіч.

Дзень добры, інтэрнат — стары знаёмы,
Вясёлая студэнцкая радня!
Зноў важыць чамадан лягчэй, чым дома,
Зноў дабаўляем дзірак у рамнях.

За лета шмат пытанняў не рашылі —
Па вечарах дыскусія кіпіць.
Над кнігай чайнік, выцягнуўшы шыю,
Нібы гусак, разгневана шыпіць, —

усміхаецца Рыгор Барадулін.

Цэлы тыдзень хадзіў я прыгнечаным,
Не гулялася, не спявалася:
Кожнай раніцай, кожным вечарам
Мне чагось неставала ўсё.

А сягоння зусім няпрошана,
Нечакана, неспадзявана я
Зноў убачыў цябе, харошая,
Дарагая, нецалаваная.
І гатоў салаўём заліцца я
На лады і калены розныя,
Каб дзівілася нават міліцыя,
Што такімі бываюць цвярозыя... —

спавядаецца Генадзь Бураўкін.

А Анатоль Клышка, неўзабаўны аўтар беларускага «Буквара», таксама выступіў у «Падарунку» з вершамі. Вось як ён піша пра вясну:

Пахучаю белаю пенай
Чаромху скрапіла вясна.
Пад ветрам — смычком антэна
Звініць, як тугая струна.

І трактар магутны паволі
Пускае блакітны дымок.
Здалёку віднеецца ў полі
Ягоны даўгі камінок.

Памятаю, нарабіў тады шуму гэты «камінок»! Ён усім спадабаўся, шмат хто яго цытаваў: гэта ж трэба такі яскравы малюнак, такі вобраз прыдумаў Анатоль!

Потым, ужо ў другім зборніку «Універсітэт паэтычны», ён надрукуе «Вёску вершаў». А ў ёй:

Саксаул!
Ты марудна расцеш, як думка.
Нялёгкая доля ў цябе —
я ведаю твой знявечаны ствол
і ў напружанні кожнай галінкі мускул,
як кожны падарожны, седзячы ноччу пры вогнішчы,
ведаю людскую
                    тваю
                        цеплыню...
Саксаул! Ты не схема ні грушы маёй, ні яблыні,
ты жывое памкненне верша майго.

У «Падарунку» са сваімі вершамі выступілі будучыя дактары навук Арсень Ліс, Вячаслаў Чамярыцкі, Алег Лойка.

А Вячаслаў Адамчык, потым цудоўны апавядальнік і цікавы раманіст, тут азваўся цікавым, сталым вершам «Вецер»:

Прабяжыць над вёскаю
І успеніць сад,
Белымі пялёсткамі
Сыпне ля прысад.

З верхавіны зломанай
Ліст сухі страсе,
Бавіцца з саломінай
Доўга па страсе.

А часамі ўблытае
Крылы ў правады —
Рвецца ў даль адкрытую
І звініць тады.

Паэт! Якія рыфмы! Якія вобразы! Сталасць паэтычнай заяўкі ўжо добра адчуваецца ў будучага празаіка.

## 4

Дарэчы, не толькі Адамчык, але і іншыя выдатныя потым празаікі найперш спрабавалі сябе ў паэзіі.

Іван Пташнікаў пісаў:

З поля ветрык прыносіў з сабой
Пах пшаніцы з мядоваю грэчкаю.
Я спяшаўся, каб стрэцца з табой:
Знаў — чакаеш мяне ты за рэчкаю.

І Іван Чыгрынаў — таксама пра тое ж:

Я прастойваў тут нямала —
З кожным днём усё даўжэй.
Сарамлівасць не давала
Пазнаёміцца даўней.

— Сёння! —
Сам сабе я кляўся.
Сёння! — слова я даваў,
А, сустрэўшыся, губляўся
І назаўтра адкладаў.

Камусьці з іх належыць і вось такое:

Дарога гасцінна
Удаль заклікае,
Ды з любай дзяўчынай
Яна разлучае.
Сягоння — сустрэча,
А заўтра расстанне...

Не, не камусьці, а менавіта яму — Івану Пташнікаву.

Лірычныя, сарамлівыя ў паэзіі. Якія ж яны іншыя ў прозе! Магутныя і глыбінныя. Ашчадныя і ёмкія ў слове, у выразе, у думках.

Іван Гаўрылавіч умудрыўся напісаць пяць раманаў, і ні ў адным з іх не дазволіў сабе адважыцца на інтымныя сцэны. Пяцікніжжа без кахання! Здаецца, нонсенс. Аднак усе раманы Чыгрынава чытаюцца і без гэтага з неаслабнай увагаю.

Свой першы раман «Плач перапёлкі» Чыгрынаў падпісаў мне: «Дарагому Янку Сіпакову, каб хутчэй выздараўліваў, бо сумна бывае без яго і ў жыцці, і ў літаратуры. Ів. Чыгрынаў. 5.XII.72 г.».

Калі я павіншаваў яго з выхадам кнігі (былі пэўныя цяжкасці) і сказаў, што цяпер усе клопаты ўжо ззаду, Іван Гаўрылавіч запярэчыў мне: «Старык, я павінен цяпер яшчэ навучыць сваю перапёлку лятаць».

Успомнілася, як яшчэ ў часы нашага студэнцтва нейкі жартаўнік у вестыбюлі філфака павесіў аб'яву: «Хто знайшоў пяты том Збору твораў Івана Чыгрынава, просьба вярнуць у бібліятэку».

Калі гэтую аб'яву паказалі Чыгрынаву, яму яна спадабалася, Іван Гаўрылавіч рассмяяўся і здымаць аб'яву не стаў: «Пусть висит. Здесь всё правильно написано». Ён чамусьці часта гаварыў па-руску.

Ягонае пяцікніжжа, усе пяць раманаў, якія дзякуючы старанням жонкі Чыгрынава выйшлі ў адным томе, падпісала мне Людміла Прохараўна.

Іван Пташнікаў — наймагутнейшы талент. Так густа, як ён, прозу ў беларускай літаратуры ніхто не пісаў. Я нават параўнаў яго з вялікім амерыканскім пісьменнікам Уільямам Фолкнерам. Па адносінах да зямлі, да чалавека, па заземленасці і выпукласці ён і праўда своеасаблівы беларускі Фолкнер.

Аповесць «Найдорф» Пташнікаў падпісаў мне так: «Івану Данілавічу Сіпакову — аўтару кнігі «Крыло цішыні». Каб тваё Ціхае Крыло цябе да класікі вяло! З павагай Іван Пташнікаў. 15 красавіка 76 г.».

Іван Мікалаевіч, віншуючы мяне з днём нараджэння, з выпадку гэтай нагоды часам і цяпер адгукаецца вершам. Вось адно з такіх яго віншаванняў, змешчанае ў газеце «Літаратура і мастацтва»:

НАСТАЛЬЖЫ

***Янку Сіпакову, паэту,***
***майму сябру і аднадумцу***
***ў дзень яго 70-годдзя.***

А калі на душы зазубрэвіцца,
Мне падказвае час і настрой.
І тады я з’язджаю ў Зубрэвічы,
Бо Зубрэвічы — ціш і спакой.

І чатырохтомны збор сваіх твораў Іван Мікалаевіч падпісаў мне амаль паэтычна:

«Івану Данілавічу Сіпакову — беларускаму вайдалоту — па-сяброўску. 8 кастр. 1992 г. Іван Пташнікаў».

Ёсць у мяне верш «Вайдалоткі», які, мусіць, і натхніў майго сябра на такі надпіс.

У чатырохтомніку — амаль увесь поўны Іван Пташнікаў. Усё тое, што ўжо стала класікай: «Лонва», «Тартак», «Найдорф», «Мсціжы», «Алімпіяда», выдатныя апавяданні, яны запомніліся ўсе да аднаго. І ўсё ж мне не хапае ў гэтым зборы яшчэ і «Чачыка» — першай пташнікаўскай, яшчэ студэнцкай, аповесці, якая ў свой час узбударажыла не толькі нас, студэнтаў, але і ўсю літаратурную грамадскасць: яна была нейкая не такая, як творы, якія тады пісалі, была нейкаю новаю, новым словам, стаяла асабняком і нам вельмі падабадалася.

Гэтак жа, як мне заўсёды і ўсюды ў перавыданнях Барыса Сачанкі не хапала тады, не хапае і зараз «Маўчуна» — яго самага першага апавядання.

Яго надрукаваў часопіс «Маладосць», які толькі што стварылі як орган ЦК камсамола Беларусі.

Чаму яно падабалася мне? Можа, што першае? Бо было яшчэ крыху і вучнёўскае, але ўжо сталае па разгортванні думкі і шчырае-шчырае па пачуцці. Яно было напісана студэнтам пра студэнтаў. Мы тады былі яшчэ вельмі цнатлівыя. І гэтай цнотай было перапоўнена карацелька-кароценькае апавяданне.

Пасля яго публікацыі Барыс стаў папулярны і пазнавальны сярод студэнтаў. Хлопцы з іншых факультэтаў здзіўлена пыталіся: «Гэта той, што ў «Маладосці» надрукаваў «Маўчуна»? Дзяўчаты сарамліва, нясмела прасілі нас, яго аднакурснікаў: «Пакажыце мне Маўчуна, Барыса Сачанку».

Гэтае апавяданне было надрукавана толькі ў «Маладосці» і ў Барысавай першай кнізе «Дарога ішла праз лес», якую адрэгаваў яму, студэнту, Уладзімір Дамашэвіч і якая стала выпускніку БДУ нібыта другім дыпломам — як і мне мой «Сонечны дождж». «Маўчун» больш нідзе ў кнігах Сачанкі не з’яўляўся. Сачанка быў строгі да сваіх твораў, а «Маўчун» здаваўся яму, мусіць, слабаватым.

Барыс Сачанка быў маім самым дарагім мне сябрам. З тых сяброў, якія нікім не замяняюцца.

Першую кніжку Барыс падпісаў мне: «Івану Сіпакову — майму лепшаму сябру, сааўтару па-гумару (мы ж друкаваліся пад адным сумесным псеўданімам Сібарсач у «Вожыку»: Сіпакоў, Барадулін, Сачанка) і паэту, у поспехі якога я спадзяюся і веру. 1.IV.60 г.».

З ім, з Барысам, лёгка і прыемна было ісці па жыцці. З ім мы былі аднакурснікамі, жылі ў адным пакоі ў інтэрнаце (разам з Барадуліным) на Нямізе і на Бабруйскай, і пасля ўніверсітэта сустракаліся як не кожны дзень. І гаварылі, гаварылі, гаварылі. Шчыра, не тоячыся, не баючыся.

Таму, падпісваючы мне сваю другую кнігу — аповесць «Апошнія і першыя» — Барыс расчуліўся:

«Майму Гальфстрыму — Івану Сіпакову, з якім так многа ўсяго перагаворана, перадумана, пражыта, — з радасцю, што лёс памог нам сустрэцца некалі, яшчэ на Нямізе. Заўсёды твой — Барыс Сачанка. 24.VI.68 г.»

Пра тое, як мы самазабвенна сябравалі, сведчаць усе ягоныя шчырыя, узнёслыя аўтографы.

На томіку выбраных твораў «Дарогі»:

«Радасці майго сяброўства Івану Сіпакову, з якім заўсёды хочацца сустракацца, гаварыць, марыць і — што граха таіць, — сядзець за вясёлым сталом».

На кнізе гумару «Халасцяк»:

«Івану Сіпакову, сябру, з якім разам халасцякавалі, потым пажаніліся, займелі жонак, дзяцей і, як ні дзіўна, нешта пішам і нават выдаем кнігі».

На кнізе «Последние и первые», выдадзенай у Маскве ў перакладзе на рускую мову:

«Івану Сіпакову — лепшаму сябру, брату па ўсім, хіба толькі не па крыві».

А які шчыры надпіс на ягоным Зборы твораў у двух тамах!

«Любаму Івану Сіпакову, лепшаму майму сябру, з якім добра і хораша ідзецца па жыцці. З удзячнасцю — Барыс Сачанка. 24.12.81г.».

Я быў сведкаю, як Барыс сур’ёзна ставіўся да сваёй працы над раманам «Вялікі Лес». Ды, урэшце, ён ставіўся сур’ёзна да ўсяго, за што браўся. Ён заўсёды і ва ўсім быў грунтоўны і абавязковы.

Найперш, рыхтуючыся да сваёй вялікай працы, перачытваў, вывучаў, даследаваў кнігі найлепшых раманістаў свету — і яму гэта было лёгка рабіць, бо ў Барыса была найбагацейшая бібліятэка, адна з самых багатых у Мінску.

Асабліва скрупулёзна працаваў ён над найлепшымі раманамі свету — над «Вайною і мірам» Льва Талстога і «Ціхім Донам» Міхаіла Шолахава. Хацеў зразумець, як і чым яны ўвесь час трымаюць чытача ў напружанні.

— А ведаеш, чым? — радаваўся Барыс. — Яны даюць батальныя сцэны, вайну, забойствы, а тады, адчуўшы, што гэта надакучыла, стаміла ўжо чытачоў, спыняюцца і выводзяць на старонкі Аксінню з яе незямным каханнем, Наташу Растову, наіўную і палкую.

Часам, пакутуючы над нейкаю сцэнаю, Барыс раіўся са мною, выклікаў на вуліцу, мы доўга хадзілі з ім па вуліцы і заклапочана абмяркоўвалі розныя варыянты, пакуль не спыняліся на самым аптымальным. Праўда, часам ад гэтага нічога не заставалася, і ў творы я бачыў зусім новы варыянт.

Я лічу, што трылогія «Вялікі Лес» — гэта ўдача не толькі Барыса Сачанкі, але і ўсёй нашай беларускай літаратуры.

Мы ў літаратуры працавалі шчыра і захоплена.

Яна для нас была як святыня, як храм, і, уваходзячы ў яе, перад тым, як увайсці ў яе, нібыта перад храмам, мы доўга, старанна, цярпліва выцiралі ногі.

Магутнае пакаленне. Паглядзіце, якія асобы — Уладзімір Караткевіч, Іван Пташнікаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Барыс Сачанка, Генадзь Бураўкін, Міхась Стральцоў, Васіль Зуёнак, Юрась Свірка, Вячаслаў Адамчык, Анатоль Кудравец, Віктар Карамазаў, Алег Лойка, Данута Бічэль,

Віктар Казько, Сцяпан Гаўрусёў, Пятрусь Макаль, Еўдакія Лось, Анатоль Грачанікаў, Леанід Дайнека, Алесь Наўроцкі, Міхась Рудкоўскі, Мікола Купрэеў, Мікола Гіль, Раман Тармола, Мікола Капыловіч, Яўген Крупенька... А яшчэ ж Клышка, Чамярыцкі, Сабалеўскі, Саламевіч.

Усё гэта — асобы. Усё гэта — маё пакаленне.

Я вельмі даражу сваім таленавітым пакаленнем. Лічу, што яно зрабіла цуд: стварыла сапраўдную літаратуру, якая не памірае, бо яна вечная. Як вечнае і слова, сказанае сумленна і навырост.

І я ганаруся, што належу да гэтага пакалення.

Таму мне дзіўна было ў сваім, ужо трэцім тысячагоддзі, чытаць вось такое:

«Не з’яўляецца творчай удачай і трылогія Барыса Сачанкі «Вялікі Лес».

Праўда, гэта было сказана пасля вось такой высновы:

«З «Палескай хронікі» Івана Мележа вылучаецца раман «Людзі на балоце». Астатнія — «Подых навальніцы» і «Завеі, снежань» — падаюцца менш дасканалымі».

Памятаю, як свае «Завеі, снежань» Іван Мележ друкаваў у «Полымі». Барыс Сачанка, які працаваў тады ў «Полымі», скардзіўся мне:

— Ён ужо свой раман так вылізаў, так вылізаў. А ўсё прыходзіць кожны дзень і правіць, правіць, правіць.

А яму, крытыку, бачыце, раман «падаецца менш дасканалым»...

Падчас Свята беларускага пісьменства ў Хойніках у 2010 годзе «ЛіМ» пісаў:

«З Хойнікшчынай у беларускага чытача маюць найперш атаясамлівацца імёны такіх класікаў роднай літаратуры, як Іван Мележ і Барыс Сачанка».

Класікі! Менавіта так!

Трылогія «Вялікі Лес» выходзіла трыма кнігамі, і Барыс пакінуў мне аўтографы на кожным томе.

Яны такія дарагія мне, што хочацца прывесці тут усе тры.

На першым томе Барыс напісаў:

«Лепшаму майму сябру Івану Данілавічу Сіпакову з радасцю, што зноў чую, бачу, бываю разам, як і раней тое было».

На другім і трэцім томе аўтографы амаль аднолькавыя:

«Івану Данілавічу Сіпакову, сябру, які натхніў і горача падтрымаў мяне на стварэнне гатага рамана. З удзячнасцю».

І на трэцім:

«Івану Данілавічу Сіпакову, які натхніў мяне на гэты твор. З удзячнасцю».

Дзве дачкі Барыса Іванавіча таксама сталі пісьменніцамі — Галя пісала прозу, Святлана — паэзію. І абедзве выдалі першыя кніжкі — Галіна Багданава свой зборнік назвала «Чалавек без адрасу», паэтычная кніга Святланы Явар займела загаловак «Раніца ў туманах».

Галя сваю кнігу падаравала мне:

«Шаноўнаму, дарагому Івану Данілавічу, з чыёй лёгкай рукі пачалі здзяйсняцца нашы самыя запаветныя мары. Няхай ніколі не сыходзіць з Вашых добрых вачэй дабрыня і спагада. Сонечных дажджоў Вам, натхнення і плёну!».

Галя ўспомніла пра «Сонечны дождж» — менавіта так называлася мая першая кніжачка.

Я напісаў прадмову да зборніка.

«Галіна Багданава, колішняя Ланеўская, — гаварылася ў прадмове, — пачала свой шлях упэўнена, настойліва, адметна, па-жаночы цнатліва «неабыякавай да чужых клопатаў душы».

Святлана падпісала мне свой зборнік і прасцей, і карацей: «Івану Данілавічу Сіпакову, з павагай, на шчасце». Яе першая кніга выйшла ў «Бібліятэцы часопіса «Маладосць».

Маладосцеўцы, здаецца, ад самага свайго пачатку марылі пра сваю «бібліятэку», у якой бы выдаваліся кнігі маладых пісьменнікаў.

На дварэ пахла перабудоваю, і тое, пра што марыла наша памоладзь, нарэшце, збылося: ЦК КПСС у асобе сакратара ЦК Ягора Лігачова была падпісана пастанова аб выданні «Бібліятэкі «Маладосці». Дванаццаць кніжак на год!

І ўсяго ў «Бібліятэцы «Маладосці» выйшла каля 150 кніжак маладых пісьменнікаў. Сто пяцьдзясят! І толькі першых кніжак — другія для выдання ў гэтай бібліятэцы мы, маладосцеўцы, не прымалі!

Вось яны, гэтыя кніжачкі, стаяць на маіх паліцах. Сур’ёзныя кніжкі, па якіх прымалі тады ў Саюз пісьменнікаў. Большасць — з аўтографамі.

Маргарыта Прохар. «Насустрач сонцу». Апавяданні.

І надпіс: «Івану Данілавічу — з самымі найлепшымі пажаданнямі і падзякай за творчую падтрымку. Со шчырасцю».

Барыс Пятровіч. «Ловы». Апавяданні.

І пажаданне: «Вельмі паважанаму Івану Данілавічу ад прыхільніка Вашай творчасці і з найлепшымі пажаданнямі».

Язэп Янушкевіч. «У прадчуванні знаходак». З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава.

І цікавая думка: «Беларускаму сейбіту славяншчыны — Янку Данілавічу Сіпакову — у доказ, што і вакол «двух-трох знаходак» можна стварыць Баладу. Пошуку. З павагай. Аўтар».

І нечаканае завяршэнне кнігі: «Каб, займеўшы на сваім рахунку не адзін дзясятак знаходак, асэнсаваць крылатае, даўняе, звернутае і да архіўных пошукаў: «Удачы не было. Была ўзнагарода за цярплівасць».

Кацярына Мяшкова. «Алея кахання». Вершы.

І аўтограф: «Паважанаму Івану Данілавічу з удзячнасцю».

Таццяна Мушынская. «Гаркавы смак ісціны». Партрэты Валянціна Елізар’ева, Людмілы Бржазоўскай, Інесы Душкевіч, Тацяны Шаметавец і інш.

І добрыя словы: «Івану Данілавічу Сіпакову, на дзіва шматграннай творчай асобе, без чыёй чуласці, падтрымкі і дабрыні не склалася б гэтая кніга».

Я тады працаваў загадчыкам аддзела культуры ў «Маладосці» і друкаваў артыкулы ды эсэ Таццяны пра тэатр, балет, музыку.

Міхась Хамец. Фотамастак. На той час галоўны рэдактар «Раніцы» (былой дзіцячай газеты «Піянер Беларусі»). Лірычныя мініяцюры. Уражваюць і запамінаюцца. Ну хоць бы вось гэтае:

«Мы, шчырыя беларусы, — эмігранты ў сваёй краіне?»

Марыя Панкова. «Нязбытнаю ласкаю». Вершы. Лірыка шчымлівая. Гэткі ж і аўтограф: «Івану Данілавічу, любімаму, сапраўднаму Паэту, Пісьменніку з удзячнасцю за ўвесь наш няўдзячны свет! Хай і далей Вам дапамагае светлая Матчына душа ў жыцці, у творчасці. Я скаланута, я глыбока ўражана Вашым Словам! Лёсам! А яшчэ ж Вы — і мой зямляк! О, дзіва! Марыя».

Марыя нарадзілася ў Падкняжанні. А ад маіх Зубрэвіч да гэтай вёскі — рукой падаць. Хоць Падкняжанне — гэта ўжо Шклоўскі раён, Магілёўская вобласць...

Алесь Давыдаў. «Пройма». Вершы. Прыказы.

І дарчы надпіс: «Паважанаму сп. Янку Сіпакову — заўсягдышняму маладосцеўцу — у знак выхаду першай кнігі. З удзячнасцю за Настаўніцтва з

зычэннем усяго найлепшага. 23.08.96. Маладосць». Не ведаю, дзе падзеўся гэты таленавіты паэт, які зрабіў такую цудоўную заяўку.

Вось яны побач стаяць, першыя кніжкі Міколы Шабовіча, Леаніда Пранчака, Анатоля Мяснікова, Людмілы Дрожжа, Людмілы Андзілеўкі...

Чытаю, перачытваю першыя кніжкі, і шкадую, што некаторыя, хораша заявіўшы сябе ў літаратуры, потым недзе зніклі, растварыліся, прапалі. Кацярына Мяшкова, Людміла Андзілеўка, Людміла Дрожжа, той жа Алесь Давыдаў... Дзе вы? Якія віхуры жыцця панеслі вас кудысьці ў зусім іншыя клопаты, у іншы ад літаратуры бок?

Таіса Трафімава. «Усміхнуся вятрам». Зоя Падліпская. «Палон нябёсаў». Дзве сястры Янучок са Случчыны. Дзве кнігі ў адной. Своеасаблівы дуэт. Як хораша ён гучыць!

Таіса, узяўшы радок з верша М. Шабовіча «Яшчэ пакуль не лістапад» за эпіграф, піша:

Яшчэ пакуль не лістапад...
Пакуль да восені далёка;
Пакліч мяне у райскі сад,
Мне сёння вельмі адзінока.

Зоя, прывёўшы ў эпіграфе словы А. Пісьмянкова «Дзякуй табе за Веру, дзякуй табе за Мару», шчымліва радуецца:

Ізноў жыву.
Згасае знічкай стома.
Цалуе сонца росную траву.
Ізноў жыву.
Бо стала мне вядома,
Што раніцу — *шчаслівай* назаву.
Я дзякую табе,
Што зноў — *жыву.*

Эдуард Акулін, вядомы бард і паэт, сваю кніжку ў «Бібліятэцы «Маладосці» назваў «Пяшчота ліўня». І напісаў на ёй: «Паважанаму Івану Данілавічу на добры ўспамін аб маёй першай кнізе. Аўтар: Э. Акулін. 4.06.90 г.».

Першымі ж кніжкамі ў «Бібліятэцы «Маладосці» пайшлі зборнікі папулярнага на той час літаратурнага аб’яднання моладзі «Тутэйшыя».

Праз дзесяць гадоў на змену «Тутэйшым» узнікла новая суполка — Бум-Бам-Літ. Яе стварылі Зміцер Вішнёў, Алесь Туровіч, Альгерд Бахарэвіч, Юрась Барысевіч, Ілья Сін, Усевалад Гарачка, Серж Мінскевіч. Яны нават выдалі свой зборнік вершаў «Тазік беларускі» — у сваёй серыі: «Бібліятэка Бум-Бам-Літа».

У параўнанні з бумбамлітаўцамі «Тутэйшыя» мне здаваліся тады проста арыстакратамі.

Радкі чытаюцца аднолькава і злева направа і справа налева.

«Тазік» мне падпісалі Зміцер Вішнёў («Спадару Сіпакову ад кракадзілографа Змія Вішны пад артыкул з сухімі кракадзіламі») і Алесь Туровіч («Івану Данілавічу Сіпакову на добры ўспамін і плённае супрацоўніцтва»).

## 5

Стаю ля кніжнай паліцы, на якой сабраны першыя зборнікі амаль усіх беларускіх паэтаў, якія прыходзілі ў літаратуру пасля вайны. Што перачытваю, што проста гартаю, чым усяго толькі любуюся, — усе яны прачытаны адразу ж, як выходзілі, можна сказаць, з нецярплівасцю праглынуты ў той жа дзень, як набыты.

Гляджу і думаю, як жа яна, наша родная савецкая ўлада, што б мы пра яе ні гаварылі, клапацілася пра нас, маладых, пачынаючых пісьменнікаў, імкнулася заўважыць кожнага, кожнаму не даць згубіцца.

На паліцы — амаль усе першыя кніжачкі, з якіх пачыналася ўся наша пасляваенная паэзія. Тады і ў выдавецтве «Беларусь», і потым у «Мастацкай літаратуры» рэгулярна выходзіла серыя «Першая кніга паэта». Гэта былі зборнічкі па адным-два аркушы. Мяняліся колеры вокладкі, аднак пастаянным заставаўся экран — квадрат, у якім змяшчалася фота паэта. Жартаўнікі празвалі гэты экран тэлевізарам. Дык вось у гэтым «тэлевізары» на працягу 1968—1970 гадоў выйшлі ў свет каля двух дзясяткаў першых кніжак. Ды якіх кніжак! Ды якіх паэтаў!

«Гром на зялёнае голле» Юркі Голуба, «Зямля — магніт» Міколы Федзюковіча, «Восеньскія позвы» Казіміра Камейшы, «Вернасць» Віктара Ракава, «Агонь» Ніны Мацяш, «Леснічоўка» Рыгора Семашкевіча, «Буслы над аэрадромам» Уладзіміра Скарынкіна, «Раніца» Вольгі Іпатавай, «Нарачанка» Яўгена Шабана, «Свежасць» Яўгена Вераб’я, «Раўнавага» Сымона Блатуна.

Леанід Дайнека, нядаўні слесар Ніжнетагільскага металургічнага камбіната, які пісаў свае вершы толькі па-руску, у сваіх «Галасах» вярнуўся да роднай мовы. Бо зразумеў:

Нібы поўнае мора, —
Мая родная мова.

Радасна, імкліва ўзлятала над беларускай паэзіяй Яўгенія Янішчыц. Яе «Снежныя грамніцы» выйшлі ў «тэлевізары», калі была студэнткай пятага курса БДУ і ёй было 22 гады. Яна вольна, лёгка махала крыламі і, здавалася, што нішто і ніколі не замінае ёй. А яна перакладалася ўжо на іншыя мовы, друкавалася ў маскоўскіх выданнях «Молодая гвардия», «Дружба народов», «Литературной газете», і нават у газеце «Правда».

А яна пісала і вось гэтак:

Хвіліны пройдуць дарагія,
Як пышнае цвіценне траў.
Ды зменяць дні зусім другія
Той дзень, што шчасце абяцаў.

Так адплывае ўдалеч неба,
Бывай, адзіная з уцех!
Смяюся, калі плакаць трэба,
Журба — калі на вуснах смех.

Алесь Разанаў у «тэлевізары» з’явіўся з кніжкаю «Адраджэнне». Усяго сорак восем старонак.

«Мы вырастаем з Леніна», «Ленін — гэта мы», «Тут з войскам ішоў палкаводзец Сувораў»... Мы адчуваем, што гэтыя радкі выпадковыя ў Разанава і што, нягледзячы на тое, што ў зборніку ужо быў верш «Мова» («Калі з грудзей нямых і чорных аднойчы мова прарасла»), яму яшчэ далекавата да яго магутных кніг «Каардынаты быцця», «Шлях — 360», «Вастрыё стралы»...

Але ж мы, зразумела, ведалі, чаму першая кніжка Разанава атрымалася такою патрыятычнаю. «У кароценькай біяграфічнай даведцы было пазначана: «Скончыў сярэднюю школу. Зараз вучыцца ў Беларускім педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна».

Чакайце, дык а дзе ж БДУ імя У. І. Леніна? Разанаў жа паступіў у Белдзяржуніверсітэт і скончыў тры курсы яго. Але ў 1969 годзе перавёўся на філфак Брэсцкага педінстытута.

Чаму? Тут была свая гісторыя. Студэнты беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ, амаль выпускнікі, зацікавіліся, чаму ім чытаюць лекцыі не на роднай мове, на якой ім працаваць. І напісалі пісьмо, як кажуць, у вышэйшыя інстанцыі. Сярод іх былі і маладыя паэты Алесь Разанаў і Віктар Ярац. Крамола! Што тут пачалося! І ў выніку доўгага перапуду і ператрусу Алесь Разанаў апынуўся ў Брэсцкім педінстытуце, а Віктар Ярац — у Гомельскім.

Усё ж такі не выгналі, далі хлопцам атрымаць вышэйшую адукацыю. Вось тады і з'явіліся ў зборніку А. Разанава гэтыя вершы. Хутчэй за ўсё ад маладога паэта, ведаючы пра ўсё, запатрабавалі: «Калі хочаш, каб выйшла кніжка, напішы што-небудзь пра Леніна, пра Радзіму…»

Гэта пазней ужо будуць у Разанава версэты, квантэмы, пункціры.

Каменьчыкі ў ручаі.
Людзі не могуць узяць з сабою ручая —
бяруць з сабою
каменьчыкі...
Сосны ўзышлі
на самы высокі ўзгорак.
Стаяць, разважаюць:
куды далей...

Ішоў па зямлі,
еў яблыкі,
зярняты збіраў
і высейваў у дол...
Калі прайду ўсю зямлю —
вярнуся
ў квітнеючы сад.

Такі ён у «Вастрыі стралы»! Тады, калі ён ужо нечакана стаў магутным. Калі ён ужо — сама думка.

У гэтым жа «тэлевізары» выйшаў і першы зборнік майго незабыўнага сябра Яўгена Крупенькі. На той час — студэнта чацвёртага курса Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве. Ага, ён, вядома ж, старэйшы за іншых пачаткоўцаў, якія выдалі свае першыя кніжкі ў гэтай серыі разам з ім. Яўген ужо адслужыў армію, яму 33 гады. Узрост Ісуса Хрыста! І першая кніжка... Затое ж ужо і вопыт.

Такая чыстая вада!
Стаміўшыся з дарогі,
У ёй баюся спаласнуць
Запыленыя ногі.

Сапраўдны шэдэўр, гэта маленькая мініяцюра! У першай кніжцы паэта. Чыстая, светлая, шчымлівая, яна міжволі нараджае ў табе радасць, і ты разам адчуваеш, як яна, гэта радасць, запаланяе цябе ўсяго, узнімае над зямлёю.

З Яўгенам мы пазнаёміліся ў 1954 годзе, калі паступалі ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт на аддзяленне журналістыкі. Я — жаўтароты, лічы школьнік, які толькі што скончыў школу, а ён, хоць таксама выпускнік гэтага года, прыехаў ужо як супрацоўнік Шклоўскай райгазеты. Нас, абітурыентаў, на час экзаменаў пасялілі ў спартыўнай залі, паставілі амаль упрытык адзін да аднаго ложкі з матрацамі і выдалі бялізну — прасціны ды навалачкі. Зразумела, рыхтавацца ў такіх умовах было немагчыма, увечары, калі ўсе збіраліся ў спартыўную залю, у ёй было вельмі шумна.

Хтосьці, як Тарзан на ліянах, разгутаўшыся на кольцах, з дзікім крыкам ляцеў над ложкам, над амаль галавамі, з аднаго ў другі канец залі.

Там, жартуючы, біліся падушкамі, — аж пух ляцеў. Тут, непадалёку, кампанія спявала песні, нехта вячэраў. А нехта ўсё ж і чытаў.

Нашы з Яўгенам ложкі стаялі побач. Мы разгаварыліся. Ляжалі, ціха гаварылі, марылі.

Аднак мы абодва не паступілі — не хапіла балаў. Яўген, ад’язджаючы ў свой Шклоў, паклікаў:

— Прыязджай, у нас вельмі добры рэдактар — Ізафат Пятровіч Юханаў.

І я паехаў. І ўжо 1 верасня 1954 года я, як літсупрацоўнік Шклоўскай раённай газеты, упершыню не вучнем пабываўшы на свяце, пісаў пра пачатак новага вучэбнага года ў школе № 1.

З Яўгенам Крупенькам мы пехатою, можна сказаць, абышлі ўсю Шклоўшчыну. На раён выходзілі амаль штодня — і ў такія блізкія да райцэнтра калгасы, як Рыжкавічы, і ў такія вельмі далёкія — на мяжы раёна! — як Чарнаручча. Увосень — гумовыя боты, зімою — валёнкі. Пісалі шмат. І самі падсмейваліся над сабою: «Дужыя рукі каваля моцна сціскаюць ручку молата і ўпэўнена апускаюць яго на кавадла»...

На другі год я паступіў у БДУ. На той жа журфак. А Яўгена забралі ў армію...

З Яўгенам мы ўвесь шклоўскі час былі разам — і ў святы, і ў будні. Я ездзіў да яго ў Саськаўку, ён — у мае Зубрэвічы. І дзіўна, ніводнага разу не пасварыліся. Таму, падпісваючы мне «Салаўёў», Жэня вельмі расчуліўся:

«Міламу другу, Паэту, — табе, Іван Сіпакоў — хочацца зрабіць нешта добрае, няхай хоць гэтая кніжачка на добры ўспамін. 20.05.69г.»

Саматканыя з белага кужалю,
Пабялёныя ля ракі,
Вышываныя пеўні кружацца —
Паглядзіце на рушнікі! —

зачытваліся мы гэтым вершам, прысвечаным маці.

Кранаў нас і цудоўны верш «Сянні», прысвечаны Аляксею Пысіну:

Пры сустрэчы — дзе бываць маўчанню!
— Колькі год і зім! — Здароў! — Здароў!
Мы па песнях птушак прыкмячаем,
Па гамонцы — землякоў.
Дзе б мы ні былі з табою, дружа,
А дняпроўскіх плёсаў не забыць.
Словы магілёўскія — як ружы —
Можам, нібы пашпарт, прад’явіць.
Часам мы не заўважаем самі
Ззяння іх і песеннай красы.
— Ты даўно прыехаў? —Толькі сянні,
Не паспеў на травах збіць расы...

Ох, гэта слоўка! Ох, гэтае «сянні»! Як жа яно яднала гэтых двух Паэтаў! Дарэчы, і ў нас, у Зубрэвічах, таксама кажуць «сянні».

Цяпер, калі гавораць пра паэзію Магілёўшчыны, называюць звычайна трох выдатных паэтаў — Аляксея Пысіна, Сцяпана Гаўрусёва і Анатоля Сербантовіча. Мне ж да гэтай славутай троіцы хочацца дадаць і чацвёртага — яго, Яўгена Крупеньку.

Падпісваючы мне ўсе свае паэтычныя кнігі, Жэня заўсёды быў вельмі эмацыянальны.

«Стрэчанне» — невялічкая памерам і просценькая на выгляд кніжачка ў папяровай вокладкцы. Але які дарагі аўтограф пакінуў мне на ёй Яўген: «Дарагі Ваня! Я шчаслівы, што ў маім жыцці ёсць Ты, шчыры і харошы, Чала-

век, Паэт, Пісьменнік. Дзякуй Табе, дружа, за талент, які я люблю. Шчыра, сардэчна — Яўген Крупенька. 15.X.82. (гл. стар. 21)».

Адкрываю старонку 21. Верш «Штрыхі да біяграфіі майго лёсу». Ён прысвечаны Янку Сіпакову.

Лёсе мой!
Браце мой дарагі!
Гэта толькі штрыхі
Да тваёй біяграфіі — вялікай аповесці,
Якую закончу я поўнасцю,
Як толькі абыду пехатой
Беларусі маёй усе шляхі.

«Міламу Янку — брату роднаму і чалавеку. А як пісьменніку — дык, на маю думку, і раўні табе няма.

Ваня! Паглядзі толькі дужа прынцыпова (у чатыры вокі) зборнік. Шчыра, ад сэрца. 14.XII.89 г.», — напісаў ён на сваім новым зборніку «Гекзаметр Баразны».

А на томіку выбранай паэзіі «Карэнні», які выйшаў да 50-годдзя, Яўген зноў жа быў вельмі эмацыянальны:

«Майму міламу, заўсёды памяркоўнаму, цудоўнаму Янку Сіпакову, з якім дзяліў, дзялю і буду, пакуль буду жыць, дзяліць усе свае радасці і нягоды. Шчыра, па-сяброўску. 14/.VII.86 г.»

А ў прадмове да выбранага «З майго жыццяпісу» ён успамінае тое, пра што і я расказаў вышэй:

«Паступіць ва ўніверсітэт не давялося, не прайшоў па конкурсу. Такі ж лёс напаткаў і майго друга Янку Сіпакова. І вось мы, два раённыя паэты, здымаем невялічкі пакойчык, пехатой бываем ва ўсіх калгасах Шклоўшчыны, пішам нататкі, рэпартажы, нарысы, па чарзе носім адзін плашч». І яшчэ ў Шклове многія знаходзілі ў нас падабенства, лічылі нас братамі...

У 1974 годзе «Першая кніга паэта» памяняла вокладку — замест рознакаляровай яна зрабілася чыстаю-чыстаю, белаю-белаю. Аднолькавай для ўсіх. Толькі мяняўся партрэт маладога паэта. Пад гэтаю вокладкай выйшлі першыя зборнікі Раісы Баравіковай («Рамонкавы бераг»), Алега Салтука («Пачатак дня»), Таісы Бондар («Захапленне»), Генадзя Дзмітрыева («Гарады на далонях») і іншыя.

Вядома ж, гэтыя кнігі нельга было не заўважыць.

І я, зразумела, радаваўся ім, і на Пленуме СП БССР 17 снежня 1976 года, на якім выступіў з дакладам пра маладую беларускую паэзію (Барыс Сачанка гаварыў пра прозу), усіх іх згадаў добрым словам.

Раіса Баравікова, выпускніца Літаратурнага інстытута імя М. Горкага ў Маскве, выдзялялася сваёю першаю кнігаю між іншых. Яна ўваходзіла ў літаратуру з добрым вобразам: я — дзяўчынка на шары. Пра яе я сказаў, што яна «па-свойму радуецца магчымасці жыць на нашай цудоўнай зямлі». І прывёў цытату:

Я дзяўчынка на шары,
Што плыве ў блакіце!
І палаюць Стажары
нада мною ў зеніце...
Ім адзіным сагрэта,
не ўпаду, і не дзіва!
Пада мною планета,
Што мяне нарадзіла.

Дзіўна, колькі часу прайшло, Раіса Андрэеўна змянілася, мае шмат кніг, а я ўсё роўна, што б яна ні пісала, бачу яе менавіта дзяўчынкаю на шары: і ў яе вершах, і ў паэмах, у яе прозе, у яе казках і фантастыцы. Тое, маладое, здзіўленне жыццём і светам.

З Генадзем Дзмітрыевым у мяне была таямніца. Я працаваў у «Маладосці», Генадзь настаўнічаў у в. Варонча. Людміла Ганчарова прынесла нарыс пра яго. Інтэлігент на вёсцы. Старшыня — абыякавы да людзей. А настаўнік і паможа, і падсобіць, і да доктара ў райцэнтр завязе на сваёй машыне. І я надрукаваў усё гэта. Што тут пачалося! Як мы з Генадзем абаранялі справядлівасць! Але пра гэта я раскажу ў нейкім іншым месцы…

Звярнула на сябе ўвагу і яшчэ адна настаўніца з вёскі Лясішча, што на Случчыне, Галіна Каржанеўская кніжкай «На мове шчасця».

Але яе зборнік выйшаў у новым афармленні — з белым пегасам на цёмнасіняй вокладцы.

Кніжку на грамадскіх пачатках адрэдагаваў Мікола Аўрамчык. Была такая тады завядзёнка — каб першыя кніжкі рэдагавалі не толькі выдавецкія рэдактары, але і вядомыя паэты. «Каляровыя вёслы» Валянціны Коўтун рэдагаваў Рыгор Барадулін, «Станцыю надзей» Нэлі Тулупавай — Ніл Гілевіч, «С любовью к людям» намесніка старшыні Аршанскага райвыканкама Генадзя Казака — Пётр Валкадаеў, аспіранта Мінскага педінстытута Уладзіміра Фаміна — Генадзь Бураўкін. Я адрэдагаваў «Вуліцы без назваў» Уладзіміра Дзюбы.

Кнігі «Прыпяць» дырэктара Ведрыцкай сярэдняй школы Рэчыцкага раёна Уладзіміра Верамейчыка, выхавальніцы Гомельскага Палаца піянераў і школьнікаў Ніны Шкляравай, майстра змены газавай апаратуры Івана Арабейкі выйшлі без грамадскага рэдагавання — ім хапіла выдавецкіх рэдактараў.

«Белая ластаўка» — першая кніжка супрацоўніцы шчучынскай газеты Марыі Шаўчонак адрэдагаваў Юрась Свірка.

Нам здалося: словы — проста гукі.
Сярод іх патрэбнага няма...
Вочы — толькі вочы.
Потым — рукі.
Потым — вусны.
Потым — цішыня...

Хораша! Так пісала Марыя Шаўчонак сорак гадоў назад. А вось яна сённяшняя:

Сэнс жыцця імкнуся я спазнаць,
Ад жыцця чакала я адказу.
Больш за ўсё сказала мне сляза,
Менш за ўсё мне адказала радасць...

* * *

Рыдае зязюля год за годам.
І гады мільгаюць як крыло.
Штосьці будзе заўтра, будзе потым,
Але ўжо не будзе, як было.

Гэта з «Тэрмапілаў» № 14 за 2010 год. Ёсць такі штогоднік у Польшчы, выдаецца ён у Беластоку. Яго стварае і рэдагуе выдатны паэт Ян Чыквін.

Гэта літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы беларускамоўны часопіс. Ён — таксама мая бібліятэка. Бо ў гэтым нумары надрукаваны і Я. С. — аж няёмка: маімі сціплымі апавяданнямі адкрываецца гэты нумар штогадовіка.

І пасля, аж да самай перабудовы, серыя папаўнялася выдатнымі кнігамі Міколы Мятліцкага, Уладзіміра Марука, Леаніда Дранько-Майсюка, Віктара Шніпа, Віктара Яраца, Віктара Гардзея, Генадзя Пашкова, Людмілы Паўлікавай, Эдуарда Зубрыцкага.

У першай кнізе Алеся Пісьмянкова «Белы камень» ужо ёсць шмат вершаў, якія адразу ж сталі класічнымі:

Ты адбі мне тэлеграму,
Што і ў нашай старане
Ў ціхай вёсцы Белы Камень
Выпаў белы-белы снег...

Я прачытаў твае сляды
Тут, на прыцішанай алеі,
Адзін у золаце завеі
Я прачытаў твае сляды...

І пра Каралішчавічы, дзе штогод адбываліся нарады маладых, Алесь хораша ўсміхнуўся вершам «Каралішчавічы»:

Неба — зорная ваза,
Хоць вачэй не адводзь.
А мы хочам Пегаса
Забрытаць у аброць.
Колькі спрэчак адразу!
Думкі рэжуць ілбы:
Як адрозніць Пегаса
Ад звычайных кабыл...

Павел Марціновіч падараваў мне сваё «Прадвесне» з надпісам:

«Шчырапаважанаму Івану Данілавічу Сіпакову, выдатнаму паэту, празаіку, эсэісту — з удзячнасцю, з самымі шчырымі пажаданнямі».

Я адгукнуўся рэцэнзіяй — маўляў, гэта нешта новае, калі паэт — ужо гарадскі — піша вершы. Як чамусьці на мяне накінуліся(!): «Знайшоў Багдановіча». Я шкадую, што і Павел Марціновіч недзе згубіўся па дарозе на Парнас.

З удзячнасцю падпісаў мне свой «першынец» «Чужая планета» і Леанід Яўменаў:

«Дарагі Янка! Прымі гэты запознены паэтычны дэбют разам з павагаю, глыбокай і шчырай. Дзякуй, Ваня, за падтрымку. 28.IV.80 г.».

І сапраўды, дэбют запознены — Леаніду Фёдаравічу ўжо амаль пяцьдзясят. За плячыма сур’ёзнае жыццё і вопыт. Ён — доктар філасофскіх навук, прафесар, загадчык сектара Інстытута філасофіі і права АН БССР, былы супрацоўнік дэпартамента сацыяльных, гуманітарных навук і культуры сакратарыята ЮНЕСКА ў Парыжы.

І — паэт! «Чужая планета». «Канадскі сшытак». «Фрацузскі сшытак». Верш, прысвечаны беларусцы Надзеі Хадасевіч-Лежэ, жонцы французскага мастака Фернана Лежэ, з якой ён быў знаёмы, бываў у яе дома.

Шэрае неба —
Нармандскае лета.
Бляклае сонца —
За статкам гадзін.
Мудрага воку
Мажная кабета
Сочыць маркотна
Лёт аблачын...

З небам яе
Тут ані —
Падабенства,
Сонца радзімы
У казачных снах...
Кліча яна,
Як ратунак,
Маленства
З хаткай старой
У смалістых барах

А якія пераклады з сучаснай французскай паэзіі зрабіў потым Леанід Яўменаў!

Людміла Ганчарова сваю першую кніжку назвала «Пятое время года». Выпускніца Маскоўскага энергетычнага інстытута, працавала на адным з мінскіх заводаў.

Думала здесь остаться
и развести огонь.
На промежуточной станции
долго стоял вагон.

Много было обещано,
но отошли поезда,
и одинока, как женщина,
в небе моя звезда.

Людміла — вельмі лірычная і як паэт, і як чалавек.

Юноша принес цветы.
Мохнатая бабочка
Сидела на лепестке
большого нарцисса.
Это хорошая примета —
бабочка,
залетевшая в букет.
Боясь ее спугнуть,
Я наклонилась к ней.
Она была пришпилена
к лепестку
английской булавкой.

Яна, не сустракаючыся з Раймандам Паўлсам, закахалася ў яго, у яго музыку. І каб быць бліжэй да Каханага, пераехала ў Латвію і пасялілася там у нейкай леснічоўцы пад Рыгаю. Раймaнд Паўлс пра гэта, здаецца, нават нічога і не ўведаў...

А як цудоўна яна пераклала на рускую мову мой вянок санетаў «Жанчына»! Я захапляюся яе перакладам і сёння — гучыць настолькі натуральна і прыгожа, быццам ён і быў напісаны на рускай мове!

Усё сваё жыццё я працаваў па сутнасці ў пісьменніцкіх калектывах, дзе людзі любілі і паважалі кнігу. І пісалі свае. І як зазвычай дзяліліся сваёй радасцю — выхадам кожнай новай кнігі — з тымі, хто побач, хто парадуецца разам з імі з выпадку гэтай прыемнай для нас падзеі. Таму ў мяне шмат аўтографаў з розных месцаў маёй працы.

***Падрыхтоўка тэксту і публікацыя Сяргея СІПАКОВА.***

***Працяг будзе.***



**Генрык СЯНКЕВІЧ**

# АПАВЯДАННІ

*Генрык Сянкевіч — адзін з выдатных польскіх пісьменнікаў, аўтар высокамастацкіх гістарычных раманаў «Крыжакі», «Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыёўскі», «Куды ідзеш?». Як і ўсе вялікія таленты, ён валодаў здольнасцю прадбачыць будучае, уведваць пра тое, што яшчэ ледзь-ледзь праглядваецца ў сучасным, але праз нейкі час разгорнецца ў нешта важнае, істотнае, лёсавызначальнае. У змрочныя для Польшчы часы, калі яна была падзелена паміж Прусіяй, Расіяй і Аўстрыяй, пісьменнік марыў пра адраджэнне краіны, а таму ў сваіх творах напамінаў пра былую веліч Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. У канцы жыцця ён напісаў некалькі навелістычных твораў, дзе выказваў свае думкі аб неабходнасці мацаваць дружбу паміж народамі, аб супрацьстаянні бездухоўнасці, нянавісці, бязвер'ю. Два апавяданні, якія друкуюцца, якраз пра гэта. Першае — «Тост» — звязана з трылогіяй «Агнём і мячом», бо адзін з персанажаў яго — рыцар Заглоба, польскі Фальстаф, ваяр, хвалько, гуляка, адзін з найбольш выдатных вобразаў у польскай літаратуры. Але гэта не нявыкарыстаны эпізод з трылогіі, а самастойны твор. Яго пафас — услаўленне сяброўства братніх народаў. Сярод персанажаў твора — прадстаўнікі польскіх, украінскіх і беларускіх зямель. Яны адважныя, палкія, лёгка сварацца, але гэтак жа лёгка міряцца, стаяць адзін за аднаго ў бітве. Другое апавяданне — «Каля райскай брамы» — нібы звернута ў сённяшні час, прадбачліва папярэджвае пра небяспеку падмены духоўных каштоўнасцей культам грошай.*

***Міхась Кенька***

## Тост

Чалавек пяцьдзясят іх было, тых, хто збіраўся выправіцца ў начны дазор. Ды пакуль што яны яшчэ сядзелі пры вогнішчы, пілі гарэлку, закусвалі баранінай, смачны пах яе разлягаўся ў паветры. Цікава, што іх было нямнога, але ўсе паходзілі з розных мясцін Рэчы Паспалітай: адных добраахвотнікаў прыслалі з харугваў паноў Мурашкі і Збаінскага з Мазовіі, а другіх ад пана Прокшы, якія кіраваў ваярамі з Крэсаў. Паслалі іх у дазор з тае прычыны, што кожны палкоўнік хацеў, каб у дазоры былі свае людзі.

Верхаводзіў каля вогнішча, як звычайна, пан Заглоба, але на гэты раз ён нешта быў не ў добрым гуморы. Ён любіў няспешную спакойную гутарку, а тут трэба было чакаць каманды, каб сесці на коней і ехаць насустрач небяспецы. Праўда, кус смажанай бараніны і дзве ці тры кварты гарэлкі некалькі

падвысілі настрой старога палкоўніка, аднак ён незадаволена бурчаў, што ў цяперашнія часы сярод паважнага людства амаль звялася ўжо шляхецкая годнасць і ніхто з-за яе не адважваецца ўступіць у заціяты двубой.

Так вось яны сядзелі за чаркай, і якраз у гэты час з начнога неба над прысакам сарвалася зорка і, цягнучы за сабой светлы след, пагасла ў цемры, не даляцеўшы да зямлі.

Выпрабаваны ваяр пан Плюта, мазур з харугвы Збаінскага, праводзіў znічку паглядам, перажагнаўся і прамовіў:

— Не мая.

— Чаму?

— У мазураў зоркі цёмныя, а гэта была светлая.

— У тых, хто гадае па зорках, свечкі ў вачах стаяць.

— Свечкі не для таго, хто сляпым нарадзіўся…

— Не ўспамінай ты, пане Плюта, сваіх мазураў, — азваўся пан Скупскі, родам з Ленчыцы, ад даўна ўжо іх баявы сябра.

— Мазур нараджаецца сляпым, але так добра бачыць, што нават за сцяной разгледзіць таго, хто насміхаецца над ім.

Усе думалі, што пан Заглоба не знойдзе чаго сказаць на гэта, але той паківаў галавой і зазначыў:

— А як жа! А як жа! Вядомая рэч! Свой свайго і за сцяной убачыць.

Каля вогнішча разлёгся вясёлы смех, гучней за ўсіх рагатаў пан Сіпайла з-пад Ашмян.

— Напрамілы бог! — усклікнуў ён, — Ну і язычок! А вось я такога жарціка не дараваў бы і пану Заглобу. Падумаеш! Хай толькі…

Пан Заглоба, хаця і адчуваў, што закранулі ягоную годнасць, аднак глянуў на Скупскага неяк спагадліва, але тут пан Плюта, узрадаваўшыся, што можа на кімсьці сарваць злосць, выгукнуў:

— А ты б маўчаў лепей, боўдзіла! Яшчэ пораху не нюхаў, а туды ж, у гутарку старых ваяк умешваешся.

— Нюхаў ці не нюхаў, але, можа, не меней за вашу мосць спатыкаўся з ворагам — абыякавым тонам заўважыў Сіпайла.

— Праўду кажаш! — усклікнуў Заглоба. — Ты ж ашмянскі шляхціц, а яны ў адным боце і ў адным лапці ходзяць. У такім абуванні, ды яшчэ па слізгаце, можна не толькі спатыкнуцца, але і вобзем грымнуцца.

Тут усе зноў пачалі рагатаць, а Сіпайла, не столькі крыўдлівы, колькі зюклівы, шматзначна дакрануўся да шаблі і адказаў:

— Таму, хто мяне папросіць, не адмоўлю.

Памяркоўны шляхціц з Віцебска пан Партанты, прымірэнча ўставіў:

— Не сварыцеся, кінце дурныя жарцікі!

— Лепей абувацца, як ашмянцы, чым мець чорнае паднябенне, як віцябчане, — тут жа знайшоўся Сіпайла.

— Лепей мець чорнае паднябенне, чым дурную галаву!

— Ну, хопіць, хопіць, перасталі! — умяшаўся пан Траццяк, украінец з-пад Умані. — Не варта сварыцца перад выправай!

— А ты, васпан, чаго ўточваешся? — запытаўся пан Скупскі, той, што з Ленчыц.

— А вось мне так хочацца!

— Ці мала каму чаго хочацца! Бач ты яго! Панок з-пад Умані… І на вас ёсць прыслоў'е…

— Якое?

— А такое. Уманцы з тых дурняў, хто з чужога воза *бэрэ, і на свій кладе*, — наварочваючы на ўкраінскі лад ядавіта вымавіў Скупскі.

— Закрый зяпу, прыдурак!  Качка сем разоў пёрнула, і за сёмым разам ты вылузнуўся!

— Ты ў мяне зараз вылузнешся! Сатысфакцыя! Выклікаю цябе на двубой!

— Калі ласка! Заўтра раніцой я цябе задаволю!

— Раз так, то і я каго-небудзь на двубой выклікаю!

— Лепш за ўсё — маіх унукаў! — з’едліва адказаў пан Заглоба.

— А чым я горшы? — спытаўся пан Сіпайла.

— Каго ж ты выклікаеш?

— Ат, што там выбіраць… — усіх!

— Згода! — адрэзаў Заглоба.

І тут якраз да цяпельца падышоў афіцэр з харугвы пана Радражэўскага, а здалёку данёсся гук трубы.

— Па конях! — скамандаваў афіцэр.

— Ад вашай разведкі многа будзе залежаць, таму пастарайцеся абавязкова здабыць языка, нават калі дзеля гэтага давядзецца пакласці палову вашага атрада!

— Споўнім, — запэўніў стары рыцар, — А ўсё ж скажу, што такі загад лепш даць некаму, чым самому выканаць.

Афіцэр перасмыкнуў плячыма і павярнуў назад, а яны паехалі.

Ноч была зорная, але месяц на небе не паказваўся. За палянай быў невялічкі лясок, а далей цягнуліся палі, а над імі, як звычайна і бывае ўлетку, навісаў белы туман, здавалася, што гэта мора без канца і краю.  Вузкая, прапахлая пылам дарога вілася сярод палёў аж пад тыя лясы, дзе мог хавацца вораг.

У тумане коннікі ледзьве маглі згледзець адзін аднаго, а ўдалечыні і ўвогуле нельга было хоць што-небудзь убачыць.

— Туман, хоць пальцам у вока! — бурчаў Заглоба.

Так яны праехалі вярсту-другую. У тумане не было чутно нічога, апроч пырхання коней.

Раптам трое дазорных, што ехалі крыху наперадзе, павярнулі назад, крычучы:

— Уперадзе вораг!

І тут жа за імі пачуўся тупат коней. Заглоба прышпорыў свайго каня і крыкнуў:

— Да бою!

Праз хвіліну пачалася зацятая бойка. У імгле чуліся толькі крыкі змаганцаў, бразгат шабляў, іржанне коней, часам разлягаліся стрэлы.

Заглоба налятаў у цемры на ворагаў з зубрыным рыкам, хвастаў іх шабляй — са сваёй непамернай сілай ён быў страшны ў баі.

Пан Скупскі сек шабляй злосна, па-ленчыцку, побач з ім біўся пан Траццяк.

Пана Партантага шабляй хвасянулі па шчацэ, ён мог бы і загінуць, калі б пан Сіпайла не адбіў другі ўдар, а потым ён ударыў ворага дзідай у горла.

Пан Плюта, стары і вопытны ваяка, круціўся ў віры бітвы як вуж у мурашніку — адзін нападаў на некалькіх, як ястраб на чараду дзікіх качак. Кожны стараўся дапамагчы, выратаваць адзін аднаго.

Тут якраз падзьмуў вецер, ён разагнаў туман, можна было лепей разгледзецца.

Іх сэрцы напоўніліся адвагай. І яны пачалі клікаць адзін аднаго, каб кожны мог ведаць, што сталася з таварышамі, хто з іх застаўся жывы. Спачатку Сіпайла, той самы, хто выратаваў Плюту, у сардэчным парыванні выгукнуў у тумане:

— Трымайцеся, мазуры!

— Жывём, ашмянцы! — адгукнуўся Плюта.

Услед за імі і іншыя пачалі адклікацца, адзін за адным:
— Слава Ленчыцы!
— Хвала віцябчанам!
— Ура, Умань!
— Віват Рэчы Паспалітай!

Але тут на іх навалíліся з усіх бакоў, нават з тылу, і яны нібы трапілі ў пастку. І кожнаму, з якіх бы мясцін ён ні быў, не хацелася пакрыць сябе ганьбай, каб было сорамна перад іншымі, таму ніхто не здаваўся, біліся да апошняга дыхання, без усялякай надзеі, на смерць.

Яны б так і палеглі ўсе, як адзін, але пан Збаінскі, ведаючы, што іх мала і ноччу можа здарыцца любая нечаканасць, прыслаў ім на дапамогу трыста мазураў, дужых і спрытных хлопцаў. Яны адагналі супраціўнікаў, разбілі іх, скрышылі, частку ўзялі ў палон, частку рассеялі. Байцы перадавога атрада былі выратаваны.

Збаінскі не мог стрымаць свайго здзіўлення, калі ўбачыў, колькі людзей яны пабілі — нібы капусты нашынкавалі.

— Тут, мабыць, не абышлося без умяшання нябеснай сілы, — прамовіў ён.

І ўсе яны разам вярнуліся ў лагер.

Тым часам якраз развіднела, але, вярнуўшыся, ніхто не пайшоў на спачын, у вялікім узрушэнні ўсе селі за стол і пачалі баляваць. Яны пілі, елі і хвалілі адзін аднаго, ды слухалі Заглобу, а ён сціпла гэтак параўноўваў іх сутычку з геройскай бітвай старажытных грэкаў пад Фермапіламі.

Калі ўжо добра падвыпілі, пан Партанты прыставіў палец да вуснаў і прамовіў:

— Хлопцы, а як жа з нашымі паядынкамі?
— Што там ужо ўспамінаць? Мы перанеслі свой гнеў на ворагаў.
— І ім гэта прыйшлося дужа недаспадобы, — заключыў Заглоба.

А потым пан Плюта, які быў больш цвярозы, чым астатнія, ударыў сябе кулакамі ў грудзі, аж рэха разлеглася па хаце, і сказаў са скрухай у голасе:

— Я адчуваў бы сябе Каінам, калі б ні з таго ні з сяго праліў нявінную кроў. І гэта на старасці гадоў! Я, Плюта?

І ён заплакаў, ды так гучна і жаласна, што воіны з іншых харугваў заўважылі гэта, акружылі іх, пачалі пытацца, што здарылася.

Тут устаў пан Заглоба, і ўзняўшы высока гарнец з медавухай, загаварыў:

— Сябры мае, дзеці Божай Маці! Адно слова скажу, але такое, якое любы з вас гатовы паўтарыць. Кахаймася!
— Кахаймася! — падхапілі ўсе астатнія.

І якраз у гэтую хвіліну яны пачулі, што ў лагеры голасна затрубілі ў рог, то быў сігнал да вялікай бітвы.

## Каля райскай брамы

— Тук, тук!
— Святы Пётр! Адчыніце!
— Хто там?
— Гэта я, Любоў.
— Якая любоў?
— Хрысціянская.

Святы Пётр прачыніў райскую браму, бо ўжо з вопыту ведаў, што трэба быць асцярожным. А таму хуценька спытаў:

— Чаго ты хочаш?

— Прытулку.

— Як гэта — прытулку?

— Мне болей няма куды падацца.

— Табе ж загадана жыць на Зямлі.

— Але ж людзі мяне выгналі.

— Пабойся Бога! З-за некалькіх злых чалавек ты адраклася ад сваёй святой місіі і свайго перадвызначэння?

— Мяне выгналі не асобныя людзі, а ўсе народы Зямлі.

Святы Пётр адчыніў райскую браму, выйшаў на панадворак перад Раем і сеў на камень каля сцяны.

—Дык што там з табой здарылася? — занепакоена спытаў Пётр. О! Што я бачу! Ты прыйшла не адна? Хто гэта з табой?

— Мае дочкі: Справядлівасць, Літасць і Праўда.

— Іх таксама прагналі?

— Так! Для нас ужо няма месца паміж народаў Зямлі.

— Ты кажаш пра ўсе народы Зямлі, але ці так яно на самай справе? Людзі заўжды грашылі, заўжды вялі між сабой жорсткія войны, але ж ты ад іх не ўцякала?

— Так, людзі грашылі, людзі вялі жорсткія войны, аднак у глыбіні душы яны верылі і спадзяваліся, што хаця б з-за мяне трэба жыць. Цяпер гэтая вера згарэла датла. Не засталося ад яе аніякага следу, Святы Пётр, а таму мне болей няма чаго рабіць на Зямлі.

— А ў якім месцы ўсё пачалося — запытаўся Святы Пётр.

Хрысціянская Любоў апусціла руку долу, туды, дзе ў прасторы павольна паварочваўся Зямны шар, і паказала пальцам на цёмную пляму:

— Вунь там!

Святы Пётр угледзеўся ў тую цёмную пляму, доўга ўзіраўся, нарэшце сказаў:

— Бачу... горад, а ў ім мноства помнікаў...

— Гэта ўсё помнікі таму, чыё імя было — Нянавісць.

— Так. Я пазнаў яго... Гэта ён... Я ўсё зразумеў...

— Тады пусці мяне, Святы Ключнік.

— Зараз. Але скажы мне яшчэ, ці не спрабавала ты пайсці яшчэ куды.

— Пайшла на захад, але там уся краіна варагуе, нават брат брата ненавідзіць, там для мяне зусім не было месца.

— Ты магла б падацца яшчэ далей, за мора.

— У мяне грошай не было.

— Ну, а ў другі бок ад Горада Нянавісці?

— У мяне... пашпарта не было.

— І нікуды ты не пайшла?

— Нікуды.

— Ну, а каб наш Гасподзь Распяты захацеў бы зноў вярнуцца на зямлю?

— Яго не пусцілі б, або прагналі.

Запанавала маўчанне. Святы Пётр падняў галаву, з нявясёлым здзіўленнем паглядзеў на Хрысціянскую Любоў і запытаўся:

— А ўсё ж скажы мне, што ім заменіць Яго навуку і цябе?

Яна адказала:

— Кажуць, што рынак…

***Пераклад з польскай Міхася Кенькі.***

Ірына БАЖОК

# ЗАПАВЕТНАЯ ЭСЭІСТЫКА ЯНКІ БРЫЛЯ

Станаўленне Янкі Брыля-эсэіста адбывалася заканамерна і паступова. Гэтаму садзейнічаў лірычны пачатак ягоных апавяданняў, раманаў і нарысаў. Пераклікаюцца з жанрам эсэ і дарожныя нататкі, да якіх пісьменнік звярнуўся ў 1950—1960-х гадах. Артыкулы, эсэ і партрэты выйшлі ў Зборы твораў пад агульнай назвай «Пра запаветнае» (1981). Аднак гэтая свайго роду кніга аказалася значна шырэйшай у жанравых адносінах. Я. Брыль звярнуўся да больш як дзесяці розных па змесце і форме тэкставых мадэлей.

Самыя распаўсюджаныя крытычныя артыкулы, прысвечаныя такім пытанням, як роля крытыка ў працэсе словатворчасці («Крытык павінен быць другам»); тэндэнцыі і развіццё сучаснай прозы («Проза 1959 года», «Непарадны агляд», «Жыццё і літаратура», «З новай сілай», «Гледзячы ў чыстыя вочы»); вартасць аднаго твора пісьменніка, цэлай кнігі або ўсёй творчасці («Запаветная песня», «Заўвагі на палях», «Я не самотны», «Зусім упэўнена», «З добрай, сумнай усмешкай», «Пра здзіўленне і зайздрасць», «Чытаючы апавяданні Чорнага», «Радасць жыцця», «Недзе на Віннічыне», «Шчаслівай дарогі», «Ён — строгі да праўды», «Цікавая, добрая проза», «А я — на Палессе...»); замежная літаратура, праблемы перакладу («Разумна, сардэчна, весела», «Яшчэ адно слова прызнання», «Герой і “пункцірны персанаж”», «Па падрадкоўніках і без іх»).

Янка Брыль выкарыстоўвае ў крытычных артыкулах эсэізм як творчы метад. Ён не імкнецца да поўнага раскрыцця праблемы, а прапануе ўласны пункт погляду, суб’ектыўны і часам не абгрунтаваны. У пералічаных вышэй творах моцна гучыць аўтарскае «я», праз прызму якога аб’ект даследавання выглядае аднабакова. Трывожны погляд пісьменніка ў крытычных артыкулах зближае іх з эсэістычнымі творамі. Поўная адсутнасць цытат з напісанага іншымі крытыкамі робіць Брылёвы крытычныя творы адарванымі ад цэласнай літаратуразнаўчай канцэпцыі, але разам з тым надае адценне незалежнасці і ўпэўненасці. Крытычныя артыкулы Я. Брыля «эсэістычна праўдзівыя».

Час, у якім жыў Я. Брыль, вымагаў твораў «на патрэбу дня», таму заканамерна, што значнае месца ў кнізе «Пра запаветнае» складаюць прамовы («Проста ўдзячнасць», «Вечна жывы», «Памяці Валянціна Таўлая», «Прэтэнзіі да спажыўца», «З чужой падваротні», «З юбілейнай трыбуны»). Яны вылучаюцца рытарычнасцю, публіцыстычнасцю, узнёсласцю, дыдактызмам, нават часам сарказмам. Стыль вызначаюць простыя сказы, паўторы, пералічэнні, гіпербалізацыя, адпаведная лексіка («аўтар думаў перш за ўсё і больш за ўсё пра духоўную прыгажосць простага савецкага чалавека» [1, с. 217], «я не чапаў бы ні гэтых сабак, ні падваротні, з-пад якой яны сёння абрэхваюць» [1, с. 237], «вучыцеся ў іх, дарагія сябры, пазнавайце жыццё ва ўсёй яго красе! Любіце працу — у ёй найбольшы смак жыцця!» [1, с. 198].) Паступова Я. Брыль адыходзіць ад жанру прамовы, апошняя — «З юбілейнай трыбуны» — была напісана ў 1964 годзе. Далейшыя творы пісьменніка становяцца больш глыбокімі, асэнсаванымі, эсэістычна спакойнымі.

Так, на змену прамовы прыходзіць жанр слова. Словы Я. Брыля («З ім добра», «Крыху зацягнуты тост», «Быць чалавекам», «Сосны і сонца», «Як птушка для палёту», «Слава», «Цана солі», «Першы прыпынак», «Паэт і чалавек», «Ад магі-

лы Чачота», «Працаваць, сумаваць, смяяцца») прысвечаны асобным пісьменнікам і іх творчасці. Раскрываюцца характары асобы, этапы жыцця і станаўленне творчай індывідуальнасці. Усе словы маюць на мэце паказаць гарманічнага чалавека ў свеце творчасці і клопатаў аб літаратуры.

Лірызм Я. Брыля праяўляецца ў згадках пра пісьменнікаў, сяброў і сустрэчы з імі («Родны кут», «Не вельмі многа», «Успамін», «Добра так», «Культура і душа», «Тая сустрэча», «Хоць і не ўсё...», «Быў і застаўся»). Градацыя жанраў (прамова — слова — успамін) дазваляе гаварыць аб паступовай эсэізацыі творчасці Я. Брыля. З’яўляюцца філасофскія развагі аб перакрыжаваннях лёсаў, аб часе, кнігах і інш.

У зборцы «Пра запаветнае» сустракаюцца таксама творы ў форме экскурсіі («Хоць бы самым маленькім»), няпоўнай аўтабіяграфіі («Думы ў дарозе», «Пісьмо ў рэдакцыю», «На раздарожжы»), інтэрв’ю («На тры пытанні», думы («Перш за ўсё»).

Істотныя для станаўлення гісторыі і паэтыкі беларускага эсэ тыя дзіцячыя эсэ Я. Брыля — «Слова пра дружбу ...з кнігай» (1954), «Слова пра дружбу ...з прыродай» (1955), «Слова пра дружбу ...з працай» (1959), — якія ўтвараюць своеасаблівы цыкл пра і для дзяцей.

«Слова пра дружбу ...з кнігай» складаецца з трох частак: першая (уступ) — філасофскае разважанне аб працы пісьменніка, другая — характарыстыка дзіцячай аўдыторыі, спецыфіка выступленняў перад школьнікамі, трэцяя частка — пажаданне з элементамі дыдактызму для настаўнікаў быць ініцыятыўнымі, сумленнымі і не рыхтаваць вучням узнёслых выступленняў.

«Слова пра дружбу ...з прыродай» — яскравы прыклад дзіцячага эсэ савецкага перыяду. Пісьменнік дзяцей у піянерскім лагеры просіць звярнуць увагу на акаляючую прыроду. Аўтар выкарыстоўвае мастацкае параўнанне яе з кнігай, якая складаецца з чатырох тамоў, а кожны ў сваю чаргу з трох частак. Эсэ мае кальцавую кампазіцыю: першая і апошняя часткі — пра пазнанне кнігі-прыроды, другая — успаміны пісьменніка, звязаныя з прыемным баўленнем часу ў ліпені. Хоць у гэтым «Слове...» і няма складаных жанравых механізмаў ці схаваных падтэкстаў, варта аддаць належнае Я. Брылю-эсэісту ўжо толькі за спробу стварэння дзіцячага эсэ, тым больш што напрацовак папярэднікаў у гэтым жанры мы не знаходзім.

Ідэя неабходнасці і важнасці працы ляжыць у аснове эсэ «Слова пра дружбу ...з працай», у якім з працай атаясамліваецца ўсё самае светлае і добрае ў жыцці не толькі чалавека, але і прыроды. Аўтар выкарыстоўвае прыклады з уласнага вопыту, назіранняў, гаворыць пра тое, што ўсё навокал створана толькі працай. У эсэ прысутнічаюць дыдактычныя інтанацыі, заклікі. Тэматыка яго актуальная для пасляваеннага пакалення. Я. Брыль ахарактарызаваў усе магчымыя аспекты праблемы, каб у маленькага чытача не ўзнікла пытанняў. Разам з тым, ёсць у такім падыходзе да выкарыстання жанру і адмоўны бок. Эсэ не развіваюць крытычнае мысленне, не імкнуцца выклікаць чытача на ўнутраны дыялог, разважанне. У цыкле проста канстатуюцца факты, якія садзейнічаюць праграмаванню асобы.

Эсэ «Ранне і вечар» прысвечана ўкраінскаму пісьменніку Т. Шаўчэнку і напісана да 150-годдзя з дня ягонага нараджэння. Твор уяўляе сабой шэраг лірычных замалёвак, цэнтральным вобразам якіх з’яўляецца знакаміты Кабзар. Твор у жанрава-стылёвым аспекце адрозніваецца ад слоў, напісаных з той жа нагоды. Ён вылучаецца моцным лірычным пачаткам, вобразнасцю, наяўнасцю незавершаных асацыяцый, якія пакідаюць магчымасць для чытацкага ўспрымання, уяўлення і пераасэнсавання напісанага. Эсэ створана метадам рэтраспектыўнага аналізу з выкарыстаннем цытат, вобразных малюнкаў з адпаведнай каларыстыкай. Асоба Т. Шаўчэнкі ў ім не рэальная, вобраз «прыходзіць» праз партрэт, верш, Украіну, песню, помнік. На манументальнасць аб’екта эсэ ўказвае і атаясамліванне яго з сімвалам «прагрэсу і братняй еднасці» [1, с. 270].

Моцны лірычны пачатак вылучае эсэ «А думаў я...» У структурным плане яно даволі складанае і ўключае ў сябе чатыры часткі, якія ўказваюць не столькі на лагічны падзел твора, колькі робяць акцэнт на псіхалагічны настрой аўтара. Кожная частка — новае дыханне, новы ўспамін, які пачынаецца з лірыка-філасофска-

га адступлення і заканчваецца цытатай ці дзеяннем, што перадаюць сум і горыч. Паколькі эсэ напісана з выпадку трох год з дня смерці паэта Дзмітрыя Кавалёва, то яго варта аднесці да персанальных. Асоба Дзм. Кавалёва раскрываецца праз успаміны Я. Брыля, праз вершы, праз сустрэчы, тэксты выступленняў, мары, звычкі, манеру паводзін, прыярытэты і да т. п. Аўтар выкарыстоўвае цікавыя псіхалагічныя прыёмы. Так, даволі вялікае па эсэістычных памерах цытаванне малавядомых празаічных тэкстаў Дзм. Кавалёва гучыць як біенне сэрца. Кожная цытата нясе ў сабе ідэю, пункт погляду, жыццёвую пазіцыю пісьменніка. Дзённікавыя запісы і вытрымкі з выступленняў спрыяюць паспяховаму дасягненню эфекту непасрэднай прысутнасці аб'екта эсэ побач з аўтарам.

Жанраваўтваральным элементам эсэ «А думаў я...» з'яўляецца сімволіка твора — самалёт у белых аблоках, бусел, што ляціць у небе, і вясна, якая атаясамліваецца з воляй і шчасцем. Аднак такія моцныя сімвалы Я. Брылём не раскрыты ў далейшым (такая ж праблеманазіраецца і ў іншых ягоных творах, напрыклад, у апавяданні «Ліпа і клёнік» непрачытаная сімволіка значна зніжае яго мастацкую вартасць), таму ў сэнсавым плане эсэ страчвае філасофскую дамінанту, ператвараючыся ва ўспаміны з лірычнымі адступленнямі. Эсэ відавочна не хапае цэнтральнай ідэі. Рэдкія, але ўсё ж такі заўважныя савецкія стылёвыя стандарты перашкаджаюць успрыманню цікавых і шчырых згадак пра Дзм. Кавалёва.

Пры аналізе творчасці Я. Брыля В. Нікіфарава сцвярджае, што «трэба адзначыць яго разумны, канструктыўны падыход да афіцыйных нормаў, стэрэатыпаў сацыялістычнага рэалізму. Ён не адкідваў іх як нешта ў прынцыпе заганнае, а спачатку выпрабоўваў, імкнуўся прымераць да сваёй мастацкай манеры» [2, с. 493].

Структураўтваральны кампанент эсэ «Мой Чэхаў» — ідэя невычарпальнасці патэнцыялу творчай спадчыны знакамітага пісьменніка. Фабула твора яскрава не акрэслена. Я. Брыль выказвае пажаданне напісаць «гісторыю <...> дружбы з кнігай» [3, с. 401], а слова пра А. Чэхава — першая спроба на шляху да грунтоўнай працы. Такім чынам, ёсць усе падставы меркаваць, што задума эсэ «Мой Чэхаў» не была спантаннай. Яно пісалася з мэтай хутчэй азнаёміць чытача з уласнай думкай, чым даказаць што-небудзь ці пераканаць у нечым патэнцыяльнага чытача.

«Мой Чэхаў» адносіцца да апавядальных эсэ, што пацвярджаецца пэўнай структурай. Структура апавядання (блізкага па памерах да эсэ) адрозніваецца наяўнасцю сюжэтнай лініі, у той час як у эсэ цэнтральнай становіцца ідэя, факт або з'ява. Структура эсэ «Мой Чэхаў» уяўляе сабой разгалінаваную сістэму з мноствам лірычных адступленняў, якія часам далёка адыходзяць ад тэмы, заяўленай аўтарам у назве. Сярод такіх адгалінаванняў — гісторыя пра бібліятэку М. Горкага ў Міры, замалёўка пра сустрэчу з А. Вішняй, прыгоды з дзяцінства і інш. Так ці інакш, усе гэтыя, здавалася б, далёкія ад тэмы адступленні ўдзельнічаюць у стварэнні агульнай цэласнай канцэпцыі твора, спрыяюць паспяховай рэалізацыі асноўнай ідэі.

Яскравай адметнасцю класічнага эсэ з'яўляецца наяўнасць у ім парадокса, аўтарскага тэзіса, які супрацьстаіць агульнапрынятым канонам грамадскай думкі. У эсэ Я. Брыля ролю парадокса адыгрывае філасафема: «Не напісаўшы, цяжка пераканаць каго-небудзь, што гэта будзе цікава» [3, с. 401]. Падобная замена не на карысць жанру эсэ, а ператварае твор у сачыненне. Да формы сачынення адсылае і вывад, зроблены пісьменнікам у канцы твора. Філасафема ж нягдольна «вытрымаць» на сабе ўвесь твор, таму аўтар вымушаны падмацоўваць ідэю дадатковымі прыёмамі (у эсэ «Мой Чэхаў» выкарыстаны прыём вобразнага параўнання творчасці гэтага пісьменніка з крынічнай гаючай вадой).

Апавядальнае эсэ мае такія адзнакі эсэізму, як суб'ектыўнасць, эмацыянальнасць, фрагментарнасць. Стылістычны аспект уключае шэраг разнастайных адценняў. Скразная рыса творчай манеры пісьменніка — лірызм, наяўнасць шматлікіх адступленняў, філасофскіх разважанняў. Адсутнасць усталяваных норм і законаў жанру эсэ дае магчымасць аўтарам (і Я. Брылю ў тым ліку) амаль бязмежна цытаваць іншыя творы. Прычым менавіта мастацкія. Рэдка эсэіст дазваляе сабе выкарыстаць у якасці цытаты словы крытыка ці іншага эсэіста. Падобнае магчыма толькі тады, калі звязана непасрэдна з паказам унікальнасці асобы або

творчай манеры аўтара твора, што цытуецца, калі аўтар з’яўляецца аб’ектам увагі эсэіста. Такая стратэгія ўказвае на маналагічны характар эсэ. Гэта жанр, які не вытрымлівае канкурэнцыі некалькіх канцэпцый.

Светапоглядная сістэма Я. Брыля-эсэіста грунтуецца на ўзаемадзеянні ўласных філасофскіх разваг і жыццёвай практыкі.

Эсэ Я. Брыля «Алесь Адамовіч» прысвечана 50-годдзю з дня ягонага нараджэння. Асаблівасці стылю літаратуры савецкай эпохі (эсэ было напісана ў 1977 годзе) выяўляюцца ў творы праз рытарычнасць, публіцыстычнасць, узнёсласць, адпаведную лексіку (напрыклад, «Цудоўным той год я назваў не толькі таму, што гэта быў іменна ён, год ХХ з’езда КПСС» [3, с. 411], «І Сашу — пяцьдзесят...» [3, с. 424], «І ёсць пра што, і будзе пра што гаварыць!» [3, с. 424] і інш.). Відавочна, што эсэ напісана мэтанакіравана, на канкрэтную падзею, гэта твор не выпадковы, а падрыхтаваны і прадуманы, што аддаляе яго ад самога жанру эсэ. Да таго ж блізкі да прамовы ці слова ў гонар вядомага літаратара.

Узаемаадносіны «аўтар — чытач» у жанры эсэ больш прыватныя і рэалізуюцца праз унутраны дыялог эсэіста з патэнцыяльным чытачом. У эсэ «Алесь Адамовіч» аўтарская думка накіравана на ўспрыманне яе масавай аўдыторыяй, твор маналагічны, не патрабуе крытычнай рэакцыі. Такім чынам, не ўзнікае барацьбы меркаванняў паміж аўтарам і чытачом, што не характэрна для паэтыкі жанру эсэ. Разам з тым яскрава выяўлены ўласна аўтарскі пачатак, а апавяданне вядзецца ад першай асобы.

«Алесь Адамовіч» — гэта эсэ-ўспамін, таму структура твора характарызуецца ўрыўкавасцю, фрагментарнасцю. Аўтар распавядае пра сумесныя паездкі па Еўропе, працу над кнігай «Я з вогненнай вёскі…». Па словах В. Нікіфаравай, «з дапамогаю рэтраспекцый Я. Брыль істотна пашырае мастацкія час і прастору, дасягае амаль рамантычнага асэнсавання рэчаіснасці» [2, с. 498]. Важны складнік зместу эсэ — характарыстыка асобы А. Адамовіча, вылучаюцца яго рысы характару, асаблівасці творчай манеры, падкрэсліваецца працалюбівасць, прага да пазнання новага. Акрамя таго, у эсэ ўключаны элементы біяграфіі з указаннем канкрэтных дат, месцаў жыцця А. Адамовіча. І — што характэрна для эсэ на літаратурныя тэмы — неабмежаванае цытаванне мастацкіх твораў.

«Алесь Адамовіч» — твор складаны ў жанравых адносінах, бо спалучае ў сабе адзнакі ўспаміну, біяграфіі, прамовы (слова) і эсэ. Такі сінтэз жанраў, з аднаго боку, робіць твор поліфункцыянальным, здольным лёгка ўспрымацца пры розных абставінах і непадрыхтаванай аўдыторыяй. Я. Брыль з кожнага жанру бярэ самае істотнае і запамінальнае (напрыклад, запіс па датах — з біяграфіі, рытарычнасць — з прамовы, фрагментарнасць — з успаміну). З другога ж боку, твор страчвае сэнсавую глыбіню, філасафічнасць, ператвараецца ў праграмны, напісаны па прынцыпе «трэба сказаць».

Яго з цяжкасцю можна аднесці да жанру эсэ. Тым не менш, твор не губляе сваёй тэарэтычнай і практычнай значнасці. У шырокім разуменні адносіцца да публіцыстычна-мемуарнай прозы па жанру — «літаратурны партрэт».

Эсэ «Наш Караткевіч» з’явілася з нагоды гадавіны з дня яго смерці і ўяўляе сабой своеасаблівую літаратурную «галерэю» ўспамінаў пра пісьменніка. Як і амаль што ўсе эсэ Я. Брыля, яго водгук на канкрэтную падзею, гэта значыць, што калі б не было прычыны, эсэ таксама магло б і не быць напісана. Падставай для ўспамінаў паслужыла калектыўная работа камісіі па літаратурнай спадчыне. Я. Брыль, працуючы над шматлікімі папкамі, час ад часу ўспамінае светлыя жыццёвыя моманты, звязаныя з сяброўствам з У. Караткевічам. З сумам гаворыць аб цалкам не раскрытым творчым патэнцыяле знакамітага пісьменніка. Я. Брылю цяжка паверыць у смерць сябра, бо ён вельмі яскрава і жыва паўстае перад ім: «І мне з ім добра было, нібы з жывым гаворачы» [3, с. 462]. Рамантычная асоба У. Караткевіча дакладна ўяўляецца і чытачу, гэтаму садзейнічае спакойная, разважлівая манера апавядання.

Калі эсэ «Алесь Адамовіч» — літаратурны партрэт, то «Наш Караткевіч» — галерэя светлых імпрэсіяністычных вобразаў, фотаздымкаў, нібы знятых схаванай

камерай. У структурным плане ў ім вылучаецца два часава-прасторавыя планы. Першы з іх — рэальны, звязаны з непасрэднай працай над творчай спадчынай пісьменніка; другі — ірэальны, мінулы, у якім раскрываецца вобраз аб'екта эсэ.

Згаданае эсэ вылучаецца сярод іншых шырокім лірычным пачаткам. Пейзажная замалёўка ў пачатку твора вызначае стрыманы, павольны тэмп аповеда. Адметнае і тое, што прырода, паказаная Я. Брылём, жывая, вясёлая, багатая і прыгожая. Пачатак эсэ пабудаваны на рэзкім кантрасце: «Паслязаўтра год, як яго няма... <...> Во, і ластаўкі маладзенькія так ужо блізка — зляцелі з гнязда, паселі на белых фортках акна. Калупаюцца дзюбкамі ў новым перайку, прыхарошваюцца, змалку чысцюлі, зрэдку якая чырыкне штосьці, як і мама з татам, зусім даверліва, не баючыся чалавека» [3, с. 425]. Выкарыстоўваючы прыём кантрасту, Я. Брыль імкнецца да паказу «сонечнай энергетыкі» асобы У. Караткевіча.

Па словах В. Нікіфаравай, «лірычная канцэпцыя чалавека і свету пераважае над эпічным асэнсаваннем быцця і таму накладвае моцны адбітак не толькі на іх стыль, але і на жанравую структуру (так званы «адкрыты лірызм»)» [2, с. 484]. Узнікае своеасаблівая жанравая мадыфікацыя эсэ.

Змест эсэістычных твораў Я. Брыля ўтвараюць жыццёвыя факты, адлюстраваныя ў роздуме і перажываннях. У ягоных лірычных творах мала прыдуманага, ён адметна асэнсоўвае рэчаіснасць. Эсэістычная спадчына пісьменніка з'яўляецца неад'емным складнікам у гісторыі беларускай літаратуры. Кніга «Пра запаветнае» Я. Брыля — гэта гісторыя душы і пачуццяў, разваг і думак шчырага чалавека.

## Літаратура:

1. Брыль, Я. Збор твораў: у 5 т. / рэд. А. Сляпцова. — Мінск : Мастацкая літаратура, 1981. — Т. 4. Свет далёкі і блізкі: Дарожныя нататкі; Пра запаветнае: Артыкулы, эсэ, партрэты. — 1981. — 541 с.

2. Нікіфарава, В. Янка Брыль / В. Б. Нікіфарава // Гісторыя беларускай літаратуры 20 стагоддзя: у 4 т. / рэдкал.: У. Гніламёдаў [і інш.]. — Мінск : Беларуская навука, 2001 — 2004. — Т. 3: 1941—1965 / У. Гніламёдаў [і інш.]. — 2004. — С. 479—521.

3. Брыль, Я. Запаветнае. Выбраныя творы / Я. Брыль. Прадм. С. Андраюка, камент. Н. Семашкевіч. — Мінск: Беллітфонд, 1999. — 448 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 15 ліпеня 2011 года.

## Ірына Бажок
## «Запаветная эсэістыка Янкі Брыля»
### Рэзюмэ

У артыкуле аналізуецца эсэістычная спадчына Я. Брыля. Прасочваецца жанравая эвалюцыя ў творчасці пісьменніка (прамова — слова — успамін — эсэ). Разглядаюцца адметнасці дзіцячых эсэ Я. Брыля, а таксама эсэ «Мой Чэхаў», «Наш Караткевіч» і «Алесь Адамовіч». Паказваецца ўплыў лірызму на стыль тэксту эсэ.

## Iryna Bazhok
## Intimate essays of Janka Bryl
### Summary

The author of the article analyses the essayistic heritage of Janka Bryl. The genre evolution in the writer's work is examined (speech — discourse — reminiscence — essay). Peculiarities of Bryl's essays for children, as well as the essays “My Chekhau”, “Our Karatkevich» and «Ales Adamovich» are examined. The influence of lyricism on the style of the essay text is a specific feature of Bryl's works.

**Лада АЛЕЙНІК**

# СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ МАЛЕНЬКІХ ЧЫТАЧОЎ

Сучасная беларуская дзіцячая літаратура складаецца з вельмі шматлікіх мастацкіх твораў, разнастайных паводле жанраў і форм. Кола аўтараў, якія адрасуюць свой творчы плён юным чытачам, год ад году расце. Адпаведна пашыраецца эстэтычнае поле дзіцячай літаратуры, яе праблемна-тэматычны дыяпазон і моўна-выяўленчыя сродкі. Вядома, што сістэматызацыя і класіфікацыя ўзораў сённяшняй дзіцячай літаратуры паводле ідэйна-тэматычных і жанрава-стылёвых прынцыпаў, выяўленне тэндэнцый у развіцці гэтай галіны, магчымыя толькі пры ўмове аналізу асобных твораў і вывучэння характэрных прыкмет, уласцівых мастакоўскім індывідуальнасцям іх аўтараў. Безумоўна, у межах часопіснага артыкула зрабіць паўнавартасны агляд усіх выданняў, якія выйшлі ў апошнія гады, немагчыма. Тым больш, што дзіцячая літаратура, апроч дыферэнцыяцыі паводле родаў, — эпасу, лірыкі і драмы, падлягае гэтаксама падзелу на ўмоўныя ўзроставыя катэгорыі — для малодшага школьнага ўзросту, сярэдняга і старэйшага. Думаецца, менавіта «ўзроставы прынцып» правамерна ўзяць за аснову і звярнуць увагу найперш на некаторыя творы, адрасаваныя малодшым чытачам.

Наўрад ці варта кагосьці пераконваць, што самым плённым шляхам развіцця і навучання дзяцей з'яўляецца гульнёвы прынцып. Гэты факт знайшоў доказнае абгрунтаванне ў шматлікіх навуковых і навукова-папулярных працах псіхолагаў, педагогаў і метадыстаў. Выхавацелі дашкольных устаноў і настаўнікі пачатковых класаў на практыцы пераканаліся ў эфектыўнасці такога метаду навучання. Аднак навучальны працэс павінен забяспечвацца адпаведным матэрыялам — літаратурнымі творамі, здольнымі не толькі забаўляць, але выхоўваць густ, развіваць інтэлект, узбагачаць эрудыцыю дзяцей, пашыраць іх уяўленні пра свет, пра ўзаемаадносіны паміж людзьмі, пра агульначалавечыя каштоўнасці. Несумненна, у сучасных педагогаў ёсць такое апірышча...

У 2007 годзе РВУ «Літаратура і Мастацтва» выдала кнігу, якая паклала пачатак своеасаблівай серыі. «Чырвоная кніга ў казках і вершах» — выданне па-свойму ўнікальнае. Матэрыял энцыклапедычнага кшталту — звесткі аб прадстаўніках беларускай фаўны і флоры, занесеных у Чырвоную кнігу, — увасоблены ў займальнай мастацкай форме. У зборнік увайшлі творы Генадзя Аўласенкі, Віктара Гардзея, Раісы Баравіковай, Уладзіміра Мазго, Алеся Бадака, Людмілы Рублеўскай, Віктара Шніпа і іншых пісьменнікаў. Кожная гісторыя суправаджаецца «даведкай», дзе прыводзіцца інфармацыя пра галоўнага персанажа. Так, напрыклад, пра зусім рэдкага насельніка беларускага лесу — Грыфалу кучаравую альбо Грыб-баран, даюцца наступныя звесткі: «Вельмі рэдкі грыб. Пладовае цела дыяметрам да 1 м і масай да 10—20 кг. Складаецца з паўторна-галінастых пянькоў з агульнай асновай, якія на канцах пераходзяць у плоскія шапкі. Шапкі шматлікія, паўкруглыя, шырынёй 4—10 см, клінападобна звужаныя ў пянёк, мясіста-скурыстыя». Гэтаму дзівоснаму «герою» прысвечана казка Алены Масла «Самы лепшы грыб». Пісьменніца стварыла цікавую і змястоўную гісторыю, дзе знайшлося месца і традыцыйным «гасцям» нашых кошыкаў, і грыбам амаль

невядомым, якія мала каму шанцавала сустракаць. Нават проста гартаючы кніжку і ўбачыўшы ілюстрацыю да твора, казку ніяк не абмінеш увагай, — інтрыгуе сам выгляд дзівоснага «шматпавярховага» грыба.

Дарэчы, афармленне, зробленае мастакамі Мікалаем Казловым і Наталляй Суставай, гэтаксама заслугоўвае самых кампліментарных эпітэтаў. Бо выданне аздоблена сапраўды выдатнымі ілюстрацыямі, якія дэманструюць і натуральны выгляд тых «персон», што дзейнічаюць у творах, і адлюстроўваюць пэўныя эпізоды сюжэтаў. Як вядома, малюнкі — гэта дадатковы стымул для ўвагі маленькіх чытачоў, а ў дадзеным выпадку ілюстратыўны матэрыял яшчэ і паглыбляе іх досвед.

«Чырвоная кніга ў казках і вершах» зрабілася своеасаблівым паказчыкам запатрабаванасці падобных выданняў сярод чытацкай аўдыторыі. Тыраж імгненна разышоўся ў кнігарнях, кніжка атрымала вельмі ўхвальныя водгукі і непасрэдна ад юных аматараў прыгожага пісьменства, і ад іх бацькоў, і ад педагогаў. (Верагодна, гэты факт не ў апошнюю чаргу паўплываў на рашэнне выдавецтва прадоўжыць «энцыклапедычна-займальную» серыю.) Дый зразумела, што не толькі рэдкія віды жывёл і раслін заслугоўваюць цікавых аповедаў... Фактычна пра кожнага ляснога жыхара, пра кожную расліну можна расказаць маляўніча і вобразна, змястоўна і арыгінальна.

Працягам папярэдняга выдання стала «Лясная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2008), у якую ўвайшлі творы Уладзіміра Ягоўдзіка, Кацярыны Хадасевіч-Лісавой, Алеся Марціновіча, Уладзіміра Мацвеенкі, Анатоля Бутэвіча, Алеся Карлюкевіча, Янкі Галубовіча і іншых. «Лясную кнігу» склалі алегарычныя казкі, метафарычныя вершы, рэалістычныя апавяданні і прыродазнаўчыя замалёўкі. У гэтых творах няма гучных дэкларацый пра любоў да прыроды і пафасных заклікаў да яе аховы, але аўтарская пазіцыя выяўляецца так выразна, што чытач фактычна ў кожнай гісторыі атрымлівае сапраўдны ўрок маралі і душэўнай чуласці, вучыцца дабрыні і спагадзе. Думку аб ашчадным стаўленні да свету жывой прыроды пісьменнікі ўвасабляюць вельмі па-рознаму, карыстаюцца неардынарнымі прыёмамі пісьма, сюжэтабудовы, эмацыйна-псіхалагічнага ўздзеяння на чытацкую аўдыторыю. Так, напрыклад, казка Кацярыны Хадасевіч-Лісавой «Прыгоды дзічка Дзюдзі» напісана з усведамленнем удзячнасці людзям, якія выратавалі з бяды маленькага героя. А вось Уладзімір Ягоўдзік у апавяданні «Лось» дзейнічае адваротным чынам — прымушае чытача адчуць прыкрасць і сорам з-за чэрствасці жанчыны, якая праганяе ласіху, што шукала ў людзей паратунку... Аднак фактычна ўсе творы зборніка маюць агульную ўласцівасць — яны вучаць ацэньваць учынкі герояў, нязмушана накіроўваюць да маральных высноў і абагульненняў.

Беларусь заўжды славілася сваімі рэкамі і азёрамі, таму зусім натуральна, што наступным выданнем серыі стала «Блакітная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2009). Творы, якія ўвайшлі ў зборнік, — казкі і апавяданні Алеся Карлюкевіча, Наталлі Кісялёвай, Сержа Мінскевіча, Раісы Баравіковай, Франца Сіўко, Уладзіміра Ліпскага, Наталлі Бучынскай, Валерыя Кастручына і іншых пісьменнікаў, а таксама вершы Віктара Гардзея, Аксаны Спрынчан, Міколы Маляўкі, Віктара Шніпа, Уладзіміра Мазго і Міколы Чарняўскага — насамрэч уражваюць змястоўнасцю, багатай інфарматыўнасцю, вобразнай арыгінальнасцю. Аб'ектамі аўтарскай увагі тут зрабіліся славутыя «водныя артэрыі краіны» Нёман, Заходняя Дзвіна, Свіслач, Дняпро, вядомыя ва ўсім свеце азёры Нарач і Свіцязь. Не засталіся па-за ўвагай пісьменнікаў гэтаксама маленькія рачулкі ды вадаёмы, з іх геаграфічнымі асаблівасцямі і шматаблічным раслінна-жывёльным светам. Немалаважна, што ў большасці твораў аўтары засяродзілі ўвагу на экалагічных праблемах, на пытаннях захавання ўнікальнага прыроднага свету краіны. Хаця, мэтазгодна заўважыць, што думка пра беражлівае стаўленне да прыроды дасягае найбольшага эфекту, калі ўвасабляецца ў творах нязмушана, апасродкавана, а не ў такой дыдактычна-прамоўніцкай форме, як, напрыклад, у «Споведзі мёртвай

ракі» Алены Масла: «...Людзі! Дзе напіцца гаючай вады, дзе спатоліць мне сваю смагу? Вы даўно баіцеся мяне, не прыходзіце па маю прахалоду спякотнымі днямі. Як баліць маё сэрца, калі чую, што толькі самазабойца адважыцца ступіць у мяне басанож... Вы везяце купаць свае целы на далёкія моры, спадзеючыся ў іх знайсці чысціню... Наіўныя, дурныя мае дзеткі! Столькі мудрых навук вучыце ў сваіх школах, што забываецеся на самае галоўнае. Зямля, на якой жывём мы ўсе, круглая. І нічога, створанае на ёй, не знікае ў прорве за даляглядам. Крынічкі збіраюцца ў рачулкі, тыя жывяць вялікія рэкі, а яны плывуць у моры-акіяны, перамешваючы ўсе стрэчаныя на сваім шляху воды. І не будзе чыстай вады, калі цячэ па зямлі хоць адна мёртвая рака. Вы зліваеце бруд ад сваіх бяздушных машын у маё рэчышча, а пасля грэбуеце маёй вадой...» Безумоўна, па сутнасці ў гэтым творы-маналогу ўсё правільна — выразная ідэя, драматычная вобразнасць, публіцыстычны пафас... Але, думаецца, калі б вобраз мёртвай ракі зрабіўся ключавым у сюжэце мастацкай гісторыі, калі б чытачы змушаны былі хвалявацца і супераЖываць рацэ, якую, скажам, нейкія зламыснікі труцяць хімічнымі рэчывамі, эмацыйнае ўздзеянне твора было б значна больш эфектыўным, глыбокім. У той жа час нельга не адзначыць, што функцыянальнае прызначэнне твораў рытарычнага гучання відавочнае — яны могуць быць выкарыстаны ў розных сцэнічных дзействах, якія ладзяцца ў малодшай і сярэдняй школе, у конкурсах выразнага чытання ці экалагічных імпрэзах.

Сапраўдным падарункам юным аматарам фантастычных прыгод і касмічных таямніц стала чарговае выданне серыі — «Касмічная кніга ў творах беларускіх пісьменнікаў» (2010). Адметна, што ў зборнік увайшлі не толькі казкі і фантастычныя апавяданні, але і артыкулы пра знакамітых людзей, дзейнасць якіх была звязана з засваеннем касмічных прастораў. Так, напрыклад, артыкулы Кастуся Ладуцькі знаёмяць чытачоў з нашымі славутымі землякамі-беларусамі — легендарнымі касманаўтамі Пятром Клімуком і Уладзімірам Кавалёнкам, з вучонымі-астраномамі Сяргеем Блажко і Гаўрылам Ціханавым, з адным з першых «начальнікаў Байканура» Канстанцінам Герчыкам. Навуковы матэрыял і біяграфічныя факты выкладзены ў артыкулах лаканічна, даходліва і вычарпальна.

У цэлым серыя з чатырох кніг атрымалася канцэптуальнай і шматаспектнай. Сур’ёзны пазнавальны матэрыял знайшоў увасабленне ў арыгінальных мастацкіх формах. Амаль усе творы, што ўвайшлі ў зборнікі, напісаны эмацыйна, вобразна, усхвалявана...

І ў дашкольных дзіцячых установах, і ў пачатковай школе сёння гэтаксама запатрабаваны кніжкі Анатоля Зэкава. Зборнік казак «Чатыры зярняткі» (2000), кніга вершаваных твораў «На арэхавым кані» (2003), кніжка-размалёўка рыбацкіх скорагаворак «Мянтуз сярод мядуз» (2007) ужо знайшлі сваіх удзячных чытачоў. Творы А. Зэкава — выдатны матэрыял для гульнёвых заняткаў, для інсцэніровак і чытанняў па ролях, для віктарын і конкурсаў. Летась выйшла новая кніга А. Зэкава, якая ў пэўнай ступені абагульніла папярэдні вопыт пісьменніка і прадэманстравала яго новыя творчыя набыткі. У зборнік «Зязюля Гулюля» (2011) увайшлі казкі і вершы, адмысловыя не толькі паводле зместу, але і паводле формы. Аўтарскія казкі адлюстроўваюць узаемаадносіны людзей і прыроды — звяроў, птушак, іншых насельнікаў беларускіх лясоў, палёў і лугоў. Аднак гэтыя творы не толькі вытлумачваюць сутнасць прыродных з’яў ды вобразаў, не толькі характарызуюць дзейных асоб паводле знешніх прыкмет і манеры паводзін... Казачны свет жывой прыроды тут з’яўляецца, апроч усяго, формай выяўлення думак і пачуццяў чалавека, яго поглядаў на жыццё.

Так, напрыклад, у казцы «Сарока-манюка», дзе гаворка ідзе пра такія заганныя якасці, як пляткарства і хлуслівасць, адначасова выяўляецца стаўленне людзей да тых, за кім замацавалася гэткая ганебная рэпутацыя, а таксама дэманструецца небяспека, якая пагражае балбатлівым манюкам. Альбо казка «Непаслухмяны Чмелік», якая не толькі знаёміць маленькіх чытачоў з «ладам жыцця» чмялінай

сямейкі, але і красамоўна пераконвае іх у вопыце дарослых, у неабходнасці прыслухоўвацца да іх меркаванняў...

Анатоль Зэкаў, несумненна, абапіраецца ў сваёй творчасці на нацыянальныя фальклорныя традыцыі. Пра гэта сведчыць і непасрэдны змест твораў, відавочна арыентаваных на адлюстраванне маральна-этычных пытанняў, і сама апавядальная манера аўтара. Яго казкі маюць характэрныя фальклорныя зачыны («Гэта было так даўно, што ні Чарнушка, ні яе маці, ні бабуля, ды і ніхто ўжо з вялікага матылёвага роду, не памятаюць»), звароты да чытачоў, уласцівыя народным казкам («Вы ведаеце, дзеткі, чаму ўсе звяры па лесе гойсаюць, а няўклюда-чарапаха толькі поўзае? Калі не ведаеце, то паслухайце казку»). У творах А. Зэкава трапна і нязмушана ўвасоблены шматлікія прыказкі і прымаўкі («чула звон, ды не ведала, дзе ён»; «хай цябе хоць гаршком назавуць, абы ў печ не ставілі»; «на лаўца і звер бяжыць»; «не лезь у ваду — калі не плывец»; «не хвалі сябе сам, чакай, пакуль іншыя пахваляць»). Гукава-рытмічная апавядальная арганізацыя, якая выяўляецца ў выкарыстанні рыфмовак, сугуччаў, паўтораў слоў і гутарковых выразаў гэтаксама ўласцівая ўзорам вуснай народнай творчасці («жылі-былі», «далёка-далёка», «за цёмнымі лясамі, за высокімі гарамі», «хочаце — верце, хочаце — не», «раскажу я вам, дзеткі, казку, у якой звычайная завязка», «плоткі-малодкі, плавалі чародкай», «плаваць-ныраць і бяды не знаць»).

Некаторыя казкі з кнігі «Зязюля Гулюля» — «Як на Лузе з’явіліся кветкі», «Сарока-манюка», «Гарбуз і Яблыня», «Вавёрка і Крот», «Чатыры зярняткі» — заслугоўваюць асобнай увагі. Творы, празаічныя паводле формы, надзелены ўнутранай рыфмай. Гэты мастацкі прыём дадае казкам экспрэсіі, дынамікі, эмацыйнасці і мастацкай выразнасці. Вось, дзеля прыкладу, урывак з казкі «Гарбуз і Яблыня»: «Ляжаў у баразне Гарбуз. Нацягнуў ад сонца картуз, ляжыць — не дзьме ў вус. Сонейка прыпякае, а ён вакол пазірае ды ад ляноты пазяхае. Замлеюць бакі ад лёжкі, яму б паварушыцца трошкі, павярнуцца на бачок спелы, ды лянота заела. А побач Яблыня стаяла, на голлі яблыкі люляла. Убачыў яблыкі Гарбуз — ад зайздрасці ледзь ні зваліўся картуз. Маўляў, як гэта, чырванашчокія: я — у баразне, а вы — вышэй за мяне, пад аблокамі? То ж даў Бог ляжачую долю. А хіба ж я вісець бы не змог — не здолеў? Раззлаваўся Гарбуз, закалаціўся, бы ў землятрус, да Яблыні падкаціўся, як калабок.

— Што ты хочаш, мілок? — запытала Яблыня, перастаўшы рыпець.

— На галінках тваіх павісець.

— А калі сарвешся, Гарбуз, ды наб’еш сабе гуз?

— Што будзе, тое будзе. Калі і ўпаду, то на дол.

— Калі ўжо так хочаш, чапляйся за ствол...»

Несумненна, казкі, з такой адмысловай рытміка-інтанацыйнай арганізацыяй лёгкія для запамінання, выключна прыдатныя для выразнага чытання і чытання па ролях.

Тэматычнай і жанравай разнастайнасцю вызначаюцца паэтычныя творы, якія ўвайшлі ў кнігу «Зязюля Гулюля». Вядома, што вершы, лічылкі, загадкі, скорагаворкі спрыяюць развіццю асацыятыўнага і лагічнага мыслення дзяцей, творчых здольнасцей, назіральнасці, фантазіі, кемлівасці... Аднак творы, адрасаваныя юным чытачам, проста абавязаны быць вобразнымі, жывапіснымі, дасканалымі паводле маўлення. Думаецца, вершы А. Зэкава адпавядаюць гэтым крытэрыям. Вось, напрыклад, як выразна намалявана ў загадцы такая прыродная з’ява, як раса:

Летняй раніцай, бывае,
Плачуць травы лугавыя.
Хто з вас, дзеці, адгадае,
Як завуцца слёзкі тыя?

Альбо яшчэ прыклад. Гэта загадка ўжо з іншай катэгорыі, яна апелюе не толькі да агульнага досведу і назіральнасці, але і да матэматычных здольнасцей:

Праз палянку тупаў вожык,
А за ім — чацвёра дзетак.
Колькі трэба басаножак,
Каб абуць малечу летам?

Вершаваныя творы А. Зэкава з'яўляюцца плённай глебай і для інтэлектуальных гульняў маленькіх чытачоў, і для іх творчага развіцця. Зусім не дзіўна, што кнігі пісьменніка шануюцца і дзецьмі, і іх педагогамі.

Але нягледзячы на тое, што дашкольнікі і вучні малодшых класаў вылучаюцца высокай пазнаваўчай актыўнасцю і імкненнем да набыцця новага жыццёвага досведу, прага да цудаў і чарадзействаў доўгі час застаецца дамінуючай у дзіцячай свядомасці. Вядома, што дзеці часам нават выдумляюць сабе ўяўных сяброў — такіх, з якімі ім камфортна і цікава, якія валодаюць незвычайнымі здольнасцямі. (Псіхолагі вытлумачваюць гэтую з'яву патрэбай маленькай асобы ў эмацыйнай падтрымцы.) Папулярнасць кнігі Людмілы Рублеўскай «Прыгоды мышкі Пік-Пік» можна ў пэўнай ступені патлумачыць менавіта тым, што яе гераіня здольна выступаць для чытачоў гэткім «уяўным сябрам» — пацешным і зразумелым. Мышка Пік-Пік, як і ўсе дзеці, любіць салодкія прысмакі, і праз гэта з ёй бясконца здараюцца забаўныя прыгоды. Кожны выпадак, які адбываецца з гарэзлівай гераіняй, Л. Рублеўская вымалёўвае з нязменным гумарам і досціпам. Пры гэтым пісьменніца найчасцей увасабляе ў камічным святле сітуацыі «пазнавальныя», кшталту характэрнага «рамонту тэлевізара», які шмат хто з дзяцей меў магчымасць назіраць ва ўласнай кватэры: «Экран засвяціўся, тэлевізар загуў, але ніякіх мульцікаў мышка не ўбачыла. На экране мітусіліся шэрыя кропачкі. «Сапсаваўся тэлевізар! — падумала мышка. — Вось гора. Трэба яго адрамантаваць». Тата рамантуе тэлевізар проста: стукае па ім кулаком, тэлевізар палохаецца і пачынае паказваць фільмы і футбол. Падскочыла мышка да тэлевізара і забарабаніла па ім лапкамі».

Між іншым, выхавацелі дзіцячых садкоў неаднаразова сведчылі, што асаблівай пашанай гэтая кніжка Людмілы Рублеўскай карыстаецца ў дзяўчынак. Падставы відавочныя. Дзяўчынкі надзвычай любяць прыгожыя ўборы, любяць цішком пакарыстацца матулінай касметыкай, мараць паўдзельнічаць у конкурсе прыгажосці... Усё гэта ўласціва мышцы Пік-Пік. Яна не толькі робіць сабе макіяж, убіраецца ў модную вопратку ды ладзіць кулінарныя эксперыменты, але нават спрабуе пафарбаваць валасы: «Неадкладна трэба рабіць новую прычоску! Пепіта мышку расчаравала: цырульні для мышэй няма. Вось гора... Давядзецца самой старацца... Завіўку б зрабіць — ды поўсць караценькая... Падстрыгчы — таксама не атрымаецца... Хіба што налыса... А вось пафарбавацца можна! І ў тэлевізары рэкламу паказваюць — як была цётка нефарбаваная, ніхто і ўвагі на яе не звяртаў. А як пафарбавалася — і дзядзька на «Мерседэсе» з'явіўся, і кветкі падарыў... Заплюшчвае мышка вочы і ўяўляе: вось яна з пафарбаванай поўстачкай выходзіць з норкі, а яе ўжо чакае Мікі Маўс з марожаным...» Ды кожны раз з гэтай няўрымслівай гераіняй здараюцца смешныя і недарэчныя гісторыі. Але з дапамогай сям'і, у якой «кватаруецца» мышка, ёй нязменна шанцуе выбрацца з усіх небяспечных сітуацый.

Аднак не толькі ў цікавых ды камічных прыгодах памаўзлівай мышкі прывабнасць казачнай аповесці Л. Рублеўскай. Вялікую ролю тут адыгрывае сама бытавая атмасфера, якая выступае фонам да падзей: сямейная ўтульнасць, цеплыня і добразычлівасць у адносінах Таты, Мамы, Веранічкі і маленькага Максіма... Нават з кошкай Пепітай у мышкі Пік-Пік сяброўскія стасункі. Дый усе дробныя штрыхі, амаль незаўважныя на першы погляд, спрыяюць адчуванню маральнага камфорту ў асяродку герояў твора — Мама пячэ смачныя торцікі, Тата зрабіў дачцэ «караблік з бляшанай скрыначкі з-пад алоўкаў», усе клапоцяцца адзін пра аднаго і не забываюцца пра мышку... Маленькія чытачы адчуваюць гэтую своеасаблівую пяшчоту ў аповедзе, іх натуральна прываблівае дабрыня.

А вось да кніжкі Л. Рублеўскай «Карона на дне віра, альбо Казкі з хутара Юстыны» (2008), паводле сведчанняў педагогаў, найбольшую цікавасць выяўляюць хлопчыкі. Пры тым, што казкі, якія ўвайшлі ў кнігу, прысвечаны рэдкім кветкам ды раслінам Беларусі. Здавалася б, зусім не хлапчуковая тэматыка... Але гэтаму факту ёсць тлумачэнне. У пераважнай большасці казак разгортваюцца сапраўдныя рыцарскія гісторыі. Тут дзейнічаюць годныя і мужныя героі — духоўныя волаты, здольныя на самаахвярныя ўчынкі і высакародныя подзвігі. Гэта мечнік Ярмол, які ператварыўся ў меч-траву, «якая рэжа, як сапраўднае лязо», гэта таленавіты музыка Валяр'ян, на магіле якога вырасла духмяная кветка валяр'ян двухдомны — «лепшае лякарства ад сардэчнай хваробы»... Займальныя аповеды бабулі Юстыны, ад імя якой выкладаюцца гісторыі, маюць два сюжэтныя планы — казкі знаёмяць з рамантычнай мінуўшчынай і гераічнымі продкамі, але адначасова — з раслінным светам краіны, з яе багатай і дзівоснай прыродай. Апроч таго, многія казкі Л. Рублеўскай надзелены філасофскім сэнсам. У рэчышчы аповеда пісьменніца час ад часу нязмушана акцэнтуе ўвагу на пэўных перыпетыях сюжэтаў, літаральна адной-дзвюма фразамі падкрэсліваючы сэнс сітуацый альбо якасці герояў. Нашталт: «...Чалавек, які хоча цуду, здольны ўбачыць яго і ў вадзе, і ў дрэве, і ў кветцы»; «Так павялося ўжо — што павага і заможнасць у грэшных вачах людскіх знітаваныя»; «...Перад вачыма неба нават думка пра грэх роўная граху, і нават малы дамешак бруду не дазваляе назваць ваду чыстай» і інш. Падобныя заўвагі і назіранні аўтара схіляюць чытачоў да роздуму і асэнсавання чалавечай сутнасці, пытанняў быцця, асабістага свету...

Аднак, пры ўсіх вартасцях выдання, не магу не адзначыць пэўныя выдаткі афармлення кнігі. Безумоўна, ілюстрацыі яркія і кідкія. Шкада толькі, што яны не адпавядаюць тым вобразам, пра якія ідзе гаворка. Калі б на малюнках былі адлюстраваны расліны, якім прысвечаны казкі (як, прыкладам, гэта было зроблена ў «Чырвонай кнізе ў казках і вершах», пра якую ішла гаворка вышэй), то гэта істотна б паспрыяла досведу юных прыхільнікаў мастацтва слова.

Вялікім плёнам у галіне дзіцячай літаратуры вызначаецца творчасць Раісы Баравіковай. Кнігі пісьменніцы даўно палюбіліся юным чытачам — аматарам фантастычных прыгод і чарадзейных касмічных падарожжаў. Аднак перад тым, як падысці да непасрэднай гаворкі пра творчасць пісьменніцы, мэтазгодна зрабіць невялікае адступленне, датычнае агульнай узроставай дыферэнцыяцыі твораў для дзяцей.

Дзіцячая псіхалогія вылучае наступныя ўзроставыя перыяды: наймалодшы ўзрост (ад нараджэння да 1 года), ранні дзіцячы ўзрост (ад 1 года да 3 гадоў), дашкольны ўзрост (ад 3 да 7 гадоў), малодшы школьны ўзрост (ад 7 да 10-11 гадоў), падлеткавы ўзрост (ад 11-12 да 14-15 гадоў), ранні юначы ўзрост (ад 14-15 да 17-18 гадоў). Гэтая класіфікацыя псіхалагічных перыядаў развіцця суадносіцца і з класіфікацыяй дзіцячай літаратуры, якая падзяляецца на літаратуру для малодшага, сярэдняга і старэйшага ўзростаў. (З той розніцай, што дзве першыя ўзроставыя катэгорыі, як правіла, не ахопліваюцца). Такім чынам, калі кніга мае пазнаку «для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту», то бацькі, выхавацелі і настаўнікі аўтаматычна арыентуюцца на тое, што выданне адрасуецца 11—15-гадовым падлеткам, адпаведна — вучням 5—9 класаў.

Кнігі Р. Баравіковай «Казкі астранаўта» (2006), «Казкі з гербарыя» (2008) і «Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў» (2010) пазначаны менавіта «для сярэдняга школьнага ўзросту». Думаецца, гэта і не зусім дакладна, і не надта правамерна. Самых удзячных чытачоў творы пісьменніцы знаходзяць якраз у асобах дашкольнікаў і школьнікаў малодшых класаў. Менавіта ім, 6—11-гадовым дзецям, асабліва цікава і карысна знаёміцца з неверагодна захапляльнымі прыгодамі касмічных вандроўнікаў, чэрпаць займальную і змястоўную інфармацыю пра загадкі Сусвету, пра тайны планет і гісторыі сузор'яў. Немалаважна гэтаксама, што творы Раісы Баравіковай здольны абуджаць ціка-

васць у дзяцей да розных прыродазнаўчых школьных дысцыплін, здольны стымуляваць да больш глыбокага засваення навук. І таму будзе проста недаравальна, калі нехта з дарослых абміне ўвагай у кнігарні ці ў бібліятэцы гэтыя адмысловыя выданні, палічыўшы іх «неадпаведнымі» ўзросту сваіх выхаванцаў.

Фантастычныя гісторыі Р. Баравіковай — гэта своеасаблівы ідэальны свет, да якога хочацца імкнуцца. Школьнік-падлетак, які выпадкова трапіў на касмічны карабель, робіцца ў аповесці паўнавартасным удзельнікам міжгалактычнай вандроўкі. Адносіны герояў — мудрых, смелых і годных — тут будуюцца на прынцыпах шчырага сяброўства і ўзаемадапамогі, дэманструючы, што толькі такім чынам можна выратавацца з бяды ці засцерагчыся ад небяспекі. Дадатковай прывабнасці надаюць казкам вядомыя і пазнавальныя рэаліі, сярод якіх разгортваюцца падзеі. Гэта Мінск і сталічныя раёны, вуліцы, праспекты, крамы, гэта шматлікія згадкі розных славутых мясцін Беларусі — Белавежскай і Налібоцкай пушчаў, знакамітых рэк і азёр... І побач з гэтай натуральнай рэальнасцю ў гісторыях нязмушана суседзяцца «касмадром за Раўбічамі», «астэроід Дранік», «планета Гусляр» і іншыя фантастычныя аб’екты. Амаль незаўважна ў творах падкрэсліваецца карысць адукацыі, грунтоўных і align разнагаліновых ведаў, дзякуючы якім, часам, можна выратавацца з вельмі складанай сітуацыі...

Паралельна з асноўнымі сюжэтнымі падзеямі ў апавядальнай плыні дасціпна ўрэчаўляюцца займальныя гісторыі пра паходжанне тых ці іншых «зямных» раслін, якія трапілі на нашу планету «з іншых галактык», увасабляецца інфармацыя навуковага і навукова-папулярнага кшталту: «...Арцём, напэўна, зноў запытаўся б: «А чаму сузор’е, куды мы ляцім, мае назву Шалі?» І я адказаў бы яму, што магчыма гэтая назва прыйшла са старажытнага Вавілона, з той зямной цывілізацыі, якая дасюль у многім з’яўляецца для сучасных зямлян загадкай. Старажытныя астролагі, якія там жылі, безумоўна, назіралі за Сонцам. Яны маглі гэта рабіць са славутай Вавілонскай вежы. І, вядома ж, аднойчы заўважылі, што калі сонца знаходзіцца ў гэтым сузор’і, дык на зямлі дзень пачынае раўняцца начы. Атрымліваецца — раўнавага. З Зямлі няўзброеным вокам звычайны чалавек можа бачыць, як у гэтым сузор’і цьмяна паміргвае сем-восем зорак, але, калі паглядзець у тэлескоп, іх, напэўна, значна больш».

У творчасці Р. Баравіковай выяўляецца шэраг важнейшых тэндэнцый для свядомасці юнага чытача — гэта сцвярджэнне значнасці беларускай нацыі і гонару за прыналежнасць да гэтай нацыі, гэта сцвярджэнне значнасці асобы дзіцяці ў маштабах Сусвету і касмічнай гісторыі чалавецтва, гэта, у рэшце рэшт, умацаванне веры маленькага чалавека ў свае грандыёзныя магчымасці.

Не менш захапляльнымі з’яўляюцца гэтаксама прыгоды мамурыка — героя кніжкі Раісы Баравіковай «Казачныя аповесці пра міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў», які выконвае ў космасе вельмі сур’ёзную і адказную работу: «У мамурыка ёсць сачок, амаль такі ж самы, якім усе дзеці ловяць матылёў. Ды мамурык матылёў не ловіць. Ён ловіць зоркі. Тыя самыя зоркі, якія нехта ў пару зарападу назваў на Зямлі знічкамі. Таму што зоркі ў пару зарападу ляцяць... Ляцяць... І знікаюць. І гэта няпраўда. Іх ловіць сваім сачком мамурык. І робіць ён гэта толькі дзеля таго, каб нідзе, ні на адной планеце, куды можа ўпасці непаслухмяная зорка, не ўзнікла пажару». Прыгодам мамурыка прысвечана тры асобныя аповесці. У першай ён здзяйсняе падарожжа на зямлю і ратуе сваю планету ад распешчанага крата Бутуза. У другой мамурык перажывае мноства новых захапляльных прыгод дый зноў наведвае сваіх сяброў. А ў трэцяй аповесці гэты непасрэдны і цікаўны персанаж робіцца галоўным аранжарэйшчыкам Мамурыі.

Апроч усіх вартасцей, традыцыйна ўласцівым творам Раісы Баравіковай, — займальнасці, змястоўнасці, выключна багатай мовы і іншых, — у сюжэтах гісторый пра міжпланетнага Пажарніка знайшлося адмысловае мастацкае ўвасабленне правіл этыкету, асноўных патрабаванняў да культуры паводзін. Пры тым, гэтая

карысная інфармацыя ўваходзіць у апавядальную канву вельмі нязмушана і арганічна. Дзеля прыкладу — некалькі вытрымак з тэксту: «Для ўсіх, хто хоць нечым падобны да крата Бутуза, заўсёды цікава слухаць чужыя размовы. Але ў нармальным жыцці, сярод нармальных людзей, гэта не што іншае, як нетактоўнасць»; «Пчала ўвесь час, пакуль гаварыў Чмель, папраўляла свой жоўценькі берэцік, а потым з маленечкай сумачкі, падобнай да тых, якія любяць насіць дзяўчынкі, дастала маленькае люстэрка і паглядзелася ў яго, нібыта нават і не ведаючы, што, калі нехта размаўляе з табой, трэба ўважліва слухаць, а не глядзецца ў люстэрка»; «Калі астранаўты палічаць патрэбным расказаць табе пра свой маршрут, яны і самі раскажуць. А празмерная цікаўнасць — адна з рысаў нявыхаванасці» і інш. Несумненна, правілы паводзін, якія вытлумачваюцца ў рэчышчы цікавай мастацкай гісторыі, засвойваюцца асабліва хутка і лёгка. Не будзе перавелічэннем, калі сказаць, што знаёмства чытачоў з творамі Раісы Баравіковай зробіцца заняткам не толькі прыемным, але і карысным.

З прыхільнасцю сустракаюць маленькія чытачы фактычна кожную кнігу Таццяны Мушынскай — аўтара зборнікаў апавяданняў і казак «Віця Неслух у краіне мурашоў» (1995), «Свята печанай бульбы» (2003), зборніка вершаў «Калі тата — Дзед Мароз» (2000). Творы пісьменніцы прасякнуты жаданнем абудзіць у дзяцей фантазію, вобразнасць мыслення, даць ім урокі прыстойнасці і сумленнасці.

У 2008 годзе выйшла новая кніга Т. Мушынскай «Вожыкі ў футбол гуляюць», якую склалі вершы, апавяданні і казкі. Думаецца, і паэтычныя, і празаічныя творы аўтара заслугоўваюць асобнай размовы. Так, у адносінах да вершаў найперш заўважаецца іх выключная рытмічная арганізацыя. Рытм паэтычных твораў — энергічны, бадзёры, па-свойму пругкі, рыфмы — выразныя і трапныя. Між іншым, менавіта рытміка-інтанацыйная дасканаласць з’яўляецца адной з найгалоўнейшых якасцей, якія прываблiваюць дзяцей да ўзораў паэзіі. А ў спалучэнні з маляўнічай вобразнасцю творы набываюць асаблівую прыцягальнасць, запамінальнасць. Вось, дзеля прыкладу, як літаральна двума адмысловымі штрыхамі аўтар намалявала яркі і дакладны вобраз індыка:

Вельмі важны наш індык,
Ён камандаваць прывык.
Ды ў двары смяюцца куры
З фанабэрыстай натуры.

У вершах Т. Мушынскай увасоблены цікавыя пейзажныя замалёўкі, адлюстраваны розныя поры года і віды працы, якія адпавядаюць таму ці іншаму гадавому сезону. Пры гэтым, у большасці твораў нязмушана спалучаецца забаўляльнасць і пазнавальнасць. У якасці ўзору — верш «Ураджай»:

Восень. Яблыкі збіраем,
Назвы мы запамінаем.

Вось аніс — ён жоўта-белы,
Сакавіты, цвёрды, спелы.

Баравінку, баравінку
Не бярэш ты за хвілінку.

Штрыфель, пепінка, ранет —
Смаку, колеру букет!

А антонаў...
Пэўна, тона!

У лазовыя кашы
Восень сыпле ад душы.

Арыгінальнасць дзіцячай паэзіі Т. Мушынскай у адсутнасці стэрэатыпаў, у своеасаблівай пільнасці аўтара да прыроды і да навакольнага свету.

А вось што датычыцца празаічных твораў пісьменніцы, то наўрад ці памылюся, калі скажу, што тут дзяцей надзвычай прываблiваюць самі вобразы герояў, у якіх яны, бясспрэчна, пазнаюць саміх сябе. Пазнаюць свае ўласныя забаўкі, гульні, перажыванні, клопаты, пазнаюць сваіх бацькоў і сяброў, пазнаюць сітуацыі, у якія ім даводзілася трапляць. І гэты момант «пазнавальнасці» — вельмі важны. Праз супастаўленне сябе асабіста з героямі мастацкіх твораў, праз параўнанні ўласных учынкаў і паводзін персанажаў, маленькія чытачы атрымліваюць магчымасць больш аб’ектыўна ацэньваць падзеі, якія з імі адбываюцца. Па вялікім рахунку, яны могуць тут нібыта паглядзяць на сябе вачыма староннага чалавека. Так, напрыклад, у апавяданні «Чаму плакалі кніжкі?» гаворка ідзе пра маленькага хлопчыка Рыгорку, які «гуляў з кніжкамі, як з цацкамі», а таму «амаль ва ўсіх былі адарваныя вокладкі», а старонкі — «пакрэмзаны алоўкамі». Бацькі не ўшчуваюць хлопчыка, яны даводзяць яму, як крыўдна кніжкам і балюча, а пасля пачынаюць разам з сынам выпраўляць сітуацыю: «На наступны дзень Рыгорка разам з татам селі рамантаваць кніжкі. Адшукалі згубленыя старонкі, загорнутыя вуглы адпрасавалі, вокладкі ніткамі прышылі. Старонкі склеілі празрыстай паперай — каб літары не схаваліся». Несумненна, большасці маленькіх чытачоў вядомы такія сітуацыі. І цалкам верагодна, што гісторыя Рыгоркі паўплывае на іх — прымусіць паспачуваць кніжкам, навучыць больш беражліваму стаўленню да іх.

Увогуле, апавяданні Т. Мушынскай — выключна ўдзячны матэрыял для сямейнага чытання. Лаканічныя, але ёмістыя па сэнсе творы здольны зрабіцца добрымі дарадчыкамі не толькі дзецям, але і іх бацькам. Прынамсі, гісторыя Рыгоркі камусьці з бацькоў падкажа, як найлепш патлумачыць дзіцяці каштоўнасць кнігі, неабходнасць яе шанавання — не сваркай, не ўшчуваннямі ці, тым больш, якімі-небудзь пакараннямі, а менавіта займальнай размовай, сумеснай працай па аднаўленні пашкоджаных выданняў.

Альбо яшчэ адна тыповая сітуацыя, увасобленая ў апавяданні «Самы смачны яблык», дзе бацькі даводзяць хлопчыку Алёшу правілы паводзін — каб не сквапнічаў, каб дзяліўся з сябрамі цацкамі, каб запрашаў дзяцей да сябе ў госці... «Алёша моўчкі слухае і думае: «Добра маці так казаць! А як прападзе нешта, дык бацькі першыя ж ушчуваць пачнуць! Маўляў, ён свае цацкі не беражэ. Вунь, даў неяк Сярожу свой зялёны бронетранспарцёр пагуляць. А той умомант адламаў антэну і два колы. Потым я яшчэ і вінаваты застаўся... Дый гэтыя дарослыя... Часам не разумееш, што ім трэба і чаго яны ад цябе хочуць. <...> Запрасіў пазаўчора Віталіка. Зразумела, цікава было. Ён госцю і свае машынкі паказаў, і ў даміно яны пагулялі, і ў більярд. Але бацька застаўся незадаволены, што яны па ўсёй кватэры бегалі, у хованкі гулялі. Казаў, перашкаджалі працаваць». Чытаючы дзецям апавяданне, бацькі наўрад ці абмінуць увагай гэтыя развагі героя. Хутчэй за ўсё, дарослыя задумаюцца-такі пра супярэчлівасць патрабаванняў, перад якімі нярэдка апынаюцца іх дзеці... Дарэчы, фінал апавядання вырашаны цікава і павучальна. Сябар Антон просіць у Алёшы веласіпед. Хлопчык крыху вагаецца, бо асцерагаецца, каб Антон не сапсаваў дарагую рэч, але ўрэшце дазваляе сябру пакатацца. І Антон знікае... Расстроены Алёша вяртаецца дамоў без веласіпеда, але неўзабаве ў дзверы пазванілі. «На парозе стаяў Антон з веласіпедам, а побач — цётка Наташа, яго маці. Адразу было відаць — яна вельмі ўсхваляваная.

— Прабачце, Антон не мог адразу веласіпед аддаць. Ведаеце, што ў нас здарылася?.. Наша маленькая Юлечка нагу падвярнула. А тут, на шчасце, — Антон на веласіпедзе... Пасадзіў Юлю на сядло і — да ўрача.

Праз колькі хвілін, выціраючы слёзы, цётка Наташа дадала:

— Алёша нас літаральна выратаваў! Малайчына! Я заўсёды яго Антону ў прыклад стаўлю. Не ведаю, як вам і аддзячыць... Вось хоць яблыкаў вазьміце...

Яна выняла з торбачкі і працягнула Алёшавай маці цэлафанавы мяшэчак з вялізнымі жоўтымі яблыкамі. Алёша ўзяў самы вялікі, з хрумстаннем адкусіў яго. І яблык падаўся яму на дзіва смачным...» Такім чынам, спалучаючы ў творы два планы, — бліжэйшы і перспектыўны, пісьменніца дэманструе, што часам нават дробны ўчынак можа мець вельмі сур'ёзныя наступствы. А гэта значыць, што ў адносінах з людзьмі заўжды трэба кіравацца прынцыпамі ўзаемадапамогі, чалавечнасці, трэба з малых год вучыцца пераадольваць у сабе эгаістычныя і хцівыя памкненні.

Апавядальны стыль Т. Мушынскай вылучаецца лірызмам, непадробнай цеплынёй і пяшчотай інтанацый. Героі пісьменніцы выклікаюць нязменную сімпатыю, кранаюць сваёй непасрэднасцю і шчырасцю. Арганічнае адзінства этычнага і эстэтычнага надзяляе творы гуманістычнасцю, філасофскім гучаннем.

Захапляльнымі вандроўкамі ў таямнічы свет чарадзействаў зробяцца для маленькіх чытачоў аповесці-казкі Алеся Бадака. Кніга «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» (2001) абяцае прыгоды і неверагодныя дзівосы ўжо самой назвай... І, трэба заўважыць, пісьменнік не расчароўвае чытачоў у іх чаканнях. Апроч аднайменнай з назвай кнігі аповесці-казкі, у яе ўвайшлі яшчэ дзве казачныя гісторыі — «Пра Малпачку Чыту і яе сяброў» і «У цёмным лесе за сіняй рэчкай». Усе тры творы знаёмяць з адмысловымі героямі, надзвычайнымі прыгодамі і шматлікімі цудамі.

Аповесць-казка «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» мае амаль што рэалістычны зачын. Дзесяцігадовы хлопчык Данік, едучы ў аўтобусе, не саступіў месца старой жанчыне — зманіў, што ў яго баліць нага. І раптам нага сапраўды разбалелася... Ды такая дзіўная хвароба здарылася, што лепшыя дактары горада не маглі зразумець, у чым яе прычына. Старэйшая сястрычка Даніка — чатырнаццацігадовая Карына, вырашыла звярнуцца па дапамогу да знахаркі. І знахарка сказала дзяўчынцы, што хваробу яе брату начаравала ведзьма-ліхадзейка. Каб вылечыць Даніка, трэба ісці да Ганесты — уладаркі Краіны Ведзьмаў, толькі яна зможа дапамагчы хлопчыку. Вось так пачынаецца незвычайнае падарожжа дзяўчынкі Карыны ў Краіну Ведзьмаў...

Прыгоды, якія адбываюцца з гераіняй аповесці-казкі А. Бадака, у чымсьці падобныя да прыгод дзяўчынкі Элі Сміт — гераіні знакамітых казак Аляксандра Волкава («Чараўнік Смарагдавага горада», «Урфін Джус і яго драўляныя салдаты» і «Сем падземных каралёў»), якія гэтаксама адбываліся ў Чарадзейнай краіне. Між іншым, вядома, што А. Волкаў, ствараючы гісторыі пра падарожжы Элі Сміт, запазычыў вобраз гераіні, як і пераважную большасць іншых персанажаў, у кнізе «Дзівосны Чараўнік з Краіны Оз» амерыканскага пісьменніка Лаймена Фрэнка Баўма. Праўда, у кнігах Баўма дзяўчынку звалі Дораці.

У казцы А. Бадака сюжэт і героі абсалютна самастойныя, тут няма непасрэдных алюзій з творамі Волкава. Паралелі ўзнікаюць адно на асацыятыўным узроўні ў сувязі з асобнымі і дробнымі рэмінісцэнцыямі. Гэтак жа, як Элі з сябрамі расшуквае Гудвіна, Карына з хлопчыкам Гранем (аднакласнікам Даніка, якому злая ведзьма таксама начаравала хваробу), расшукваюць Ганесту. Героям абодвух твораў даводзіцца пачаргова трапляць у розныя чарадзейныя краіны і тым ці іншым чынам дапамагаць іх насельнікам. А жыхары Далініі і Лясоніі з казкі Алеся Бадака аддалена нагадваюць жавуноў ды мігуноў з казак Аляксандра Волкава.

Аднак увогуле героі казкі «Незвычайнае падарожжа ў Краіну Ведзьмаў» вельмі неардынарныя. А. Бадак надзвычай выразна намаляваў характары сваіх персанажаў. Карына — не толькі разумная, адважная і спагадлівая дзяўчынка, але і добра выхаваная, далікатная. А вось Граня бывае і залішне ўпартым, і празмерна цікаўным, і не надта абыходлівым з некаторымі новымі знаёмымі... Супастаўляючы паводзіны персанажаў, пісьменнік дэманструе, якую ролю ў жыцці людзей адыгрывае ветлівасць: да Карыны ставяцца з увагай, да яе меркаванняў прыслу-

хоўваюцца, яна хутчэй знаходзіць агульную мову з самымі рознымі чарадзейнымі героямі — ад Белай Вароны да ведзьмы Ганесты. А вось Граня з-за выдаткаў свайго характару часцяком трапляе ў непрыемныя сітуацыі.

Фактычна ўсе прыгоды юных герояў утрымліваюць павучальны падтэкст. Напрыклад, гісторыя з наведваннем замка Вірынеі — валадаркі Краіны Гультаёў, дэманструе, як непрывабна выглядаюць тыя асобы, якія нічога не робяць — лянуюцца прыбраць сваё жытло, памыць посуд, прывесці ў парадак свой знешні выгляд... «Пасярод залы стаяў вялікі трон, на якім спала маленькая жанчына. Але што за выгляд быў у яе! Даўно нячэсаныя і нямытыя валасы збіліся ў каўтуны, твар перапэцканы, на руках доўгія недагледжаныя пазногці. Адзенне — кароткая, у тлустых плямах спаднічка і некалі белая, а цяпер брудна-шэрая кофтачка, — відаць, даўно не мянялася і не мылася». У жыхароў Краіны Гультаёў лічылася за гонар лайдачыць, а вось праца — наадварот — выклікала пагарду. Але калі Карына ўзялася за справу — прыбрала ў палацы ды ўгаварыла Вірынею вымыцца і апрануцца ў чыстую вопратку — усё перамянілася літаральна ў адно імгненне... « — Вы толькі паглядзіце — няўжо гэта Яе Вялікасць? Не можа быць! Якая яна харошанькая! А валасы, паглядзіце, якія пышныя ў яе валасы! — шапталіся служанкі, калі Вірынея выйшла з ваннага пакоя і разам з Карынай няспешна накіравалася ў тронную залу. Чыстая, у свежавымытай і высушанай на сонцы белай сукенцы, яна выглядала значна маладзейшай, чым была зусім нядаўна. Ідучы, Вірынея баялася пачуць у свой адрас ціхія насмешкі і кпіны, маўляў, вось яна якая, наша Валадарка, — толькі прыкідвалася, што яна самая вялікая гультайка і неахайніца ў свеце, а на самай справе вунь што творыць. Аднак з усіх бакоў чуліся толькі здзіўленыя воклічы і захапленне». Несумненна, гэты эпізод з'яўляецца своеасаблівым намёкам маленькім чытачам, наводзіць іх на думкі пра гультайства і нядбайства.

Не менш павучальнай з'яўляецца гэтаксама сустрэча Карыны і Грані з феяй Неанілай — валадаркай Краіны Пластмасавых Чалавечкаў. Недарэмна фея — «дзяўчынка гадоў сямі з прыгожым белым бантам у светлых валасах». У вобразе феі шмат якія чытачы пазнаюць саміх сябе, задумаюцца пра беражлівае абыходжанне з цацкамі, якія пакутуюць ад шматлікіх паломак ды няспраўнасцей.

Інакш кажучы, у аповесці-казцы Алеся Бадака, апроч захапляльных перыпетый і чарадзейных дзівосаў, нязмушана ўвасабляецца выхаваўчы сэнс, сцвярджаецца каштоўнасць сяброўства і ўзаемадапамогі. Менавіта дзякуючы ўзаемнай падтрымцы Карына і Граня годна пераадолелі ўсе выпрабаванні і спраўдзілі пастаўленую мэту. Казка па-свойму адкрывае дзецям свет чалавечых пачуццяў, выклікае ў іх цікавасць да ўнутраных перажыванняў асобы, абуджае здольнасць да спагады і суперажывання, пратэст супраць зла і несправядлівасці.

...Як бачна, сёння ў нашай літаратуры для малодшых чытачоў няма дэфіцыту цікавых твораў. Сучасныя ўзоры мастацкай літаратуры, адрасаваныя юным аматарам прыгожага пісьменства, — шматфарбныя і шматаблічныя, вельмі адрозныя паводле сюжэтаў, вобразнасці, стылёвых асаблівасцей і кампазіцыйных прынцыпаў... Але, тым не менш, шмат у іх і агульных якасцей — вобразная мова, гранічна дакладная маральна-этычная накіраванасць, глыбокая чалавечнасць.

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# ПА-МАЙСТЭРСКУ ЯРКА, ПРАЎДЗІВА, ПЕРАКАНАЎЧА

Ужо амаль паўстагоддзя Уладзімір Гніламёдаў займаецца вывучэннем і даследаваннем беларускай літаратуры. Доктар філалагічных навук, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1972 года, ён вельмі часта выступае ў друку з рэцэнзіямі на кнігі, артыкуламі па гісторыі беларускай літаратуры, па фундаментальных і актуальных пытаннях сучаснага творчага працэсу. Кола навукова-літаратурных інтарэсаў У. Гніламёдава вельмі шырокае. Ён — аўтар многіх кніг: літаратуразнаўчых, зборнікаў літаратурна-крытычных артыкулаў, манаграфій. Стварыў нямала творчых партрэтаў знакамітых пісьменнікаў, у тым ліку Я. Купалы, П. Броўкі, К. Кірэенкі, А. Куляшова, І. Мележа, Е. Лось. Лаўрэат літаратурных прэмій імя У. Калесніка, «Залаты Купідон» і прэміі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, ён з'яўляецца таксама рэдактарам шматлікіх навуковых прац, нястомным прапагандыстам мастацкага слова.

Не менш таленавіта У. Гніламёдаў заявіў аб сабе і як празаік. Яго раманы «Уліс з Прускі», «Расія», «Вяртанне» — адметны ўклад у развіццё нацыянальнай прозы, выдатны працяг мастацкага летапісу жыцця народа, распачаты нашымі вялікімі папярэднікамі, значная з'ява ў сучаснай беларускай літаратуры, яе новы, магутны пласт, узняты і паказаны глыбока, пераканаўча, па-майстэрску. Галоўны герой рамана «Уліс з Прускі» — вясковы юнак з Брэстчыны Лявон Кужаль едзе ў Амерыку, знаёміцца з нязвыклым для яго светам і новай філасофіяй жыцця. Нямала самых розных нечаканасцей, горычы, пакут, страт і расчараванняў на яго дарозе. Аўтару ўдалося стварыць цікавыя, яркія вобразы, пераканаўча, дакладна перадаць каларыт тагачаснага жыцця, побыт, звычкі, сацыяльныя ўмовы, павер'і, гістарычныя падзеі. У гэтым плане імя пісьменніка У. Гніламёдава можна смела паставіць побач з іменем знакамітага Вальтэра Скота, па выдатных раманах якога можна вывучаць гісторыю цэлай эпохі ў жыцці еўрапейскіх краін.

Раман «Расія» ў значнай ступені з'яўляецца працягам першага твора. І не толькі таму, што ў ім адзін і той жа галоўны персанаж. Пісьменнік працягвае паказ эпохі, жыцця народаў, якое ўзаемазвязана, нягледзячы на вялізныя геаграфічныя адлегласці. «Расія» ахоплівае падзейна-часавыя рамкі ў некалькі найбольш складаных гадоў у гісторыі чалавецтва: 1914—1922 гг., той час, калі ў Еўропе і Расіі бушавалі Першая сусветная вайна, рэвалюцыя, грамадзянская вайна, шматлікія мяцяжы і паўстанні.

У цэнтры ўвагі аўтара жыхары беларускай вёскі Пруска Гродзенскай губерні (сучаснай Брэстчыны), якія з-за вайны і набліжэння фронту вымушаны здымацца з родных месцаў і ад'язджаць у невядомы край, у Расію. Шлях прускаўчан пад наглядам вайскоўцаў пралягае (спачатку на асабістых павозках) праз Бярозу-Картузскую, Кобрын, Пінск, Гомель і да Бранска, а затым (ужо на цягніку) праз Калугу, Саратаў, Пензу, Самару да станцыі Непрык. І ад станцыі прыбыцця (зноў на павозках, але цяпер — мясцовых) — у сяло Запалоннае Борскага павета Самарскай губерні. Аповед шырока ахоплівае сацыяльна-грамадскае жыццё Расіі ў дарэвалюцыйны час. Тут і карціна быту сялянства Заходняй Беларусі, і вайна з

яе жахлівымі бесчалавечнымі праявамі, і бежанства, з яго цяжкасцямі і пакутлівай няпэўнасцю, і расійская глыбінка са звычаямі і норавамі мясцовага люду, і падзеі ў свеце… Не абыходзіць аўтар і тэмы ўлады, Царквы, роднасці славянскіх народаў, рэвалюцыйных хваляванняў, працы, вялікага кахання…

Асноўным героем рамана можна з поўным правам назваць народ, простых людзей, звычайных працаўнікоў. Праз паказ жыцця многіх беларускіх сялян, галоўным чынам сям'і Кужаляў, і многіх хлебаробаў расійскага сяла Запалоннага, у прыватнасці, сям'і Платонавых, аўтар стварае панараму гісторыі тагачаснай краіны, яе народаў, кажучы словамі вялікага Льва Талстога, «через личное постигает страсти эпохи».

Нетаропка апісваючы жыццё заволжскіх і беларускіх сялян, пісьменнік раскрывае душу народа, яго запаветныя думкі, пачуцці і памкненні, перадае нацыянальны дух. І ва ўсім гэтым — працяг літаратурных традыцый Я. Коласа, М. Гарэцкага, К. Чорнага, М. Шолахава, І. Мележа… Адчуваецца, што У. Гніламёдаў добра ведае тое, аб чым піша і што хоча сказаць, улічвае гістарычныя рэаліі мінулага стагоддзя і ацэньвае іх, высвечвае сучасным позіркам, не скажаючы гісторыі і жыцця народа.

З першых старонак рамана аўтар паступова стварае вобраз вайны — вераломнай, пачварнай і непатрэбнай, у якой вымушаны гінуць перш за ўсё тыя, хто не разумее, за што павінен аддаваць сваё жыццё. Яна спачатку грыміць далёка, палохаючы з чужых тэрыторый, з'яўляючыся напачатку толькі эпізадычным фонам аповеда. Але вось яна насоўваецца на жыхароў Прускі. Пачынаецца мабілізацыя. Прыходзяць першыя пахавальныя лісты. Набліжаецца фронт…

Ураднік Канстанты звяртаецца да вяскоўцаў: «Не дай бог, што яны робяць! Скуру, я вам далажу, жыўём з мужчын злупліваюць, кішкі крукам дастаюць, а ў жанок цыцкі адразаюць!» На яго хаце вісіць жахлівы плакат, на якім нямецкі салдат — вусаты, у жалезным шлеме з шышаком — праткнуў штыком дзіця і падняў яго ўгору.

Прыспешваюць да ад'езду і казацкія раз'езды.

З вялікім болем і жахам перад невядомасцю сяляне падаюцца ў бежанства. І неўзабаве трапляюць у лавіну адступаючага войска і такіх жа, як і яны самі, гаротнікаў.

Уцякаючы ад фронту, прускаўцы часта здзіўляюцца, заўважаючы, што людзі жывуць як звычайна, быццам нідзе не страляюць гарматы і не ліецца кроў, не гінуць людзі, не пакутуюць мірныя жыхары. Так, напрыклад, гуляючы па вуліцах ранішняй Самары ў час працяглай стаянкі цягніка, яны натыкаюцца на купецкі дом, з акон якога ліецца вельмі вясёлая музыка, далятаюць разухабістыя песні:

Ах, зачем эта ночь
Так была хороша-а..
Не болела бы грудь,
Не страдала душа-а…

А затым:

Всюду деньги, деньги, деньги,
Всюду деньги без конца-а…
А без денег жизнь плохая,
Не годится никуда-а…

Здзіўленне простых бежанцаў зразумелае, бо яны ведаюць, што руская армія ў гэты час сцякае крывёю, войскі кайзера гоняць яе, а «ёй не хапала снарадаў, вінтовак, ботаў, медыкаментаў…»

Такія супрацьпастаўленні падкрэсліваюць, што Расія не была гатовая да вайны, ды і вайна гэтая — вялікая трагедыя, што прывядзе да нечуваных зрухаў, непапраўных страт. Вайна, якая з'яўляецца самым подлым аргументам у справах звышбагатых і звышуладных асоб.

У творы яскрава паказана любоў аўтара да свайго народа. І ў сувязі з гэтым прыгадваюцца дакладныя словы славутага рускага празаіка Андрэя Платонава: «Писать надо не талантом, а человечностью — простым чувством жизни». Пацвярджэннем гэтага — вобраз старога Кірылы Кужаля, разважлівага хлебароба, які памірае ў дарозе, яго дачкі Марылі і ўнука Лявона Кужаля, цэнтральнага героя рамана. Не меншыя сімпатыі ў аўтара і да дзяцей. Праз учынкі, думкі, памкненні персанажаў рамана пісьменнік паказвае ўласцівыя беларусам працавітасць, цярплівасць, стрыманасць, асцярожнасць, глыбінную дабрыню, — што ўрэшце сведчыць аб мудрасці і сіле духу народа. Да адметных аўтарскіх удач варта аднесці вобраз маці Марылі Кужаль. Гэта простая і ў той жа час інтэлігентная жанчына, мудрая і клапатлівая. Маці з вялікай літары, якой уласцівы самыя лепшыя рысы прадстаўніка беларускага народа.

Апынуўшыся ў далёкіх, зусім незнаёмых мясцінах, сярод чужых людзей, беларускія сяляне, сумуючы па радзіме, дзе нават і снег мае іншы пах, не пакідаючы імкнення аб хутчэйшым вяртанні дамоў, не згубіліся, не раскіслі. Яны ўрастаюць у мясцовае жыццё, працуюць, не забываючы ні на хвіліну, што чужы хлеб можа быць і горкім, нават калі ён прынесены братамі ад усёй душы.

Праўдзіва, з вялікай сімпатыяй малюе аўтар карціны жыцця хлеваробаў сяла Запалоннае Самарскай губерні пачатку XX ст. Дапоўненыя кароткім экскурсам у мінулае, яны даюць цэласнае ўяўленне аб жыцці Заволжжа, нашчадкаў тых, хто калісьці зведаў горкую вольніцу разам са Сценькам Разіным і Емяльянам Пугачовым. Паўстае галерэя розных характараў, тыпажоў. Сялянства, безумоўна, неаднароднае. Запраўляюць у Запалонным заможныя сем'і Ільі Платонава, Івана Мілягіна, Елізара Сісяйкіна, Лукі Блінова, Яфімава, Чапурных, Бурлакова. Асобна трымаецца багацей Нікабалаў, які лічыць сябе памешчыкам і хоча, каб перад ім здымалі шапкі і кланяліся здалёку. Заможныя сем'і ў пераважнай большасці — рабацягі, мазольнай працай дасягнулі ўсяго, што маюць. Такімі з'яўляюцца і Платонавы, якія прытулілі ў сябе пяцярых Кужаляў. Аддалі ім палову хаты, выдзелілі кавалак зямлі, нічым не крыўдзілі, частавалі як родных. У Платонавых вялікая гаспадарка: 17 коней, 8 кароў, 200 дзесяцін ворыўнай зямлі, сад, пчальнік, дробная жыўнасць. Яшчэ бацька Ільі Платонава пачынаў ствараць гаспадарку, але павялічыў яе ў апошнія гады сам Ілья. Меў некалькі наёмных работнікаў, «Трымаў на ўсім, як ён казаў, «давольствіі» ды яшчэ і грашыма рублёў трыццаць плаціў і хлеба даваў пудоў пяць. Рукавіцы ды лапці ў яго работнікаў былі таксама гаспадарскія».

Працавітаму беларусу Лявону Кужалю, які паспытаў фермерскага хлеба ў Амерыцы, па душы гаспадар. «Лявон даўно заўважыў, што калі да чалавека ставішся добра, дык і той плаціць дабром». Любіць стараннага і спакойнага Лявона і гаспадар.

Ёсць у Запалонным і серадznякі: Вярзіліны, Пераверзевы, Сарокіны, Рэпіны, Краснавухавы, тыя «хто меў двух коней, і карову або аднаго каня і дзве каровы», а таксама дробную жыўнасць.

Аднак пераважная большасць жыла бедна, многія ледзь зводзілі канцы з канцамі. Хтосьці, як Фролка, трапіў у кабалу да заможных і вымушаны адпрацоўваць даўгі на працягу сямі год. Нехта, як Япішка Цюрын, марна імкнуўся пракарміць вялікую сям'ю, працуючы на сваім маленькім лапічку зямлі з раніцы да вечара. Шмат хто жылі, як Каросціны: «Малазямельныя. У хаце — гліняная падлога, дзеці і тут жа — парасяты. Зімой у хату прыводзілі цяліцца карову».

Ужо ў самым пачатку рамана мы знаёмімся з мясцовым рэвалюцыянерам Міхаілам Касякіным. У першы ж вечар ён заінтрыгаваў бежанцаў сваёй прастатой і ўвагай. Але і насцярожыў: «У нас людзі добрыя, багацеі, праўда, не надта, а хто пабядней, з тым дзела можна мець». Міша Касякін пасябраваў з Лявонам

Кужалем. У Запалонным ён пад наглядам урадніка, да гэтага вучыўся ў Самары, але за ўдзел у рабоце рэвалюцыйнай арганізацыі быў адлічаны і вымушаны вярнуцца дамоў. Лявон Кужаль заўважыў, што «размовы пра будучыню, пра тое, як людзі павінны жыць, — Мішын канёк, яго любімая тэма». Дружба іх не выпадковая і не марная. Паступова ў беларуса прачынаецца ў душы імкненне да справядлівасці, да барацьбы за свае інтарэсы і абароны прыгнечаных. Лявон нават заяўляе аднойчы гаспадару ў абарону Касякіна: «Майсееў закон забылі!.. Майсей завяшчаў не трымаць у кабале больш за сем гадоў!» З нарастаннем рэвалюцыйных падзей і вобраз Міхаіла Касякіна ў рамане набывае ўсё больш пэўныя абрысы. Ён актыўна адстойвае ў Запалонным народную ўладу, дапамагае бальшавікам, хоць і робіць гэта ў значнай ступені падсвядома, часам стыхійна. Пісьменнік не адыходзіць ад жыццёвай праўды, паказваючы барацьбу за ўсталяванне савецкай улады і яе прадстаўнікоў у глухім сяле ва ўсёй супярэчлівасці і суб’ектыўнасці.

Апрача вобраза Міхаіла Касякіна ў рамане «Расія» паказана цэлая галерэя вобразаў барацьбітоў за сацыяльную справядлівасць, прадстаўнікоў бальшавіцкай партыі і савецкай улады. Адным з яркіх з’яўляецца вобраз рэвалюцыянера-міжнародніка, аднаго з бальшавіцкіх кіраўнікоў Андрэя Кляновіка. Сустракаем мы яго спачатку ў рамане «Уліс з Прускі», падзеі якога цалкам адбываюцца ў Амерыцы. Лёс галоўнага героя Лявона Кужаля пераплятаецца з лёсам Андрэя Кляновіка і ў рамане «Расія», калі апошні дапамагае Кужалю вярнуцца на малую радзіму. Але найбольш гэты вобраз набывае сваё раскрыццё ў рамане «Вяртанне», дзе ён падпольна дзейнічае на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў Польшчы.

Несумненная аўтарская ўдача — і вобраз бальшавіка, старшыні запалонаўскага рэўкама Пяцельнікава.

У рамане адметна паказана шырыня, незвычайнасць рускай душы, прасочана роднасць народаў, якія маюць адны карані, агульную гісторыю і вялікую Радзіму. Як сапраўдныя браты сустракаюць заволжскія жыхары беларускіх сялян, нягледзячы на рознае становішча ў грамадстве. «Беларусы — малодшыя брацця», — суцяшае бежанцаў мясцовы стараста Іван Мілягін. Жыхары Запалоннага падтрымліваюць пакутнікаў і маральна, і матэрыяльна, частуюць, хто чым багаты, наладжваюць шчодры прыём. Селяць спачатку ўсіх у адным памяшканні, а пазней рассяляюць сем’ямі па хатах. Роднасць гасцей і мясцовага люду падкрэсліваецца і праваслаўнай верай. Царква ў рамане пададзена як неад’емная частка духоўнага жыцця народаў. Яна і народная, і патрыятычная. Айцец Глеб, пакідаючы Пруску, забірае з сабой і царкоўны звон, каб той не дастаўся немцам, якія маглі б пераплавіць яго на зброю. Айцец Сергій звяртаецца ў сваёй пропаведзі да запалонаўцаў: «Да вас прыбылі бежанцы з Беларусі, роднасны нам народ. Славяне. Неспазнаныя шляхі господнія. Цяпер гэтыя людзі жывуць у многіх нашых гарадах і сёлах. Патрэбна ім дапамагчы. Вайна з германцам хутка скончыцца, і бежанцы, дасць Бог, вернуцца». Ён жа, падбадзёрваючы ўсіх, гаворыць падчас святкавання Масленіцы: «Рускі народ пераможа супастата. Рускі народ — баганосец».

Добрыя адносіны складваюцца не толькі паміж дарослымі прускаўцамі і запалонаўцамі. Моладзь таксама знаходзіць агульную мову. Дзеці атрымліваюць магчымасць вучыцца. А паміж Лявонам Кужалем і мясцовай жанчынай Фёклай узнікае высокае, вялікае ўзаемнае каханне. Хоць не ўсё так проста — бо Фёкла замужам. Але адносіны з мужам (старэйшым сынам Ільі Платонава) у яе не склаліся. Ды і замуж яе выдалі бацькі, каб толькі збыць з рук. У Фёклы ў сям’і адна радасць — сынок Васятка. Марачы аб сапраўдным шчасці, прыгожая, сціплая і працавітая, яна адчула ў Лявоне таго чалавека, з якім яе мара можа ажыццявіцца. Лявон таксама глыбока адзінокі, у дарозе загінула Ганна, жанчына, якую ён кахаў. Пакахаўшы, Фёкла і Лявон смела, з гонарам адстойваюць свой выбар,

свае пачуцці, сваё права на шчасце. Шмат перашкод перад імі, але яны настойліва пераадольваюць іх. Вобраз Фёклы — адзін з адметных і яркіх жаночых вобразаў у нашай літаратуры. Яго смела можна паставіць поруч з вобразам мележаўскай Ганны.

У рамане «Расія» У. Гніламёдаў па-майстэрску выкарыстоўвае мастацкую дэталь. І ў першую чаргу пры апісанні быту, перадачы характару, стварэнні каларыту эпохі і арыгінальнасці мясцовых звычаяў. Аўтарская чуйнасць, яго ўважлівы позірк праходзяць праз усё мастацкае палатно. Кожная дэталь набывае глыбокае ўнутранае значэнне. Ці гэта змены ў наваколлі, ці подых ветру, выгляд месяца, рып павозкі, ці асаблівасці позірку, голасу, усмешкі героя, ці пах, колер, гук — усё з'яўляецца пэўным знакам, напоўнена прыхаванай энергіяй, мае глыбокі сэнс. А ў выніку — працуе на адметнасць вобраза, жывую праўдзівасць, аўтарскую задумку.

Вось, напрыклад, некалькі фрагментаў апісання Масленіцы ў Запалонным: «На стале было багата страў. Некалькі пляшак гарэлкі былі атулены смажанай рыбай, пірагамі, ладнай горкай бліноў на талерцы. Тут жа стаялі сподачкі з кетавай ікрой. У глыбокіх гліняных місках курыліся гарачай парай адвары — курыныя, гусіныя, качыныя… На шырокіх драўляных проціўнях ляжалі барановая грудзінка, свінячыя патрахі, зайчаціна з рэпай, каўбасы, рубцы, карасі ў смятане. Але галоўнае дзіва знаходзілася ў цэнтры стала — аграмадны, у метр даўжынёй, засмажаны парсюк. Так і стаіць на падагнутых ножках — лычом да гасцей».

Цікавыя і каларытныя вобразы герояў — аўтар стварае яркія партрэты: «Падкручваў вусы Нікабалаў. Твар яго, абкладзены кароткай кучаравай бародкай, ружовіўся, на ім смешна, як прыклеены, глядзеўся тоўсты нос. Нікабалаў быў празмерна поўны. Праз лысіну, ад вуха да вуха пралягла намасленая пасмачка валасоў, якія яшчэ крыху раслі на скронях. Побач з каханкам сядзела Фяўроня. Зняўшы з галавы чырвоную хустку, яна адкрыта любавалася сабою, паварочвала ўлева і ўправа густа напамаджаны круглы твар, усміхаючыся, капрызна акругляла поўныя нафарбаваныя вусны. Выпівала і закусвала Фяўроня без прынукі. Брала ежу відэльцам, адтапырваючы ўбок мізінец, і асцярожна клала кавалак у рот».

Масленіца святкуецца тыдзень, з размахам. Святкуюць усе. Не абыходзіцца без бойкі, якая істотна дапаўняе шырыню, загадкавасць рускай душы: «Вярзілін — у плячах аглобля — валіў усіх, хто трапляў пад руку, і яшчэ прыгаворваў:

— Бей, крушы беза ўсякава якава!

Падобна было, што ён не разбіраўся, дзе свае, а дзе чужыя. Ад яго ўцякалі, хто як мог, а тыя, каго даставаў рукамі, валіліся ці асядалі ў снег. Спірыдон біў усмак, нават з нейкай асалодай. Старыя падначвалі задзіраку:

— Удар яго! Удар!

Уражанне было такое, што гэтыя людзі калі не страцілі пачуцця меры, дык далі волю тым сілам, якіх зашмат накапілася ў запалонаўцаў, і яны, захлёбваючыся ад гэтага свайго лішку, спяшаліся, як найхутчэй ад яго вызваліцца».

Выразна, жыва апісаны і іншыя сцэны з жыцця сялян Запалоннага. Яны настойлівыя ў працы, палкія ў скоках: «Ілья Аляксандравіч не ўтрымаўся, выпіў і раптам бразнуў аб падлогу чарку, няскладна прыгнуўся, шумна пляснуў сябе далонямі па сцёгнах, потым павярнуўся, падскочыў і зноў пляснуў даланёй — цяпер ужо па халяве… Ён і падскокваў, і прытопваў, і, падняўшы калена, біў па ім далонямі. Прускаўцы глядзелі і не маглі зразумець, адкуль у чалавека такая сіла? Столькі энергіі, жыццярадаснасці».

Асобна варта падкрэсліць дынамізм дзеяння ў рамане. Ён дасягаецца, па-першае, апісаннем дарогі бежанцаў з-пад Брэста за Волгу, і пасля — назад, паказам навізны быту, а па-другое, частымі і непрацяглымі экскурсамі ў мінулае герояў, у

гісторыю краю, і па-трэцяе, насычанасцю падзей, звязаных з вайной, рэвалюцыяй, паўстаннямі і бунтамі, а яшчэ — шматлікімі персанажамі, многімі сюжэтнымі лініямі. Усё гэта і дае падставу зазначыць, што пісьменнікам створаны значны твор, які з'яўляецца важкім мастацкім словам у беларускай літаратуры. Аўтар асвоіў новыя падзейна-часавыя, тэматычныя і тэрытарыяльныя пласты, стварыў цэласны вобраз эпохі, паказаў шырокую карціну жыцця сялянства, глыбінную роднасць славянскіх народаў.

Героі рамана У. Гніламёдава «Расія» атрымалі свой жыццёвы працяг у яго новым рамане «Вяртанне». У ім расказваецца пра вяртанне прускаўскіх бежанцаў на радзіму ў 1922 годзе. Пасля сямі гадоў выгнання галоўнага героя твора Лявона Кужаля і яго аднавяскоўцаў чакалі не толькі зарослыя хмызняком родныя котлішчы, беднасць і нястача, але і іншая дзяржава — адноўленая Польшча. Тут, у ваколіцах Белавежскай пушчы, бурлілі не менш высокія хвалі палітычных страсцей, бо надта шмат было незадаволеных існуючым рэжымам. Аўтар акунае чытача ў вір новых падзей, паказвае сваіх герояў у новых абставінах, перад новымі праблемамі. І робіць гэта пераканаўча, па-майстэрску, дакладна матывуючы паводзіны і перадаючы каларыт таго часу. Са з'яўленнем цыкла раманаў У. Гніламёдава наша літаратура істотна ўзбагацілася творамі агульнанароднай тэматыкі. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што яны адносяцца да той літаратуры, якая па словах акадэміка Д. Ліхачова «нясе нам каласальны, агромністы і вельмі глыбокі вопыт жыцця. Развівае ў чалавеку не толькі пачуццё прыгожага, але і разуменне жыцця, усіх яго складанасцей…»

Між тым, аўтар яшчэ не паставіў кропку ў сваім цыкле раманаў, не развітаўся са сваімі героямі. У нас ёсць магчымасць прайсці разам з імі па іх нялёгкіх жыццёвых дарогах, праз змаганне за права жыць годна і вольна на роднай зямлі. Упэўнены, што пісьменнік паспяхова справіцца з пастаўленымі перад сабой задачамі.

Наталля МІЦКЕВІЧ

# ДОЎГАЯ ДАРОГА*

*(ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)*

## Янка Маўр вярнуўся ў Мінск

Як я ўжо гаварыла, у гады вайны ў майго бацькі склаліся вельмі цяжкія жыццёвыя абставіны. Ён не мог уладкавацца на работу, грошай амаль не было. Ён галадаў і вельмі балюча пераживаў такое сваё становішча. А пасля цяжка захварэў. Жыццё ў ім падтрымлівалася толькі жаданнем вярнуцца ў Мінск, дзе зноў будзе запатрабаваным, паважаным чалавекам, зможа працаваць на карысць роднай Беларусі. І калі ўлетку 1944 года Мінск быў вызвалены ад нямецкіх акупантаў, то бацька адзін з першых сярод пісьменнікаў вярнуўся сюды. Па прыездзе жахнуўся ад пабачанага — уся цэнтральная частка горада ляжала ў руінах. Жылы фонд быў знішчаны больш чым на 80 працэнтаў, будынкі захаваліся толькі на ўскраінах. У адным з іх ён атрымаў пакой. У двух іншых уладкаваўся Максім Танк са сваёю сям'ёю. У гэтым жа доме па Беларускай, цяпер Ульянаўскай, вуліцы, што насупраць стадыёна «Дынама», пасяліліся Пятрусь Броўка, Барыс Малкін, сям'я Кузьмы Чорнага і іншыя. Калі ж для пісьменнікаў пабудавалі дом на рагу вуліц Карла Маркса і Энгельса, то бацька атрымаў у ім трохпакаёўку на другім паверсе. Яго суседзямі па пляцоўцы былі Піліп Пестрак і супрацоўніца літфонда М. Хайноўская. Паверхам вышэй уладкаваўся Іван Мележ, які часцяком заходзіў да бацькі, любіў з ім пагутарыць. У гэтым жа доме жылі Ніл Гілевіч, Іван Навуменка, пасля — Уладзімір Караткевіч. Цягам часу многія пісьменнікі атрымалі большыя кватэры і перабраліся ў іх, а мой бацька застаўся ў гэтай да канца свайго жыцця. Цяпер там жыве яго старэйшы ўнук Сяргей.

На большай жылплошчы было дзе спыніцца, таму сталі часцей наведваць бацьку Шура і яго любімы сын Арсень. Абодва даўно жылі ў Маскве. Арсень арганізаваў сумесную работу з адным з мінскіх даследчых інстытутаў і там, дзе працаваў сам. Гэта дазволіла часцей прыязджаць у Мінск у камандзіроўкі, дзе заставаліся і яго сябры па ўніверсітэце. Часу хапала і на абсталяванне бацькоўскай кватэры. У гэтай справе Арсень быў майстрам на ўсе рукі.

Бацька заняў самы ціхі пакойчык, вокнамі ва ўнутраны двор, дзе было ціха і малалюдна. Вокны іншых пакояў выходзілі на шумную вуліцу Карла Маркса. Арсень паставіў ля цёплай унутранай сценкі тахту, на якой бацька праводзіў большую частку часу. Паміж тахтой і тумбачкай, з радыёпрыёмнікам і тэлефонам, размясціў «гасцявое крэсла», на якім звычайна ўладкоўваліся наведвальнікі. Насупраць знаходзіўся вялікі пісьмовы стол, а перад ім любімае крэсла бацькі. Побач стаяла невялікая кніжная паліца. Пакой меў двое дзвярэй, што вялі ў калідор і маленькі пакойчык, які заняла маці.

Арсень змайстраваў бацьку свайго роду пульт кіравання, з дапамогай якога ўключалася асвятленне пакоя, радыёпрыёмнік, а таксама грэлка пад яго крэслам. Неяк бацька даведаўся, што вібрацыя нібыта аказвае карысны ўплыў на арганізм

* Працяг. Пачатак у № 3, 4, 5, 7, 8, 2011 г., № 1, 2012 г.

чалавека, і яму прыйшла ў галаву ідэя прыстасаваць да сядзення «гасцявога крэсла» вібратар. Гэты вібратар таксама ўключаўся з яго пульта. Пасля гэтага сядзенне пачынала здорава вібрыраваць пад магутны шум электрамагніта. Бацька любіў паджартаваць над тым ці іншым госцем, непрыкметна пераключаючы тумблер. Ад нечаканасці госць усхопліваўся з крэсла, не разумеючы, што здарылася. Тады бацька выключаў электрамагніт і смяяўся разам з «празвоненым» чалавекам. Здаралася, што наведвальнікі крыўдзіліся, таму даводзілася старанна вызначыць, над кім можна пажартаваць, а над кім — не.

Аднойчы Сяргей прыйшоў да дзеда са знаёмым следчым А. Касоўскім. Бацька пасадзіў яго ў «гасцявое крэсла» і праз некаторы час уключыў вібратар. Але Касоўскі працягваў спакойна сядзець, не звяртаючы ўвагі на вібрацыю і шум. Гэта быў адзіны чалавек, які, як быццам, не заўважаў трасяніны, што зацікавіла старога жартаўніка і, выключыўшы вібратар, ён запытаўся, як яму ўдалося так спакойна перанесці шум і трасяніну. У адказ пачуў, што за гады працы следчага ён вытрываў шмат небяспечных «жартаў». Адзіны спосаб супрацьстаяння такім «жартам» — толькі заспакоенасць.

У выніку «жарту» і размовы Касоўскі і бацька спадабаліся адзін аднаму, і пасля следчы час ад часу заходзіў да яго і расказваў аб сваіх найбольш цікавых і небяспечных прыгодах. Прыходзілі таксама маладыя пісьменнікі, журналісты, якім цікава было паслухаць Івана Міхайлавіча з яго вялікім жыццёвым вопытам. Аднойчы адзін журналіст пацікавіўся, хто яго дзеці па прафесіі, дзе працуюць і ці не перадаўся каму-небудзь з іх ягоны талент. Бацька адгукнуўся жартам, сказаўшы, што ў гэтых адносінах атаясамлівае сябе з куркай, якая павяла свой вывадак на вадапой, а кураняткі ўзялі ды паплылі па ручаі, а яна адна засталася на беразе. Аказалася, што яна вывела «качанят». Так і ўсе яго дзеці, як тыя качаняты. Два сыны — фізікі, абедзве дачкі — інжынеры.

Не магу пагадзіцца з тым, што мы толькі «качаняты», бо амаль кожны з нас у большай ці меншай ступені атрымалі яго настаўніцкі і нават пісьменніцкі талент. Калі бацька быў настаўнікам сярэдняй школы, то трое з нас сталі выкладчыкамі вышэйшай школы. Яго старэйшы сын Фёдар на працягу многіх гадоў выкладаў ва ўніверсітэце тэарэтычную фізіку, дачка Аляксандра — інжынер-электрык, у блакадныя гады ў Ленінградзе скончыла электратэхнічны інстытут, пасля выкладала ў ваенна-інжынернай акадэміі электратэхніку. Ну а я, малодшая дачка, інжынер-механік па адукацыі, больш як трыццаць гадоў выкладала ў Беларускім політэхнічным інстытуце тэорыю механізмаў і машын. Атрымалі мы ў спадчыну ад бацькі магчымасць дакладна і ясна тлумачыць свае думкі. І калі бацька пісаў мастацкія творы, то трое з яго нашчадкаў напісалі і абаранілі кандыдацкія дысертацыі, а Фёдар яшчэ і доктарскую. Фёдар напісаў шэраг унікальных манаграфій і шмат артыкулаў па кірунку сваёй работы. Яго нават запрашалі ў адзін з амерыканскіх універсітэтаў прачытаць курс лекцый па ягоных распрацоўках. Там жа, у Амерыцы, была выдадзена фактычна яго кніга, толькі пад аўтарствам нейкага Чэна. Фёдар вельмі перажываў нахабны плагіят. У гэтую манаграфію трапіла пара тых самых памылак, якія Фёдар выявіў у сваёй рабоце. Мой брат быў адным з ініцыятараў арганізацыі даследчага інстытута фізікі Акадэміі навук. Пад яго кіраўніцтвам выхавана цэлая плеяда фізікаў-тэарэтыкаў. Яму належыць адно адкрыццё. За вялікі ўклад у навуку яго абралі акадэмікам Акадэміі навук БССР, дзе ён на працягу двух дзесяцігоддзяў працаваў на пасадзе акадэміка-сакратара аддзялення фізікі і матэматыкі. Ён пакінуў яркі след у сваёй галіне, адзначаны шэрагам ганаровых прэмій, яму было прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. І не толькі ўнёс важкі ўклад у фізіку, але і ў матэматыку. Ён пісаў лірычныя творы. Частку з яго вершаў Міхась уключыў у зборнік паэтычных намаганняў фізтэхаўцаў. Паколькі зборнічак выйшаў невялікім накладам і ў продаж не паступіў, то прывяду некаторыя з яго твораў.

ККК

За партой школьной когда-то
Я байки Крапивы читал,
Но стать коллегою Кондрата,
Конечно, даже не мечтал.
И вот теперь, в душе волнуясь,
Я очень счастлив честью той,
Что Вас приветствовать могу я
Пусть неумелою строкой.
То баснописец, то филолог,
То академик, то герой, —
Ваш облик всем нам очень дорог
Своею скромной простотой.
Пришлось немало всякой дряни
Громить Вам в пьесах и стихах,
А в грозный час на поле брани
Стоять с оружием в руках.
И на страницах, как в сраженьях,
Верна рука и зорок взгляд.
Разите Вы в своих твореньях
Все то, что тянет нас назад.
И предстает пред Вашим взором,
Как в свете лазерных лучей,
Плеяда Зелкиных позорных
И всяких прочих ловкачей.
Но тот, кто честно в жизни бьется, —
О том у Вас своя мечта,—
Пускай последним он смеется!
Ему — бессмертные врата!
В день юбилейный жизни яркой
Вам, наш любимый корифей,
Все — от ученых до доярки —
Мы шлем привет сердечный, яркий
Под чистый звон заздравной чарки
От Белоруссии от всей!
Вчера в преддверье юбилея
Я долго думал — как мне быть?
Не мог я ямба от хорея,
Как ни старался, отличить.
И пребывал в немалом страхе:
Анапест или амфибрахий
Не мог я тоже одолеть.
А надо ж Крапиву воспеть!
Но хоть я физик, а не лирик,
А был бы мне подвластен ямб,
Я преподнес бы дифирамб!

На Міхасёва віншаванне:

Неплохо в Риме и Париже,
В тумане Лондона густом,
Но Березянка, право, ближе —
Река под боком, лес кругом.
И соловей зальётся звонко
Весенней трелью боевой.
А рядом — льётся самогонка
Кристально чистою струёй.
И куры там, и поросята,
Колода пчёл и, значит, мёд.
Эх, Фёдор, Фёдор, как от брата
Прими привет под Новый год!

Фёдар адказаў Міхасю таксама ў вершаванай форме:

МИХАСЮ

Поэта сын! Под стать поэту
Твой милый сердцу разговор.
Природу — ту, что лучше нету
(Хоть обойди кругом планету),
Воспел ты ритмами сонета.
И для меня зелёный бор
Вдруг зашумел прекрасной песней.
Отчизны нашей нет чудесней!
Что Рим, Париж и даже Лондон?
Для Свислочи я Богом создан.
Её люблю спокойный блеск
И волн неторопливый всплеск.
Люблю смотреть на лес вокруг,
Но есть опасность, милый друг!
Могуч напор магометанский
И хоть душою христианской
Я с этой мыслью мусульманской
Ещё борюсь, но сил уж мало —
Рука бойца колоть устала…
Готов я сдаться, запах тонкий
Любезной сердцу самогонки
Готов на «Двин» я поменять,
(Сильна магометанов рать!)
И на лирической струне
Порой я слышу голос тайный:
«Не пой, красавица, при мне —
То тень Армении печальной»
Ах, Миша, Миша, жизнь сложна,
Когда имеется жена!

У шэрагу прысвячэнняў калегам ёсць і пасланні медсёстрам, дактарам, а таксама сваім блізкім…

Я падрыхтавала і абараніла дысертацыю па тэорыі пластычнасці, напісала некалькі дапаможнікаў па сваёй спецыяльнасці. Арсень не мог змірыцца з маёй абаронай і зайздрасць падахвоціла яго. Ён значна пазней за мяне таксама абараніў дысертацыю па сваіх распрацоўках. Да дынастыі выкладчыкаў далучыліся мае дачка і сын. Маша скончыла дзесяцігодку з сярэбраным медалём, я з чырвоным дыпломам матэматычны факультэт універсітэта. Яна падрыхтавала і выдала тры кнігі метадычных дапаможнікаў па вышэйшай матэматыцы, выкладае адпаведны курс у Інстытуце кіравання.

Адзіным філолагам на дзве сям’і нашчадкаў Коласа і Маўра стаў мой сын Канстанцін. Ён з чырвоным дыпломам скончыў філалагічны факультэт універсітэта, паступіў у аспірантуру да слыннага прафесара Фёдара Куляшова. Тэмай работы стала проза Андрэя Белага, але калі Кастусь заканчваў работу яго кіраўнік цяжка захварэў і ў хуткім часе Фёдара Куляшова не стала. Па гэтай тэматыцы ніхто з супрацоўнікаў кафедры не ўзяўся за кіраўніцтва яго работай. Савета па абароне дысертацый па рускай літаратуры ў Мінску не было, а праз год па гэтай жа тэматыцы ў Ленінградзе выйшла манаграфія. Так што са сваёй работай ён спазніўся. Ён уладкаваўся выкладчыкам беларускай мовы ў політэхнічны інстытут, і вось ужо больш як дваццаць год працуе на гэтай ніве.

Схільнасць да мовы ў яго з маленства. Так, калі немаўляткі пачынаюць выказваць першыя «бу» і «гу», ён у свае сем месяцаў стаў надзвычай дакладна «выдаваць» словы. Хай яны не былі асэнсаваныя, але ж гэта былі сапраўдныя словы! Я не магла не паведаміць свайму бацьку аб такім цудзе. Ён, вядома, не паверыў і толькі пасмяяўся, што выдумляе ягоная дачка. Але праз некалькі дзён, калі па



*Кастусь і Марыя (у цэнтры) з Лыньковымі на Нарачы.*

сваіх справах наведаў Дом друку, дзе змяшчаліся рэдакцыі розных выданняў, заглянуў і да нас. Малы ў сваёй калысцы знаходзіўся ў двары.

Бацька мой адразу накіраваўся да ўнука, схіліўся над ім і запытаў.

— Я чуў, што ты пачаў гаварыць, а што ты скажаш мне?

І раптам гранічна ясна пачуў:

— Пляваць!

—Што-што? — не давяраючы сваім вушам, перапытаў дзед. І зноў пачуў тое самае:

— Пляваць.

Як ні дамагаўся пачуць што-небудзь яшчэ, дзіця больш не звяртала на яго ўвагі. Бацька прызнаўся, што калі б сам не пачуў гэта, то ніколі б не паверыў. Праз некаторы час Кастусь перастаў «чаканіць» словы, а ва ўзросце год і пару месяцаў стаў гаварыць цэлымі сказамі, абсалютна чыста вымаўляючы словы. Крыху падросшы, ён нярэдка крытычна ставіўся да пачутага. На яго думку, прынамсі, трэба казаць жаўток і бялток, альбо жалок і бялок, а не жаўток і бялок. Прыходзілася тлумачыць, што гэтыя словы маюць розныя карані.

Не магу не сказаць яшчэ пра адну паслядоўніцу настаўнікаў — пра ўнучку Васілінку, дачку Марыі. Я кінула работу, калі дачка нарадзіла двойню. Адной ёй справіцца было цяжка, і я большую частку свайго часу прысвяціла ўнукам. Васіліна скончыла факультэт філасофіі і сацыяльных навук Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці «сацыялогія», таксама з чырвоным дыпломам, што дало магчымасць паступіць у аспірантуру і своечасова абараніць кандыдацкую дысертацыю. Цяпер яна чытае пэўны курс студэнтам універсітэта.

Калі Міхась рыхтаваў свае ўспаміны «Пад бацькоўскім дахам» да друку, ён зрабіў некалькі подпісаў пад здымкамі. Адзін з іх, прысвечаны дзецям, быў такім:

Хай нашы дзеці вырастуць свядомымі
І пракладуць жыццёвы шлях свой самі.
Хай яны свецяцца чырвонымі дыпломамі,
А не чырвонымі насамі.

У новай бацькоўскай кватэры стаў часта з’яўляцца незнаёмы мне чалавек. Бацька адразу адводзіў яго ў свой пакой, дзе яны доўга гаманілі. Маці сказала мне, што гэта Саша Міронаў, былы вучань бацькі, які шмат гадоў служыў на флоце, а цяпер вярнуўся ў Мінск. Пасля я даведалася, што Саша вучыўся ў чыгуначный школе разам з Фёдарам, дзе настаўнічаў мой бацька. Сваім вучням Іван Міхайлавіч з натхненнем расказваў аб падарожніках, якія адкрывалі новыя, раней

невядомыя землі, аб насельніках гэтых зямель, аб жывёльным і раслінным свеце. Яго лекцыі выходзілі далёка за школьную праграму, знаёмілі вучняў з рознымі таямніцамі. І гэтыя лекцыі абудзілі ў Сашы мару — самому пабываць у экзатычных краінах і сваімі вачыма пабачыць цуды нашай планеты. Пасля заканчэння школы ён прыехаў у Архангельск, наняўся матросам на ледакол «Малыгін», пасля плаваў на іншых параходах. А ў часе вайны нёс службу на ваенных караблях. Калі прыйшоў час дэмабілізавацца, вярнуўся ў Мінск і першае, што зрабіў, пайшоў да свайго любімага настаўніка. Бацька ўважліва слухаў аповеды Сашы аб яго прыгодах на моры. Расказчык ён быў добры, і бацька параіў яму напісаць свае ўспаміны ў выглядзе апавяданняў і паслаць іх у рэдакцыі розных часопісаў. Саша так і зрабіў. Гэтыя апавяданні выклікалі зацікаўленасць чытачоў. Тады бацька параіў яму перайсці на больш грунтоўныя апісанні марскіх вандровак. І з лёгкай бацькавай рукі на нашай зямлі з'явіўся новы пісьменнік — Аляксандр Міронаў. З тае пары пачалося іх вялікае сяброўства. Многія старонкі іх узаемаадносін знайшлі адлюстраванне ў кнізе Міронава «Дед Мавр», якая выйшла ў 1979 годзе пасля ўжо смерці бацькі.

Міронаў за многія гады службы на флоце настолькі палюбіў марскую стыхію, што яму цяжка было без яе. У Кактэбелі, недалёка ад марскога берага, існаваў Дом адпачынку Саюза пісьменнікаў СССР, куды браў пуцёўку і Міронаў. Яму вельмі спадабалася гэтая мясціна. Ён уключыўся ў грамадскую работу ў Кактэбелі і дзякуючы гэтаму атрымаў дазвол на пабудову дачнага доміка. Запрасіў Івана Міхайлавіча адпачыць у яго, бацьку таксама спадабалася лагоднае мора паблізу ад хаты. Праўда, было цеснавата, і Міронаў прапанаваў зрабіць прыбудову пакояверанды. Будаўніцтва ён узяў на сябе, а бацька выдаў яму адпаведную суму грошай. Мая сястра адразу ж прапанавала бацькам для адпачынку там сваю дачку Машу. Маці хацела, каб узялі і другую ўнучку — маю Машу. Але бацька палічыў, што на чужую дачу браць яшчэ адно дзіця няёмка. Канешне, маці перажывала, бо да маёй дачкі была больш прывязана.

Шура здолела падаць сябе як бедную і няшчасную. Але ж яна не была такой бядотнай! Хаця вайна застала яе ў Ленінградзе і давялося страшэнна галадаць, яна выжыла, выбралася з горада, дзе загінула і памерла каля мільёна чалавек, мільёны жанчын засталіся без мужоў. Яна ж выйшла замуж за афіцэра. Два гады пражыла з ім на Кубе. Яе муж — хлопец з Налібоцкай пушчы, абараніў кандыдацкую, даслужыўся да палкоўніка. Хіба гэта не шчасце? Хлопец вытрыманы, спакойны, але скандалы паміж імі адбываліся часта. І яна пісала бацьку аб сваіх няшчасцях. Бацька верыў і лічыў, што Шура вінавата на 49 працэнтаў, а Валодзя Капылоў, яе муж, на 51 працэнт. Бываючы ў іх кватэры ў Маскве, я ўпэўнілася, што Шура ўсё ж больш вінаватая.

Мой бацька быў абсалютна бесканфліктным чалавекам, стараўся пазбегнуць любых скандалаў, замыкаўся ў сабе і моўчкі перажываў. Так, за ўсе гады, пражытыя ў яго доме, і пасля, наглядаючы з боку, я ні разу не чула, каб ён што-небудзь выказваў на ўзвышаных танах, альбо з кім-небудзь пасварыўся. І нават у сталым узросце, калі яго дзеці сталі на свае ногі, ніколі не рабіў заўваг, калі яму штонебудзь не падабалася. А дарэмна! Па характары я істотна адрознівалася ад сваіх братоў і сястры. Бацька расказваў мне, што іх дзед па матчынай лініі святар Фёдар Адамовіч быў вельмі разумным чалавекам, але страшэнна зайздросным, скупым і сквапным. На жаль, гэтыя рысы яго характару ў той ці іншай ступені перадаліся яго ўнукам. Калі Фёдар у мае малечыя гады адносіўся да мяне лагодна, па-брацку, то Шура і Арсень з дзіцячых гадоў не прызнавалі за сваю. Я была для іх чужой. Пазней яны зайздросцілі мне, бо я абараніла кандыдацкую, жыла ў сям'і Якуба Коласа ў поўным дастатку.

А ў бацькі пагаршаўся зрок, дактары знайшлі катаракту, але ў той час рабілі аперацыю толькі тады, калі катаракта выспее. І па сутнасці напаўсляпому чалавеку даводзілася доўгі час чакаць гэтага «выспявання». Слых жа быў

у яго неверагодна тонкі. Аднойчы, калі грэўся на сонцы на мужчынскім пляжы Living Кактэбеля, пачуў крыкі — тапілася дзяўчынка, і ён кінуўся туды на дапамогу і выцягнуў дзяўчынку з вады. Занёс яе на жаночы пляж, там яе адкачалі. На некалькі дзён ён стаў героем Кактэбеля. Пасля перапісваўся з гэтай дзяўчынай, яна прыслала яму свой фотаздымак.

Аб адпачынку і жыцці Янкі Маўра ў Кактэбелі напісаў Міронаў у сваёй кніжцы «Дед Мавр». Таму спынюся на нашых сямейных узаемаадносінах. Аднойчы бацька ўзяў пуцёўкі для мяне і маіх дзяцей у Дом адпачынку Саюза пісьменнікаў. Дзеці былі зачараваны морам і гарамі. У бацькі знаходзілася Шурына Маша і часта забягала мая дачка. Каб адрозніваць іх па імёнах, бацька дапоўніў імя маёй дачкі літарай А, а Шурынай літарай Б. Атрымаліся Ашка і Бэшка. Гэтыя мянушкі прывязаліся да іх на многія гады. Нейк Фёдар, калі адпачываў там з сынам Андрэем, узяў да сябе майго Сяргея. А Ашцы не пашанцавала, калі яна прабягала па двары дачы, ёй пракусіў ножку сабака Міронава — замест лагоднай марской вады давялося лячыцца.

Зрок у бацькі ўсё пагаршаўся, а яму карцела працаваць, займацца творчай работай. І ён знайшоў праз знаёмых дзяўчыну-студэнтку бібліятэчнага інстытута, якую пасяліў у сваёй кватэры і па вечарах пад яго дыктоўку Тамара — так звалі дзяўчыну — занатоўвала думкі пісьменніка, вяла яго перапіску. У свае семдзесят з гакам ён не мог не прымаць актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці. Вельмі хацеў прыехаць на другі з’езд пісьменнікаў СССР. Па запрашэнні М. Горкага быў удзельнікам першага з’езда. Але ж паехаць сляпому ў Маскву аднаму было немагчыма. Мне давялося ўзяць на рабоце адпачынак за свой кошт і суправаджаць яго. Нас пасялілі ў гатэлі «Масква» ў адным нумары. Я атрымала рабочы пропуск на пасяджэнні, і сама з цікавасцю слухала выступленні пісьменнікаў. Бацьку вяла на абед, адводзіла назад на з’езд і ў гатэль. У тыя часы ліфты былі з ліфцёршамі. Аднойчы, калі бацька загаварыўся з адным з дэлегатаў, мы ледзь не праскочылі наш паверх. Я пацягнула бацьку за рукаў са словамі: папа, папа! Выходзім на паверх, і тут ліфцёрша радасна запытала: «Дык гэта ваш бацька? Як добра, як добра! А мы перажывалі, што такая маладая і прыгожая жанчына замужам за старым і сляпым. Мы вас так шкадавалі! Як добра!» А бацька мяне называў жартам Кардэліяй.

Алесь Ганчар, даведаўшыся, што я люблю «клюкву в сахаре», прыносіў мне пакецікі з гэтымі ягадамі. Юліус Ванаг запытаў у бацькі дазволу ўзяць мяне на спектакль «Гамлет». Набі Бабаеў арганізаваў вечарыну маладых паэтаў у гатэлі «Украіна» і вельмі пакрыўдзіўся, калі я адмовілася ад яго запрашэння і у далейшым не здароўкаўся са мной.

З’езд праходзіў пасля юбілею Якуба Коласа, і многія з удзельнікаў яго былі ў нас у Мінску, а я была адной з гаспадынь дома. Некаторыя з дэлегатаў заходзілі наведаць нас.

Аб нашых сустрэчах бацька расказваў Арсеню і Шуры, расказваў і аб тым, што я карысталася тут увагай і павагай. Канешне, ім гэта страшэнна не спадабалася і, напэўна, каб настроіць бацьку супраць мяне, яны запрасілі яго на вячэру да сябе. Мяне ж не паклікалі. Калі ж пасля вячэры яны прывялі бацьку ў нумар гатэля, ён, не скідваючы верхняй вопраткі, пачаў сваёй тоўстай палкаю шураваць пад ложкамі, а пасля адчыніў шафу і стаў лупцаваць па адзежы. Мне стала смешна і я запытала: «Папа, што ты робіш?» У адказ пачула: «Шукаю тваіх палюбоўнікаў!» Шура і Арсень скрывіліся, відаць, ім было непрыемна бачыць такую рэакцыю бацькі на іх нагаворы.

Калі бацьку па стане здароўя стала немагчыма ездзіць у Крым, яго запрасілі на дзяржаўную дачу ў Гарадзішчы Клава і Лявонцій Лютаровічы. Клава была дачкою матчынай стрыечный сястры Агаты Ігнатаўны, жыццярадаснай, вясёлай жанчыны, добрай гаспадыні і выдатнай швачкі. Да рэвалюцыі ў цёткі Агаты было атэлье і вялікі дом. З прыходам савецкай улады яго зачынілі і боль-

шую частку дома адабралі. Састарэлая цётка шыла адзежу толькі сваім блізкім. Муж Клавы працаваў начальнікам матэрыяльна-тэхнічнага аддзела Дзяржплана БССР. Ён і яго жонка адвялі бацьку самы вялікі і светлы пакой. Апроч гэтага Клава ўзялася забяспечваць яго прадуктамі з крамы, куды мелі доступ толькі дачнікі.

Бацькам там адпачывалася добра. Але хутка матчын адпачынак сапсавала Шура. Пазбавіўшыся магчымасці адпраўляць сваю дачку ў Крым, яна ўладкавалася інакш: зняла ў бліжэйшай ад саўмінаўскіх дач вёсачцы пакой, прыехала туды са сваімі двайнятамі Оляй і Таняй. Ім тады было гады па два. І яна часта адводзіла дзетак да маці, а сама адпраўлялася ў Мінск да сяброўак. Маці ўжо састарэла і ёй цяжка было ўпраўляцца з малечай, але не хапала сілы волі адмовіцца ад апекі над дзецьмі. У яе быў высокі ціск, яна адчувала сябе кепска, ды і бацьку трэба было глядзець. І яна папрасіла яго напісаць Шуры ліст, каб у наступным годзе не прывозіла дзяцей. Бацька нічога не напісаў, яго паклікалі да сябе пагранічнікі, і ён паехаў да іх. Я не магла напісаць аб просьбе маці, бо Шура ўспрыняла б гэта як маё непажаданне. Давялося звярнуцца з матчынай просьбай да Фёдара, каб Шура пашукала іншае месца для летняга адпачынку. Але Фёдар таксама не пажадаў папярэдзіць сваю «няшчасную» сястру, не пашкадаваў жанчыны, якая іх вырасціла. І Шура зноў у наступным годзе прыехала з дзецьмі. Калі я наведвала маці, яна казала, што не можа дачакацца таго дня, калі яны з'едуць. Тады яна зможа адпачыць і лячыцца. Але лячыцца яна не паспела. У ноч пасля ад'езду Шуры ў яе здарыўся інсульт. У яе адняло мову, ёй паралізавала левы бок. Пасля доўгага лячэння стан здароўя палепшыўся, але хадзіць не магла. Патрабаваўся чалавек, які б згадзіўся даглядаць і яе, і бацьку. Жонка Фёдара — Рына — працавала педыятрам у бальніцы і знайшла сястру-гаспадыню, пенсіянерку, якая згадзілася наглядаць за старой і хворай жанчынай. Антаніна Мікалаеўна, так яе звалі, жыла на прыватнай кватэры, родных і блізкіх у яе не было. Адзінокая, але яшчэ поўная сіл жанчына, была і добрай гаспадыняй. Я не магла часта наведваць маці з-за вялікай лекцыйнай нагрузкі, ды і дома хапала работы. Я паабяцала маці забраць яе да сябе на лета ў час свайго адпачынку, дзе будзе належны догляд. На жаль, маці не дажыла да лета. І ў ноч на 17 мая, у дзень нараджэння майго меншага сына, якому споўнілася чатыры гадкі, яе не стала. Я цяжка перажывала страту роднага, блізкага чалавека, які толькі адной сваёй прысутнасцю абараняў мяне ад нападак Шуры і Арсеня. Пасля смерці маці мяне ў лепшым выпадку не заўважалі, ці не жадалі заўважаць. Яны таксама не хацелі бачыць, што іх паводзіны адносна мяне нервуюць бацьку, і што ён перажывае.

У бацькі толькі са мною былі даверлівыя адносіны. Так, пасля смерці маці, ён толькі са мною раіўся, як яму быць далей. Справа ў тым, што Антаніна заявіла, што збіраецца пакінуць яго, матывуючы гэта тым, што не прыстойна яшчэ не старой жанчыне жыць у адной кватэры хоць бы і са старым, але адзінокім мужчынам. Яна згодна застацца, калі ён ажэніцца з ёй. Паўтарылася гісторыя, толькі адваротная той, якую ён перажыў у доме Адамовічаў. Узнікла пытанне, ці зноў ажаніцца, ці шукаць іншую жанчыну, якая б даглядала яго, але не дамагалася выйсці за старога. Пераехаць да мяне бацька катэгарычна адмовіўся, ён хацеў жыць толькі ў сваёй кватэры. Калі б ён і згадзіўся, то я не змагла б забяспечыць яму такі догляд, як Антаніна. І я сказала яму, калі ён прывык да яе і яна задавальняе яго як гаспадыня, то я не маю нічога супраць. У сваіх старэйшых дзяцей ён не пытаўся згоды, а проста аб'явіў, што ўступае ў шлюб.

У гэты час Лютаровіч выйшаў на пенсію і пазбавіўся дзяржаўнай дачы. Ён купіў хату ў Крыжоўцы на пару з акадэмікам Гараглядам, а бацьку прапанаваў выкупіць адзін пакой на яго палове. Акрамя таго, папалам узялі спісаную саўмінаўскую «Волгу», на якой яму зручна прывозіць і адвозіць бацьку. Лявонцій забяспечваў бацьку дэфіцытнымі лекамі, іншы раз таварамі — у іх склаліся добрыя адносіны, і бацька пагадзіўся, бо цаніў яго турботы.

Месца ў Крыжоўцы ладнае, да ўчастка падступаў малады хвойнічак, і бацька вырашыў пажартаваць над акадэмікам. Ён агарадзіў кавалачак лесу і кожны дзень старанна паліваў з бідончыка загароджаную зямлю. Канешне, Гарагляд зацікавіўся: што задумаў стары пісака? У рэшце рэшт не вытрымаў і спытаў, навошта там паліваць зямлю. А бацька, напусціўшы на сябе сур'ёзнасць, сказаў, што мае намер вырасціць баравікі. Гарагляд зарагатаў і сказаў, што як вучоны-глебавед лічыць такую працу марнай. Бацька ўсміхнуўся і абыякава сказаў: «Пажывём-пабачым», і працягваў паліваць сваю дзялянку.

Праз некаторы час ён запрасіў свайго вучонага суседа паглядзець, як з моху прабіліся два баравічкі. Гарагляд вельмі здзівіўся і сказаў, што каб сам не пабачыў, то ніколі б не паверыў у такі цуд. І бацька быў страшэнна задаволены сваім жартам. Але калі ён паведаміў акадэміку, што гэта быў жарт — бацька папрасіў нейкага хлопчыка выкапаць з лесу грыбы і перасадзіць іх на «даследчае» поле — то Гарагляд страшэнна пакрыўдзіўся, перастаў з ім здароўкацца і размаўляць. Што датычыцца прывітальных слоў пры сустрэчах, то бацька лічыў гэта лішнім, непатрэбным. А жартаваць любіў. Так аднойчы ён напісаў невялічкае апавяданне пра рыжага хлопчыка, дзе наўмысна стварыў шэсць памылак сэнсавага характару. Будучы ў выдавецтве, ён даваў знаёмым пісьменнікам прагледзець свой «твор». Звычайна чытач заўважаў адну-дзве памылкі. І толькі адзін чалавек — мастак Валянцін Ціханавіч — «выкрыў» усе шэсць неадпаведнасцей. З ім як са стралком-спартсменам і паляўнічым сябраваў Міхась. Ціхановіч быў больш рыбак, чым паляўнічы і іншы раз прыязджаў у Беразянку разам з дырэктарам завода В. Гольбергам, які крыху раней за нас адпачываў у гэтай вёсачцы.

Гісторыя з «вырошчваннем» грыбоў мела працяг. Да бацькі ў Крыжоўку прыязджаў Арсень і даведаўся, што бацька палівае хвойнік у надзеі на збор грыбоў. І калі вярнуўся ў Беразянку, ён пазычыў у кагосьці тачку, прымацаваў да яе цэбар і стаў вазіць у ім ваду для паліўкі лесу, які рос каля самай хаты Лёні Шчэрбы. Тым часам у Беразянку на рыбалку завіталі В. Гольберг з В. Ціхановічам. Ціхановіч быў вельмі здзіўлены заняткам Арсеня і пацікавіўся, навошта марная работа. Арсень, як ён часта размаўляў — абрывіста, коратка і крыху высакамерна — даваў адказы. Ціхановіч, аматар прыроды, працаваў у «Вожыку» мастакоманімалістам і як мала хто адчуваў душою прыроду, быў шакіраваны адказамі. Вяртаючыся дахаты, ён запытаў у Гольберга, што гэта за ідыёт лес палівае? А той у адказ — гэта сын Янкі Маўра, чалавека дзіўнаватага, магчыма, яму што-небудзь з гэтага перадалося ад бацькі. Ціхановіч пагадзіўся, а пасля пра ўсё расказаў мне з Міхасём.

Праходзіў час, катаракта на бацькавым воку саспела, і сама Бірыч зрабіла аперацыю, якая прайшла паспяхова. Бацька зноў пачаў бачыць і, відаць, хацеў сваёй радасцю падзяліцца з Міронавым, але перадумаў, бо прыдумаў новы жарт. Калі Міронаў вярнуўся ў Мінск, то адразу зайшоў да Івана Міхайлавіча даведацца аб яго здароўі. І, зразумела, запытаў у яго, як прайшла аперацыя. Бацька адказаў, што праз месяц-другі, як кажуць дактары, зрок вернецца. І нечакана прапанаваў правесці на яго кватэры сеанс спірытызму. Саша страшэнна здзівіўся, але ведаючы характар Маўра, не стаў супярэчыць. Бацька папрасіў яго дастаць з шуфляды стала вялікі ліст паперы з напісанымі па крузе літарамі алфавіта, і яны пайшлі да Міронава, які асцярожна вёў свайго настаўніка пад руку, упэўнены ў тым, што вядзе сляпога.

Калі ж прыйшлі на кватэру да Міронава, бацька папрасіў разгарнуць ліст на століку, а Валю, ягоную жонку, папрасіў прынесці сподак. На ім намеціў рыску і, усадзіўшы насупраць сябе гаспадара, запытаў: «Чый дух будзем выклікаць?» Давай Льва Талстога, запытаем яго, хто сядзіць насупраць мяне... Абодва дакрануліся пальцамі да сподачка, і ён раптам закруціўся, прыпыняючыся каля пэўных літар. З расшыфроўкі іх паслядоўнасці складаюцца словы. У сваёй кнізе «Дед Мавр» Міронаў адзначыў, што сподак прыпыніўся на літарах, якія ўтварылі слова

«хлюпік». А мне памятаецца, як бацька, расказваючы аб сваім жарце, называў слова «дурань». Слова «хлюпік» пры мне ён не ўжываў.

На гэтым сеанс закончыўся, а Міронаў не мог уцяміць, як такое магло адбыцца: Янка Маўр нічога не бачыць! Дык хто круціў сподак? Тады бацька падышоў да Сашы і сказаў: «Ну, «дурань», цяпер ты верыш, што я бачу?». І абодва весела рассмяяліся. Міронаў не пакрыўдзіўся, наведваў свайго былога настаўніка і далей.

Аднойчы ён паведаміў бацьку, што наткнуўся на апісанне даўняга рэцэпта вылечвання людзей ад эпілепсіі. Гэты рэцэпт абсалютна бяспечны для здароўя. Ён прапанаваў паспрабаваць самім лячыць хворых, а калі вынікі лячэння стануць станоўчымі, то трэба будзе звярнуцца ў Міністэрства аховы здароўя. Рэцэпт заключаўся ў выкарыстанні костачак, што знаходзяцца за вушамі ў малочных парасят. Костачкі трэба дастаць, высушыць, расцерці ў парашок і даваць хвораму. Перад гэтым пацыенту неабходна ачысціць свой арганізам і не прымаць ніякіх лекаў. Прыём парашку павінен быць строга ўзгоднены з датаю нараджэння і фазамі месяца.

Бацька пагадзіўся. Ролі падзялілі так: маці рыхтавала парашкі, бацька разлічваў графік прыёму іх, а Міронаў звязваўся з хворымі і вёў падлік вынікаў лячэння, адпаведна абапіраючыся на медыцынскія даведкі аб стане захворвання і выздараўлення. Калі ж пацыентаў набралася каля сотні, ён падлічыў, што гэтыя парашкі дапамаглі працэнтаў васьмідзесяці пацыентаў. Не паддаваліся лячэнню тыя, у каго застарэлыя захвораванні. Міронаў палічыў, што атрыманых вынікаў дастаткова, каб разгледзець іх у міністэрстве. Ён хацеў, каб стварылі аўтарытэтную камісію, якая змагла б разабрацца ва ўсім, і пры станоўчых выніках яму выдалі б адпаведны патэнт на лячэнне эпілепсіі. Як вядома, савецкая медыцына адносілася адмоўна да народных метадаў, нават правераных стагоддзямі. Даведаўшыся, што ў Міронава няма медыцынскай адукацыі, яму проста забаранілі займацца лячэннем. Зварот у саюзнае Міністэрства аховы здароўя таксама скончыўся нічым. Тады Міронаў угаварыў свайго сына Сяргея паступіць у медінстытут, атрымаць адпаведную адукацыю і прадоўжыць пачатую работу. Але Сярожа не меў схільнасцей да медыцыны і, правучыўшыся тры гады, кінуў вучобу. Так бясслаўна закончыўся гэты эксперымент.

Даведаўшыся аб сеансе спірытызму, Міхась зацікавіўся і пачаў распытваць свайго цесця. Са школы мы памяталі аб незвычайных сеансах Сперанскага з рамана «Вайна і мір». У тыя часы зваротам да «духаў» займалася шмат людзей. Зразумела, Леў Талстой не мог прыдумаць неверагоднае, але ж савецкая школа і прапаганда цалкам адмаўляла магчымасць размовы з памерлымі. Заставалася шмат пытанняў адносна спірытызму. А тут, аказваецца, блізкі чалавек, які займаўся гэтым сам і хлусіць не мог. Так, такога цікаўнага чалавека, як Янка Маўр, не магла не зацікавіць прырода, сутнасць спірытызму. Ён не верыў ні ў бога, ні ў чорта, ні ў «духаў», але ж з праведзеных сеансаў атрымліваліся цікавыя, нечаканыя вынікі. Бацька расказваў, што па адказах адпаведнага «духа», можна было адчуць, размова вядзецца з нахабным, ці з баязлівым «духам». Размаўлялі з «духамі» Напалеона, Васка да Гама, Ясеніна, Талстога, Ігара Севераніна і іншымі.

***Працяг будзе.***

ІВАН САВЕРЧАНКА

# «КАТЭХІЗІС» СЫМОНА БУДНАГА — ПОМНІК БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ, МОВЫ І КУЛЬТУРЫ

Да ліку галоўных твораў Сымона Буднага належыць нясвіжскі «Катэхізіс» 1562 г. — першае выданне на беларускай мове, ажыццёўленае на тэрыторыі сучаснай Беларусі.

Гэта ўнікальны помнік нацыянальнай культуры, філасофіі, мовы і літаратуры. Кніга адкрываецца прысвячэннем князям Радзівілам, якое падпісалі тагачасны клецкі намеснік Мацвей Кавячынскі, Сымон Будны і Лаўрэнцій Крышкоўскі. У прысвячэнні вытлумачваліся прычыны напісання твора па-беларуску, а таксама змяшчаўся зварот да князёў шанаваць народную мову, спрыяць яе пашырэнню ва ўсіх сферах жыцця.

Уласна «Катэхізіс» складаўся з прадмовы да чытачоў, «дабраверных хрысціянаў»; чатырох асноўных частак («Аб дзесяці запаведзях Божых», «Аб веры», «Пра малітву Госпада», «Аб тайнах») і пасляслоўя. У прадмове да твора С. Будны паведаміў асноўны матыў напісання і выдання ўласнага «Катэхізіса»: паставіць бар'ер на шляху распаўсюджання хлуслівых вучэнняў, «злых рэчаў, якія запанавалі ў Хрыстовай Царкве».

Галоўную мэту «Катэхізіса» асветнік бачыў у тым, каб данесці сапраўдны сэнс і сапраўдную сутнасць Божага Слова да людзей з тым, каб яны самі жылі паводле законаў, усталяваных Богам, і паказвалі ўзор хрысціянскага жыцця ўласным дзецям. С. Будны рэзка адмяжоўваўся ад вучэння каталіцкіх і праваслаўных апалагетаў, якія паводле яго слоў, «не только не научають, але и сами мало правды знають и оным, которіи бы учити хотели, забраняють».

Сымон Будны прапанаваў грамадству новую хрысціянскую этыку, адметную сацыяльную філасофію і абноўленыя прынцыпы арганізацыі Хрыстовай Царквы.

Зыходны момант *этыкі* С. Буднага — адрозненне найвышэйшых маральных законаў, дадзеных Богам у 10 запаведзях Майсея, а затым паўтораных Ісусам Хрыстом, ад законаў, устаноўленых самімі людзьмі. Божыя законы, сцвярджаў гуманіст, у параўнанні з чалавечымі, найбольш дасканалыя, бо прадугледжваюць пакаранне не толькі за злачынныя справы, але і за благія намеры. Ён падрабязна вытлумачыў сэнс кожнай запаведзі і паказаў, што тых, хто не выконвае іх, чакае жорсткае пакаранне. Як сапраўдны гуманіст, С. Будны крытыкаваў пералюбствы, блюзнерскія ўчынкі, заклікаў да пашаны бацькоў і старэйшых. Неаднаразова звяртаўся да *палітыка-прававых* праблем: аптымальнай арганізацыі жыцця грамадства, функцыянавання дзяржавы і ўрадавых структур, узаемадачыненняў розных станаў, адносін да прыватнай уласнасці. Асветнік рэзка выступіў супраць несправядлівых войнаў.

Імкнучыся дасягнуць сацыяльнай справядлівасці і грамадскай гармоніі, С. Будны выказаў шэраг арыгінальных ідэй і прапаноў, накіраваных на ўрэгуляванне ўзаемадачыненняў паміж *беднымі і багатымі*. Ён найперш адкінуў вучэнне Якуба з Калінаўкі, Пётры Гоняда, Марціна Чаховіца, якія заклікалі да ліквідацыі прыватнай уласнасці і патрабавалі ўсеагульнай роўнасці. Пазнаёміўшыся з асноўнымі тэзісамі іх дактрыны, беларускі інтэлектуал заявіў пра яго гістарычную неперспектыўнасць і прапанаваў уласную мадэль развіцця грамадства, а таксама аптымальны механізм яго рэгулявання, які прадугледжваў мірнае

суіснаванне розных станаў. У «Катэхізісе» С. Будны паказваў непазбежнасць сацыяльнай іерархіі ў грамадстве, сцвярджаючы, што ні Ісус Хрыстос, ні апосталы ніколі не патрабавалі знішчэння багатых і прыватнай уласнасці. Кожны чалавек, падкрэсліваў ён, можа мець маёмасць любых памераў, абы яна набывалася сумленным шляхам.

Гарачыя спрэчкі з апанентамі С. Будны вёў вакол пытання аб тым, ці можа хрысціянін мець *падданых і нявольную чэлядзь*. Яго ідэйныя ворагі, не прызнаючы аніякіх кампрамісаў, катэгарычна сцвярджалі, што падзел грамадства на гаспадароў і падданых цалкам супярэчыць Хрыстовай навуцы, несумяшчальны з хрысціянскай мараллю. Настойваючы на неабходнасці радыкальных рэформаў, яны патрабавалі ад князёў і шляхты, якія мелі падданых, неадкладна вызваліць іх. У процівагу тэарэтыкам радыкальнага накірунку С. Будны прапанаваў не ліквідацыю гаспадароў і падданых, а памяркоўны шлях удасканалення ўзаемадачыненняў між імі, вызначыў іх абавязкі і правы. Так, паводле яго дактрыны, гаспадары ні пры якіх абставінах не павінны біць сваіх падданых, пазбаўляць іх неабходных для жыцця рэчаў, патрабаваць больш падаткаў, чымся прадугледжана законам. Яны мусяць адкрываць для падданых навучальныя ўстановы, будаваць бажніцы, справядліва судзіць, вучыць на свае сродкі і аберагаць ад паганскіх і эпікурэйскіх уплываў. У сваю чаргу, падданыя павінны маліцца за сваіх гаспадароў, дапамагаць ім ва ўсіх справах, ніколі не казаць і нават не думаць пра іх кепскага, шанаваць іх, заўсёды жадаць толькі дабра, без абурэння плаціць падаткі, выконваць усе распараджэнні і загады за выключэннем тых, што скіраваныя супроць Бога. С. Будны рэзка крытыкаваў тых падданых, якія, абурыўшыся сваім становішчам, паўставалі са зброяй у руках супраць гаспадароў.

Выступіў С. Будны і супраць грамадска-палітычнай дактрыны вялікакняскіх і польскіх *анархістаў* — Паўла з Візны, Яна Немаеўскага, Пётры Гоняда і іншых, якія патрабавалі знішчэння дзяржавы і ўсіх урадавых структур — суда, войска, канцылярыі, цэнтральнай і мясцовай адміністрацыі. Беларускі пісьменнік-публіцыст сфармуляваў шэраг аргументаў у абарону ўрада і дзяржавы, бліскуча пацвердзіўшы думку, што кожны хрысціянін можа займаць свецкую пасаду і, сумленна выконваючы свае абавязкі, прыносіць велізарную карысць усяму грамадству. Ён даводзіў, што ўсякая ўлада і ўсякі ўрад паходзяць ад Бога, створаныя яго воляй і ўжо таму з'яўляюцца недатыкальнымі і неабходнымі, нават калі знаходзяцца людзі, якія думаюць інакш.

Узняўся над традыцыйнымі ўяўленнямі пра сутнасць улады, зрабіўшы прыкметныя адкрыцці ў тэорыі дзяржавы, асветнік пераканаўча давёў, што ў тых выпадках, калі ад улады зыходзіць зло, то вінаватая не ўлада наогул, а канкрэтныя людзі, што карыстаюцца ёю з мэтай задавальнення ўласных амбіцый, а не дзеля грамадскай карысці. Улада і ўрадавыя пасады ні пры чым, сцвярджаў С. Будны, калі канкрэтныя ўрадоўцы ператвараюцца ў жорсткіх тыранаў. Улада гэтак жа невінаватая, як невінаватае золата, якое ліхія людзі скарыстоўваюць дзеля злых і нікчэмных спраў. Галоўная мэта, прызначэнне ўсякай улады і найвышэйшае апраўданне яе існавання, на думку С. Буднага, — дасягненне спакою ў гаспадарстве, захаванне правоў усіх грамадзян, абарона інтарэсаў кожнай асобы і ўсяго грамадства.

Аднак гэта не азначае, што С. Будны наогул не заўважаў хібаў у дзейнасці ўлад ці сістэме ўрадавых структур. Наадварот, ён, як ніхто іншы, бачыў недахопы і заганы тагачаснай дзяржавы. Праўда, пісьменнік-інтэлектуал пры гэтым не кідаўся ў другую крайнасць і не патрабаваў на ўзор анархістаў яе зліквідацыі, а прапаноўваў эвалюцыйны шлях пераўтварэнняў і ўдасканалення грамадства шляхам укаранення ў жыццё шэрагу гуманістычных прынцыпаў. На іх, паводле яго тэорыі, павінны будавацца ўзаемаадносіны паміж носьбітамі ўлады — урадоўцамі і ўсімі шараговымі грамадзянамі — падданымі Вялікага Княства Літоўскага.

Сымон Будны распрацаваў аптымальную мадэль узаемных абавязкаў і правоў паміж *урадоўцамі і шараговымі грамадзянамі*. Усе прадстаўнікі ўлады — вялікія

князі, ваяводы, кашталяны, старасты, гетманы, канцлеры, падканцлеры, падскарбіі, суддзі, жаўнеры і інш. — у адпаведнасці з вучэннем С. Буднага з’яўляліся — слугамі Божымі, ягонымі памазанцамі (абраннікамі) і пастаўленымі ім пастарамі. З другога боку, шараговыя грамадзяне, шляхта юрыдычна, паводле права, з’яўляюцца падданымі найвышэйшага гаспадара — вялікага князя. Яны мусяць безагаворачна падпарадкоўвацца яму і прызначаным ім урадоўцам, выконваць без пярэчанняў усе загады і распараджэнні. Строгае выкананне шараговымі грамадзянамі сваіх абавязкаў і высокая адказнасць урадоўцаў, адчуванне імі важкасці ўласнай місіі акурат і давалі, на думку беларускага асветніка, гарантыі спакою ў дзяржаве, стваралі найбольш спрыяльныя варункі для развіцця грамадства і асобы.

Галоўнае месца ў грамадстве, паводле меркавання С. Буднага, павінны займаць *настаўнікі і пастыры*. Адстойваючы ідэю прыватнай пропаведзі, гуманіст падкрэсліваў, што кожны член збору можа быць настаўнікам, калі ён адчувае сваю здатнасць выконваць гэтую місію.

Асабліва палымяна С. Будны выступаў у абарону *свабоды думкі і слова*. Ён абураўся жорсткасцю і бесцырымоннасцю цэнзуры, што мела месца ў Каталіцкім Касцёле і паступова ўводзілася ў Пратэстанцкім зборы. Усялякае прыцясненне духа, прыніжэнне і падаўленне асобы гуманіст прыраўноўваў да найвялікшага зла. Праціўнік усялякіх крайнасцей, залішняй ідэйнай нецярпімасці і радыкалізму, С. Будны раіў кіравацца ў жыцці найчасцей прынцыпам «залатой сярэдзіны», шукаць грамадскай згоды, яднацца дзеля пераадолення цяжкасцей, заўжды адчуваючы пры гэтым прыгажосць быцця і гармонію Сусвету.

У «Катэхізісе» беларускі пісьменнік-інтэлектуал абараняў ідэю *антрапацэнтрызму* — уяўлення аб чалавеку як галоўнай каштоўнасці на зямлі, якому, згодна з Божай воляй, павінна падпарадкоўвацца ўсё жывое і нежывое. С. Будны шырока прапагандаваў ідэі *крэяцыянізму* — аднаактнага стварэння Госпадам Сусвету і першых людзей — Адама і Евы, якія быццам бы, да саграшэння, былі несмяротныя, праведныя, самаўладныя і ва ўсім падобныя да Бога. Асветнік падзяляў думку аб існаванні прыроджанага граху, лічачы, што ўжо немаўля — грэшнае, бо на яго пераходзіць грэх прабацькоў Адама і Евы.

Прыроду чалавека С. Будны лічыў дваістай, сцвярджаючы, што чалавек складаецца з грэшнага, часова існуючага цела і вечнай, непадуладнай часу душы. Беларускі мысліцель, аднак, у адрозненне ад артадаксальных тэолагаў, адмаўляў актыўнае замагільнае жыццё душаў, іх здольнасць умешвацца ў зямныя справы, уздзейнічаць на жывых людзей. Разам з тым меркаваў, што па смерці людзей душы не знікаюць бясследна, не раствараюцца ў касмічнай прасторы і не гінуць незваротна, яны толькі губляюць асобныя рысы, якія ім былі ўласцівы пры жыцці чалавека. Душы, паводле яго вучэння, пакінуўшы цела, накіроўваюцца ў пэўнае месца — «інфернус», пра якое людзям не дадзена нічога ведаць, і там яны знаходзяцца ў нязменным спакоі, як быццам бы спяць. Час іх абуджэння наступіць, калі Сын Божы ў другі раз прыйдзе на зямлю, каб судзіць жывых і мёртвых за нежаданне людзей выправіцца ды жыць у адпаведнасці з Божымі законамі.

Сымон Будны палымяна заклікаў, каб кожны чалавек, жывучы з Божым страхам у душы, заўжды памятаў пра надыход суднага дня, усе свае ўчынкі ўзгадняў з Хрыстовымі запаведзямі, ні пры якіх акалічнасцях не апускаў рукі, не губляў надзеі на ўратаванне, не бавіў час у адчаі і роспачы, а вызнаваў сапраўдную веру, чыніў добрыя справы, што і з’яўляецца галоўнай умовай набыцця Нябеснага Царства і вечнага жыцця. Думка пра непазбежнае пакаранне чалавека за зямныя грахі займала ў вучэнні беларускага мысліцеля дамінуючае месца.

«Катэхізіс» С. Буднага перапоўнены ўласна *тэалагічнай* праблематыкай. Паводле характару вырашэння пытанняў, звязаных з магчымасцю пазнання Бога, пісьменнік выкарыстоўваў два падыходы, існуючыя ў сярэдневяковай хрысціянскай тэалогіі: катафатычны, у адпаведнасці з традыцыямі якога Бог вызначаўся

праз станоўчыя характарыстыкі (вечны, добры, мудры і інш.), і апафатычны, паводле якога Госпад характарызаваўся шляхам адмаўлення нейкіх уласцівасцей (несмяротны, непадзельны, неабдымны і інш.). Выхаваны на рэнесансавых ідэях, С. Будны катэгарычна не пагаджаўся з антрапамарфічнай тэорыяй Абсалюта (Бога), паводле якой Усявышні персаніфікаваўся, упадабляўся людзям. С. Будны паўстаў супраць вучэння аб тым, што адзіным сапраўдным Богам з’яўляецца непадзельная Тройца.

Шмат разоў С. Будны звяртаўся да *хрысталагічнай* праблематыкі. Як і большасць тагачасных пісьменнікаў, ён лічыў, што Ісус Хрыстос з’явіўся на свет з Божае волі, каб ратаваць чалавечы род, які патануў у грахах. Аднак беларускі пісьменнік-публіцыст цалкам не пагаджаўся з разважаннямі гэтак званых «спрадвечнікаў», якія даводзілі, нібыта Ісус Хрыстос існаваў ужо да стварэння свету і побач з Айцом ствараў усё жывое і нежывое. Адметнасць хрысталогіі С. Буднага выявілася падчас асвятлення зямнога жыцця Ісуса Хрыста, а таксама пры раскрыцці сутнасці ўкрыжавання Сына Божага. Так, беларускі пісьменнік падкрэсліваў, што пакаранне смерцю Месіі менавіта Пілатам — прадстаўніком імператарскай улады — не выпадковае. Яно пацвярджала невінаватасць, бязгрэшнасць укрыжаванага і чысціню яго намераў.

Значнае месца ў творчасці С. Буднага займала *эклесіялагічная* тэматыка. Новае прачытанне С. Будным «Бібліі» і пераасэнсаванне яе зместу стварылі перадумовы для перагляду ім традыцыйных поглядаў на Хрыстову Царкву. Услед за еўрапейскімі рэфарматарамі ён выступіў з крытыкай царкоўнай іерархіі, абсалютызаванай і абагатворанай улады Папы Рымскага. Адстойваючы гуманістычныя ідэі свабоды духу, індывідуальнай вартасці чалавека, унікальнасці кожнае асобы, С. Будны сцвярджаў, што кожны вернік можа размаўляць з Богам без пасрэднікаў.

Сымон Будны неаднаразова выказваў адмоўнае стаўленне да *манастырскага жыцця, пустэльніцтва і скітніцтва*. Крайнія формы аскетызму, як і прага непамерных багаццяў, супярэчыла, паводле яго слоў, сутнасці сапраўднай Хрыстовай Царквы. Але ў адрозненне ад радыкальных пратэстанцкіх ідэолагаў, С. Будны бараніў правы хрысціянскіх збораў на прыватную ўласнасць, маёнткі і землі.

Паводле зместу «Катэхізіс» С. Буднага пераважна палемічны і філасофска-публіцыстычны, з выразнай дыдактычнай скіраванасцю. Літаральна кожная праблема, трапіўшы на пяро асветніка, набывала актуальнае гучанне. Аўтар увесь час палымяна спрачаецца, пераконвае, абвяргае, прыводзіць у абарону сваёй пазіцыі разнастайныя рацыяналістычныя і схаластычныя аргументы. Каб схіліць чытача на свой бок, ён нярэдка звяртаўся да гістарычных паралелей, падзей палітычнай гісторыі, суправаджаючы факты і паведамленні шматстайнымі каментарыямі. С. Будны заўсёды прыводзіў меркаванні і сцвярджэнні аўтарытэтных вучоных, пераказваў сюжэты з «Бібліі». Досыць часта, у якасці эмацыйных аргументаў, пісьменнік скарыстоўваў яркія прыпавесці, прымаўкі і афарызмы, што надавала яго творам мастацкую прыгажосць і эстэтычную дасканаласць.

Даступнасць выкладання, моўна-стылёвая адшліфаванасць сказаў і выразаў, лагічнасць і паслядоўнасць думак, дакладнасць фармулёвак — найбольш характэрныя рысы літаратурнага і філасофскага стылю С. Буднага. Кожная семантычная частка, што ўключала пытанні, аргументы, доказы, абвяржэнні і аспрэчанні, як правіла, завяршалася дыдактычнай высновай, рэкамендацыяй або пажаданнем. Дзякуючы шматбаковаму таленту С. Буднага, у якім арганічна спалучаліся глыбокі інтэлект і непаўторнае літаратурнае майстэрства, яго твор знайшоў зацікаўлены водгук у чытачоў, атрымаў шырокі грамадскі рэзананс.

З’яўляючыся прыхільнікам грамадзянскага міру і гарманічнага суіснавання розных саслоўяў, С. Будны выступаў за карэнныя грамадскія пераўтварэнні, заклікаў да духоўнага ўдасканалення, усталявання высокіх прынцыпаў маралі, гуманных дачыненняў паміж людзьмі, прапаведваў культ розуму і бараніў асабістыя свабоды чалавека.

Сымон БУДНЫ

# КАТЭХІЗІС, АБО НАВУКА СТАРАДАЎНЯЯ ХРЫСЦІЯНСКАЯ АД СВЯТОГА ПІСЬМА, ДЛЯ ПРОСТЫХ ЛЮДЗЕЙ МОВЫ БЕЛАРУСКАЙ У ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ САБРАНАЯ[1]

***(Фрагмент)***

## Прадмова да «Катэхізіса» ўсім дабраверным хрысціянам мовы беларускай

Катэхізіс — слова грэчаскай мовы, якое перакладаецца на беларускую мову як *агучанне, або навучанне голасам.*

Добра вядома, што апосталы і іх вучні не так хутка і не так шмат далучалі да святых тайнаў элінаў і яўрэяў, якія хацелі спавядаць веру Хрыстову.

На дзень Зыходжання Святога Духа Пётр і іншыя апосталы ахрысцілі тры тысячы ізраільцянаў, якія перад тым моцна скарыліся сэрцам і з шанаваннем прынялі Слова Божае (Дзеян. 2 : 14—47).

Філіп ахрысціў кажэніка, або скапца, эфіопскай царыцы, калі той прыязджаў у Ерусалім на пакланенне. Апостал найперш добра навучыў кажэніка таму, што Хрыстос — ёсць Сын Божы (Дзеян. 8 : 26—40).

Пётр ахрысціў Карнілія, які перад тым шчыра маліўся Богу і даваў міластыню (Дзеян. 10 : 14—48). Таго Карнілія, пра якога Божы голас тройчы мовіў: «Што Бог ачысціў, ты не зневажай». Пра яго Святы Дух праз бачныя цуды сведчыў Пятру, калі той прапаведаваў.

Апостал Сіла ахрысціў стражніка вязніцы ў Філіпусах (Дзеян. 16 : 16—40). Але той першым звярнуўся да апосталаў з просьбай: «Дабрадзеі мае, што мне рабіць, каб выратавацца?» Павел і Сіла навучылі яго Слову Гасподняму, якое ён зразумеў. Затым ён адвёў іх у свой дом і прамыў раны іх.

Іншыя мясціны апускаю. Зусім відавочна, што апосталы нікога з паганых і яўрэяў не хрысцілі да таго часу, пакуль не навучалі іх веры ў Хрыста і не выпрабоўвалі іх.

З цягам часу, для тых, хто хацеў хрысціцца, былі ўведзены яшчэ цяжэйшыя выпрабаванні. У пасланнях настаўнікаў і ў некаторых правілах знаходзім, што даўней, калі хтосьці імкнуўся далучыцца да Хрыстовай веры, ён мусіў на працягу доўгага часу знаходзіцца воддаль у царкве, станавіцца на калені, пачуўшы евангельскае чытанне, а як распачыналася Вячэра Гасподняя — наогул выходзіць з царквы, доўгі час пасціцца, кожны чацвер спавядацца ў веры перад епіскапам ці прасвітарам. Ён не атрымліваў хрышчэння, пакуль не выконваў усіх названых рэчаў. Такога чалавека называлі *агучаным*, або па-грэчаску — *кацікуменас*. Адпаведна навука для тых, хто хацеў хрысціцца, называлася агучанне, або па-грэчаску — *катэхізіс*.

Згаданы звычай быў надта патрэбным і карысным. Дзякуючы яму шмат хто спазнаў Бога і яго праўдзівую навуку. Многія ўзгадаваліся і ўмацаваліся ў святым жыцці. Калі існаваў той звычай і настаўнікі больш адказна ставіліся да сваіх настаўніцкіх абавязкаў.

---

[1] Пераклад выкананы паводле арыгінала: *Будны С.* Катихисіс, то ест Наука стародавная хрістіаньская от Светого Писма для простых людей языка руского въ пытаніях и отказех събрана. Нясвіж, 1562.

Але Д’ябал не дазволіў добраму звычаю доўга існаваць спаміж хрысціянаў. Паводле Слова Евангельскага (Мф. 13 : 24—30), Д’ябал прыйшоў і пасеяў кукаль (пустазелле). Пакольк настаўнікі ленаваліся навучаць людзей, Д’ябал атручваў іх, вучыў, што без навукі, без веры і без споведзі чалавек гэтаксама можа выратавацца. Маўляў, дастаткова ў дзяцінстве ахрысціць яго. А калі чалавек дасягне паўналецця, трэба толькі, каб ён у пэўныя дні не ўжываў мяса, даваў міласціну, нават набытую несумленным шляхам, маліўся святым, і ўсе гэтыя рэчы праз усё жыццё выконваў.

Нарэшце, апусціліся да таго, што ўсталявалі звычай, каб той, хто меў сродкі, даваў папам за душу. За тое, каб яны цела пахавалі ў асвечанай зямлі, каб адпявалі, праводзілі, памінал траціны, дзевяціны, паўсарачыны, сарачыны, паўгады, гадавіны і іншыя падобныя вымыслы чынілі. Дзеля гэтага адпісвалі папам маёнткі, вёскі і месты, будавалі манастыры і цэрквы, а затым аддавалі ім, куплялі званы, пацірыёны, дыскасы, рызы, абразы і розных ідалаў, спадзеючыся такім шляхам выратавацца і атрымаць вечнае жыццё ў Божым Царстве.

Усё гэта, кажу, увайшло пазней у Хрыстову Царкву, а святыя звычаі, якія трымалі ў першай Царкве адпаведна з воляй Хрыста, дазволілі Д’яблу выкараніць. І ён, шкадлівы, пасеяў пустазелле.

Хрыстос сказаў: «Ідзіце і навучайце ўсе народы, хрысцячы іх» (Мф. 28 : 19). Але тыя не толькі не навучаюць, але і самі не ведаюць праўды. А тым, хто хацеў бы вучыць праўдзівай веры, — забараняюць гэта рабіць. Не інакш, як некалі жыдоўскія законнікі чыняць. Пра тых Госпад сказаў: «Гора вам, законнікам, што вы ўзялі ключ разумення: самі не ўвайшлі і ўваходзіць перашкодзілі» (Лк. 11 : 52).

Не трэба пра тое шмат пісаць, бо ўсе ведаем, якіх *настаўнікаў* цяпер маем. Увесь свет ведае, як яны ўзыходзяць на свае пасады. Не таямніца гэтаксама, як яны на іх стаяць і што вырабляюць. Лепей плакаць, чымся распавядаць пра іхныя норавы. Зусім пэўная рэч, ад іх нельга чакаць удасканалення навукі і паляпшэння жыцця. Лепей, каб кожны, хто не хоча загінуць, шукаў для сябе іншых лекаў, а гэтакіх пастыраў пакінуў у спакоі.

Гэтак загадаў Госпад, калі да апосталаў, гэта значыць, да ўсіх настаўнікаў мовіў: «Вы — соль зямлі. Калі ж соль страціць сілу, дык чым асоліш яе? Яна ўжо ні на што не прыдатная, хіба што выкінуць яе прэч на патаптанне людзям» (Мф. 5 : 13).

Соллю апостал называе ўсіх настаўнікаў. Соль захоўвае тое, што ёю прасоліцца, каб не запахла. Гэтак і *настаўнік, — пакараннем, навучаннем і напамінам ахоўвае людзей ад духоўнай гнілі.* Калі ж настаўнік не выконовае сваіх абавязкаў, Госпад загадвае выкінуць яго прэч і патаптаць яго, як тую соль, калі яна здурнела, або страціла сваю сілу.

Чаму ж мы не прыслухоўваемся да пажаданняў самога Сына Божага? Нельга не зважаць і на словы, сказаныя апосталам.

Павінны мы памятаць і наступныя словы: «Калі сляпы сляпога вядзе, дык абодва ў яму ўпадуць» (Мф. 15 : 14). Чуеш, дарагі мой браце, сам Госпад засцерагае цябе, каб ты не зваліўся ў яму. *Зваліцца кожны, хто дазволіць сляпому вадзіць яго!* Чаму ж не ўцякаем ад тых сляпых?

Злітуйся кожны над сабою, дзеля Бога! *Прачніся ад сну! Ужо настаў час агледзецца! Досыць ужо спалі! З-за ўчынкаў тых сляпых нічога не ведаем, — ані пра Бога, ані пра падмурак нашага выратавання!*

Відаць, то была часіна Божага гневу за грахі нашых продкаў, якія адрынулі Слова Божае, а прынялі трызненні і старэчыя басні. Пэўна, гэтак мусіла здарыцца, бо і святыя апосталы аб тым пісалі і праракавалі: «І за гэта пашле ім Бог дзеянне аблуды, так што яны будуць верыць хлусні. Няхай будуць асуджаны ўсе тыя, што не верылі ісціне, а ўпадабалі хлусню» (2 Фес. 2 : 11—12).

Малю цябе, богалюбівы, прыгледзься, ці не збываюцца колішнія словы святога апостала? Ён пісаў, што Бог пашле дзеянне аблуды. Чыя аблуда маецца на ўвазе? Хіба таго, які яшчэ ў раі прарадзіцеляў нашых спакусіў? А як жа тады спакусіў?

Ён адвёў Еву ад Божага Слова. Іншым шляхам ён спакусіць не можа. *Пакуль чалавек трымаецца Божага Слова, да таго часу ён не заблукае, бо мае свечку, якая свеціць яму!* У адпаведнасці з Божым Словам: «Закон Твой — светач нагам маім і святло сцяжынам маім» (Пс. 118 : 105). Калі хтосьці згубіць тую свечку — ён заблукае. І будзе, нібы сляпы, намацваць шлях рукой, аб чым і апостал кажа.

Прарок кажа: «Калі б Господ Саваоф (Усемагутны) не пакінуў нам семя, жылі б як у Садоме». Семем ён называе Божае Слова. Д'ябал зазвычай спакушае праз адлучэнне ад Божага Слова. Ён дакладна ведае, калі людзі выракаюцца Божага Слова, дык затым яны зробяць усё, як ён пажадае.

У апошнія часы Д'ябал давёў да таго, што настаўнікі пераcталі навучаць Божаму Слову. Таму ў Царкве і запанавалі ўсялякія злыя рэчы.

Але цяпер міласцівы Бог злітасціўся над намі і адкрыў нам грэшным сваё праўдзівае Слова. І штодзень яго ўсё шырэй адкрывае. Пасылае нам зрэдчас надзейных настаўнікаў. А мы мусім быць вартымі іх. Нам належыць быць удзячнымі за іх навуку. Мусім заўжды трымацца Божага Слова, як гаворыцца, — дзвюма рукамі, жыць паводле яго і іншых весці да яго.

А паколькі «жніва шмат, а працаўнікоў мала» (Мф. 9 : 37—38), я, мізэрны і найменшы сярод служыцеляў Царквы, склаў гэтую кнігу паводле Божага Пісання. *Напісаў яе для тых, хто прагне спасцігнуць Слова Божае і ісціну. Каб самі вучыліся і дзетак сваіх вучылі!*

Разумею, што гэтую навуку належала выкласці больш грунтоўна і значна шырэй, але зрабілі тое, што нам дазволіў час і нашыя здольнасці. Магчыма, некалі пазней, калі на тое будзе Божая воля, у другім выданні, усё шырэй зробім. Маем задуму, чацвёртую частку — пра святое Хрышчэнне і Вячэру Сына Божага — выпусціць асобнай кніжкай.

Няхай будзе міласць Госпада нашага Ісуса Хрыста да ўсіх вернікаў!

Амінь.

Напісана ў Клецку, 10 чэрвеня 1562 года ад нараджэння Госпада і Спаса і Бога нашага Ісуса Хрыста.

## Катэхізіс для дзетак хрысціянскіх мовы беларускай, коратка выкладзены

*Пытанне.* Што ты ёсць?

Адказ. Чалавек ёсць. Стварэнне Божае разумнае, створанае Богам паводле Яго вобраза.

*Пытанне.* Дзеля чаго Госпад Бог цябе стварыў?

*Адказ.* Не таму, што без мяне не мог быць, але каб Яго пазнаў, любіў, Яму [1 адв.] служыў, а потым з Ім навякі жыў.

*Пытанне.* Якой ты веры?

*Адказ.* Хрысціянскае веры.

*Пытанне.* Чаму ты хрысціянін?

*Адказ.* Таму што ў Хрыста верую і хрысціўся ў імя Яго.

*Пытанне.* Што павінен умець хрысціянін?

*Адказ.* Павінен умець чатыры рэчы і паводле іх жыць. Першая — закон, або запаветы. Другая — Вызнанне веры. Трэцяя — малі[2]тва Гасподняя. Чацвёртая — Тайны Хрыстовы.

## Аб дзесяці запаведзях Божых

*Пытанне.* Колькі ёсць запаведзей Божых?

*Адказ.* Дзесяць. Таму называюцца дзесяціслоўем, па-грэцку «дэкалогас».

*Пытанне.* Назаві дзесяць Божых запаветаў?

*Адказ.* Майсей у другой кнізе, якую «Выхадам» называюць, так піша: «Кажа Госпад Бог усе тыя словы: 1. Я Госпад Бог твой, каторы цябе вывеў з зямлі Егіпецкай, з дому няволі. Не будзеш мець Багоў чужых перада мною. 2. Не ўчыніш сабе куміра, ці якога [2 адв.] падабенства, што ёсць на нябёсах высока, або на зямлі нізка, або ў нетрах пад зямлёю. Не будзеш пакланяцца ім і не будзеш служыць ім. Я — ёсць Госпад твой — дужы, раўнівы. Я перадаю грахі бацькоў, што ненавідзяць мяне, на дзяцей да трэцяга і чацвёртага роду. Даю ласку тысячам, тым, хто любіць мяне і якія сцерагуцца маіх запаветаў. 3. Не возьмеш імя Госпада Бога твайго ў славалюбстве. Бо не адпусціць Госпад таго без пакарання, хто возьме імя яго надарэмна! 4. Памятай пра святкаванне дня суботняга! Шэсць дзён працаваць будзеш, усякія справы свае чыніць, а сёмы дзень, субота — дзень Госпада Бога твайго. Не ўчыніш аніякай [3] справы ні ты, ні сын твой, ні дачка твая, ні парабак твой, ні нявольніца твая, ні скаціна твая, ні прышэлец, што за брамай дома твайго. Бо за шэсць дзён стварыў Бог неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх. А ў сёмы дзень спачываў Бог. Дзеля гэтага Госпад дабраславіў і асвяціў суботні дзень. 5. Шануй бацьку твайго і матку тваю. Тады доўга будзеш жыць на зямлі, столькі, колькі Госпад Бог дасць табе. 6. Не забі. 7. Не спі з чужой жонкай. 8. Не крадзі. 9. Не ўзводзь на бліжняга твайго хлуслівага сведчання. 10. Не пажадай дому бліжняга твайго: [3 адв.] ані жонкі яго, ані парабка яго, ані асла яго, нічога кольвек, што належыць бліжняму твайму.

*Пытанне.* Дзеля чаго Госпад Бог даў закон, або запаветы свае?

*Адказ.* Каб кожны ведаў, што ёсць грэх, а што — добрая справа. Гэтак святы апостал піша: «Граху не зразумееш, толькі праз закон» (Рым. 7 : 7). А на іншым месцы кажа: «Праз закон — пазнанне граху» (Рым. 3 : 20).

*Пытанне.* На колькі частак дзеляцца дзесяць запаведзей?

*Адказ.* На дзве часткі сам Госпад раздзяліў запаве[4]дзі свае. Бо чатыры запаведзі даў на першай дошцы каменнай, а шэсць — на другой дошцы.

*Пытанне.* Дзеля чаго Бог гэтак раздзяліў запаведзі свае?

*Адказ.* Дзеля таго, каб ведалі, што належыць чыніць Богу, а што — бліжняму. Бо нас першая дошка таму навучае, як належыць ставіцца да Бога. А другая паказвае, як патрэбна любіць бліжняга.

*Пытанне.* Як належыць разумець тыя запаведзі?

*Адказ.* Хто хоча дасканала разумець Божыя запаведзі, належыць таму ведаць чатыры рэчы. Першая рэч, што загадвае Бог чыніць. Другая, што забараняе. Трэцяя, як карае тых, хто не выконвае Яго волі. Чацвёртая, як любіць тых, якія выконваюць Яго волю. Такім чынам, пры кожнай запаведзі належыць памятаць пра гэтыя чатыры рэчы — добрыя справы, грахі, пакаранні і абяцанні.

*Пытанне.* Кажы першую запаведзь?

*Адказ.* Не будзеш мець іншых багоў, апрача мяне. [4 адв.]

*Пытанне.* Як належыць разумець тыя словы: «Не будзеш мець чужых багоў»? Няўжо ёсць шмат багоў? [5]

*Адказ.* Бог адзін, той, якому ўсе павінны служыць і мець спадзяванне на Яго. Калі людзі, адрынуўшы Бога, спадзяюцца на іншыя рэчы, то, такім парадкам, у сваіх сэрцах шмат багоў утвараюць. Бо хто на каго мае надзею, той і ёсць яго бог. Напрыклад, калі хтосьці пакладаецца на багацці, дык іх — сабе на месца бога паставіў. Таму апостал называе ліхвярства, або ласункі, — ідаласлужэннем, а ліхвяра — ідаласлужкам (Эфес. 5 : 5; Кал. 3 : 5). Гэтак жа і пра тых разумей, хто спадзяецца на ўласную сілу або на штосьці іншае. Чужы бог там паўстае, калі хто праўдзівага Бога выракаецца. Таму апо [5 адв.] стал, пішучы супраць ілжэнастаўнікаў, іхным богам называе чэрава (Філіп. 3 : 9). Бо яны толькі дзеля чэрава настаўніцкія пасады сабе пабралі, а не дзеля ўслаўлення Бога.

*Пытанне.* Скажы мне, чаго ад нас хоча Бог у тым першым слове? Або якія добрыя справы таго слова?

*Адказ.* Добрыя справы, якіх ад нас чакае Бог з тае запаведзі, наступныя. Найперш, каб толькі Яго самога за Бога мелі, у Яго верылі, спадзяваліся і надзею на

Яго пакладалі. Потым, каб Яго баяліся, любілі, маліліся, Яму пакланяліся. Наастатак, каб усе справы, якія робяцца, з радасцю выконвалі дзеля Яго [6].

*Пытанне.* Якія ўчынкі супярэчаць той запаведзі? Што Бог забараняе?

*Адказ.* Шмат грахоў існуе, якія супярэчаць таму першаму слову, але найбольш тыя, што супроць веры і страху Божага.

Першы грэх — паганых эпікурэяў, гэта значыць, тых, каторыя не вераць зусім, што існуе Бог, які намі апякуецца.

Другі грэх — ідаласлужкаў, якія вераць у шмат багоў. Яны створанаму, нібы стваральніку, служаць. Накшталт таго, як гэта было ў старажытных элінаў, якія слаўных людзей пасля іх смерці ўважалі за багоў, маліліся ім — Дыяэрмію, Апалону ды інш. У наш час [6 адв.] у той жа ерасі жывуць тыя, каторыя моляцца памерлым святым.

Трэці грэх — гэта грэх жыдоў і ўсіх басурманаў, каторыя не так Бога вызнаюць, не так Яго спавядаюць, як Ён сам загадаў, але гэтак, як самі сабе выдумалі. Тое ж разумей і пра ерэтыкоў.

Чацвёрты грэх — валхвоў, або чарадзейнікаў, каторыя веруюць у бесаў.

Пяты грэх — гэта грэх тых, якія Бога да пэўных месцаў нібы прывязваюць, мяркуючы, што ў пэўных месцах Ён лепей чуе зварот да Яго, чымся ў іншых месцах. Тое завецца прошчамі. Супраць такога меркавання прарок Ісая піша, сцвярджаючы, што Бог паўсюль аднолькава чуе чалавека, які прыносіць пакаянне (Іс. 66 : 1—2). І яшчэ сказана [7]: «Я прапаведую вам: Бог, які стварыў свет і ўсё, што ў ім, Ён, будучы Госпадам неба і зямлі, не ў рукатворных храмах жыве і не вымагае служэння рук чалавечых, быццам маючы ў нечым патрэбу, а Сам дае ўсяму жыццё і дыханне, і ўсё» (Дзеян. 17 : 23—25).

Шосты грэх супраць першага слова Божага чыняць крывадушнікі, каторыя не баяцца Божай праўды і Ягонага суда. Таксама тыя, што больш багацці і цялесныя асалоды любяць, чымся Бога, але перад людзьмі выстаўляюць сябе пабажнымі.

Сёмы грэх — не пакладацца на Бога і гнявіцца на Яго, як калісьці цар ізраільскі Саул.

Восьмы грэх — вельмі высока думаць пра сваю праўду або справядлівасць, як той [7 адв.] фарысей, што ў малітве праўду сваю вычытваў перад Богам тымі словамі: «Божа, хвалу табе аддаю, як чалавек асаблівы, не такі, як няправедныя, прагныя, пралюбадзеі, або як той мытар. Трымаю пост у суботу двойчы» (Лк. 18 : 10—12). Такія крывадушнікі, бясспрэчна, грашаць. Перадусім тым, што няпраўдзіва разумеюць, які ёсць суд Божы, і з тае прычыны не ад праўды Бога баяцца. Службу Божую сабе прыпісваюць. Пра тое Хрыстос так сваіх вучыць: калі рабы выканалі загаданае вамі, кажаце, што яны не зрабілі нічога асаблівага, а толькі выканалі свой абавязак; гэтак жа і вы мусіце пра сябе гаварыць, што нічога не вартыя, бо вы зрабілі тое, што мусілі зрабіць (Лк. 17 : 7—10]).

Дзявяты грэх — сумнявацца і не давяраць даброці Божай. Думаць, [8] нібыта Бог пра нас не дбае, адпусціць нашыя грахі не хоча. Такім быў Каін, каторы забіў брата свайго, які не хацеў верыць, што Бог даруе яму (Быцця. 4). Тое ж мусіш разумець і пра Юду, які Хрыста прадаў (Мф. 27 : 3—10).

Дзясяты грэх — не цярпець і не прымаць з удзячнасцю таго, што Бог дапускае, або Богу няпраўду і няміласць прыпісваць.

Адзінаццаты грэх — не дбаць пра Божае Слова або адкінуць яго паводле жадання людзей ці з-за страху, як Пётра ўчыніў.

Дванаццаты — пакладацца на ўласную сілу, мудрасць або на штосьці іншае, як Сеннахірыб, які, толькі на сваю моц пакладаючыся, хацеў вярнуць царства Іудзейскае (Іс. 36) [8 адв.].

*Пытанне.* Скажы, як Бог карае таго, хто грашыць супраць першага слова?

*Адказ.* Найперш, карае Бог помстай духоўнай. Як піша апостал: «Ідаласлужкі не здабудуць Царства Божага» (Гал. 5 : 11—21). Карае Бог ідаласлужэнне таксама голадам, войнамі, моравым паветрам, палонам ды іншымі падобнымі язвамі. Як

у Старым Законе Бог часта караў люд ізраільскі толькі за тое, што Яго пакідалі і чужым багам служылі. І цяпер усіх хрысціян пакараў — некаторых слепатою, іншых няволяю пад турэцкім і рымскім Антыхрыстам. І [9] гэтак мусіць быць. Бо так абяцаў Бог, даючы свой запавет, калі гаварыў: Я ёсць Госпад Бог твой — моцны і раўнівы. На тых, хто ненавідзець Мяне, свой гнеў пашлю на бацькоў і дзяцей, да трэцяга і чацвёртага калена.

*Пытанне.* Што Бог абяцае тым, каторыя першай запаведзі трымаюцца?

*Адказ.* Як на бязбожных падвойная помста, гэтак і тым, хто сцеражэцца запаведзі — падвойная ўзнагарода. Адна — вечная, другая — дачасная. Пра вечную Хрыстос так кажа: «Калі хочаш увайсці ў вечнае жыццё — трымайся запаведзей» (Мф. 19 : 17). Ён тут кажа: чыню міласэрнасць над многімі тысячамі тых, хто любіць Мяне і захоўвае запаветы Мае [9 адв.]. Міласэрнасць выяўляе Бог да нас, калі нам грахі адпускае, з грэшнікаў ператварае ў праведнікаў, каб былі вартыя вечнага жыцця. Гэтыя рэчы ёсць вечная ўзнагарода. Але і на гэтым свеце Бог не пакідае тых, хто трымаецца Яго запаветаў, Яму служыць, як напрыклад, Данііл, Ерамія ды шмат іншых.

*Пытанне.* Кажы другую запаведзь?

*Адказ.* Другая запаведзь: *«Не ствары сабе куміра, ані якога вобраза таго, што ёсць на небе высока, і на зямлі нізка, і ў водах пад зямлёю».*

*Пытанне.* [10] Як тое мушу разумець: ці Бог толькі забараняе яму ствараць абразы, ці толькі паганскім кумірам?

*Адказ.* Найперш, так маеш разумець: як у першай запаведзі Бог забараняе духоўнае ідаласлужэнне, пакідаючы духоўную службу для сябе, так і ў другой запаведзі — забараняе служыць выявам целаў. А на тое пытанне, якое ставіш — ці толькі паганскіх божышчаў Бог забараняе ствараць — адкажу гэтак: не толькі падманным багам Госпад забараняе чыніць абразы, але й сабе, і анёлам, і людзям святым. Бо дакладна кажа: аніякага падабенства. Пра гэта яшчэ больш аргументавана ў пятай кнізе, дзе Майсею кажа [10 адв.] як запавет: «Цвёрда трымайце ў душах вашых тое, што вы не бачылі аніякага вобраза ў той дзень, калі гаварыў да вас Госпад на Харыве з асяроддзя агню. Каб не спакусіліся і не зрабілі сабе куміра — мужчынскага або жаночага полу, звера, што ёсць на зямлі, або птушкі, або гадаў» (5 Майс. 3 : 15—17). Бачыш, што кажа Майсею. Звяртаючыся да сыноў Ізраілевых, Бог не паўстаў перад імі ў нейкім абліччы таму, каб яны пазней не чынілі яму абразоў.

*Пытанне.* Ці толькі жыдам забаранялася мець абразы, паколькі аніякага Божага вобраза не бачылі, а потым, калі Сын Божы прыйшоў, увасобіўся цялесна і быў [11] бачны людзям, ці можна нам ужо пасля гэтага мець выявы Бога?

*Адказ.* Праўда тое, што Бог стаў бачны ў Сыне сваім. Бо і сам Хрыстос паведаміў Філіпу: той, хто бачыў Мяне — бачыў Айца, бо Я ў Айцу ёсць, а Айцец ува мне. Пры гэтым колішняга загаду не адмяніў, ані зліквідаваў, а, наадварот, яшчэ больш пацвердзіў, калі мовіў да самаранкі: «Павер Мне, што настане час, калі і не на гары гэтай, і не ў Ерусаліме будзеце пакланяцца Айцу» (Ін. 4 : 21). А крыху ніжэй да тае ж жанчыны кажа: «Бог ёсць Дух, і тыя, што пакланяюцца Яму, павінны пакланяцца ў Духу і праўдзе» (Ін. 4 : 24). Тут бачыш, як Госпад пакідае для сябе духоўныя рэчы. Але каб ты ведаў, што і пасля [11 адв.] ўвасаблення Сына Божага не хоча Бог, каб яму абразы стваралі. Прачытай прамову святога апостала Паўла, якую ён меў да афінянаў. Там, між іншага, так сказаў: «Бог, які стварыў свет і ўсё, што ў ім, будучы Госпадам неба і зямлі, не ў рукатворных храмах жыве і не вымагае служэння рук чалавечых» (Дзеян. 17 : 24—25).

З прыведзеных словаў яскрава відаць, што апостал гаворыць не пра нейкага фальшывага бога, а пра сапраўднага, жывога. Бо так сказаў: «Бог, які стварыў свет». Пры гэтым патлумачыў, што Бог не прымае паслуг з рук людскіх.

Абразы, ці як інакш кажуць — іконы — гэта не што іншае, як паслугі, службы ад рук людскіх. Таму, крыху ніжэй, Павел кажа: «Не зважаючы на сваё падабенства да Бога, людзі не павінны меркаваць, што Бог падобны на залатыя, сярэб-

раныя ці каменныя выявы або іншыя выдумкі людзей». Тут выразна бачыш, што апостал забараняе з якіх бы ні было рэчаў чыніць выявы Бога — з золата, серабра, камянёў, або людскіх вынаходніцтваў. Хаця, на той момант, Хрыстос — Сын Божы ўжо прыняў чалавечае аблічча.

Не зважаючы на тое, што Бог з'явіўся нам у вобразе свайго Сына, ён не загадваў нам чыніць яго выяваў. Павінны шанаваць толькі той абраз, які Бог нам ласкава даў, гэта значыць, — Сына Божага. Хрыстос з'яўляецца адзіным Божым вобразам, якому мусім кланяцца духам і праўдаю. Калісьці і Адам быў першым створаны на ўзор Бога, але ўсё страціў, калі пераступіў Божую запаведзь.

*Пытанне.* Што адкажаш на тое, аб чым некаторыя гавораць, нібыта Хрыстос паслаў уласную выяву цару Агвару?

*Адказ.* Найперш адзначу, што аб гэтым аніводзін з евангелістаў не піша. А чаго ў Святым Пісанні няма, як таму можа нехта верыць? Неверагодна, каб пра такі незвычайны цуд евангелісты не прыгадалі, калі б ён сапраўды меў месца. Яны ж згадваюць і менш значныя рэчы.

Ведаю, што *Дамаскін* напісаў, быццам бы эдэскі цар Агвар пасылаў да Хрыста іканапісца, каб той намаляваў яго аблічча. Але іканапісец не здолеў зрабіць выявы Хрыста. Тады Сын Божы ўзяў абрус, прыклаў да твару і гэтакім чынам стварыў нерукатворны абраз. Пра гэта піша Дамскін. Але ён не прыводзіць аніякіх доказаў, лічачы гэтую падзею малаверагоднай.

Таму не варта верыць недакладным звесткам, ад чаго і апостал засцерагаў, калі звяртаўся да Цімафея: «А недарэчных і старэчых басняў — цурайся» (1Цім. 4 : 7).

Зрэшты, калі хтосьці верыць у праўдзівасць гісторыі з Агварам-царом, мусіць найперш даверыцца *Яўсевію Кесарыйскаму*, які жыў праз 300 год пасля ўзнясення Хрыста, а не праз 700, як Дамаскін. Яўсевій сапраўды піша пра тую падзею, але ён прыгадвае толькі ліст, які Хрыстос напісаў Агвару. Аднак Яўсевій нічога не паведамляе пра абраз.

Вядома, што апостал Фама накіроўваў да Агвара Фадзея, які вылечыў цара ўскладаннем рук і малітвай. Аб тым знойдзеш у першай кнізе царкоўных дзеянняў, у трынаццатым раздзеле.

*Пытанне.* Яшчэ некаторыя кажуць, што Лука-евангеліст быў іканапісцам і маляваў абразы Прачыстай Багародзіцы?

*Адказ.* Гэта пра святога Луку беспадстаўна выдумалі іканапісцы, каб падмацаваць уласную аблуднасць. Апостал наадварот сцвярджае, што Лука быў доктарам, лекарам, а не іканапісцам. Пра яго да каласянаў ён піша наступнае: «Вітае вас Лука, лекар любасны» (Кал. 4 : 14). Калі б Лука быў іканапісцам, Павел не прамаўчаў бы аб гэтым. Ён не забыўся на яго лекарства, а іканапісанне — рэч вышэйшая. Не толькі святы Павел, але і Сафроній піша пра Луку ў яго жыцціі менавіта як пра лекара, а пра іканапісанне аніводным словам не згадвае (чытай прадмову да Евангелля ад Лукі).

*Пытанне.* Што праз тую запаведзь Бог загадвае нам чыніць?

*Адказ.* Кожная запаведзь утрымлівае дзве рэчы. Першая, што Бог загадвае чыніць. Другая, што забараняе. У той запаведзі, дзе забараняе ствараць абразы, гэтаксама дзве тыя рэчы ўтрымліваюцца. Найперш загадвае, каб шанавалі Божы вобраз, гэта значыць, — кожнага чалавека. Бо чалавек створаны паводле Божага вобраза (Быц. 1).

*Пытанне.* Што Бог забараняе той запаведдзю, або якія злыя ўчынкі супярэчаць ёй?

*Адказ.* Перадусім забараняе ствараць усялякія абразы, перад якімі або сам, або хтосьці іншы мог бы кланяцца. Гэтаксама забараняе кланяцца абразам, якія стварыў хтосьці іншы. Той, хто не выконвае гэтай запаведзі, чыніць цяжкі грэх.

*Пытанне.* Як Бог карае тых, хто пераступае тую запаведзь?

*Адказ.* Як за парушэнне першай запаведзі, гэтак і за парушэнне другой, Бог карае адступнікаў вечнымі і цялеснымі пакутамі. Так, Ён пакараў сыноў Ізраіля,

якія стварылі для сябе вобраз цяля. У адзін дзень знішчыў дваццаць тры тысячы (Вых. 32; 1Кар. 10 : 7—8). Бог пакараў і Саламона: ад яго сына адступіліся дзесяць каленаў сыноў Ізраелевых (3Цар. 12).

Апусцім старыя паданні, прыгадайма новыя. Бог вельмі жорстка пакараў цара Канстанціна, сына Льва, і яго матку Ірыну, на загад якіх у Божыя храмы панастаўлялі абразоў і загадалі кланяцца ім (чытай Намаканон, гэта значыць, правілы сёмага сабору). Спачатку тая царыца Ірына асляпіла свайго сына, загадаўшы выняць у яго вочы. А Канстанцін потым матку сваю адправіў у затачэнне. Урэшце ён і сам згінуў, не пакінуўшы нашчадкаў, а царства яго перайшло да іншага народа. Аб гэтым пішуць Плаціна і Ігнацій.

*Пытанне.* Што Бог абяцае тым, якія не пакланяюцца абразам і не выбраляюць іх?

*Адказ.* Тым, якія выконваюць запаведзь, Бог плаціць дабром і абяцае вечнае жыццё, у адрозненне ад адступнікаў, якіх, як адзначалася, — карае прыжыццёвымі і вечнымі пакутамі. Маем прыклад — ізраільскіх цароў Езэкію і Іосію. Іх Бог нязменна абараняў ад усіх ворагаў, бо яны строга выконвалі другую запаведзь — знішчалі ўсялякіх ідалаў. Меднага змея, якога Майсей зрабіў паводле Божай волі (Лічбы 21), набожны цар Езэкія знішчыў, бо люд пачаў маліцца ідалу. Хоць той змей і быў вобразам Сына Божага Госпада нашага Ісуса Хрыста. Пра Езэкію Святы Дух напісаў гэтакім чынам: «На Госпада Бога пакладаўся той цар Езэкія. І таму роўных яму не было сярод цароў Ізраіля ні ў яго часы, ні перад ім» (4Цар. 18).

Падобнае напісана і пра Осію, што роўнага яму не было сярод цароў, якія б гэтак аддана, як ён, служылі Госпаду Богу (4Цар. 23).

Святы Дух напісаў гэта дзеля таго, каб цары, князі і іншыя валадары ведалі, што іх улада і пасады залежаць ад таго, ці будуць яны знішчаць усялякіх ідалаў і выкараняць хлуслівыя службы. У наш час на ўсіх рускіх землях ёсць у тым пільная патрэба. За некалькі сотняў год тут створана незлічона размаітых ідалаў, з-за якіх просты люд забыўся на сапраўднага Бога. Але аб гэтым іншым разам напішам шырэй.

*Пытанне.* Назаві трэцюю запаведзь?

*Адказ.* Не возьмеш імя Госпада Бога ў славалюбстве, або без патрэбы [17].

*Пытанне.* Як тое мушу разумець?

*Адказ.* У першым слове Бог даў нам навуку аб тым, якое мусіць быць нашае сэрца. У другім слове — як павінны ўсе служыць яму целам. У гэтым трэцім слове навучае нас, як павінны сваёй моваю і словамі шанаваць яго. Гэта значыць, каб мы пад заслонай імя Божага ўласнай славы, карыслівасці ды іншых такіх рэчаў не шукалі. Каб толькі яго самога праслаўлялі, узносілі яго і дзякавалі яму.

*Пытанне.* Якія добрыя справы павінны рабіць, каб выканаць трэцюю запаведзь?

*Адказ.* Першае — заклікі. Другое — удзячнасць і падзяка. Трэцяе — услаўленне. Чацвёртае — споведзь. Пятае — навучанне праўдзе. Шостае — выкананне прысягі, або клятвы. Гэта добрыя справы трэцяга слова.

*Пытанне.* Як павінны заклікаць Бога?

*Адказ.* Ніхто не можа звяртацца да Бога, не спазнаўшы яго Сына, які з’яўляецца адзіным нашым хадайнікам перад Богам. Калі чалавек хоча паклікаць Бога, а на памяць яму прыходзяць яго дрэнныя ўчынкі і сумленне нагадае яму пра яго грахі, дык ён не павінен спадзявацца на Бога. Таму ён і не мусіць звяртацца да яго.

Варта ведаць, што Бог ласкавы і міласэрны да нас дзеля Хрыста. Дзеля яго ён чуе нашы малітвы і адпускае нашы грахі. Хрыстос — наш адзіны іерэй, які робіць нас, грэшных, вартымі і любымі Богу.

*Пытанне.* Якія справы супярэчаць гэтай Божай запаведзі?

*Адказ.* Першае, — не клікаць Бога і не дзякаваць яму ў час патрэбы.

Другое, — звяртацца да святых, якія ўжо памерлі, і рабіць іх хадайнікамі перад Богам.

Трэцяе, — сеяць хлуслівыя вучэнні і абараняць іх, а праўдзівыя — абражаць, зневажаць і заціраць.

Чацвёртае, — адвольна ўводзіць выдуманыя Божыя службы, а таксама трымацца выдуманых іншымі.

Пятае, — адмаўляцца ад сапраўднага вучэння, асабліва ў час ганенняў.

Шостае, — не вывучаць святога Евангелля, калі не даспадобы казнадзей, прызначаны тлумачыць яго.

Сёмае, — не адстойваць праўды ў Царкве ў неспрыяльныя часы, калі ад каго гэта залежыць.

Восьмае. Усялякія выдумкі пра Бога не адпавядаюць трэцяй запаведзі. Так, эпікурэйцы высмейваюць Бога, называюць яго Словы баснямі. Гэтаксама — абразы Бога. Напрыклад, выказванні фараона, Раўсака і фарысееў супраць Хрыста і яго апосталаў (Вых. 5; 2Цар.18; Мф.12; Ін. 12).

Дзявятае. А яшчэ словы, ад якіх слабее вера ў нямоглых і змяншаецца Божая слава.

Дзясятае. Цяжкі грэх чыняць тыя, што выкарыстоўваюць Божае слова, выкладзенае ў Старым і Новым запаветах, дзеля блюзнерства.

Адзінаццатае. Супраць трэцяй запаведзі грашаць чарадзеі і чарадзейкі, ведзьмы і варажбіты, хоць часам ад іх шэптаў людзі і жывёлы вылечваюцца.

Дванаццатае. Трэцяй запаведзі супярэчаць хлуслівыя клятвы і прысягі. Бо такім чынам чалавек імем Божым прыкрывае ўласныя грахі. Той, хто клянецца, заве сабе за сведку Бога. А калі ён клянецца не праўдзіва, дык надта крыўдзіць Божую славу, бо хоча, каб Бог пацвердзіў яго хлусню.

Апрача таго, хто хлусліва клянецца, той караецца Божым судом. Бо ён клянецца, каб яго пакараў Бог у выпадку, калі ён кажа няпраўду, а сам ведае, што хлусіць. Гэтым выклікае на сябе Божы гнеў. Відаць, не вельмі высока ставіць Бога. Калі б баяўся Божага гневу, дык не клікаў бы яго супраць сябе.

Такім парадкам, у хлуслівай клятве надта шмат грахоў. Таму кожны павінен пільна сцерагчыся, не прызвычайвацца да хлуслівых клятваў.

Трынаццатае. Нарэшце, трэцяй запаведзі супярэчаць зласлоўі і праклёны. Бо той, хто праклінае, заклікае Бога супраць яго запаведзі. Хоча, каб Бог пакараў чалавека, якога ён загадаў любіць. Гэты грэх вельмі вялікі. Убачыш і зразумееш, калі здолееш, што ён цягне за сабой іншыя грахі.

Найперш, той, хто праклінае, не шануе Бога. Бо ўспамінаць Бога, гэта значыць, клікаць яго. Бог жа павінен клікацца са страхам і вялікім шанаваннем! А праклёны часам бываюць без аніякай прычыны, беспадстаўныя, без гневу, без Божага страху і без шанавання Бога.

Ніхто не павінны клікаць Бога, каб ён некаму нашкодзіў. А хто праклінае, згадвае Бога, каб ён нашкодзіў некаму. Але ж Бог загадаў шанаваць усіх. Прарокі некалі пракліналі і зласловілі на адрас зневажальнікаў і бессаромных, якія ганілі сапраўднае вучэнне і сапраўдную Божую службу. Але мы не павінны пераймаць звычку падобных праклёнаў.

Калі хтосці ўласным жыццём ці норавамі падае кепскі прыклад, ці адводзіць ад сапраўднай веры, — той грашыць супраць трэцяй запаведзі.

*Пытанне.* Ці варта хрысціянскаму чалавеку прысягаць, або не?

*Адказ.* Ужо даводзіў вышэй, што кожны павінен асцерагацца клятваў, не надта прызвычайвацца да іх. Іншая справа, калі гаворка ідзе пра ўслаўленне Бога. У такім разе хрысціянін можа клясціся Божым імем. Гэтак, як зрабіў апостал Павел; ён у «Другім пасланні да карынфянаў» кляўся наступным чынам: «Бога заклікаю ў сведкі на душу маю» (2 Кар. 1 : 23). Падобным чынам і Аўрам кляўся перад садомскім царом, што не намерваўся нічога браць з яго маёмасці, хаця раней ён забраў маёмасць іншых цароў, якія заваявалі Садом (Быц. 14 : 21—24).

Хрысціянін можа клясціся, калі ён вымушаны прысягнуць дзеля нейкай вялікай справы. Бо, як піша апостал да яўрэяў (6 : 16), клятва падводзіць рысу пад усялякай спрэчкай. Аднак не варта клясціся дзеля дробязных спраў.

*Пытанне.* Калі хрысціяніну дазволена прысягаць, чаму сам Хрыстос забараніў клясціся небам, зямлёй і Іерусалімам?

*Адказ.* Не толькі тыя словы Хрыста, дзе ён забараняе клясціся, мноства людзей, нават адукаваных, памылкова разумеюць. Шмат хто наогул не разумее прамовы Хрыста пра закон, якую ён учыніў на гары. Усе звычайна даводзяць, што Хрыстос падчас тае прамовы адхіляў убок запаведзі Старога закона і ўзаконьваў свае новыя запаведзі. Але Хрыстос сам аспрэчыў гэтую памылковую думку. Ён выразна падкрэсліў, што не прыйшоў пабурыць закон (Мф. 5 : 17). Гэтаксама Хрыстос часта сцвярджаў, што ён — ёсць адзіны з Айцом (Ін. 10 : 30). А пра ўласную навуку сказаў наступнае: «Маё вучэнне — не Маё, а таго, хто паслаў Мяне» (Ін. 7 : 16). Са слоў Хрыста яскрава вынікае, што ён не адхіляў і не адмяняў Божага закона, але толькі праўдзіва вытлумачваў яго хлуслівым тлумачам.

Калі хтосьці мяркуе, што Хрыстос забараняў усялякія клятвы, той супрацьпастаўляе Сына Божага Айцу, аб чым і думаць не дай божа. Як жа Хрыстос быў бы адзіным з Айцом, калі б ён забараняў запаведзі, якія Бог усталяваў? Закон Божы гэтак пра клятву піша: «Госпада Бога свайго бойся і таму адзінаму служы і імем яго кляніся» (5 Майс. 6 : 13). І Хрыстос кажа: «Не прыйшоў пабурыць Закону». Такім парадкам, кожны павінен ведаць, што клятва — карысная справа, калі яна справядлівая і скіравана на ўслаўленне Бога, спрыянне бліжняму, або на ачышчэнне самога сябе.

Хрыстос не дазваляў клятвы толькі таму, што яўрэі ў той час прызвычаіліся клясціся пры ўсякай нагодзе, не лічачы гэта за грэх; яны ўважалі за грэх толькі хлуслівую клятву. Хрыстос адзначае, што клятва Божым імем, справядлівая або не справядлівая, калі яна зроблена з нагоды нязначнай рэчы, — ёсць грэх перад Богам. Згаданыя словы Хрыста не супярэчаць Божаму Закону, бо і Закон у трэцяй запаведзі забараняе прыносіць клятву без пільнай патрэбы: «Не возьмеш імя Госпада Бога твайго». І дадае: «надарэмна», каб хто не палічыў клятву мізэрнай справай.

Такім парадкам, хрысціянін можа клясціся імем Божым, або прыносіць прысягу, як цяпер гавораць, калі інакш нельга. Яна павінна ўслаўляць Бога і ўжывацца для праўдзівай справы. Дзеля славы Божай прысягалі Аўрам, Павел і іншыя. Ёсць аднак клятвы, якія належыць асуджаць, аб чым у «Выхадзе» напісана: «Калі хто аддасць бліжняму на захаванне серабро або рэчы, і яны будуць скрадзены з дому яго, то, калі знойдзецца злодзей, дык няхай ён заплаціць у падвойным памеры. А калі не будзе знойдзены злодзей, няхай гаспадар дома прыйдзе да суддзяў і паклянецца, што ён не ўзняў рукі на ўласнасць бліжняга свайго» (Вых. 22 : 7—8). Тут выразна бачыш, што Бог не толькі дазваляе клясціся, але ў выпадку пільнай патрэбы, загадвае прыносіць прысягу.

*Пытанне.* На чыё імя мусіць прыносіцца прысяга?

*Адказ.* У цяперашні век стала звычкай клясціся не толькі імем самога Бога, але й імем найчысцейшай Маткі Сына Божага і іншых святых. Гэтакі звычай не толькі злы, але і агідны. Бо клятва — гэта пакліканне самога Бога ў сведкі, які ведае ўсе рэчы (Іс. 63). Паколькі святыя не ведаюць, што з намі робіцца, таму непрыстойная справа клікаць іх у сведкі. Апрача таго, клятва — гэта служба, або паклон Богу, калі яна справядлівая. Служба Богу — гэта ўслаўленне яго. Таму той, хто прысягае імем святых, адбірае ў Бога яго славу. Супраць гэтага сам Бог вуснамі прарока Ісайі гэтак кажа: «Славы маёй нікому не дам, ні хвалы маёй істуканам» (Іс. 42 : 8). Такім чынам, ніхто не мае інакш прысягаць, толькі імем Божым. Як напісана: «Госпада Бога твайго бойся і яму адзінаму служы, і яго імем кляніся» (5 Майс. 6 : 13).

*Пытанне.* Што мусіць мець перад сабой чалавек, калі ён прысягае? Бо некаторыя маюць абраз, на які кладуць руку, або нават цалуюць яго.

*Адказ.* Таго звычаю, калі падчас прысягі клалі руку на абраз, а потым цалавалі яго, мы, хрысціяне, не павінны прытрымлівацца. Бо ён супярэчыць Слову

Божаму і звычаям Божых угоднікаў. Падчас прысягі хрысціяне павінны захоўваць той звычай, на які ўказаў сам Бог і які выкарыстоўвалі святыя.

Калі ў Святым Пісанні гаворыцца пра клятву або прысягу самога Бога ці нейкага святога, часта згадваецца ўздыманне рук. Зрэдчас клятва называецца ўзнясеннем рук. Так, у Езэкііля Бог, звяртаючыся да дому Ізраілевага ў пустыні, выказаў абурэнне яўрэямі наступным чынам: «Я зрабіў дзеля імя Майго, каб яно не зневажалася народамі, на вачах якіх Я вывеў іх. Я, узняўшы руку Маю супраць іх у пустыні, пакляўся, што не ўвяду іх у зямлю, якую даў ім» (Езэк. 20 : 14—15). Калі Госпад прамаўляе: «Узняў руку Маю на іх», дык гэта азначае — «клянуся». Гэтаксама і ў песні Майсеевай Бог кажа: «Уздыму да неба руку Маю і клянуся правіцай Маёй». Са сказанага вынікае, што тыя, хто кляўся, мелі звычай уздымаць руку ў неба.

Гэтак жа і Аўрам кляўся цару садомскаму. Калі цар прасіў у яго людзей, а ўсю маёмасць, адабраную ў чатырох цароў, загадаў аддаць яму, дык Аўрам вымавіў: «Уздыму руку маю да Госпада Бога Усявышняга, які валодае небам і зямлёй, але не вазьму!» Там, дзе Аўрам кажа: «Уздыму руку маю», належыць разумець гэтак, нібыта ён сказаў: «Клянуся!» З тых слоў вынікае, калі хто-небудзь кляўся, дык узносіў руку да неба.

Падобныя прыклады ёсць не толькі ў Старым Запавеце, але і ў «Адкрыцці» святога Яна. Тамака напісана: «І анёл, якога я бачыў, калі той стаяў на моры і на зямлі, узняў руку маю ў неба і кляўся тым, які жыве век вечны».

Такім парадкам, зважай на той звычай, які ўхваляе Святое Пісанне. І памятай заўжды аб ім. Нідзе ў Святым Пісанні не знойдзеш, каб падчас клятвы ўскладалі рукі на абразы ці нешта іншае. Заўсёды ўзносілі рукі ў неба. Таму і цяпер не варта выдумляць новых звычаеў.

*Пытанне.* Што думаеш аб тым, калі хтосьці прысягне нешта зрабіць, а потым убачыць, што тая рэч супярэчыць Божаму Слову? Ці павінен ён дзеля прысягі выконваць абяцанне, ці не?

*Адказ.* Хто неабачліва або наўмысна паабяцаў штосьці кепскае ўчыніць, а потым раскайваецца і не чыніць, хоць і мальбою прысягаў, — дык той грашыць толькі адзін раз. Той жа, хто дзеля злюбу або клятвы, баючыся яе парушыць, чыніць супраць Закону, дык той грашыць не адзін, а двойчы. Бо напісана: «Маліцеся і давайце абяцанні Госпаду» (Пс. 75 : 12). Але мусім памятаць пра тое, што гутарка ідзе пра пабожныя, а не бязбожныя малітвы. Пра бязбожныя напісана ў іншым месцы: «Бо Ты Бог, які не любіць беззаконня» (Пс. 5 : 5). Беззаконне — гэта ўсялякая рэч, учыненая супраць Божага Закону. Сказана, Бог не хоча беззаконня. А калі Бог не хоча яго, дык чаму ты павінен чыніць беззаконне? У якасці ўзору маем цара Ірада. Ён кляўся Ірадзіядзінай дачцэ даць ёй усё, аб чым яна папросіць (Мф. 14 : 7). А яна, навучаная маткай, папрасіла галаву святога Прадцечы і Хрысціцеля Іаана (Мк. 6 : 14—30). Пытаюся, што павінен быў зрабіць Ірад? Ці мусіў ён выконваць прынесеную клятву? Мяркую, няма аніводнага чалавека, які б не бачыў, што Іраду лепей было б парушыць не адну, а нават некалькі клятваў, чымся чыніць крыўду святому чалавеку, а тым болей — адбіраць у яго жыццё.

Таму і цяпер ніхто не павінен выконваць брыдкіх клятваў, не павінен дапускаць іх у сэрца, калі не хоча стаць паслядоўнікам Ірада. Брыдкімі мусім лічыць тыя клятвы, якія няславяць Бога, перашкаджаюць уласнаму выратаванню і замінаюць любові да бліжняга.

*Пытанне.* Што мяркуеш пра інакаў, або цнатлівых, якія мальбою абяцаюць захоўваць дзявоцкасць да смерці?

*Адказ.* Пра дзявоцкасць нельга думаць кепска. Апостал кажа, што добра, калі чалавек не дакранаецца да жанчыны. Пра гэта ён падрабязна піша: «Што да дзявоцтва, дык не маю наказу Гасподняга, а даю параду, як той, хто атрымаў ад Госпада міласць, быць яму верным. Дзеля цяперашняй патрэбы лічу за лепшае, што добра чалавеку заставацца так…» [1 Кар. 7 : 24—40].

Ісус Хрыстос ухваляе кажэнікаў (скапцоў), якія паводле ўласнай волі скажаюць сябе дзеля Нябеснага царства. Гэткімі былі Ілля, Ян і шмат іншых. Аднак належыць сцерагчыся, каб не прыраўнаць сучасных інакаў і манахаў, якія дэманструюць дзявоцкасць манаскай рызай, з тымі сапраўды некранутымі. Яны захоўвалі дзявоцкасць паводле іншага звычаю, у адрозненне ад цяперашніх. Сучасныя жывуць паводле памылковых уяўленняў, тры з якіх — галоўныя.

Першая іх памылка ў тым, што яны не жывуць у дзявоцкасці свабодна, нязмушана, але толькі праз абяцанне і мальбу. Чыніць падобнае Хрыстос нідзе не загадваў. Ян жыў у дзявоцкасці, але пра яго не пішацца, каб ён чыніў тое праз клятву. Гэтак жа і Ілля. Апостал шмат піша пра дзяўчат і юнакоў, але нідзе не загадвае ім, каб яны пакляліся жыць у такім стане ўсё жыццё. Наадварот, ён выразна піша, што дзяўчына можа выходзіць замуж, і ў гэтым няма аніякага граху. Апостал літаральна зазначае: «Калі дзяўчына ўступае ў шлюб, яна не грашыць».

Аднак сучасныя цнатліўцы гэтак разумеюць: калі нехта пераступіць прысягу і пагодзіцца на шлюб, дык той — здраднік, горшы за Іуду. Але ім варта асцерагацца, каб не апынуцца ў ліку тых, пра якіх апостал піша ў лісце да Цімафея: «Дух жа ясна кажа, што апошнім часам адступяцца некаторыя ад веры, слухаючы душаў спакуснікаў і вучэнняў дэманскіх, праз крывадушнасць ашуканцаў, што спалілі сумленне сваё, якія забараняюць браць шлюб і есці тое, што Бог стварыў, каб веруючыя і тыя, што ўведалі ісціну, елі з падзякаю» (1Цім. 4 : 1—3).

Угледзься пільна ў тыя словы Святога Духа і ўбачыш, хто маецца на ўвазе. Відавочна, называе адступнікамі тых, якія забараняюць жаніцца. Іх забарону ён называе д'ябальскай навукай. Няўжо ж не знойдзеш гэтакага сярод сучасных цнатліўцаў? Гэтаксама варта асцерагацца і тых, а апостал гэта загадвае, пра якіх ён піша ў лісце да каласянаў: «Ніхто хай не ашукае вас сваёй самавольнай удаванай пакораю і службай анёлаў, урываючыся ў тое, чаго не бачыў» (Кал. 2 : 18) і гэтак далей. Тут апостал засцерагае каласянаў, каб не дазволілі нікому спакусіць сябе ані ціхмянасцю, ані пакорай, ані службай анёлам, гэта значыць, дзявоцтвам. І цяпер манаства часта называюць анёльскім вобразам.

Карацей кажучы, сцеражыся кожнай той сеткі, з дапамогай якой Д'ябал шмат каго палавіў. Цнатлівасць — добрая справа для тых, каму міласцівы Бог даў яе. Аднак нельга абяцаць жыць у цнатлівасці. Належыць вольна з ёй служыць Богу на ўзор Іаана Хрысціцеля. Той акурат нічога не абяцаў, але стала захоўваў цнатлівасць. Вялікая небяспека палягае ў тым, каб абяцаць Богу рэчы, якія не знаходзяцца ва ўладзе чалавека. Зусім наадварот чыняць нашыя «цнатліўцы». Яны клянуцца Богу заўсёды заставацца цнатлівымі. Але гэта ўсё адно, як клясціся ніколі не спаць або ніколі не есці. Іх клятва нішто іншае, як спакуса Бога! Але Бог забараняе спакушаць яго. Ён кажа: «Не спакушай Госпада, Бога Твайго» (Другазак. 6 : 16).

Спакушае Бога той, хто да яго запаведзей дадае нешта ад уласнага розуму і шмат на сябе ўскладае. Менавіта гэтак чыняць цяперашнія «цнатліўцы», якія забыліся на словы Давыда: «Добраахвотна прынясу ахвяру Табе» (Пс. 53 : 8). Яны хочуць прынесці ахвяру Богу пад прымусам. Ім недастаткова добраахвотна жыць у цнатлівасці, яны прагнуць прыносіць прысягі. Але як гэтыя «цнатліўцы» выконваюць уласныя абяцанні — усе добра ведаюць! Таму пра гэта наогул не варта пісаць. Мне падаецца. Не вялікую крыўду для нашых «цнатліўцаў» учыніць той, хто прыгадае ім словы апостала Паўла, звернутыя да рымлянаў. Там апостал кажа: «Аддасць іх Бог ва ўсе пажаднасці сэрцаў іх, у нечыстоты, дзеля апаганьвання іх целаў…» і гэтак далей.

Не надта памылюся, калі назаву іх абяцанні сеткай Д'ябла, у якую многія патраплялі і цяпер трапляюць. Найперш, іх абяцанні — шлях да граху. Баючыся праз час адмяніць уласныя клятвы, нашы «цнатліўцы» жывуць распусна, не лічачы гэта за грэх. Такім парадкам яна грашаць двойчы. Першы раз, калі абяцаюць жыць у дзявоцтве, хоць ім Бог не даў схільнасці да дзявоцтва. І другі раз, калі ўжо

не выконваюць сваіх абяцанняў жыць у дзявоцтве, бо замест яго вядуць распусны лад жыцця. Не лічы, што я ўсё прыдумваю і абгаворваю іх. Для мяне агідныя гэткія непрыстойнасці, і я іх пазбягаю. Я ва ўсім пакладаюся на Божае Слова.

Заўваж, апостал гэтаксама засцерагае ад таго, каб дзявоцтва не сталася для нас сілом або сеткай. У тым месцы, дзе ён ухваляе бясшлюбнасць [1 Кар. 7 : 24—35], ён у канцы піша: «Кажу гэта на вашую ж карысць, не на тое, каб накласці на вас путы» (1 Кар. 7 : 35). Прашу цябе, прыгледзься пільна да таго, што кажа апостал. Сапраўды, ён прама не гаворыць: «Не абяцай дзявоцтва», але акурат гэта мае на ўвазе. Бо на той час яшчэ не існавала падобных клятваў, яны з'явіліся нашмат пазней. Тады абяцанні або клятвы прыносіліся ў адпаведнасці з Законам, гэта значыць, яны былі яўрэйскія, а не хрысціянскія. Менавіта таму апостал, ці, дакладней, Святы Дух, называе іх не клятвамі і абяцаннямі, а сілом і путамі. Ён кажа: «Кажу гэта на вашую ж карысць, не на тое, каб накласці на вас путы». Ён тут як быццам бы напісаў: «Добрая справа — дзявоцтва, але яно мусіць быць без сіла». Дзявоцтва павінна быць паводле добрай волі, а не праз клятву ці абяцанні.

Хрыстос не загадвае быць скапцамі пад прымусам, але толькі тым, хто можа [Мф. 19 : 3—15]. Ён гэтак кажа: «Хто можа уцяміць, няхай уцяміць» (Мф. 19 : 12). Цяперака многія трываюць скапецтва, хаця не маюць дару яго. Яны спачатку ўскладаюць на сябе клятву, а потым жывуць у тых путах. Калі яны не пакаяцца, дык будуць страшэнна пакутаваць. Божае Слова нікога не абмінае, хоць людзі ў гэта і не вераць. А яно сведчыць, што Бог не даруе нікому, хто надарэмна возьме імя яго. Аб тым і Саламон піша, што нашмат лепей нічога не абяцаць, чымся паабяцаць, а затым не выканаць абяцанне (Экл. 5). Але ўжо досыць пра першую аблуду.

Другая памылка нашых «цнатліўцаў» у тым, што яны парушаюць звычай дзявоцтва, бо праз яго спадзяюцца здабыць вечнае жыццё. Каб яны не марылі аб вечным жыцці праз такое іх «дзявоцтва», дык манастыры сталі б нашмат вальнейшымі, бо іх Бог — чэрава.

Высветлім, адкуль яны запазычылі іх меркаванні. Найперш, яны зважаюць на словы Хрыста, які гаварыў пра скапцоў, што тыя псуюць сябе дзеля здабыцця Божага Царства. Словы Хрыста яны зразумелі так, нібыта ён ухваляў учынкі тых скапцоў, якія калечылі сябе дзеля здабыцця Нябеснага Царства. Але такое разуменне — шкоднае і памылковае. Хрыстос не тое мае на ўвазе, што яны лічаць. Ён зусім не ўхваляе скапцоў, якія аскапіліся дзеля здабыцця неба. А яны мяркуюць, што скапцы псуюць сябе дзеля Божага царства, каб служыць яму і пашыраць яго.

Зразумей, што Божае Царства — гэта Святое Евангелле, або Хрыстова навука. Быць скапцом дзеля гэтага Царства — добрая справа. Гэта значыць, не браць жонкі, каб быць больш падрыхтаваным да ўсялякай справы, якая была б карыснай таму Царству. Дзеля таго аскапіліся Іаан Хрысціцель, Ілля і іншыя. Яны жылі без жонак, але не з той мэтай, каб здабыць для сябе неба. Не дзявоцтва, а зусім іншыя рэчы патрэбныя для здабыцця Нябеснага Царства, або вечнага жыцця.

Але не будзем адхіляцца ад галоўнай рэчы. Дзявоцтва — сапраўды Божы дар і вельмі карысны. Аднак яно дадзена не дзеля апраўдання і даравання грахоў, як мяркуюць манахі, а дзеля таго, каб чалавек пачуваўся вольным і гатовым да ўсялякай добрай справы, пра што я ўжо гаварыў. Мая думка пацвярджаецца словамі апостала Паўла, які, пішучы пра дзявоцтва (1 Кар. 7 : 24—34), раіў карынфянам: «Дзеля сапраўднай патрэбы лічу за лепшае, што добра чалавеку заставацца так» (1 Кар. 7 : 26), гэта значыць, без жанчыны. Зразумелая рэч, што тымі словамі апостал ухваляе дзявоцтва, бо кажа: «Добра чалавеку заставацца так». Але ён выразна вытлумачвае і прычыну таго, чаму дзявоцтва з'яўляецца дабром, бо кажа: «Дзеля сапраўднай патрэбы».

Дакладна памятай, што апостал не кажа: «Дзеля адпушчэння грахоў», або дзеля вечнага жыцця. Апостал кажа «Пра сапраўдную патрэбу». А гэта значыць, такую патрэбу, якая як бы стаіць над намі, вынікае з цяжкасцей, што заўсёды паўстаюць перад намі. Добра ведаем: жанатаму чалавеку бывае цяжэй, чымся

нежанатаму, асабліва ў час, калі на яго прыходзяць ганенні, розныя прыкрасці і клопаты. Нежанаты вольны ад шмат якіх рэчаў. Таму апостал і кажа пра жанатых, што яны будуць мець сум з-за патрэбаў цела (1 Кар. 7 : 28). Зноў жа пра нежанатых там піша, што яны дбаюць перадусім пра справы Гасподнія. Вось гэтакая адплата за дзявоцтва, а не якая іншая.

Трэцяя памылка сучасных манахаў. Яны мяркуюць, што дзявоцтва больш даспадобы Богу, чымся шлюб. Яны прыгадваюць словы Хрыста пра семя, якое ўпала на зямлю. Там гаворыцца, што яно прыносіць ураджай у сто разоў большы, або ў 60 ці 30 разоў. Цяперашнія манахі даводзяць, што сторазовы ўраджай сімвалізуе дзявоцтва, а 60 і 30 азначаюць шлюб (чытай «Тлумачальнае евангелле», слова 34). Але яны надта памыляюцца. Там Хрыстос гаворыць не пра дзявоцтва, а пра сваё Слова, ад якога не ўсе ў аднолькавай ступені маюць карысць. Калі яно трапляе на добрую глебу, на добрае сэрца, дык чалавек, незалежна ад таго, бялец ён або чарнец, створыць плод, здабудзе карысць ад гэтага семя, гэта значыць, ад Слова Божага. Чалавек не толькі сам стане пабажным, але і іншых схіліць да пабажнасці, найперш, уласны дом. А паколькі адзін чалавек прыцягвае больш людзей, чымся іншы, дык таму Хрыстос і кажа пра розны ўраджай.

Можам разумець словы Хрыста і наступным чынам: калі хто ўласнае цела мярцвіць, каб у ім не было камення і церня, якія знішчаюць і выкараняюць Божае семя, дык той прыносіць плод. Але не ўсе аднолькава выкараняюць тое церне; адзін больш, а іншы менш. Таму Хрыстос і кажа, што кожны прыносіць розны прыбытак: хтосьці ў сто разоў большы, а іншы — толькі ў 60, або нават у 30 разоў.

Зважай і на тое, што Хрыстос прыпісвае плод не зямлі, а семю. Ён не кажа: «Добрая зямля прыносіць плод». Хрыстос кажа: «Семя, якое ўпала на добрую зямлю, узрастае і прыносіць плод». Такім чынам ён засцерагае кожнага: калі хтосьці адшукае ў сабе дабро, няхай не прыпісвае яго сабе. Няхай ведае, што ўсякае дабро і ўсякая ўзнагарода зыходзіць з верху ў выглядзе святла ад нябеснага Айца. Аб гэтым піша Якаў (Як. 1—17).

Таму надта памыляюцца манахі, якія мяркуюць, што іх дзявоцтва перад Богам вышэйшая рэч, чымся шлюб. Калі ж ім здаецца, што іх праўда, няхай пацвердзяць сваё меркаванне Божым Словам. Але іх уяўленні народжаныя не словам Божым, а цялесным розумам. Апостал Павел піша, што ёсць розніца паміж дзяўчынай і жанчынай. Але тое адрозненне існуе не дзеля таго, каб мець перавагі перад Богам, а каб мы маглі жыць без суму. Хто гэтак лічыць, таму жонка не з'яўляецца перашкодай. Але ўжо дастаткова пра гэта.

*Пытанне.* Як Бог карае тых, хто не выконвае трэцяй запаведзі?

*Адказ.* У Майсеевым законе Бог загадаў такіх забіваць камянямі. Гэтак учынілі з сынам адной ізраільцянкі, якая нарадзіла яго ад егіпцяніна. Той пасварыўся з сябрам і пачаў абражаць Госпада. І загадаў Госпад забіць яго. І не толькі аднаго яго пакараў, але загадаў гэтак рабіць з усімі, хто дазволіць сабе ганьбіць яго імя (Левіт 24). Да абавязкаў ураду належыць ажыццяўляць пакаранне зневажальнікаў. Калі ўрад не пакарае, Госпад абяцаў асабіста караць іх. Бо так дадаў да сваіх слоў: «Не ачысціць ад грахоў Бог таго, хто надарэмна бярэ імя Госпада Бога».

Не лічы, што маецца на ўвазе толькі клятва або прысяга. Будуць пакараны ўсе, хто беспадстаўна звяртаецца да Бога. Калі хтосьці блюзнерыць або праклінае, — гэтаксама не абміне яго Божая кара. Кожны, хто ганіць Госпада, або хлусіць, прыкрываючыся імем Госпада, не пазбегне кары і будзе пакутаваць не толькі на гэтым свеце, але і пасля смерці.

Пра Рабсака, ваяводу асірыйскага цара, напісана. У час, калі Рабсак акружыў Іерусалім, ён саманадзейна зневажыў імя Госпада. У першую ж ноч ён быў жорстка пакараны; насланы анёл забіў сто восемдзесят пяць тысяч жаўнераў з яго войска (4Цар. 18, 19).

Пра Карынфа-ерэтыка пішуць наступнае. Калі Іаан Багаслоў спаткаў яго ў абмывальні, дык не пажадаў быць побач з ім, бо ведаў, што той з'яўляецца зне-

важальнікам Сына Божага. Іаан Багаслоў звярнуўся да сваіх вучняў: «Бяжым адсюль, каб не загінуць разам з Карынфам, сапраўдным ворагам» (Яўсевій, 3 кніга царкоўных падзей, раздзел 28). І пішуць, як толькі Іаан выйшаў, абмывальня пабурылася і забіла Карынфа.

Не лепшы канец меў і Арый-ерэтык. Ён адмаўляў боскасць Ісуса Хрыста, таму скончыў гэтак жа, як Іуда.

*Пытанне.* Што Бог абяцаў тым, якія яго імя ўжываюць з верай і ў патрэбны час?

*Адказ.* Абяцаў ніколі не пакідаць іх, заўжды выслухоўваць і выратоўваць, заўжды быць з імі і пазбаўляць ад розных няшчасцяў. Пра гэта часта Святы Дух згадвае ў псалмах. Так, у псалме 49 сказана: «І пакліч мяне ў дзень смутку. Я ўратую цябе і ты ўславіш мяне» (Пс. 49 : 15). Гэтаксама ў псалме 144 сказана: «Блізкі Госпад да ўсіх, хто кліча яго, да ўсіх, хто кліча яго ў праўдзе» (Пс. 144 : 18).

Паўсюль у Святым Пісанні знойдзеш такія абяцанні. І не толькі абяцанні, але і вынік пабачыш, калі Бог у адказ на звароты да яго творыць вялікія цуды, сваёй моцай абараняе і выратоўвае вернікаў. Клікаў Майсей — і расступілася мора. Клікаў Ісус Навін — і спынілася Сонца. Клікаў Саламон — і пачуў у адказ голас з нябёсаў. Клікаў Ілля — і сышоў агонь з неба. Не буду згадваць і шмат якія іншыя прыклады.

[37 адв.] *Пытанне.* Кажы чацвёртую запаведзь?

*Адказ.* Чацвёртую запаведзь Бог так напісаў: «Памятай святкаваць дзень суботні».

*Пытанне.* Як належыць разумець тое слоўка святкаваць?

*Адказ.* Святкаваць — не проста бяздзейнічаць, як часам наўпрост разумеюць, а прысвяціць сябе святым справам.

*Пытанне.* Скажы больш аргументавана, каб зразумеў прычыны. Ці лепей Бог любіць святкаванне, чымся працу?

[38] *Адказ.* Не для таго Бог сёмы дзень святкаваць загадаў, што не любіць працы, а любіць забавы, паколькі на Адама той закон усклаў, калі выганяў яго з раю, каб ён еў хлеб свой з поту працы сваёй, урабляў зямлю ва ўсе дні жыцця свайго. А для таго, каб чалавек меў пэўны дзень, у які б мог вывучаць Слова Божае і займацца святымі справамі. У тым слове не проста загадваецца святкаваць, ці забараняецца штосьці рабіць, а загадваецца займацца святымі справамі.

«Святкаваць» — значыць рабіць святыя справы, а не бяздзейнічаць, або нічым не займацца. Святыя справы, якія Бог загадвае рабіць, наступныя: слухаць Божае Слова, даваць міластыню, маліцца Богу і іншыя. Такім чынам, у той дзень Бог не забараняе рабіць святыя справы, а адно толькі забараняе займацца мірскімі, свецкімі і дачаснымі рэчамі.

*Пытанне.* Скажы мне, ці павінны хрысціяне святкаваць сёмы дзень? А таксама, чаму яны святкуюць нядзелю, а не суботу?

*Адказ.* Хто добра зразумее, дзеля чаго Бог загадаў ізраільскаму народу святкаваць суботу, той лепей зможа зразумець, чаму хрысціяне вольныя ў сёмы дзень і як павінны яго адзначаць. У Святым Пісанні знаходзім чатыры прычыны, дзеля якіх Бог загадаў святкаваць суботу. Першая прычына, каб людзі памяталі пра сатварэнне свету. Аб гэтай прычыне Майсей піша: «За шэсць дзён сатварыў Бог неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх ёсць. І адпачыў у дзень сёмы» (Вых. 20 : 11). Ён як бы прамовіў: «Памятай пра святкаванне суботы і не збывайся, што за шэсць дзён Бог сатварыў увесь свет».

Другая прычына, каб людзі мелі таямніцу або вобраз духоўнага адпачынку. Субота сімвалізуе, што мы ўсе маем патрэбу ў тым, каб нас Бог асвяціў і прыняў да вечнага адпачынку. Аб гэтай прычыне паведаміў Майсей у «Выхадзе», калі напісаў, што Бог кажа: «Глядзіце, захоўвайце маю суботу. Бо яна ёсць знак паміж мною і вамі і ўсімі вашымі родамі на вякі. Разумейце, я ёсць Госпад, які прасвятляе вас» (Вых. 31).[...]

[49 адв.] *Пытанне.* Кажы пятую запаведзь?

*Адказ.* Пятая запаведзь: «Шануй бацьку і матку тваю. Тады будзеш доўга жыць на зямлі, колькі Бог дасць табе».

*Пытанне.* Што тут Бог называе шанаваннем?

*Адказ.* Святое Пісанне не толькі тое шанаваннем называе, што людзі зазвычай маюць на ўвазе. Бо людзі лічаць тое шанаваннем, калі хто да каго паважліва гаворыць, устае перад ім, здымае шапку, кланяецца. У Святым Пісанні гонарам называецца не толькі такі [50] звычай, але таксама, калі хто, убачыўшы патрэбы іншага чалавека, выдзяляе яму частку ад сваёй маёмасці.

Пятая запаведзь мае на ўвазе наступнае шанаванне: каб слухаліся і падпарадкоўваліся бацькам сваім, захоўвалі павагу да іх, калі спатрэбіцца — давалі ім парады, нарэшце, працу сваю дзеля іх карысці аддавалі. У тым сутнасць шанавання, якое Бог выказаў у гэтым запавеце.

А калі хочаш яшчэ больш упэўніцца ў тым, што шанаваць — азначае карміць, выхоўваць і даглядаць. Як піша апостал да Цімафея: «Прасвітары, якія служаць годна, вартыя адмысловага гонару, асабліва тыя, якія працуюць у слове і ў навучанні» (1 Цім 5 : 17). І дадае, каб Цімафей дакладна зразумеў пра якое шанаванне ідзе гаворка: «Бо Пісанне кажа: «не цугляй мызу валу, які малоціць»; і «хто працуе, той варты ўзнагароды сваёй» (1 Цім 5 : 18).

Калі б Павел тут не «даванне» назваў гонарам, дык навошта б ён згадваў пра вала, які малоціць; навошта б забараняў завязваць яму мызу, муздаць вуздэчкай, каб той не мог есці? Навошта б апосталу спатрэбілася ўзгадваць слова Хрыста пра працаўніка, які варты ўзнагароды, атрымання належнай платы за яго старанную працу? Аб гэтым варта памятаць і ўшаноўваць сваіх бацькоў не толькі словам, паклонам і шапкай, але, усё гэта чынячы, не забывацца і пра больш істотныя рэчы.

*Пытанне.* Цяпер буду добра ўсведамляць, як належыць ушаноўваць бацькоў. Але скажы мне яшчэ, каго Бог называе бацькам і маткай, ці толькі тых бацькоў, ад якіх мы маем цела?

*Адказ.* Калі б мы, народжаныя ад бацькі і маткі, не мелі патрэбы ў дапамозе, абароне і навуцы ад іншых людзей, дык мы не павінны былі б нікому выказваць пашаны, апрача нашых бацькоў. Але мы не можам існаваць на свеце без спрыяння іншых людзей. Таму, побач з нашымі роднымі бацькамі, мы павінны ўшаноўваць і тых, ад каго прымаем пералічаныя даброці. Да гэтых людзей належаць: нашы настаўнікі, майстры, пастыры і ўрадоўцы. Усіх іх мы павінны шанаваць гэтак жа, як і нашых бацькоў.

Сапраўды, ад бацькоў мы маем цела, але ад майстроў атрымліваем веды, як можам наша цела захаваць, каб яно мела адзенне і ежу. Ад уладаў атрымліваем бяспеку і спакой, ад пастыраў — добрае сумленне. Без бацькоў ніхто не можа з'явіцца на свет, але калі чалавек не засвоіць добрых нораваў, дык якая з яго будзе карысць? А калі ён будзе народжаны і добра выхаваны, але не будзе абаронены ад ворагаў урадам, дык навошта яму тое выхаванне?

Але калі чалавек атрымае добрае выхаванне і абарону, але не будзе мець магчымасці слухаць Божае Слова, дык у такім разе ён будзе жыць у вялікай нястачы.

Таму пятая запаведзь мае на ўвазе не толькі шанаванне бацькоў, але і ўсіх тых, каго я пералічыў вышэй, — настаўнікаў, пастыраў і ўрадоўцаў. Іх мы павінны шанаваць не менш за нашых бацькоў. І не толькі таму, што яны даюць нам навуку і абарону, але яшчэ і таму, што Бог іх паставіў сваімі намеснікамі і загадаў падпарадкоўвацца ім.

***Пераклад са старабеларускай***
***Івана САВЕРЧАНКІ.***

**Казімір КАМЕЙША**

# У РЫТМЕ СЭРЦА

**Уладзімір МАЗГО. Сакавіны. Паэзія і проза.** *Мн.: Чатыры чвэрці, 2012.*

Гэта кніга нагадала мне дарогу, якая заўсёды шчасліва вяртае чалавека ў яго родныя мясціны. «Вяртанне гэта — нібы свята», — радасна прамаўляе яе аўтар Уладзімір Мазго, і адпаведны святочны настрой вядзе нас па старонках ягонай новай кнігі. Яна і ўкладзена па прынцыпе самой дарогі, на ёй хіба няма дарожных указальнікаў, а ўсё астатняе — рэкі, масты, бары і лугавіны, знаёмыя цэрквы, касцёлы і цэлыя замкавыя ансамблі, — прысутнічаюць. Толькі ўсяму, пра што піша і пракручвае ў памяці паэт, ёсць сваё ўласнае асэнсаванне, свая падфарбоўка, свой фокус бачання, свая гама захаплення.

І адразу ярка ўспыхнуў у памяці мой асабісты прыпамін, тое, як мы ўчатырох — Мікола Мятліцкі, Уладзімір Саламаха, ён, аўтар кнігі, дый аўтар гэтых радкоў — адправіліся аднойчы ў гэту самую дарогу, крыху затрымаўшыся і ў маіх Навіках.

Быў красавіцкі дзень, не зусім вясновы, з дужым, нават замоцным ветрам, і мы кіраваліся на Зэльву. Памяць захавала вывернутае з каранямі дрэва ў райцэнтры, бліз школы, якое, пэўна, ужо не адратуеш, і вецер, што зрывае з галоў шапкі. Апошнім часам прырода сталася дужа гняўлівай, часта страшыць ураганамі. Дастаткова зайсці ў лес — і на свае вочы пабачыш іх дрэваломныя сляды. Нябачнай сякерай калечыць сама сябе, падсякае па верхавінах і камлях магутныя бярозы і елкі. Ці ні напамінак гэта чалавеку, што гнеў яе скіраваны да яго, грэшнага, які па сённяшні дзень усё яшчэ няміласцівы да прыроды і яе спрадвечных багаццяў. Вяртаючыся назад, недзе за Слонімам, даганяла нас хмарнае воблака пылу, за якім нават не праглядваўся густы зялёны лес.

Гэта, як кажуць, да слова. А дарога наша была і не такая ўжо сумная, а наадварот, святочная. Бо ехалі мы на штогадовае тутэйшае літаратурна-музычнае свята «Сакавіны», якое ладзіў аддзел культуры Зэльвенскага райвыканкама. Свята сапраўды вясновае, бо і назва ўзята ў самой вясны, яно нагадвае пра гаючы кляновік і бярозавік, якімі шчодра адорваюць нас веснавыя дрэвы. Бярозавікам мы частаваліся на Стаўбцоўшчыне, у маёй пушчы, а тут гучалі вершы, музыка, песні. Добрае, шчырае літаратурна-музычнае сугалоссе, якое яшчэ доўга не змаўкала ў сценах раённага Дома культуры. Вось і радкі паэта спявалі пра тыя самыя «Сакавіны».

Штогод
У родныя мясціны
Прыходзіць свята —
Сакавіны.
Зямлі заспанай абуджэнне,
Вясны жаданай
Нараджэнне.

Пад небам,
Светлым і высокім,
Абсяг прапах
Вясновым сокам,
Дзе радасць вершамі разліта
На роднай мове
Сакавітай.

Кніга У. Мазго з адпаведнай назвай «Сакавіны» дорыць нам сваё сонечнае свята, з добрым вясновым настроем,

чыстым паветрам ды яркім блакітам пралескавых узлессяў.

Паэты любяць дарогі, таму што яны дораць ім не толькі незабыўныя ўражанні, але і вяртаюць з памяці самыя дарагія малюнкі і вобразы. Але самая «святая» дарога тая, якая вядзе ў родны куток:

Як таямніцу, у жыцці
Адчуў яе пры нараджэнні,
Але дарэшты не спасціг,
Бо сэнс жыцця — у спасціжэнні.

Іменна, у спасціжэнні бачыць У. Мазго і галоўны сэнс сваіх паэтычных росшукаў. Часам такое спасціжэнне адбываецца праз ужо даўно адкрытае ім, але ўбачанае потым у зусім іншых фарбах і адценнях. Не, паэт не азіраецца назад, не пераглядвае сябе ў былым, ён нібыта мяняе лінзы ў акулярах свайго бачання і ўжо больш пільна прыглядаецца да рэчаў даўно знаёмых, паварочваючы іх і тым, і іншым бокам. Зрок, як і думка, з гадамі сталее, робіцца больш разважлівым. Тое, што некалі сузіральна прабягала паўз вока, зараз патрабуе сваёй заглыбленасці і засяроджанасці. Пэўна ж, не раз згадваў паэт стары «замшэлы млын // На беразе рачулкі», мабыць, і спыняўся перад ім у задуменні, але бачыў у ім усяго толькі рэч старога часу. Ды вось урэшце млынава кола крутнулася для аўтара зусім іншым чынам. Згадаліся і людзі, якія лёсам сваім прайшлі праз зусім іншыя жорны часу. Не ўсё тое, што ляжыць на паверхні, мусіць бачыць паэт. Ён павінен зазіраць і ў глыбіню. Сэнс адкрыцця хаваецца менавіта там, у глыбіні (верш «Стары млын»):

Гадоў
Глыбокія віры
На дне
Схавалі даты,
Калі сталелі млынары —
Ратаі і салдаты.
Яны спазналі
Боль і смех,
І злыбеду,
І радасць,
Калі малоўся
З неба снег,
Халодны,
Нібы зайздрасць.

Геаграфія і гісторыя, яны цесна паяднаны ў кнізе «Сакавіны». Дарога на Зэльву, пачынаючы ад абодвух берагоў Нёмана, які мы прамінаем ужо ў Стоўбцах, нібыта той экскурсавод, пачынае знаёміць нас і з Мірскім замкам, «дзе продкаў вежы крапасныя / Бароняць нас ад забыцця», і з нясвіжскімі скарбамі Радзівілаў, і з мураванкамі Слоніма, Сынкавіцкай царквы, Шведскай гарой у Ваўкавыску. Паэтычнае слова і стагоддзі, і назвы нібыта звязвае ў адзін вузел. І гэта цікавае знаёмства са славутымі мясцінамі і вобразамі малой радзімы міжволі вырастае ў адчуванне Радзімы вялікай:

Я памяць паклікаў —
І кажа былое:
Радзімы вялікай
Няма без малое.

У самой паэтычнай тканіне вершаў Уладзіміра Мазго няварта шукаць нейкіх кідкіх ніцяў, мудрагелістых вобразаў, загадкавай, амаль кодавай шараднасці, якая дужа падабаецца сённяшнім маладым творцам. Тут усё традыцыйна проста, нават часам з падкрэсленасцю гэтай простасці. І я разумею, чаму паэт заўсёды пазбягае залішняй ускладнёнасці і кожны раз прыбліжае свой радок да ціхага размоўнага такту, часам яго інтанацыйна запавольваючы ці скорагаворкава напружваючы. Паэту жадаецца, каб яго аднолькава разумелі і чытачы дарослыя, і тыя, што ўпершыню знаёмяцца з паэтычным словам.

Яму, аўтару многіх вядомых дзіцячых кніг, хочацца быць шчырым, разнасцежаным і зразумелым. Ці ні пра тое самае сказаў аднойчы і вядомы паэт Кайсын Куліеў: «Паэзія — не навука. Яна павінна быць зразумелай кожнаму». А што тычыцца тэматыкі, дык яна ў паэта не абмежавана нейкім вузкім тэматычна-пазнавальным колам. Тэматычна кніга «Сакавіны» даволі разнастайная. Захапляючыся хараством родных краявідаў, аўтар не можа абысці ўвагай і таго трагічнага, якое, як налёт попелу, часам пасыпала родную зямлю. Нават дзеля ачышчэння душы сваёй трэба часцей і часцей згадваць тое балючае і трагічнае, пераконвае

нас паэт у вершы пра чарнобыльскую трагедыю:

Халодны пот. Гарачы снег.
І нехта ўпаў. А нехта збег,
Хаваючы рэактар, —
Хто за сабой людзей павёў
І захлынаўся ад прамоў
Пра чалавечы фактар.
Змываем пыл духоўных ніў,
Што нечакана паланіў
І нашы сны парушыў.
І дай нам, Божа мілы, сіл,
Каб змыць нарэшце гэты пыл —
Ачысціць нашы душы!

Самі геаграфічныя назвы падказваюць часам паэту ўдалы зачын паэтычнага напеву, своеасаблівую форму імпрэсіі, дзе ўсё падпарадкавана светламу веснавому настрою, дзе само слова вызначае той настрой. Дарэчы, веснавых, сонечных матываў вельмі шмат у зборніку. Усё суадпаведна назве «Сакавіны» і, напэўна, самой задуме. Тут і вясновы лес дорыць нам «свой непаўторны паланэз», і асвячае ўсе думкі Вялікдзень, дзе «сонца — чырвонае яйка ў блакіце», і прысутнічае веснавы раскаваны Нёман, з «паводкай ледзяной», словам, душа паэта «ў вясну расчынена». Штосьці веснавое чуецца нам нават і ў зімовых вершах У. Мазго.

Вядома, што паэт сябруе з кампазітарамі. Многія яго вершы сталіся песнямі, іх выконваюць вядомыя беларускія спевакі. Можа, таму аўтар так шмат увагі надае меладычнасці радка, ніколі не абцяжарваючы яго залішняй алітэрацыяй, цяжкагучнымі словамі, раскаванасці рытма. Вось як лагодна ў вуснах паэта гучыць зімовая снежная мелодыя:

Шукала вёска ў белізне
Для назвы апраўданне.
І падаў,
Падаў,
Падаў снег,
Ствараючы паданне.

Тут у кожным радку чуецца музыка. Яе лёгка ловіць наш слых. І такіх радкоў у кнізе даволі багата.

Цэлую нізку вершаў «Мінскі альбом» прысвяціў У. Мазго сталіцы Беларусі. Запамінаюцца радкі пра Губернатарскі сад, у казачным абліччы паўстае знаёмы фантан з гусьмі і бронзавы конь на Камароўцы, добра кладуцца на душу і вершы інтымнага плана, пра светлае і спрадвечна дарагое пачуццё кахання.

У кнігу ўвайшоў і празаічны раздзел. Добрую яго частку складаюць мініяцюры, самага рознага кшталту жыццёвыя прыгадкі. У адной з іх У. Мазго дзеліцца з намі сваім творчым сакрэтам: «Аднойчы ў час размовы з паэтэсай Ларысай Генію ш, якая жыла ў Зэльве, спытаў, як яна вызначае памеры сваіх вершаў.

— Я ніколі не думаю пра гэта, а пішу так, як б'ецца сэрца! — пачуў у адказ.

З той пары заўсёды стараюся пісаць у рытме свайго сэрца».

Падумалася, як гэта важна для паэта пісаць «у рытме свайго сэрца». У нашай жа паэзіі апошнім часам занадта шмат так званай арытміі, аморфнасці і халоднасці, многія з маладзейшых ужо і рыфмаваць саромеюцца, а, можа, не здольныя гэта рабіць.

Зэльве і зэльвенцам прысвяціў У. Мазго грунтоўны краязнаўчы нарыс «Мой зялёны гарадок». Матэрыял гэты патрабаваў удумлівай і засяроджанай даследчыцкай працы. Спасылаючыся на шматлікія гістарычныя крыніцы, згадкі дасведчаных і знакамітых людзей, падмацоўваючы ўсё гэта ўласнымі паэтычнымі радкамі, аўтар узнаўляе перад намі цэлае гістарычнае палатно падзей, асоб, фактаў сваёй роднай мясціны, вяртаючы тым самым гістарычную памяць сабе, сваім землякам і іх нашчадкам. Сённяшнія школьнікі, магчыма, і не здагадваюцца, што іх гарадок калісьці слыў адным з найбуйнейшых гандлёвых цэнтраў Еўропы. Гэта пра іх, зэльвенцаў, казалі, што яны адзінаццаць месяцаў марнеюць, а месяц жывуць. Славуты «Ганненскі кірмаш», названы так у гонар святой Ганны, быў вядомы на ўвесь свет (XVIII стагоддзе), лічыўся другім па размаху ў Старым Свеце пасля Лейпцыгскага і доўжыўся з 25 ліпеня да 25 жніўня.

Вось што пра гэта даведваемся з нарыса: «…Зэльва ўяўляла ў той час амаль Лейпцыг у гандлёвых маштабах.

Сюды з’язджаліся купцы з Расіі, Украіны, Польшчы, Францыі, Саксоніі, Баварыі, Нідэрландаў, Аўстрыі, Прусіі, Італіі, Даніі, Швецыі і іншых краін Еўропы. Тавары, прывезеныя на Зэльвенскі кірмаш, былі самыя разнастайныя. У расійскіх купцоў тут можна было набыць скураныя, жалезныя, медныя, бронзавыя вырабы, фаянсавы і фарфоравы посуд, футры, цукар, чай, цыгарэты, мыла, баваўняныя тканіны. Гандляры з Еўропы прапаноўвалі шоўкавае, ільняное палатно, баваўняныя вырабы, швейцарскі сыр, турэцкі тытунь, напоі і бакалейныя тавары…»

А вось і паэтычная дамалёўка гістарычнага кірмашу:

З шыкоўнай карэты сышоў,
На плошчу спяшаецца пехам,
Каб лепшы адкрыць з кірмашоў,
Што Ганненскім клічуць,
Сапега.

Дзябёлы,
Як бульбы капец,
Рахманы,
Як конь зацугляны,
Стаіць разамлелы купец
І строіць багатыя планы.

Вось як рэльефна і дэталёва апісваецца сама кірмашовая атмасфера. Тое, што вынікае з празаічнага тэксту, у паэтычным перарастае ў запамінальны малюнак з чыста тутэйшымі дэталямі: «дзябёлы, як бульбы капец, рахманы, як конь зацугляны»…

Вельмі спаважліва і пашанотна піша У. Мазго, які і сам з’яўляецца ганаровым грамадзянінам Зэльвенскага раёна, пра сваіх землякоў, славутых людзей роднага краю. «Здаецца, цэнтр планеты знаходзіцца ў роднай Зэльве, — заўважае паэт, — бо ўсе мае дарогі — далёкія і блізкія — нязменна прыводзяць менавіта сюды». Гэтыя словы сказаў «дарожнай мудрасцю багаты» чалавек, які добра разумее, што самая шчаслівая дарога ў свеце тая, якая вяртае цябе ў тваё дзяцінства. Тую ж думку пацвердзіць паэту і спелая мудрая пара сталасці:

Хоць блізіцца восень,
Не гасне затое
Аддаленых вёсен
Святло залатое.

Кніга «Сакавіны» сапраўды дадае душы ўзнёсласці і добрага святочнага настрою. Хацелася б толькі перасцерагчы аўтара ад лішняга захаплення прысвячэннямі, хай сабе яны будуць і з добрай нагоды. У кнізе, дзе сабрана сур’ёзная лірыка, яны часам гучаць як вузкакалавыя альбомныя экспромты. Хай не крыўдуе аўтар на такую маю заўвагу, а паэтычную дарогу ён падараваў нам надзвычай цікавую, сапраўды вясновую і святочную.

Мікола БЕРЛЕЖ

# ПАШЫРЭННЕ БАГДАНОВІЧАЗНАЎЧАЙ ПРАСТОРЫ

**Максім БАГДАНОВІЧ: вядомы і невядомы. Зборнік літаратуразнаўчых і архіўных матэрыялаў. Укладанне і каментарыі Ц. Чарнякевіча, прадмова і гласарый Ю. Пацюпы.** *Мн: Літаратура і Мастацтва, 2011.*

Мінулы, 2011, год падштурхнуў шэраг айчынных выдавецтваў зрабіць унёсак у багдановічазнаўства. Энцыклапедыя «Максім Багдановіч», якой «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» прадоўжыла выпуск персанальных энцыклапедый, сувенірныя выданні вершаў пад маркай «Харвеста» і Беларускага Фонду культуры, кніга пра класіка ў серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» выдавецтва «Мастацкая літаратура»... Да гэтай вялікай бібліятэкі дададзім яшчэ і крытыка-архіўны зборнік «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы». Укладальнік і аўтар каментарыяў — рэдактар аддзела крытыкі часопіса «Маладосць», малады літаратуразнаўца, гісторык беларускай літаратуры Ціхан Чарнякевіч. Напісаў прадмову і падрыхтаваў гласарый Юрась Пацюпа.

Кніга для апошняга часу ў развіцці беларускага літаратуразнаўства і гісторыі беларускай літаратуры сапраўды ўнікальная. Жаданне сказаць новае слова ў дачыненні да творчасці класіка нацыянальнай літаратуры прымусіла ўкладальніка ўзнавіць і сістэматызаваць забытыя ці малавядомыя публікацыі пра Максіма Багдановіча, давесці да шырокага чытача і некаторыя архіўныя матэрыялы. Мяркуйце самі. Напрыклад, лісты Зоські Верас, якая была знаёмая з паэтам у апошні перыяд яго жыцця, адрасаваныя Ніне Ватацы, друкуюцца паводле аўтографаў, што знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Лісты Зоські Верас да паэта Алеся Бачылы публікуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія захоўваюцца ў фондзе А. Бачылы ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Упершыню змешчаны ліст Адама Багдановіча да Вацлава Ластоўскага. Упершыню чытач адкрывае для сябе лісты Мікалая Лілеева да Ніны Ватацы, Дзіядора Дзябольскага да Юльяна Пшыркова. «Воспоминания» Дзіядора Дзябольскага друкаваліся ў гадавіку «Скарыніч» (Масква, 2010), зразумела, у кнізе, якой не было ў беларускіх кнігарнях і якую маюць рэдкія бібліятэкі Беларусі. З газеты «Літаратура і мастацтва» за 1941 год вернуты да шырокага ўжытку артыкулы Дзмітрыя Савановіча «Старая Беларусь» М. Багдановіча» і «Фальклор у творчасці М. Багдановіча». Несумненную цікавасць выклікаюць і іншыя публікацыі. У прыватнасці, дысертацыя Рыгора Жалязняка «Поэзия М. А. Богдановича». Яна друкуецца паводле аўтарызаванага машынапісу з аўтарскай праўкай, які захоўваецца ў фондзе Лукаша Бэндэ ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Невялікі па памеры фрагмент з дысертацыі быў змешчаны ў 1966 годзе ў часопісе «Нёман». Сярод аўтараў зборніка —

Антон Луцкевіч, Яўхім Карскі, Міхайла Піятуховіч, Уладыслаў Дзяржынскі, Аляксандр Вазнясенскі.

У прадмове да матэрыялаў зборніка Юрась Пацюпа (а назву яго ўступнае слова мае досыць выразную — «Да вытокаў багдановічазнаўства») заўважае наступнае: «Агульныя кірункі ўспрыняцця Багдановічавых твораў, якія потым не раз будуць адгукацца ў розных даследаваннях, узніклі ў 1909 г., калі паэт даслаў у «Нашу Ніву» першыя вершаваныя тэксты. Паводле сведчання В. Ластоўскага частка рэдакцыі («верхняя» палата), а таксама пісьменнік Ядвігін Ш. не ўспрынялі Багдановічавых вершаў і адправілі іх «у архіў», а тым часам «ніжняя» палата, перш за ўсё Янка Купала і Сяргей Палуян, падтрымалі паэтавы спробы, апошні, у жніўні 1909 г. увайшоўшы ў склад рэдакцыі, дабіўся іх публікацыі. Ядвігін Ш., які назваў Багдановічавы вершы «дэкадэншчынай», па-ранейшаму цвердзіў, маўляў, яны «не для народа». Адмоўную рэакцыю Багдановічава паэзія выклікала ў У. Галубка і А. Паўловіча, апошні старанна выкпіваў Багдановічаў стыль, называючы паэта «ваш Лесавік», але неўзабаве і сам стаў пісаць «пад Багдановіча».

Але першая згадка пра Багдановіча ў друку — на апавяданне «Музыка» — з'явілася яшчэ раней, у працы І. Святыцькага «Відроджене білоруського письменства» (Львоў, 1908). Ён не проста працытаваў паэта, а пачаў з гэтага даследаванне: «Пра кожнага з цяперашніх беларускіх пісьменнікаў можна разам з Максімам Багдановічам сказаць: "Ён усю душу сваю клаў у ігру..."», тым самым паказаўшы, што паэт дасціпна сфакусаваў галоўны матыў, агульнае месца нашаніўскага светабачання.

У 1910 г. Багдановіча ўспаміналі ў беларускім, украінскім, рускім і чэшскім друку. С. Палуян ахарактарызаваў яго як паэта «сумнага і ціхага настрою» і меў пэўнасць, што Багдановіч апынецца «ў першым раду нашых пісьменнікаў».

Такі быў пачатак усведамлення з'явы, імя якой Паэзія Максіма Багдановіча. У 1920-я гады пачалі закладвацца «падваліны багдановічазнаўства» (Ю. Пацюпа). Паводле З. Бядулі Максім Багдановіч — «адзін з жрацоў хараства». Я. Карскі: «М. А. Багдановіч — беларускі паэт чыстага мастацтва». М. Гарэцкі: «Кожны вершык Багдановіча мае ў сабе якую-небудзь філасофскую думку». М. Грамыка: «Гэта грэк у беларускай вопратцы». Было і іншае. Зміцер Жылуновіч характарызаваў паэзію Максіма Багдановіча як «канфецi ў час кіпучае ўтомнае работы». З. Жылуновіч і блізкія яму па духу Т. Глыбоцкі, М. Байкоў «падрыхтавалі з'яўленне ў 1930-я гг. крытыкаў новай фармацыі, Л. Бэндэ, А. Кучара і Я. Бранштэйна, якія засяродзілі сваю ўвагу выключна на «класавым аналізе» літаратуры» (Ю. Пацюпа).

Па вялікім рахунку зборнік «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы» і дапамагае разабрацца ў тым, за што ўзнялі на вышыні і за што спрабавалі цкаваць геніяльнага «паэта чыстай красы». І ці быў М. Багдановіч і застаецца ён і зараз толькі «паэтам чыстай красы»?.. Зборнік, укладзены дасведчаным Ц. Чарнякевічам, паказвае палітру шырокай навуковай, гісторыка-літаратурнай зацікаўленасці паэзіяй М. Багдановіча ў 1920—1940-я і пазнейшыя гады. Кніга з'яўляецца ўнікальнай крыніцай для пашырэння прасторы багдановічазнаўства.

І разам з тым уважлівае знаёмства з абсягамі сабраных пад адной вокладкай матэрыялаў падштурхоўвае да планавання новых багдановічазнаўчых праектаў. Аўтар прадмовы, у прыватнасці, нагадвае пра артыкул У. Дзяржынскага «М. Багдановіч як апісальнік прыроды», надрукаваны ў часопісе «Вольны сцяг» (№ 1 за 1922 год). Нідзе няма гэтага часопіса, як і няма іншых публікацый гэтага артыкула. Магчыма, у наступным зборніку такога кшталту лагічнай падасца публікацыя артыкула Л. Сагарава «Максім Багдановіч і фальклор» (1946 год). Пра яго так-

сама згадвае Ю. Пацюпа. Магчыма, варта вярнуць ва ўжытак і дысертацыю Б. Кормана «Паэзія Максіма Багдановіча» (1950 год), кіраўніком дысертацыі, дарэчы, быў прафесар Аляксандр Вазнясенскі, які на той час працаваў у Казані. Дарэчы, А. Вазнясенкі — з тых, хто прыехаў на Беларусь пасля адкрыцця Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якому аддаў дзевяць гадоў жыцця. У 20-я гады ў часопісах «Полымя», «Узвышша», у «Працах БДУ» апублікаваў шэраг артыкулаў па тэорыі літаратуры і пытаннях развіцця беларускай літаратуры. У 1926 годзе ў г. Коўна выйшла яго праца «Паэтыка Максіма Багдановіча».

Аўтар каментарыяў цытуе выказванне казанскіх філолагаў з манаграфіі «Александр Николаевич Вознесенский. 1888—1966»: «Являясь первым в стране доктором наук в области изучения белорусской литературы, Вознесенский и в последующие годы продолжает свои исследования творчества белорусских писателей (в частности, готовит монографию о поэзии Максима Богдановича)». Але тут нельга не ўзгадаць, што Барыс Корман — ураджэнец Беларусі, Гомельшчыны, нарадзіўся ў Рэчыцы ў 1912 годзе. І хто ведае, калі б абставіны склаліся іначай, магчыма, у асобе Барыса Кормана айчыннае літаратуразнаўства мела б сур’ёзнага вучонага ў галіне багдановічазнаўства.

...У РВУ «Літаратура і Мастацтва», акрамя кнігі «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы», пабачылі свет «Уладзімір Караткевіч: вядомы і невядомы», «Іван Шамякін: вядомы і невядомы», «Васіль Быкаў: вядомы і невядомы». Цэлая серыя, якая, будзем спадзявацца, заахвоціць літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў да новых гісторыка-літаратурных пошукаў. Такія кнігі вельмі патрэбны, калі мы хочам лепш і глыбей спазнаць жыццёвы і творчы шлях знакамітых пісьменнікаў. Таму чытацкая аўдыторыя ў іх шырокая.

Іван МУРАВЕЙКА

# ЛЯ АРЭСЫ — ЦІХАЕ РАКІ

*Край мой любімы: азёраў разлівы,*
*Ля Арэсы — бары і палі.*
*Я, напэўна, не быў бы шчаслівы,*
*Каб цябе не было на зямлі.*

Жнівень. 1945 год. У Еўропе ўжо ўсталявалася цішыня — не ўздыхае зямля ад выбухаў бомбаў, не грыміць артылерыйская кананада, не стракочуць кулямёты... Мне, першы раз за апошнія чатыры гады, далі водпуск, і я еду з пераможанай Германіі ў вольны вялікі Савецкі Саюз, у мілую Беларусь, на Любаншчыну. Гвардыі старшы лейтэнант, грудзі ў ордэнах і медалях. Настрой — на самым высокім узроўні. Радасны. Усё мацней і часцей, ці мне так здавалася, стукаюць колы «таварняка». І вось — Мінск. Я не быў у сталіцы з 1939 года, калі вучыўся на першым курсе Інстытута журналістыкі. Мяне, нібы выбуховая бомбавая хваля скаланула, — руіны, руіны, руіны... Узрадавала толькі тое, што паўсюдна кіпела работа: людзі разбіралі завалы, узводзілі новыя будынкі, аднаўлялі не зусім разбураныя.

Уціснуўся ў старэнькі вагончык поезда «Мінск—Слуцк» і еду да Урэчча.

Да Любані — дваццаць кіламетраў. Аўтобус тады не хадзіў. Падумаў: хай бы Бог прыслаў які-небудзь старэнькі грузавічок ці хаця б падводу.

Я, зразумела, мог бы і пяшэчкам. На вайне нярэдка даводзілася і па 50 кіламетраў адмерваць, і амаль без «прывалу». Але ж... Але ж…

Выходжу на дарогу і паціху крочу. Ага — пачуў Бог: грузавік-паўтарачка. Спыняецца.

— Эй, палкоўнік! На які населены пункт наступаеш? — усміхаецца з кабіны шафёр у салдацкай гімнасцёрцы і ў пілотцы, былы франтавік.

— Хачу штурмаваць спачатку Таль, дзе нарадзіўся, потым — Любань і Сарачы, дзе цяпер жыве мая мама.

— Значыць, нам па дарозе — я еду ў Любань, — шафёр, гадоў пад сорак мужчына, адчыніў дзверцы. — Мяне ўсе завуць Пятром.

— А мяне Іванам.

— Запрашаю на пачэснае месца.

— Не, не!.. Шчыра дзякую. Я палезу ў кузаў. Хачу на сваю Любаншчыну наглядзецца. Даўно не бачыліся, — уздыхнуў я.

— А я паўгода ўжо дома. На Одэры зачапіла нагу. Не бяды — толькі трошкі падкульгваю.

Стаю ў кузаве, абапёршыся на кабіну, гляджу навокал і не магу наглядзецца: якая прыгажосць! Сасновы бор, поле, зноў бор і зноў поле, луг...

У Талі спыніліся ля нашай старой хаты, ля высачэзнага явара. Там жыла Ніна Паўлаўна Леуш — жонка роднага брата маёй мамы Івана. Ён не вярнуўся з вайны. Зайшоў у хату, нібы ў дзяцінства, пагутарыў з Нінай Паўлаўнай. Яна абрадавалася, убачыўшы мяне, паплакала...

Зноў палез у кузаў аўтамашыны... Поле, грэбля цераз парослае кустоўем балота, зноў поле. І — мястэчка Любань. За Арэсай — Сарачы. Мама не чакала,



*У любай Любані.*

што прыеду — я не пісаў, бо сам не ведаў, калі дадуць водпуск. Таму сустрэча была са слязамі на вачах. Гэта немагчыма апісаць словамі.

Я ў той дзень пакляўся самому сабе: не шукаць іншага месца для жыцця. І ўспомнілася прымаўка: дзе нарадзіўся, там і згадзіўся.

Назад, у Германію, паехалі ўдваіх, не стаў чакаць другога водпуску, ажаніўся з былой партызанкай Таццянай Мацвееўнай Комлік. Яна, зразумела, узяла маё прозвішча. А вярнуліся ў Любань — утраіх: 2 жніўня 1946 года нарадзілася дачушка Святланка. Цяпер у мяне трое дзяцей (дачка і два сыны), шэсць унукаў і адзінаццаць праўнукаў. Магу ганарыцца.

А сваё слова, якое даваў у жніўні 1945 года, я стрымаў: у красавіку 1947 года дэмабілізаваўся інвалідам вайны II групы, пабудаваў у Любані хату і з таго часу тут і жыву. А ля хаты, ужо больш як паўвека, захапляе ўсіх сваёй прыгажосцю ліпа — самая высокая ў горадзе. Я нават верш пра яе напісаў.

Ля маёй хаты невялікай
Штогод квітнее ўлетку ліпа.
Ёй доўгі век наканаваны,
Ды часам думаецца мне
Што сіратою яна стане.
А можа й не?..
А можа й не?..
А можа я дарэмна ўсхліпнуў?
Мо буду жыць у сваёй ліпе?
Мо стану я яе галінкай,
Хоць непрыкметнай, невялікай?
І хтось, зачараваны кветкамі,
Прамовіць ціха, незнарок:
— Квітнее ліпа Муравейкава...
...І пахне мёдам гарадок.

У гістарычных крыніцах Любань згадваецца ў 1566 годзе. Тады ў паселішчы налічвалася ўсяго 35 дымоў (хат) і жыло крыху больш як 200 чалавек. Але «ўпамінанне» зусім не азначае, што тут раней ніколі ніхто не жыў. Не магло быць,

каб старажытныя людзі не заўважылі такой маляўнічай і прыдатнай для жыцця мясціны. І археалагічныя раскопкі даказалі гэта. Яшчэ ў каменным веку (VII—V тысячагоддзе да н. э.) людзі пачалі сяліцца ля Арэсы і яе прытокаў — Таліцы, Няжараўкі, Вежанкі, ля азёр Вячэра, Загальскае, Баяніцкае... Знойдзены сляды пасялення ў месцы ўпадзення ракі Таліцы ў Арэсу.

Шмат сваіх знаходак археолагі перадалі Любанскаму музею народнай славы: абломкі глінянага посуду, касцяныя нажы, рагавую матыку, крамянёвыя наканечнікі стрэл і інш. Знойдзены таксама шмат розных вырабаў бронзавага і жалезнага веку, сярэднявечча.

Любаншчына! Мой мілы край, мой родны кут. Пра наша Прыарэссе можна апавядаць бясконца, бо ёсць пра што расказаць, ёсць што паказаць. А колькі літаратурных твораў напісана, колькі мастацкіх палотнаў намалявана, колькі песень складзена — не злічыць. Немагчыма не згадаць у першую чаргу паэму народнага паэта Беларусі Янкі Купалы «Над ракой Арэсай».

Сосны, мае Сосны!
Спрадвеку раслі вы.
Бачылі нямала
Ў свой век нешчаслівы.

Выраслі вы буйна
Ўсяго за тры годы,
Горда ўзняліся,
Забуялі горда.

Ці то сонца свеціць,
Ці то месяц ясны,
Вам смяецца неба
Весела і шчасна.

Росквіт Любаншчыны, як і ўсёй Беларусі, перапыніла вайна. Мае землякі смела ўзняліся на барацьбу з нямецка-фашысцкімі акупантамі — адны ваявалі на фронце, другія партызанілі. Дзе б я ні быў — на акрываўленых палях Смаленшчыны ў ліпені — жніўні 1941 года, у ваенным шпіталі горада Слаўгарада Алтайскага краю, пад Сталінградам, на плацдарме за Віслай, на Зеелаўскіх вышынях за Одэрам, у Берліне — ніколі не забываў сваю Любаншчыну. Яе таямнічыя, задуменныя бары, яе бязмежныя палі, яе люстраныя азёры... Пра Арэсу рупіць сказаць асобна. Яна для мяне — жывая істота: усё ведае і помніць, умее і радавацца і смуткаваць. На кожным сямейным свяце, і не толькі на сямейным, можна пачуць сардэчную, меладычную песню «Ноч над Арэсай». Аўтар першапачатковага тэксту і аўтар мелодыі невядомы. Я мяркую — настаўнік музыкі Любанскай сярэдняй школы № 1 Павел Якавенка. Ён напісаў шмат добрых песень, але яго ўжо няма.

Даю ўвесь тэкст песні, каб не згубіўся.

Поле заснула, спіць лес гаваркі,
Дрэмлюць у цішы садоў вецяркі...
Толькі не спіцца Арэсе адной —
Дзеліцца думкамі рэчка са мной.

Месяц нячутна па хвалях плыве,
Ён мяне ў зорныя далі заве.
Я ж не жадаю далёкіх краёў —
Тут сінявокае шчасце маё.

Край ты мой родны, край Любанскі мой,
Не разлучуся ніколі з табой.
Моцна любілі цябе на зямлі,
Іншае назвы таму не знайшлі.

Поле заснула, спіць лес гаваркі,
Дрэмлюць у цішы садоў вецяркі.
Толькі не спіцца Арэсе ды мне,
У сэрца маё льюцца хвалі яе.

Я таксама не адзін раз пісаў пра нашу славутую Арэсу.

Спакойная, ласкавая такая,
Цячэ Арэса між палёў, бароў
І да сябе прыцягвае, склікае;
Няўрымслівых, вясёлых ручайкоў.

Яны бягуць, як дзеткі к роднай маці,
Баяцца заблудзіцца ці адстаць.
Вунь селі гусі на блакітнай гладзі...
На дне каменьчыкі блішчаць, звіняць...

І ўсё ж Любаншчына больш славіцца не багаццем і прыгажосцю прыроды, а сваімі мужнымі, працавітымі, добразычлівымі людзьмі.

Раён ганарыцца Героямі Савецкага Саюза Захарам Лышчэнем, Паўлам Алейнікавым і Дзеанісіем Наруцкім, поўнымі кавалерамі ордэна Славы Міхаілам Рагоўскім і Карлам Куркевічам.

Помню Берлін у маі 1945 года. Над рэйхстагам палымнее сцяг Перамогі. У Загадзе Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Сталіна адзначаліся войскі і падраздзяленні, якія вызначыліся ў баях за авалоданне германскай сталіцай. Сярод іх 248-я Адэская Чырванасцяжная стралковая дывізія, якой камандаваў мой зямляк, любанец, ураджэнец вёскі Арлёва генерал-маёр Мікалай Захаравіч Галай. Ён пасля выхаду ў адстаўку паехаў жыць у Адэсу, якую вызваляла яго дывізія. Мікалаю Захаравічу было прысвоена званне ганаровага грамадзяніна горада. Ён узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, трыма ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнамі Суворава, Кутузава і Багдана Хмяльніцкага II ступені, Айчыннай вайны I ступені, польскім ордэнам Крыж Грунвальда, многімі медалямі.

Любаншчына — край партызанскай славы, а «востраў» Зыслаў быў партызанскай сталіцай. Тут знаходзіліся Мінскі падпольны абкам партыі і штаб Мінскага партызанскага злучэння, якім камандаваў Васіль Іванавіч Казлоў, Любанскі падпольны райкам партыі, размяшчалася партызанская брыгада № 25. Каля 2000 жыхароў раёна прымалі актыўны ўдзел у барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі і іх паслугачамі.

Пра славуты востраў Зыслаў можна прачытаць у многіх дакументальных кнігах, раманах і аповесцях, паэмах і вершах. Заслужанай папулярнасцю карыстаецца песня «Востраў Зыслаў». Словы — карэспандэнта абласной газеты «Мінская праўда» Сяргея Квіткевіча, музыка — выкладчыка дзіцячай музычнай школы Мікалая Шагава.

Шапацяць бесклапотна бярозкі,
Дуб калыша сівой галавой.
Мы гісторыі слаўнай старонкі
Перагорнем яшчэ раз з табой.
Тут калісьці байцы-партызаны
Баранілі ад ворагаў край.
З той бядою навекі звязаны
Пераможны і радасны май.

*Прыпеў:*

Востраў Зыслаў,
Востраў Зыслаў —
Востраў вернасці святой.
Востраў Зыслаў,

Востраў Зыслаў,
Ты апалены вайной.
І няхай гады мінаюць,
За сабою цягнуць нас —
Будзе жыць людская памяць
Пра бязлітасны той час.

Тут былі спакон веку балоты:
Прападзеш — і не знойдуць сляды,
Ды з «Вялікай зямлі» самалёты
Прыляталі начамі сюды.
Тут штодзённа мацнеў «Кліч Радзімы»,
Тут мужнеў смелы голас «Звязды».
У трывожныя леты і зімы
Тут свабода лунала заўжды.

*Прыпеў.*

Партызанскай сцяжынаю рушым
І кругом бачым мы напамін:
Тут калісьці закладвала вушы
Ад разрываў снарадаў і мін.
Колькі тых, хто не прыйдзе ніколі
Да каханых і родных сваіх...
І застылі, бы варта, таполі
Над магіламі ціхімі іх.

*Прыпеў.*

На Любаншчыне свята ўшаноўваюць памяць землякоў, якія загінулі ў баях з заклятым ворагам. У цэнтры Любані — мемарыяльны сквер. На стэле помніка — словы, якія гучаць, як клятва:

За родны край, за шчасце чалавецтва
Вы смерцю храбрых палі ў грозны час.
Вас будзе помніць Любаншчына вечна,
Радзіма-маці не забудзе вас.

Тут пахаваны невядомы салдат, камандзір 161-й партызанскай брыгады імя Г. І. Катоўскага Андрэй Шашура, арганізатар партызанскага руху на Любаншчыне Яўстрат Гарбачоў, сакратар Мінскага падпольнага абкама Кампартыі Беларусі Аляксей Брагін, гвардыі капітан Мікалай Валошын, камсамолкі-партызанкі Феня Кананава і Рыма Шаршнёва, камсамольцы-падпольшчыкі Баляслаў Куркевіч і Уладзімір Лукоўскі і іншыя. Помнікі ўзведзены ва ўсіх сельсаветах. Імёнамі праслаўленых воінаў і партызан названы вуліцы ў горадзе Любані і ў вёсках.

Подзвіг. Гераізм. Яны здзяйсняюцца не толькі ў баі, але і ў мірнай працы. Гэта — найвышэйшы парыў чалавечай дзейнасці — духоўны, маральны, фізічны, парыў самаадданасці і любові да Радзімы, вернасці святым ідэалам жыцця.

Высокага звання Героя Сацыялістычнай Працы ўдастоены 18 любанцаў. З гордасцю называю іх імёны: механізатары Фёдар Статкевіч, Рыгор Сушчэня, Фёдар Саўчык, Канстанцін Папко, Адам Клюбко, Алег Казачок, Іван Белічонак, Уладзімір Астрэйка, паляводы Павел Калыска, Аляксандра Шаплыка, Пелагея Галай, Ульяна Пайграй, Настасся Стыкут, жывёлавод Настасся Герман, кіраўнікі гаспадарак Кузьма Шаплыка, Эмануіл Модзін і Цімафей Смірноў, першы сакратар райкама КПБ Аляксандр Слабада. Трактарыст Іван Сініцкі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, кавалер ордэна Працоўнай Славы трох ступеней. А ўсяго ў раёне «працоўнымі» ордэнамі і медалямі ўзнагароджана больш за 2000 чалавек.

Далёка за межамі раёна і вобласці вядомы калгас імя БВА і саўгас «Дзесяць гадоў БССР» — яны яшчэ да вайны былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна, а так-

сама калгас «Чырвоная змена» — яму ў 1971 годзе ўручаны ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Цяпер гэта — новыя гаспадаркі, з новымі сістэмамі арганізацыі і аплаты працы, але сённяшнія працаўнікі імкнуцца не пасароміць сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

Я як пісьменнік не магу абмінуць культурнае жыццё роднага краю. І перш за ўсё мне хочацца расказаць пра Любаншчыну літаратурную. Пачну з XIX стагоддзя.

29 верасня 1823 года ў вёсцы Смольгаў нарадзіўся славуты польска-беларускі паэт-дэмакрат Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч). Яго творчая спадчына багатая: вершы, паэмы (вершаваныя аповесці), драматычныя творы, пераклады. Займаўся даследаваннем беларускага фальклору. Пісаў не толькі на польскай мове, але і на беларускай. Пра Сыракомлю ведалі і ў Расіі. Верш «Паштальён» быў перакладзены на рускую мову і стаў народнай песняй «Когда я на почте служил ямщиком».

Памёр Уладзіслаў Сыракомля 15 верасня 1861 года.

12 лістапада 1823 года ў вёсцы Шыпілавічы нарадзіўся вядомы этнограф, літаратурна-мастацкі крытык, пісьменнік і перакладчык Павел Шпілеўскі. Памёр 17 кастрычніка 1861 года. Ён апублікаваў шмат этнаграфічных прац, нарысаў, артыкулаў. Сярод іх «Беларускія павер'і», «Падарожжа па Палессі і Беларускаму краю», «Мазыршчына», «Нарысы Жмудзія», «Слоўнік беларускай гаворкі», «Заметкі беларуса пра беларускую мову» і інш.

Значны ўклад у скарбніцу сучаснай беларускай літаратуры ўнеслі пісьменнікі Уладзімір Паўлаў з Замошша, Ніна Маеўская з Любані, Лідзія Савік з Камуны, Алена Васілевіч, якая вучылася ва Урэцкай сярэдняй школе. Актыўна працуюць пісьменнікі Мікола Мікуліч з Рачэні, Валерый Падабудчык з Любані (жыве ў Маскве).

Яны не забываюць сваю любімую Любаншчыну, прысвячаюць ёй свае творы, вось як хараша напісала пра радзімую старану Ніна Маеўская:

Складу я коўшыкам далоні,
Падстаўлю пад тугі цурчок,
Што так няспынна, дзіўна звоніць,
Нібы нябесны жаўручок.
Нап'юся, твар абдам вадою
Неверагоднай чысціні
І стану сэрцам маладою,
З душою, поўнай дабрыні.
І тут няма чаму дзівіцца
І меркаваць — ці ўдасца мне? —
Бо б'юць чысцюткія крыніцы
Ў маёй радзімай старане.

У нашым раёне ў свой час працавалі вядомыя беларускія пісьменнікі Мікола Лобан, Алесь Жаўрук, Сяргей Грахоўскі, Георгій Шчарбатаў, Мікола Сямашка, Васіль Сахарчук, Леанід Шырын і іншыя. Напрыклад, Мікола Лобан у 1931—1935 гадах працаваў настаўнікам спачатку ў Пластоцкай двухкамплектнай школе, а потым у Тальскай сямігодцы, у якой вучыўся я.

Многія мае аднакласнікі пакінулі добры след у жыцці. Мікола Язылец стаў знакамітым журналістам, доўгі час быў галоўным рэдактарам газеты «Вячэрні Мінск». Васіль Кошка пасля вайны скончыў сельскагаспадарчую акадэмію, працаваў галоўным заатэхнікам і старшынёй калгаса «Беларусь». Яго поспехі адзначаны ордэнамі Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга. Іван Слінько стаў лётчыкам, камандзірам палка дальняй бамбардзіровачнай авіяцыі, пайшоў у адстаўку ў званні палкоўніка.

Неяк у мяне ўзнікла задумка напісаць для дзетак паэму-казку «Краіна Спявання», дзе людзі не размаўляюць звычайнай штодзённай прозай, а спяваюць, як у



*«Над ракой Арэсай».*

оперы. Але тут жа спахапіўся: а навошта выдумваць казачную Спяванію, калі яна побач са мной, вакол мяне — мая Любаншчына?

Яшчэ ў даваенныя гады спяванне Рачэнскага хору даляцела ажно да самай сталіцы рэспублікі. Гурткі мастацкай самадзейнасці працавалі пры кожным сельскім клубе, а ў раённым Доме культуры не толькі хор быў, але і драмгурток, п'есы ставіліся.

А сёння Любаншчына — сапраўдная Спяванія — больш як 150 мастацкіх творчых калектываў налічваецца, не плюсуючы школьных. І не проста «налічваецца», а з поспехам выступае. І не толькі ў раёне, але і ў краінах блізкага і далёкага замежжа: у Расіі (Маскоўская, Ленінградская, Ніжагародская і Яраслаўская вобласці), у Польшчы (Люблін, Бяла-Падляска, Гайнаўка, Сувалкі), у Германіі і Літве. Зразумела, у далёкіх турнэ ўдзельнічалі самыя славутыя калектывы.

А славутых у нас нямала. Так, ганаровае званне «народны» прысвоена ансамблю народнай песні «Ярыца» раённага Цэнтра культуры (мастацкі кіраўнік Таццяна Сцепановіч) і сарачоўскаму хору «Прасніца» (кіраўнік Наталля Шаплыка). Звання «ўзорны» заслужылі эстрадная група «Цэнтр», якой кіруе выкладчык Любанскай дзіцячай музычнай школы Мікалай Шагаў, Сароцкі дзіцячы тэатральны калектыў «Летуценнікі» (кіраўнік Ала Каткавец), дзіцячы танцавальны калектыў раённага Цэнтра культуры «Верабейкі» (кіраўнік Сяргей Выскварка). Нельга не адзначыць, што «Цэнтр» стаў лаўрэатам Мінскага абласнога фестывалю патрыятычнай песні (за песню «Ляцелі гусі-лебедзі» (верш — мой)). А «Летуценнікам» уручаны гран-пры Міжнароднага фестывалю «Крок да нябёсаў». Гэтыя ж «Летуценнікі» атрымалі спецыяльную прэмію Прэзідэнта краіны па падтрымцы таленавітай моладзі.

Сваім рэпертуарам і манерай выканання вызначаюцца мастацкія калектывы «Глыбокія крыніцы» з Закальнога (кіраўнік Надзея Мірэйчык), «Павалякі» з Обчына (кіраўнік Ніна Верамейчык) і «Журавушка» з Ямінска (кіраўнік Надзея Новікава). Ім уласцівы адраджэнне і захаванне народных традыцый, гісторыка-культурных каштоўнасцей Любаншчыны.

Расце папулярнасць ансамбля «Любанскі гармонік». Яго некалькі гадоў таму арганізаваў кампазітар і паэт Іван Раманчук. Ён з'яўляецца аўтарам музыкі і слоў шэрагу песень ансамбля. Можа хто не ведае: Іван Мікалаевіч доўгі час кіраваў харавым калектывам у Мінску. Пасля выхаду на пенсію яго пацягнула ў родны кут — на Любаншчыну. Купіў кватэру ў Сарачах і пачаў працаваць у раённым цэнтры культуры. Без музыкі і песень ён не ўяўляе свайго жыцця.

На Беларусі шмат славутых мясцін — старадаўніх замкаў, крэпасцей, палацаў, цэркваў... У нашым жа Любанскім раёне як быццам нічога такога няма. І ўсё ж,

калі прыслухацца, прыгледзецца, то можна здзівіцца, зачаравацца пачутым ці ўбачаным.

Ператоцка-дубнікоўскаму Божаму каменю-валуну — мільёны гадоў. Але калі і чаму людзі назвалі яго святым? Божым? Вось адна з легенд. Сучасны беларускі пісьменнік-класік Уладзімір Караткевіч у адным са сваіх вершаў сказаў: «На Беларусі Бог жыве». Дык, можа, даўным-даўно каля вёсак Дубнікі і Ператок праходзіў Бог — сеў на камень адпачыць, падумаць, ці выпадкова наступіў на яго і пакінуў свой след. Людзі і зараз аберагаюць гэты камень, пакланяюцца яму і цалуюць Божы след, як святы крыж у царкве. Просяць яго пазбавіць іх ад хвароб і розных жыццёвых бед. А вада, якая збіраецца ў ячэйках каменя, лічыцца гаючай.

Ёсць і другая легенда пра ператоцка-дубнікоўскі Божы камень. Яе пачуў і дадумаў у 2002 годзе вучань 9 класа Тальскай сярэдняй школы Аляксандр Захаранка. Цяпер ён — настаўнік.

На лузе, дзе пасвілася сялянская жывёла, з незапамятных часоў ляжаў вялікі камень-валун. Ён нікому не перашкаджаў. Каля яго любілі адпачываць пастухі — тут так лёгка дыхалася і прыбаўлялася сіл. Але аднойчы непадалёку праязджаў пан, якому належалі гэтыя землі. Быў ён вельмі злы і сквапны, сяляне баяліся яго. На вочы пану трапіў пастух, які сядзеў каля валуна. Пан чамусьці ўзлаваўся, але калі ён наблізіўся, валун засвяціўся незвычайным святлом. Невядомая сіла скінула яго з каня. Праз некалькі дзён пан вярнуўся сюды са слугамі, загадаў: «Адкаціце валун у іншае месца, каб мае вочы не бачылі яго!» Як толькі хлопцы хацелі зрушыць камень з месца, ён зноў успыхнуў яркім бляскам. Перапалохаліся пан і яго служкі, кінуліся наўцёкі.

Назаўтра жыхары ўсёй ваколіцы пайшлі да валуна: хто нёс рыдлёўкі, хто — ваду, хто — бярозкі... Яны пасадзілі тры бярозкі, паставілі тры крыжы. Нехта сказаў, што ён не верыць у тое, што расказаў пастух. І тут, нібы пачуўшы гэтыя словы, камень заззяў. Але ўжо не так як пану, а неяк па-новаму, прыгожа і пяшчотна.

З таго самага моманту гэты валун і атрымаў назву «Божы камень». Нават сёння, калі чалавек страчвае веру ці моцна захварэе, наведвае святое месца.

Не зарастае людская сцежка да мардзвілавіцкай Святой крыніцы, якая бруіцца і летам і зімой. Заўсёды, няспынна. Безліч гадоў. П’еш гэтую незвычайную вадзіцу і адчуваеш, як льецца ў тваю душу струмень натхнення, сілы і радасці. Самаўнушэнне, зачараванае ўяўленне? А калі на самай справе вада Святой крыніцы гаючая?

Усе ў раёне ведаюць возера Засвяцкае, што недалёка ад Баяніч. Яно, як незаплюшчваемае вока зямлі, глядзіць на неба. Вельмі глыбокае, вада чыстая-чыстая, халодная. Легенда расказвае: тут некалі стаяла царква, якая па невядомай прычыне апусцілася пад зямлю. Зямля вакол азярэчка цвёрдая-цвёрдая, нібы яе ўтоптвалі тысячы ног. Чаму? Я бываў каля Засвяцкага і скажу шчыра: адчуваў сябе неяк не так, як, напрыклад, ля возера Вячэра. Нечага хвалявалася сэрца.

Гэтыя любанскія славутасці — з легенд. А хіба ж не славутасць востраў Зыслаў з яго рэальнымі партызанскімі зямлянкамі! А помнікі воінам і партызанам, якія аддалі сваё жыццё ў баях за Радзіму... А апетыя паэтамі Камуна і Сосны...

А якія ў нас лясы і дубровы. Хораша напісаў пра прыарэскія лясы Уладзімір Паўлаў. Ён так і назваў свой верш — «Лес».

Як даўні друг, я зноў к табе прыйшоў
Пасля дажджоў і капяжоў са звонам.
О, не лічы, зязюля, мне гадоў,
Дай лепш хутчэй надыхацца азонам.

За час разлукі лес мой пасталеў:
Ігліцы стала больш і каляінаў.
Не раз, відаць, сам-насам перамлеў,
Бо ўсю кару пабіла на маршчыны...

Тут задуменнасць ціхая твая
Не раз мяне люляла і будзіла.
Тут недзе песня звонкая мая
Па верасу чырвонаму хадзіла.

Тут ўсе гады разлукі і трывог
Бярог яе, па ветру не расструсіў,
Ты выглядаў мяне з усіх дарог,
І я прыйшоў, па песню я вярнуўся.

І ты мяне адразу пазнаеш,
Кладзеш пад ногі мяккія паляны...
І сэрца маё радасна пяе:
«Ой, не кукуй, зязюленька, рана».

Нямала ў раёне і лясных славутасцей. І ўсе яны знаходзяцца пад дзяржаўнай аховай.

У шостым квартале Ямінскага лясніцтва, за кіламетр ад вёскі Пласток, ужо 350—400 гадоў «жывуць» шэсць дубоў-волатаў. Таўшчыня кожнага, на ўзроўні грудзей, да паўтара метра.

У гэтым лясніцтве ёсць яшчэ адна ўнікальная мясціна — урочышча «Ізубрава». У далёкім 1905 годзе сяляне навакольных вёсак пасадзілі сем гектараў сасны. Не, не для гаспадарчых патрэб, а на памяць сваім нашчадкам. Эстафета перадавалася з пакалення ў пакаленне. І сёння вяскоўцы памятаюць наказ сваіх прадзедаў: вырубка тут забараняецца! Урочышча пільна ахоўваецца і клапатліва даглядаецца. Сосны — заглядзенне: высачэзныя, стройныя. Падзьме ветрык, і яны таямніча перашэптваюцца: успамінаюць, што бачылі і што чулі за свой век.

Ганаровы вартаўнік «Ізубрава» — памятны камень з чыгуннай плітой, на якой «напісана»: «Лесоводам, посещающим эту рощу, не надо ничего объяснять. Но, взглянув вверх уходящих деревьев, сердечно благодарим создателей и хранителей этого рукотворного чуда. Лесные культуры сосны 1905 года».

У Малагарадзяцкім лясніцтве можна пазнаёміцца з «сям'ёй» чорных бяроз. Яна «нарадзілася» напачатку мінулага веку. Іх верхавіны размаўляюць з воблакамі (28—35 метраў).

Ліпе, якая расце ў Юшкавічах, 250 гадоў. Таўшчыня ў дыяметры два метры. Колькі чалавек патрэбна, каб абняць дрэва?

А які цуд — Любанскае вадасховішча. Яно створана ў 1966 годзе. Любанцы чамусьці назвалі яго возерам Дзікае, мо таму, што яно ўзнікла сярод «дзікага», некранутага лесу, ці таму, што тут безліч рознай дзічы — кабаноў, коз, ласёў, зайцоў, баброў, вавёрак...

Воднае люстра вадасховішча — 22,5 км$^2$. Вады хапае і для 2500 га сажалак рыбакамбіната «Любань» і для меліярацыйных каналаў — для абваднення сельскагаспадарчых угоддзяў.

Возера кішыць рыбай — карасямі, карпамі, акунямі, плоткамі, шчупакамі, ляшчамі... Іх «гаспадаром» з'яўляецца, вядома ж, сом. Рыбаловам-аматарам гарантуецца багаты ўлоў у любую пару года, у любое надвор'е. А нядаўна — сенсацыя: у Дзікім злавілі трохпудовага сома, і не чым-небудзь такім, а вудай.

Могуць набыць «трафей» і паляўнічыя. Быў бы час ды пільнае вока.

А калі каму надакучыць махаць вяслом і вудай, калі хто натрэ мазалі на нагах, блукаючы па лесе з ружжом, калі ласка — на базу адпачынку. Да 15 чалавек можа адначасова размясціцца ў двух нумарах «Люкс» і трох «Паўлюкс». Ёсць кухня,

камінная зала, лазня. Што яшчэ патрэбна стомленаму чалавеку, каб падняць настрой?

Далёка разляцелася слава пра санаторый «Рассвет». Яго карпусы, як казачныя прывіды, бялеюць сярод бясконцага сасновага бору. Тут лёгка дыхаецца і хутка набіраешся моцы. І ўсё — дзякуючы лясной цішыні і чыстаму смалістаму паветру.

Пералік нашых лясных славутасцей можна працягваць доўга. Той, хто пасябруе з імі, запомніць іх назаўсёды.

Не магу не сказаць пра заўтрашні дзень Любаншчыны. З кожным годам прыкметней мяняецца аблічча вёсак: у цэнтры кожнай аграгаспадаркі будуецца аграгарадок. І гэта — толькі пачатак. Пройдзе дзясятак гадоў і вяскоўцы, я маю на ўвазе ўсю рэспубліку, будуць жыць у прыгожых дамах з усімі камунальнымі і культурна-бытавымі выгодамі. Селянін, як некалі напісаў у сваёй паэме «Хорошо» Уладзімір Маякоўскі, «землю попашет, попишет стихи».

Расце і прыгажэе раённы цэнтр — горад Любань. Паўсюдна чысціня, парадак, мора кветак. Асабліва хораша ў цэнтральным скверы. Люба глядзець, як надвячоркам тут гуляюць мамы і таты са сваімі дзеткамі, пенсіянеры з унукамі. А ля сквера ўзняўся новы цудоўны двухпавярховы Палац мастацтваў. Тут дзеці вучацца іграць на розных музычных інструментах, спяваць, танцаваць, маляваць і інш.

А наш гарадскі стадыён! Адзін з лепшых раённых стадыёнаў рэспублікі. Тут праводзяцца футбольныя матчы нават вышэйшай лігі.

На Любаншчыну прыязджаюць госці і турысты не толькі з усёй рэспублікі, але і з блізкага замежжа, іншаземных краін. І, вядома, не проста так, для разнастайнасці, а каб пазнаёміцца з цудоўным кутком Беларусі.

Тут мае карані,
Тут заўжды я жыву,
У краі бацькоўскім мне люба.
Нават на Мінск і на Маскву
Не прамяняю цябе, мая Любань.

Калі я па вуліцах крочу тваіх,
Сэрца маё б’ецца часта —
Мяне ўсе любяць і я люблю ўсіх,
А гэта — такое шчасце.

Калі ж напаткаю якую бяду
І ў сэрца маркота пранікне,
Я па алеі Герояў прайду —
І роспач адразу знікне.

Зноў бачу бяссмерце і сэнс у жыцці,
Душа напаўняецца сілаю.
Як прашчураў нашых далёкіх ганцы —
У небе буслы ціхакрылыя.

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

**Ідзе падпіска**
**на І паўгоддзе 2012 года:**

*індывідуальная льготная*
*для настаўнікаў (індэкс — 00471)*

на 1 месяц — 8690 руб.
на 3 месяцы — 26 070 руб.

*індывідуальная (індэкс — 74985)*

на 1 месяц — 13 420 руб.
на 3 месяцы — 40 260 руб.

*ведамасная (індэкс — 749852)*

на 1 месяц — 28 490 руб.
на 3 месяцы — 85 470 руб.

*ведамасная льготная*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь (індэкс — 00727)*

на 1 месяц — 23 120 руб.
на 3 месяцы — 69 360 руб.

***e-mail: polymya@bk.ru***

Юрыдычны адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, паэзіі, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74.

Стыльрэдактар *М. М. Гілевіч*
Камп'ютарная вёрстка *С. І. Стараверавай*

Падпісана ў друк 12.03.12 г. Фармат $70\times108^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80. Ул.-выд. арк. 20,36. Тыраж 2767 экз. Заказ 683.
Кошт нумара ў розніцу 13 400 руб.
Часопіс «Полымя» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі
Рэспублікі Беларусь. Рэг. № 9 ад 22.07.09 г.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79. ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.